**Дэпутатам Апазыцыі БНФ**
**у Вярхоўным Савеце XII скліканьня –**

Мікалаю Аксаміту
Сяргею Антончыку
Юрасю Беленькаму
Ігару Герменчуку
Лявону Баршчэўскаму
Валянціну Голубеву
Барысу Гюнтэру
Лявону Дзейку
Уладзімеру Заблоцкаму
Лявонцію Зданевічу
Мікалаю Крыжаноўскаму
Віталю Малашку
Міколу Маркевічу
Сяргею Папкову
Зянону Пазьняку
Пётру Садоўскаму
Алегу Трусаву
Аляксандру Шуту

зь якімі аўтар быў у ноч
з 11 на 12 красавіка 1995 году
ў Авальнай залі.

**Сяргей Навумчык. Дзевяноста пяты.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). Выданьне другое, дапоўненае. – Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2015. 324 с.: іл.

Заснавальнік і каардынатар сэрыі
*Аляксандар Лукашук*

Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Сяргей Шупа*

У 1995 годзе ў Беларусі прайшоў першы рэфэрэндум, які зьліквідаваў статус нацыянальных сымбаляў як дзяржаўных, загнаў мову ў гета, прывязаў краіну да Расеі, а прэзыдэнту адчыніў дзьверы да неабмежаванай улады.

У кнізе скарыстаныя фатаздымкі Франака Вячоркі, Сяргея Грыца, Лявона Дзейкі, Марыі Жылінскай, Галіны Навумчык і аўтара. Таксама скарыстаныя матэрыялы архіву аўтара.


FOL

ISBN 978-0-929849-74-4

# Зьмест

## Рэцэпт вечнай улады

Каб павярнуць рэкі гісторыі назад,
Каб замяніць словы ў песьнях і колеры на сьцягах,
Каб аднавіць краты на турмах,
Каб абвясьціць герояў ворагамі,
Каб перабяліць злыдняў на праведнікаў,
Каб абвінаваціць верных у здрадзе,
Каб уганараваць чужых як сваіх,
Каб намаляваць цёмных сьветлымі,
Каб сьцерці памяць і ўславіць хлусьню,
Каб назваць плач песьняй, а крык ухвалай,
Каб ганарыцца тым, чаго саромеюцца,
Каб саромецца таго, што шануюць,
Каб аддаць сьвятыні псам,
Трэба проста казаць, што так хоча народ,
І лічыць: народ – гэта я, і так будзе вечна.
Але вечны толькі сьмех з тых, хто так лічыць.
Амінь.

*Аляксандар Лукашук, Радыё Свабода*

## Герб, кінуты на асфальт

...Мне здавалася, што шэрыя фігуры на даху будуць доўга грукаць малаткамі, доўга адмацоўваць выяву герба ад фасада Дома ўраду – але  ўсё было зроблена за лічаныя хвіліны: яны нешта адкруцілі, падчапілі да крука, страла пад'ёмнага крана разьвярнулася, і «Пагоню» пачалі апускаць на зямлю. Значыць, альбо герб быў дрэнна замацаваны, альбо тое, што цяпер адбылося, было фіналам працэсу, калі заставалася толькі павярнуць вінты, а па-сапраўднаму адчапілі  яго напярэдадні, напрыклад, уначы.

Выявілася таксама, што «Пагоню» раней проста павесілі на бэтонны савецкі, бэсэсэраўскі герб, і цяпер гэты герб ізноў узвышаўся над плошчай Незалежнасьці.

А наш герб  кінулі на асфальт.

Побач (тады плошча яшчэ не была рэканструяваная) ехалі тралейбусы, ішлі па сваіх справах  людзі, ніхто не спыняўся і не глядзеў на зрынутую «Пагоню».

Празь некалькі тыдняў тварам на асфальт пакладуць удзельнікаў страйкавага камітэту

менскага мэтрапалітэну. Зьневажаньне нацыянальных сымбаляў пяройдзе ў зьдзек над людзьмі; тыя, хто яшчэ нядаўна абыякава паставіўся да зьбіцьця дэпутатаў у Авальнай залі, адчуюць  спэцназаўскія дубінкі на сваіх сьпінах.

Дзевяноста пяты год я лічу апошнім годам апошняй хвалі нацыянальнага Адраджэньня. Тое, што пачалося ў чэрвені 1988 году словамі Пазьняка пра Курапаты, якія абудзілі нацыю і абʼядналі грамадзтва вакол нацыянальнай ідэі, што мела апагеем абвяшчэньне Незалежнасьці ў жніўні 1991 году – скончылася ў траўні 1995-га, калі праз нелегітымны рэфэрэндум быў скасаваны статус бел-чырвона-белага сьцяга і «Пагоні» як дзяржаўных сымбаляў і дадзены старт прымусовай русыфікацыі.

Драматычныя падзеі 1995-га – вынік супадзеньня інтарэсаў Масквы, якая рэанімавала імпэрскую ідэю, і Лукашэнкі, які меў спадзяваньні праз далучэньне Беларусі да Расеі замяніць хворага Ельцына ў Крамлі. Гэта быў год змаганьня нацыянальна арыентаваных сілаў з тымі, для каго Беларусь была толькі прыступкай на шляху аднаўленьня імпэрыі, а яе народ – інструмэнтам здабыцьця ўласнага дабрабыту.

Гэтая кніга – працяг цыклю, у якім ужо выйшлі тэксты пра аднаўленьне беларускай Незалежнасьці і першыя прэзыдэнцкія выбары.

Яна была б немагчымая (ва ўсялякім разе, у тым выглядзе, у якім яна ёсьць) без спрыяньня і дапамогі тых, каму хачу выказаць сваю шчырую падзяку.

Найперш гэта – мой даўні сябра і калега, дырэктар беларускай службы Радыё Свабода Аляксандар Лукашук, заснавальнік сэрыі «Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе», якая ўжо зрабілася часткай нацыянальнай культуры (літаратуры – таксама).

Я ня быў асабліва дысцыплінаваным вучнем ні ў школе, ні ва ўнівэрсытэце, і мае нявывучаныя ўрокі ды прапушчаныя заняткі, безумоўна, адбіліся б на гэтым тэксьце – калі б ня пільнае вока Сяргея Шупы.

Як і папярэднія кнігі, у гэтай я абапіраюся ня толькі на свае ўспаміны, але і на дакумэнты, якія маю ва ўласным архіве (большай часткай яны зьвязаныя зь дзейнасьцю Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце XII скліканьня). Аднак, як лічыць гісторык Сяргей Абламейка, «ні архіўныя дакумэнты, ні мэмуары не даюць такога адчуваньня эпохі, як газэты і наогул пэрыядычны друк. Каб адчуць эпоху – трэба пачытаць тагачасную газэту. Менавіта газэта (без памылак памяці сьведак і без цэнзурных чыстак архіўнага ўпраўленьня НКВД СССР) фіксуе тое паўсядзённае, чым жылі тады людзі, што яны рабілі і пра што марылі». Хтосьці можа паспрачацца з такой высновай,

але што несумненна – пэрыёдыка сапраўды захоўвае адбітак свайго часу. Таму я скарыстаў некаторыя публікацыі як у незалежным, так і ў афіцыйным друку.

І тут я хачу прынесьці вялікую падзяку журналістцы Кацярыне Маркоўскай, якая патраціла не адну і ня дзьве гадзіны свайго маладога жыцьця ў газэтным сховішчы, адшукаўшы такія скарбы, якія я ўжо і не спадзяваўся знайсьці. Я таксама ўдзячны Каці за погляд на некаторыя тэмы кнігі вачыма іншага пакаленьня – таго самага, дзяцінства якога прыпала на гады Адраджэньня, а сталеньне адбывалася, на жаль, у зусім іншых умовах. Яе парады былі вельмі каштоўнымі для мяне.

Кніга шмат згубіла б, калі б на маю просьбу прыгадаць некаторыя падзеі дзевяноста пятага не адгукнуліся паплечнікі па парлямэнцкай апазыцыі БНФ – Зянон Пазьняк і Юрась Беленькі. Увогуле, я ўвесь час адчуваў зацікаўленьне і падтрымку іншых маіх калегаў па Авальнай залі – і перакананы, што, калі б яны ўзяліся апісаць нашае змаганьне, гэта было б непараўнальна больш глыбока і больш цікава. Спадзяюся, калі-небудзь яны гэта зробяць.

І, нарэшце, я павінен прынесьці ўжо ня толькі падзяку, але і прабачэньне сваім родным, сваёй сям’і. Вось ужо некалькі гадоў, якія я прысьвяціў апісаньню найноўшай гісторыі

Беларусі, іх жыцьцё праходзіць мала таго што сярод стосаў дакумэнтаў, стэнаграмаў і газэтаў – але і размоваў пра эпізоды ня толькі прыемныя. Яны жывуць ня толькі сярод сьветлых постацяў Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Галіны Сямдзянавай, Ігара Герменчука, Мікалая Крукоўскага, Яўгена Куліка, чые імёны ў маёй памяці асьвятляюць Адраджэньне, але і сярод змрочных ценяў мінулага, якіх хацелася б выкрасьліць і з уласнай памяці, і асабліва – з Гісторыі.

Ды – ня выкрасьліш.

*11 чэрвеня 2015 г., Прага*

## «Дзікі мёд» для расейскага міністра

У залі Дома літаратараў былі запоўненыя толькі першыя шэрагі крэслаў: высокі маскоўскі госьць разьлічваў на куды большую да сябе цікавасьць з боку беларускай творчай інтэлігенцыі. Мы разам з дэпутатамі Апазыцыі БНФ уселіся ў заднім шэрагу, разам з маладымі пісьменьнікамі.

Я ня вельмі хацеў ісьці на гэтую сустрэчу зь міністрам замежных справаў Расеі Андрэем Козыравым, якая праходзіла 24 студзеня 95-га, але Зянон Пазьняк настойліва параіў: «Схадзі. Будзе магчымасьць – выкажы яму наконт беларуска-расейскай дамовы». Рэч у тым, што за два тыдні да гэтага прэм'ер Беларусі Чыгір і віцэ-прэм'ер Расеі Бальшакоў падпісалі надзвычай нявыгадную для нас дамову; а прыезд самога Козырава быў падрыхтоўкай да візыту Барыса Ельцына і падпісаньня цэлага пакету дакумэнтаў.

Козыраў узьняўся на сцэну разам зь міністрам замежных справаў Беларусі Уладзімерам Сянько (думаю, гэта была ягоная ідэя – зрабіць свайму расейскаму калегу сустрэчу з творцамі). Козыраў казаў пра інтэграцыю, пра расейска-беларускія сувязі, пра тое, як гэта важна – быць разам, ад-

чуваць плячо сябра («альбо дыханьне Вялікага Брата» – падказаў нехта з залі). Гэты ягоны патас істотна зьбіў Генадзь Бураўкін, які ветліва, як колішні дыплямат, але цьвёрда, як беларускі патрыёт, паведаміў, што тут, у Менску, далёка ня ўсе глядзяць на «інтэграцыю» так, як у Маскве. Закранулі і тэму вяртаньня беларускіх культурных каштоўнасьцяў.

Потым Іван Пятровіч Шамякін хвілінаў дзесяць (ня менш) скардзіўся, што вось непарадак у маскоўскіх часопісах, немагчыма ж нічога надрукаваць, а раней у яго, Героя сацыялістычнай працы, аповесьці з рукамі адрывалі. А ганарары? Гэта хіба ганарары? Раней можна было аўтамабіль купіць за раман, а цяпер – пару разоў на Камароўку схадзіць! Выглядала, расейскага міністра ён успрымаў гэтак, як гадоў дваццаць таму ўспрымаў бы члена Палітбюро Грамыку – начальнікам над мясцовымі, менскімі. Козыраў паспачуваў, але сказаў нешта кшталту таго, што літаратурным часопісам ён загадаць ня можа. Нехта яшчэ нешта прасіў у маскоўскага госьця.

І тут на сцэну ўзьняўся Анатоль Сыс.

– Наш малады, але ўжо вельмі вядомы паэт! – прадставіў Сянько.

Козыраў прыязна заківаў.

– Я верш прачытаю. Можна? Верш называецца «Дзікі мёд».

У вайну ў партызанскі год
пад крысом шыняля армейскага
бацька зь лесу прынёс дзікі мёд,
ледзь уцёк ад мядзьведзя расейскага.

З таго часу, як лесам іду,
дык пільнуюся вока зладзейскага,
скурай чую бяду, як ваду,
за сьпіною – мядзьведзя расейскага.
Дасюль пахне яму дзікі мёд.
Годзь арэшнікі нашыя лушчыць!
Адкапаю пайду кулямёт,
каб хадзіць сьмела ў бацькавай пушчы.

Сыс карцінна пакланіўся ў бок міністраў і спусьціўся са сцэны. Козыраў глядзеў кудысьці ўбок, Сянько быў чырвоны і, напэўна, шкадаваў, што ня можа нікуды схавацца.

Ніякай патрэбы казаць пра пакет беларуска-расейскіх дамоваў на тым спатканьні ні ў мяне, ні ў маіх калегаў па дэпутацкай апазыцыі пасьля гэтага, натуральна, ужо не было – усё сказала слова паэта.



*Увечары 31 студзеня ў аўтамашыне "таксі" быў пакінуты скураны кейс. У ім было пасьведчаньне Саюзу пісьменьнікаў СССР на імя А.Сыса і сіні нататнік зь вершамі і пачаткам паэмы "Зянон. Беларуская пастараль".*

*Прашу вярнуць нататнік у Дом літаратара (вул. Фрунзе, 5) або ў рэдакцыю СВАБОДЫ.*

**Анатоль СЫС**

Абвестка ў газэце Свабода, люты 1995 г. Рукапіс ня быў вернуты, пра ягонае існаваньне літаратуразнаўцам нічога не вядома.

Але ў Вярхоўным Савеце, на мітынгах і сустрэчах з выбаршчыкамі ды на прэсавых канфэрэнцыях тэма расейскай палітычнай і эканамічнай экспансіі заставалася для нас, канешне, галоўнай.

Бо Расея, хаця яшчэ і знаходзілася ў глыбокім эканамічным крызісе, але ўжо рыхтавалася «ўздымацца з каленяў»; гэты працэс ва ўсходняй суседкі чамусьці нязьменна супадае з памкненьнем паставіць на калені іншых.

## Ценявы Кабінэт БНФ супраць інтэграцыі

У часе візыту міністра замежных спраў Расеі ў Менск 23-24 студзеня, які быў адзначаны «Дзікім мёдам» Анатоля Сыса, Козыраў разам з Уладзімерам Сянько падпісаў консульскую Канвэнцыю і пратакол аб супрацоўніцтве двух міністэрстваў. Але галоўным было парафіраваньне Дамовы аб дружбе і супрацоўніцтве. Усе прапановы маскоўскага госьця віталіся менскімі гаспадарамі.

Мала таго – на сустрэчы з Козыравым прэм’ер Міхаіл Чыгір імкнуўся прысьпешыць інтэграцыю: «па словах Козырава, беларускі прэм’ер у гутарцы зь ім жадаў як хутчэй увесьці ў дзеяньне пагадненьне аб мытным саюзе, што магчыма раней чатырох месяцаў, якія адведзеныя на збліжэньне заканадаўства дзьвюх краінаў. У падтрымку сказанага міністрам замежных спраў Расеі У. Сянько згадаў, што Беларусь заўсёды імкнулася да цеснага саюза з Расеяй, што відаць на прыкладзе перамоваў аб аб’яднаньні фінансавых сыстэм Расеі і Беларусі», – паведамляла агенцтва СІМ («Пагоня», 27 студзеня 1995).

Яшчэ раней, 6 студзеня ў Менску прэм’ер-міністар Беларусі Міхаіл Чыгір і віцэ-прэм’ер Расеі Аляксей Бальшакоў падпісалі пакет даку-

мэнтаў – як у галіне эканомікі, гэтак і ў вайсковай сфэры (Мэмарандум «Аб пашырэньні і паглыбленьні беларуска-расейскага супрацоўніцтва» і некалькі пагадненьняў, якія былі прапанаваныя Масквой – у тым ліку «Аб асноўных прынцыпах стварэньня фінансава-прамысловых групаў», «Аб парадку завяршэньня будаўніцтва, выкарыстаньня і ўтрыманьня Вузла Баранавічы сыстэмы папярэджаньня аб ракетным нападзе»).

Мы ў дэпутацкай апазыцыі атрымалі тэксты гэтых пагадненьняў і адразу перадалі іх экспэртам – членам Ценявога кабінэту.

Увогуле, да 1995 году ў Беларускім Народным Фронце ўжо сфармаваліся дзьве структуры – парлямэнцкая Апазыцыя і яе Ценявы кабінэт. Можна сказаць, што Апазыцыя генэравала палітычныя рашэньні (дэпутаты назапасілі багаты адпаведны досьвед), а Кабінэт выпрацоўваў эканамічныя ды іншыя прапановы. Але такі падзел будзе даволі ўмоўным: многія дэпутаты (як Уладзімер Заблоцкі, Лявонці Зданевіч, Юрась Беленькі, аўтар гэтых радкоў ды іншыя) уваходзілі ў склад Кабінэту, а члены Кабінэту акадэмік Радзім Гарэцкі ці доктар навук Іван Нікітчанка давалі вельмі каштоўныя палітычныя рэкамэндацыі. Кіраўніком Кабінэту быў Зянон Пазьняк, прэм'ер-міністрам – Уладзімер Заблоцкі. На пачатак 95-га Ценявы кабінэт выпрацаваў некалькі эканамічных канцэпцыяў, высока ацэненых міжнароднымі экспэртамі.

Але галоўнае было нават ня ў гэтым. У іншых апазыцыйных партыяў таксама былі кваліфіка-

ваныя адмыслоўцы ў галіне эканомікі, але яны, скажам гэтак, не заўсёды глядзелі на зьявы праз прызму нацыянальных інтарэсаў Беларусі. А нашыя экспэрты ў сваіх ацэнках і прапановах сыходзілі найперш з гэтага.

25 студзеня Ценявы кабінэт Апазыцыі БНФ прыняў заяву, у якой даў аналіз падпісаных прэм'ер-міністрам Чыгіром дакумэнтаў. Зьмест гэтых дакумэнтаў, гаварылася ў заяве, «сьведчыць аб змове і сумесных дзеяньнях расейскай і беларускай мафіёзнай бюракратыі, накіраваных на захоп эканомікі і нацыянальнай маёмасьці Беларусі. Расейская кіруючая бюракратыя, якая валодае цяпер ужо ня толькі ўладай, дзяржавай, але і прыватнай уласнасьцю на маёмасьць дзяржавы, дамагаецца для сябе гарантаванага бяспошліннага транзыту ўсіх відаў тавараў і рэсурсаў празь Беларусь, ліквідацыі беларускага экспарту ў трэція краіны, бясплатнай прысутнасьці расейскіх вайсковых базаў і экалягічна шкодных вайсковых аб'ектаў на тэрыторыі Беларусі, ліквідацыі межаў паміж Беларусьсю і Расеяй і сумеснага распараджэньня (аховы) беларускіх межаў з трэцімі краінамі, свабоднага, нічым не абмежаванага перамяшчэньня расейскай рабочай сілы на тэрыторыі Беларусі, пераходу ключавых пазыцый эканомікі (заводаў, прамысловых галінаў, інфраструктуры) ва ўласнасьць расейскіх канцэрнаў і фінансава-прамысловых групаў з магчымасьцю наступнага закладу і перапродажы яе заходнім банкам.

Гэтыя палажэньні, адлюстраваныя ў пагадненьнях, маюць, перш за ўсё, палітычны характар і накіраваныя на поўнае зьнішчэньне сувэрэнітэту Беларусі, якое настае адразу пасьля рэалізацыі пагадненьняў. Пасьля першага этапу ліквідацыі дзяржаўнасьці Беларусі пачнецца другі – палітычная анэксія шляхам імітацыі «аб'яднаньня», «уваходжаньня», «цеснага саюзу»... Падзеі, што адбываюцца ў Расеі, яе агрэсіўная крывавая захопніцкая палітыка, замах на незалежнасьць Беларусі сьведчаць аб разьвіцьці і новым афармленьні крымінальнай дзяржавы там, дзе парушаюцца правы чалавека, нацыі, сфармавалася бюракратычна-мафіёзная эканоміка...

Гэтая дзяржава стварае пагрозу Беларусі і ўсім краінам былога, так званага «сацыялістычнага лягеру». Ініцыятыва прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь у падтрымцы расейскай палітыкі, накіраванай на захоп эканомікі і маёмасьці Беларусі, падпісаньне старшынём Кабінэту міністраў пры Прэзыдэнце краіны пакету антыканстытуцыйных пагадненьняў, што супярэчаць нацыянальным інтарэсам Беларусі, утрымліваюць у сабе прыкметы дзяржаўнай здрады, антыдзяржаўнай дзейнасьці і падлягаюць асобаму разгляду ў Вярхоўным Савеце і Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь».

Прадугледжвалася, што вызначэньне мэханізму рэалізацыі палітычных і эканамічных інтэграцыйных крокаў павінна быць «дэлегавана» аднаму з бакоў. Ня трэба было шмат разважаць, каб зразумець, што «бокам» гэтым была б

не Беларусь, а Расея. Ценявы кабінэт Апазыцыі БНФ канстатаваў, што «беларускім урадам падпісаны дакумэнт аб інкарпарацыі Беларусі ў склад Расеі, несумяшчальны з Канстытуцыяй нашай дзяржавы. Беларусь становіцца расейскім геапалітычным прыдаткам, пазбаўленым уласнай зьнешняй палітыкі, а значыць, і здольнасьці абараняць уласныя эканамічныя і палітычныя інтарэсы. Іншымі словамі, урад Лукашэнкі-Чыгіра падпісаў акт аб уласнай недзеяздольнасьці і спрабуе здаць незалежнасьць і дзяржаўнасьць Беларусі».

26 студзеня мы далі прэсавую канфэрэнцыю Ценявога кабінэту. Член-карэспандэнт Іван Нікітчанка зьвярнуў увагу на мытныя падаткі, якія ў выпадку стварэньня Мытнага зьвязу былі б роўнымі расейскім, а гэта не адпавядае інтарэсам грамадзянаў Беларусі (у той час гэтае папярэджаньне прапусьцілі міма вушэй – але прайшоў час, і пошліны на аўтамабілі ўзьнялі ў некалькі разоў, прыраўняўшы іх да расейскіх). Слабая беларуская эканоміка аўтаматычна трапляе ў эканамічны хаос Расеі. Самыя дзеяздольныя прадпрыемствы будуць выведзеныя з працэсу прыватызацыі іх беларускімі грамадзянамі і трапяць у рукі расейскага бізнэсу, які ўжо назапасіў дзеля гэтага дастатковы капітал. Прэм’ер-міністар Ценявога кабінэту Ўладзімер Заблоцкі заявіў, што падпісаныя 6 студзеня пагадненьні не зьяўляюцца раўнапраўнымі, Беларусь апынаецца ў падпарадкаваным становішчы і не павінна іх выконваць.



Васіль Быкаў і Зянон Пазьняк на пасяджэньні Сойму БНФ на Варвашэні, 8. 1995 год.

«Трэба спачатку стварыць у сваёй краіне такі эканамічны парадак, каб нашая нацыянальная эканоміка паднялася на ногі, каб наш бізнэс набраў сілу і мог канкураваць з расейскім. Цяперашняе беларускае кіраўніцтва няздольнае па-сапраўднаму арганізаваць работу нашай эканомікі, і гэтую няздольнасьць яны хочуць закамуфляваць псэўдаэфэктыўнымі дзеяньнямі па інкарпарацыі нашай эканомікі ў расейскую», – цытавала Ўладзімера Заблоцкага газэта «Свабода».

Але меркаваньне экспэртаў Ценявога кабінэту БНФ адміністрацыю Лукашэнкі не цікавіла – рэйтынг Лукашэнкі, які ў пачатку 1995 году заўважна зьнізіўся, меркавалася «падправіць» чарговымі

расейскімі пазыкамі, хай бы нават і коштам «фрагмэнтаў сувэрэнітэту».

А ў вузкім коле кіраўнік прэзыдэнцкай адміністрацыі Леанід Сініцын заяўляў, што размовы пра інтэграцыю – гэта толькі прыкрыцьцё сапраўднага, стратэгічнага пляну: прывесьці ў Крэмль Лукашэнку замест «нямоглага» Ельцына. Аддаўшы перад гэтым Беларусь ў склад Расейскай Фэдэрацыі.

Забягаючы наперад, скажу, што ў ліпені 1995 у газэце «Свабода» я надрукаваў артыкул «Цель» (па-расейску, каб прачыталі ў Маскве), у якім прааналізаваў верагоднасьць прыходу Лукашэнкі ў Крэмль. Шанцы выглядалі высокімі. Насьцярожвалі ня толькі паездкі Лукашэнкі ў расейскія рэгіёны (без узгадненьня з Крамлём) ды надзвычайная ўвага ўласнаму іміджу ў расейскіх СМІ. Галоўнае – мэнталітэт расейцаў, якія настальгавалі па «вялікай дзяржаве». Прычым, у адрозьненьне ад расейскіх камуністаў, у якіх былі толькі лёзунгі і абяцаньні – Лукашэнка даказваў сваю адданасьць справай: вяртаньнем савецкіх сымбаляў, зьбіцьцём «нацыяналістаў» у парлямэнце, зьнішчэньнем дэмакратычных заваёваў. Далучэньне ж Беларусі да Расеі ўвогуле паставіла б яго па-за канкурэнцыяй. Гэты артыкул меў шырокі розгалас, але палітолягі палічылі такую пэрспэктыву абсурднай – ну, хто такі Лукашэнка для Масквы? Аднак я не памыляўся: па прызнаньні блізкіх да Ельцына людзей, у 1999 годзе Лукашэнку ўсур'ёз разглядалі як наступніка (але стаўку зрабілі на іншага).

## «І целаахоўнік дэ Голя – мордай у пясок!»

У пачатку 95-га ў Менск пацягнуліся эмісары з Масквы – дэпутаты Дзярждумы, экспэрты, вайскоўцы, а таксама тыя, каго прынята было называць «байцамі нябачнага фронту».

«Байцы нябачнага фронту» зь лідэрамі Беларускага Народнага Фронту не сустракаліся (хаця адно такое выпадковае спатканьне ў мяне было, і пра яго – ніжэй), а вось дэпутаты і экспэрты цікавасьць выяўлялі. Кіраўнік інстытуту СНД Канстанцін Затулін, які ўжо тады меў імідж ідэоляга беларускага-расейскай інтэграцыі (а праз дваццаць гадоў атрымае сумнеўную славу аднаго з асноўных апалягетаў анэксіі Крыму і вайны з Украінай) нават напрасіўся на сустрэчу ў Вярхоўным Савеце.

Затулін прыехаў разам зь нейкімі невядомымі асобамі, якія прадставіліся «экспэртамі па беларуска-расейскіх адносінах». Між іншым, адзін зь іх у калідоры Вярхоўнага Савету (тады парлямэнт яшчэ месьціўся ў будынку на Карла Маркса) пачаў у мяне дапытвацца, а ці не хацеў бы я паўдзельнічаць у цікавых бізнэс-праектах. Я ня выявіў ніякага інтарэсу, і «экспэрт па адносінах» адчапіўся.

На сустрэчы Затулін тлумачыў, як добра будзе жыць беларусам, калі адбудзецца уніфікацыя заканадаўства, калі будуць зьнятыя мытныя бар’еры, ну а пра сумесную абарону і гаворкі няма – у нас жа агульны праціўнік.

– Хто? – запытаўся я.

– НАТО, – адказаў Затулін.

– Гэта ваш праціўнік, а наш саюзьнік, – сказаў я ідэолягу інтэграцыі, на што ён усьміхнуўся:

– Вы дарэмна спадзеяцеся спыніць працэс інтэграцыі. Мы ведаем раскладку і ў беларускім грамадзтве, і ў Вярхоўным Савеце.

Мяркуючы па ўсім, Затулін не хлусіў: раскладку маскоўскія эмісары ведалі ў дэталях, бо не вылазілі з Адміністрацыі прэзыдэнта, дзе былі дарагімі гасьцямі (а нехта зь іх, магчыма, і гаспадарамі).

Часам мы апыналіся зь імі за адным сталом у сталоўцы Вярхоўнага Савету альбо гатэлю «Кастрычніцкі».

Аднойчы мне давялося пагутарыць з чалавекам гадоў шасьцідзесяці, які адразу прадставіўся «вэтэранам КДБ». Спытаўшы, якое ў мяне вайсковае званьне, і атрымаўшы адказ (старшы лейтэнант) ён адразу пачаў называць мяне на «ты»; на пытаньне пра ягонае званьне адказаў: «Няважна».

Пэўна, ня ведаючы, з кім ён мае справу (але ўбачыўшы дэпутацкі значок), таварыш «Няважна» пачаў мяне пераконваць, што КДБ Беларусі павінна быць разам з Лубянкай (нібыта яны былі ня разам), што гэта вельмі моцна дапаможа

ў сьвятой справе супрацьстаяньня памкненьням Захаду парушыць «славянскую еднасьць».

«А супрацьстаяць ім – рэальна. Іх можна нават біць, ну я не пра вайну, а так, каб баяліся», – сказаў вэтэран «нябачнага фронту» і распавёў гісторыю са свайго багатага на нябачныя подзьвігі жыцьця.

«Я ў 60-х працаваў у «дзявятцы» (служба аховы вышэйшых асобаў – С. Н.), – пачаў ён. – І калі ў Саюз прыехаў француcкі прэзыдэнт дэ Голь, Брэжнеў павёз яго на Байканур. Вырашыў прыпужаць ракетамі. Байканур быў супэрсакрэтным аб'ектам, мыш не праскочыць, там не магло быць няштатных сытуацый, але парадак ёсьць парадак – уся наша група аховы паехала за дэ Голем. І вось стаю я ў другім коле аховы, гэта дзесяць мэтраў ад «аб'екта», побач са мной француcкі ахоўнік. Малады хлопец, як і я тады. А ў нас у кожнага, акрамя што агульная падрыхтоўка, яшчэ і свая «ізюмінка» – у мяне быў адпрацаваны ўдар локцем. Нас тады так і называлі паміж сабой, па спэцыялізацыі: «локаць», «галава», «калена». Як? Ты, я бачу, чалавек з гумарам. Не-е, гэтым самым, што ты назваў, мы не працавалі, гэтую штуку бераглі для іншых подзьвігаў. Дык вось, я быў «локцем». Калі да «аб'екта» ў натоўпе нехта нахабна прабіраецца, я так акуратненька, каб ніхто не заўважыў, локцем – і р-раз яго пад рэбры! Ну, яму хвілін пяць неба ў капеечку, ужо ні да Брэжнева, ні да мамы роднай. Бывала, што і ламаў рэбры, а як жа. Будзе крычаць? Ну хто там разьбярэ, чаго ён крычыць, там увесь натоўп

раве: «Дарагі Леанід Ільіч!» Ці раней – «Мікіта Сяргеевіч!» Ну вось. А гэты французік, выглядала, пальцам працаваў. Ён стаіць і час ад часу тыркае мяне пальцам у бок, нібыта жартуе, але ў мяне аж дыханьне перахоплівае. Моцна торкае, гад. Палец – ну проста сталёвы. Як дула аўтаматнае. Я пазьней сказаў начальству, што трэба і нам палец адпрацоўваць, і потым мы мелі такія «пальцы» ў «дзявятцы». Дастаў мяне гэты «лягушатнік». І як толькі мой «старшы» адвярнуўся, я падсунуўся і крануў яго лакцём. Напаўсілы крануў. Француз мэтры на тры адляцеў і – мордай у пясок! Нешта крыкнуў па-французску. Дэ Голь нават абярнуўся, відаць, мацернае слова расчуў. І Брэжнеў абярнуўся таксама. Ніхто не зразумеў, у чым справа, можа аступіўся чалавек. Хаця там роўнае месца было. Мой «старшы», вядома, здагадаўся, і ўвечары на падсумаваньні ўваліў мне перад усёй групай. Але гэта – перад групай, а потым, калі ніхто ня бачыў, ён мне падміргнуў і руку пацiснуў. Ну яшчэ б – француза апусьціў мордай у пясок. Хай ведае, якія мы, рускія, і якую ім можам зрабіць «сэ ля ві».

Цяпер мой суразмоўца ўжо не стаяў у ачапленьні, ня біў локцем ні па савецкіх людзях, якія занадта блізка падыходзілі да правадыроў, ні сваіх эўрапейскіх калегаў – пагоны ня менш як палкоўніка прадугледжвалі працу кабінэтную. Але ў кожнай фразе адчувалася нелюбоў да Захаду.

Калі ж у канцы я запытаўся, а якую мэту ён і ягоныя калегі імкнуцца дасягнуць у Беларусі,

таварыш быў прамы, як стрэл: не дапусьціць інтэграцыі Беларусі ў эўрапейскія структуры.

– У вайсковыя ці цывільныя? – запытаўся я.

– У любыя! – быў адказ.

У тыя дні давялося пагутарыць і з расейскімі вайскоўцамі – у складзе дэпутацкай групы, якая выехала ў Клецкі раён, дзе ўжо быў практычна пабудаваны, як ён тады называўся, «вузел "Баранавічы"» (радыёлякацыйная станцыя «Волга» сыстэмы папярэджаньня аб ракетным нападзе).

Гіганцкае памяшканьне знутры – перапляценьне бэтонных калідораў, жалезных лесьвіцаў, гіганцкіх заляў – стварала нейкае фантасмагарычнае ўражаньне, нібыта зь фільму. Аднак небясьпека гэтай расейскай базы была цалкам рэальная. І ня толькі вайсковай ды палітычнай: аналягічная станцыя ўжо працавала ў Скрундэ (Латвія) – і тамтэйшыя жыхары скардзіліся на падвышаную стомленасьць ды галаўны боль. У траўні таго самага 1995-га лякатар у Латвіі быў узарваны. А ў Беларусі, нягледзячы на пратэсты БНФ, дамова з Масквой была ратыфікаваная – і мінімум на 25 гадоў (так прадугледжвае пагадненьне) расейскія лякатары нацэленыя на захад – у бок Варшавы, Прагі, Парыжу...

## Як Расея рыхтавалася «ўзьняцца з кален»

Такім чынам, сэнс беларуска-расейскіх пагадненьняў, падпісаных у пачатку 95-га, палягаў у тым, што ў адказ на значныя саступкі (бясплатны транзыт і ўтрыманьне расейскіх вайсковых аб'ектаў на сваёй тэрыторыі) Беларусь павінна была атрымаць доступ да больш танных энэрганосьбітаў. «Эканамічная праграма», якую адразу пасьля абраньня прэзыдэнтам дэкляраваў Лукашэнка, пачала буксаваць: Лукашэнка не адважыўся на неабходныя рэфармісцкія крокі, якія непазьбежна пагражалі падзеньнем рэйтынгу.

Праўда, рэйтынг Лукашэнкі і без таго падаў. У такіх умовах кіраўніцтва Беларусі рабіла тое, што перад ім рабіў і ўрад Вячаслава Кебіча: праблемы кароткатэрміновай эканамічнай (і палітычнай) тактыкі вырашаліся коштам доўгатэрміновай стратэгіі. «Прывязваючы сябе да расейскіх пастаўшчыкоў, на думку шэрагу экспэртаў, Беларусь робіць крокі, якія шмат у чым зьмяняюць яе лёс як сувэрэннай дзяржавы», – адзначала ў тыя дні інфармацыйна-аналітычнае агенцтва «Павет».

А вось для Крамля тактычныя і стратэгічныя мэты супадалі. Падзеньне рэйтынгу прэзыдэнта Барыса Ельцына ў сувязі з вайной у Чачні, дзе ра-

сейскія вайскоўцы цярпелі паразы адну за другой (хоць і пакідалі пасьля сябе выпаленыя гарады і паселішчы), магло кампэнсавацца інтэграцыяй зь Беларусьсю, якая ў вачах насельніцтва выглядала б значным зьнешнепалітычным посьпехам. Гэта – тактычны выйгрыш, што ж да стратэгічнага, дык Масква на той момант ужо выбрала шлях замацаваньня свайго ўплыву ў краінах СНД (хаця пра «рускі мір» з высокіх трыбунаў яшчэ не прамаўлялася).

І тут варта нагадаць, што ўяўляла сабою Расея ў пачатку 1995 году, у тым ліку і вачыма заходніх аналітыкаў (яны, адзначым, далёка не заўсёды маглі ўплываць на меркаваньні вядучых палітычных лідэраў Захаду, якія ўсё яшчэ бачылі ў Ельцыне гаранта дэмакратыі, прычым ня толькі ў Расеі, але і ў былых савецкіх рэспубліках).

«Сёньня расейцаў апанавалі настроі нацыянальнага дзяржаўнага прыніжэньня. Гэтыя настроі падзяляюць сёньня ня толькі камуністы або жырыноўцы, але і прадстаўнікі ўсіх палітычных лягераў. Вінаватымі яны лічаць Амэрыку, Захад і астатніх, у тым ліку нярускіх, якія жывуць на абшарах Расейскай Фэдэрацыі. У гэтых умовах павялічваецца прага мець правадыра, які жалезнай рукой усталяваў бы парадак і ўратаваў Расею ад далейшага хаосу і, можа, развалу...Названымі прычынамі тлумачыцца і рэзка адмоўная пазыцыя Крамля адносна пашырэньня NATO. Дарэчы, напрыканцы лютага расейскі міністар Козыраў назваў дзьве ўмовы, пры якіх Расея магла б згадзіцца на гэта. А менавіта – на тэрыторы




Гэтак сустракалі ў Менску сьпікера Дзярждумы Расеі, пачатак 1995 г.

будучых членаў блёку не павінна разьмяшчацца ядзерная зброя. Аднак Ельцын адразу пасьля гэтага ізноў засьведчыў, што катэгарычна нязгодны з пашырэньнем NATO», – пісала газэта «Свабода» у аглядзе замежнага друку ў красавіку 95-га.

Тут спыню цытаваньне – у пачатку 95-га Ельцын ужо быў ня тым Ельцыным, які ў жніўні 91-га ўлез на танк для абароны дэмакратыі ды заяўляў расейскім аўтаноміям, што яны могуць браць сувэрэнітэту столькі, «колькі змогуць вынесьці». Гэта быў ня той народны лідэр, які імкнуўся адкрыць Расею для Захаду. Ён знаходзіўся пад уплывам алігархаў, ужо паслаў танкі ў Чачню для здушэньня вызвольнага руху і набіраў у сваё атачэньне былых супрацоўнікаў спэцслужбаў, для якіх Захад, і асабліва Злучаныя Штаты, ніколі ня страчвалі статусу ворага.

Уладзімір Пуцін у той момант быў яшчэ ў Санкт-Пецярбургу на пасадзе віцэ-мэра, але ўжо, як потым прызнаецца, ва ўсю моц свайго чэкісцкага сэрца перажываў за прыніжэньне Расеі. Неўзабаве гэты сардэчны клопат будзе заўважаны, Пуціна забяруць у Маскву.

«Нямецкі міністар замежных спраў, – пісала далей «Свабода«, – змушаны быў папярэдзіць расейскае кіраўніцтва, што калі яно і надалей будзе толькі дыктаваць свае ўмовы, то можа пазбыцца падтрымкі ўраду ФРГ, які ўвесь час імкнецца дапамагаць Крамлю. Аднак у расейцаў, якія, як было зазначана, прагнуць рэваншу, і на гэты выпадак падрыхтаваны контраргумэнт. Крэмль зноў пачне халодную вайну і паскорыць стварэньне ўласнага вайсковага блёку з краінаў СНД. Відавочна, што Беларусі ў гэтай расейскай гульні выпадзе бадай асноўная роля» («Свабода», 21 красавіка 1995).

Прыкметна, што ўваскрашэньне камуністычнай ідэалёгіі было ў той час уласьціва ня толькі для постсавецкіх краінаў, але і для былога сацыялістычнага лягеру, што прааналізавала ў студзені 95-га амэрыканская журналістка Эн Эплбаўм ў The Wall Street Journal Europe.

Гэта, увогуле, унікальны для заходняга друку артыкул, і ўнікальны менавіта тым, што ягоная аўтарка паспрабавала рэабілітаваць паняцьце «нацыяналізм», якое ва ўспрыманьні эўрапейскіх, і асабліва амэрыканскіх палітыкаў, мела выключна адмоўнае адценьне.

«І на Захадзе, і на Ўсходзе аглядальнікі заўчасна пагадзіліся, што былыя камуністычныя партыі дашчэнту змаралізаваныя, цалкам пераможаныя, а таму будуць толькі другаснай палітычнай сілай, – пісала Эплбаўм. – Большасьць верыла, што патэнцыйныя цяжкасьці могуць сыходзіць зь іншага боку – ад нацыяналістычных партый, што пачалі адраджацца ў стылі 1930-х гг... Сёньня ясна, што страх Захаду перад нацыяналізмам у Цэнтральнай Эўропе прывёў да няправільнага разуменьня праблемы і што спробы перашкодзіць разьвіцьцю так званых нацыянальных партый былі вялікай памылкай. Нідзе ў рэгіёне не адбылося адраджэньня нацыяналізму кшталту 1930-ых... Сёньня па ўсёй Цэнтральнай Эўропе былыя камуністычныя партыі трымаюць палітычную і эканамічную манаполію, якая будзе трываць яшчэ гады... Цэнтральную Эўропу апанаваў ня прывід 1930-ых, а старая італійская мадэль – карумпаваныя рэжымы,

якімі кіруюць былыя камуністычныя партыі, што абапіраюцца на напаўмафіёзны бізнэс былой камуністычнай намэнклятуры».

Гэтыя словы сказаныя пра Ўсходнюю Эўропу, але яны супадаюць з ацэнкай сытуацыі ў Беларусі, якую давала парлямэнцкая Апазыцыя БНФ: у выніку прэзыдэнцкіх выбараў 1994 году старая камуністычная намэнклятура саступіла месца маладзейшай, яшчэ больш агрэсіўнай і – вось у гэтым ужо была мясцовая асаблівасьць – гэтак жа пазбаўленай нацыянальнай сьвядомасьці.

У канцы студзеня ў Дзяржаўнай Думе Расеі былі заплянаваныя слуханьні па праблемах беларуска-расейскіх узаемаадносінаў, і Апазыцыя БНФ прапанавала ўключыць свайго прадстаўніка ў беларускую дэпутацкую групу. На пасяджэньні Ценявога Кабінэту Апазыцыі БНФ Пазьняк прапанаваў мне ўзяць удзел у слуханьнях і максымальна дакладна выкласьці расейскім дэпутатам стаўленьне да інтэграцыі Беларускага Народнага Фронту.

Увечары таго самага дня я вылецеў у Маскву.

## «За добрыя адносіны з Расеяй – праз добрую мяжу»

Лічыцца: чым больш удалы выступ – тым гучнейшыя аплядысмэнты. Ісьціна банальная, пацьвердзіць гэтае правіла магу ўласным досьведам 25 сакавіка 1992 году, у Дзень Волі. Гаварыў я пра Беларускую Народную Рэспубліку – але аплядысмэнты гучалі нават ад камуністаў-вэтэранаў.

І ўсё ж адна з самых удалых маіх прамоў мела вынікам поўнае маўчаньне аўдыторыі. Гэта – выступ у Дзяржаўнай Думе Расеі ў канцы студзеня 1995 году.

Мы прыляцелі ў Маскву позна ўначы ў складзе дэпутацкай групы, куды ўваходзілі члены ўсіх фракцыяў; я прадстаўляў Апазыцыю БНФ. З намі быў начальнік аналітычнага аддзелу адміністрацыі прэзыдэнта Пятро Капітула, які меў імідж «галоўнага эканаміста» пры Лукашэнку. Статусу афіцыйнай дэлегацыі ў нас не было, узначальваў групу першы намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету Вячаслаў Кузьняцоў. Пазьней да нашай групы далучылася Натальля Машэрава, якая тады ўваходзіла ў розныя камітэты «славянскага адзінства».

У маскоўскім аэрапорце мы выпадкова сутыкнуліся зь міністрам замежных спраў Уладзімерам Сянько, які вяртаўся ў Менск; ён адвёў мяне ўбок

і сказаў, што трэба неяк сустрэцца і пагутарыць, бо «сытуацыя неадназначная». Я добра ведаў Сянько. Калі ён быў амбасадарам у Варшаве, мы з жонкай у яго гасьцявалі (а перад гэтым разам выступалі ў Беластоку на ўрачыстасьцях з нагоды 75-ых угодкаў БНР), перад сваім прызначэньнем на пасаду міністра ў ліпені 94-га (тады яго тэрмінова выклікалі зь Лёндану) раіўся з Пазьняком і са мной. Але ў пачатку 95-га ён ужо працаваў на ідэю інтэграцыі Беларусі і Расеі – магчыма, і без асаблівай ахвоты, але гэтая неахвота выяўлялася хіба што намёкамі ў такіх вось прыватных гутарках.

Пераначавалі ў гатэлі пры беларускай амбасадзе і раніцай паехалі ў Дзярждуму, якая месьцілася ва ўзьведзеным яшчэ для сталінскага саўнаркаму будынку насупраць гатэлю «Масква», на Манэжнай плошчы. У залі сабраліся ня толькі дэпутаты, але і вайскоўцы з генэральскімі пагонамі, журналісты, экспэрты, сярод якіх вылучаўся жвавы, як іртуць, Андранік Міграньян, дарадца расейскага прэзыдэнта і апантаны выкрывальнік беларускага нацыяналізму.

Ужо па вяртаньні ў Менск начальнік аналітычнага аддзелу адміністрацыі прэзыдэнта Пятро Капітула, які ўваходзіў у склад нашай групы, заявіў журналістам, што «прадстаўнікі расейскага ўраду, якія выступалі ў Думе, амаль не знаёмыя з праблемамі беларуска-расейскіх адносінаў».

Сапраўды, яны слаба арыентаваліся ў шмат якіх элемэнтарных пытаньнях, і гэта навяло мяне на думку, што цэнтар інтэграцыйнай іні-

цыятывы – не расейскі ўрад, але і не адміністрацыя прэзыдэнта і ня Дума, што чыноўнікі толькі выконваюць чыюсьці волю. Няцяжка было здагадацца, чыю: Лубянка ў той час набывала ўсё большы ўплыў на расейскі істэблішмэнт, хаця да ўступленьня на царства падпалкоўніка Пуціна заставалася яшчэ пяць гадоў.

Я тады занатаваў некаторыя выказваньні расейскіх дзеячоў, зь якімі па вяртаньні падзяліўся з чытачамі газэты «Свабода».

«Расея не павінна аплачваць незалежнасьць Беларусі, бо гэтая незалежнасьць можа абярнуцца супраць нас. Інтарэсы Расеі патрабуюць дзяржаўнага адзінства зь Беларусьсю. Каўказ палае, і дарэмна беларусы спадзяюцца адседзецца» (дэпутат Яўген Міхайлаў).

«Адзіная мытная прастора – гэта і адзіны парадак зьнешнеэканамічнай дзейнасьці, і ў гэтым сэнсе мы як бы злучаемся ў адну дзяржаву» (Георгій Габуня, намесьнік міністра зьнешнеэканамічных сувязяў РФ).

«Канешне, з пункту гледжаньня абараназдольнасьці Расеі найбольш аптымальны варыянт – мець адзіныя Ўзброеныя Сілы» (намесьнік начальніка Генэральнага штабу Мінабароны РФ, генэрал-палкоўнік).

Прадстаўнік камандаваньня памежных войскаў РФ сказаў, што Расея мае намер узяць на сябе палову выдаткаў пры абсталяваньні мяжы Беларусі зь Літвой і Латвіяй – але пры гэтым хоча, каб два намесьнікі камандуючага памежнымі войскамі Беларусі былі расейскім генэраламі.

Натуральна, гэта б азначала толькі фармальнае іх падпарадкаваньне свайму «беларускаму» начальніку – яны б выконвалі каманды свайго маскоўскага начальства. І, адпаведна, аддавалі б маскоўскія загады беларускім памежнікам.

«Дэпутаты Думы распачнуць палітычны перасьлед тых дзеячоў выканаўчай улады Фэдэрацыі, якія перашкаджаюць інтэграцыі зь Беларусьсю», – паабяцаў Канстанцін Затулін, старшыня Камітэту па пытаньнях СНД і сувязяў з суайчыньнікамі. Акрамя таго, Затулін наўпрост заявіў, што будучыя выбары ў Вярхоўны Савет Беларусі зьяўляюцца вызначальнымі ў расейска-беларускіх адносінах, і паабяцаў фінансавую падтрымку тым палітычным сілам, якія імкнуцца да інтэграцыі (я тут жа заявіў, што гэта – умяшаньне ва ўнутраныя справы).

Выступілі і прадстаўнікі Беларусі.

Першы намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету Вячаслаў Кузьняцоў заклікаў да стварэньня наднацыянальнага органу, які б «каардынаваў інтэграцыю», што расейскія дэпутаты ўспрынялі з задавальненьнем. «Каардынацыйны орган», зразумела, месьціўся б ня ў Менску, а ў Маскве, а гэта – новая магчымасьць сінэкуры.

Але сапраўдны энтузіязм аўдыторыі выклікала прамова Натальлі Машэравай. Яна сказала, што большасьць СМІ ў Беларусі – пад уплывам «этнарадыкалаў». Наступае «каталіцызм», – папярэджвала Натальля Пятроўна, – «нацыянал-шавіністы» насаджаюць непрыманьне ўсяга расейскага. І таму, сказала Машэрава, «Лукашэнку


Сяргей Навумчык. Фота Сяргея Грыца для перадвыбарчай улёткі.

трэба падтрымаць як адзінага легітымнага гаранта беларуска-расейскіх дачыненьняў».

На гэтым фоне на цёплы прыём у расейскіх палітыкаў мне разьлічваць не даводзілася. Праўда, я і ня ставіў перад сабой такой мэты. Увогуле, выступаць мне было вельмі проста: фактычна, я агучыў стаўленьне БНФ да тэмы беларуска-расейскай інтэграцыі. Выказаў рэзка нэгатыўныя адносіны Народнага Фронту і да мытнага пагадненьня, і да разьмяшчэньня ў Беларусі расейскіх вайсковых базаў. Такія словы ў сьценах расейскага парлямэнту гучалі ўпершыню. Свой выступ я закончыў фразай, што Беларускі Народны Фронт – за добрыя адносіны з Расеяй – праз добрую мяжу.

Сыходзіў я з трыбуны без аплядысмэнтаў, пры поўным маўчаньні залі – і ў той аўдыторыі ўспрыняў гэта як найвышэйшую ацэнку.

Потым беларускую дэлегацыю запрасілі да сябе расейскія дэпутаты-інтэгратары. Быў накрыты стол. Я ня стаў слухаць тосты пра «славянскае адзінства», а папрасіў супрацоўніцу апарату паказаць мне, дзе месьціцца фракцыя «Выбар Расеі», якую ўзначальваў Ягор Гайдар.

У кабінэце Гайдара ішла нарада, і Гайдар папрасіў пагутарыць са мной Аркадзя Мурашова (які незадоўга да гэтага ўзначальваў маскоўскую міліцыю). Я падрабязна пераказаў яму пазыцыю Народнага Фронту ў дачыненьні да вайны ў Чачні, якая ў асноўным супадала з ацэнкамі «Выбару Расеі»; у сьнежні 1994-га, у першы ж дзень, калі Рада бясьпекі Расеі прыняла рашэньне пра пачатак ваенных дзеяньняў, Гайдар накіраваў ліст Ельцыну, у якім папярэдзіў, што «штурм і бамбаваньне Грознага прывядуць да вялізных ахвяраў, да зацягваньня канфлікту, да абвастрэньня ўнутрыпалітычнай сытуацыі. Гэта будзе ўдар па цэласьці Расеі, па нашых дэмакратычных заваёвах, па ўсім, што зроблена Вамі ў апошнія гады». Гэта былі прарочыя словы – менавіта вайна ў Чачні была пераломным пунктам у палітычнай біяграфіі Ельцына, калі ён трапіў у залежнасьць да сілавых структураў, цесна зьвязаных з алігархамі – і ўжо ніколі ня здолеў пазбавіцца ўплыву, выбраўшы наступнікам падпалкоўніка КГБ.

Праўда, у падыходах БНФ і партыі Гайдара была і розьніца. У заяве, якую дэпутаты Апа-

зыцыі БНФ прынялі ў першыя дні 1995 году, гаварылася, што «расейскія імпэрскія палітыкі даўно адмовіліся ад дэмакратыі» і «імпэрскія сілы даўно кіруюць Расеяй». Ілюзіі адносна дэмакратызму Ельцына на мяжы 1994-95 гадоў у расейскіх дэмакратаў яшчэ заставаліся – у нас жа іх не было ніколі.

А потым я пайшоў да Сяргея Юшанкова, які ў той час быў старшынём Камітэту Дзяржднумы па абароне. Для мяне было дзіўна, як яму ўдаецца захоўваць гэтую пасаду пры ягоных дэмакратычных перакананьнях. Зь Сяргеем у нас усталяваліся прыязныя асабістыя адносіны. І што было для мяне вельмі важна – Сяргей быў цалкам пазбаўлены якога б там ні было імпэрскага мысьленьня, ён вельмі прыязна ставіўся да незалежнасьці Беларусі (жонка ягоная паходзіла зь Беларусі).

Юшанкоў сказаў, што ўсімі даступнымі яму спосабамі імкнецца супрацьстаяць націску «партыі генэралаў», якая і справакавала агрэсію ў Чачню, але рабіць гэта ўсё цяжэй, бо шмат хто зацікаўлены ў вайне і робіць на гэтым грошы.

Тое была нашая апошняя размова зь Сяргеем. Далей я ўжо толькі назіраў за ягонымі дзеяньнямі і заявамі, якія ніколі ня супярэчылі ягоным перакананьням дэмакрата. Юшанкоў першым з палітыкаў расейскага дэмакратычнага лягеру выступіў супраць Пуціна (і нават на гэтай глебе выйшаў з «Саюзу правых сілаў», які ў Расеі ў канцы 90-ых – пачатку 2000-ых аб'ядноўваў прадстаўнікоў розных дэмакратычных рухаў

Расеі. Шмат хто зь лідэраў гэтых арганізацый усё яшчэ падтрымліваў Пуціна. Адзін зь іх, Барыс Нямцоў, пазьней прызнае гэтую падтрымку вялікай памылкай).

У красавіку 2003-га Сяргея застрэлілі каля ягонага дома. Вэрсіі былі розныя. Ацэнкі – таксама. Я прывяду дзьве станоўчыя ацэнкі асобы Юшанкова:

«Глыбока ўзрушаны трагічнай весткай пра гібель Сяргея Мікалаевіча Юшанкова. Сышоў з жыцьця яскравы палітык нашага часу. Забіты чалавек, які лічыў сваім абавязкам абарону дэмакратычных свабодаў і ідэалаў» (Уладзімер Пуцін).

«Загад аб забойстве Юшанкова прыйшоў з Крамля. Сяргей ня мог выйграць выбары, у яго і грошай не было. Але ён раздражняў уладу. Гэта расправа зусім зьвярыная, нематываваная, паколькі ён ня быў рэальнай канкурэнцыяй усёмагутнаму Крамлю. Гэтае забойства сьведчыць пра тое, што мы ў руках зьвяроў» (Валерыя Навадворская).

Тады, у студзені 1995-га, я вярнуўся ў Менск з разуменьнем, што ў Маскве зусім няшмат палітыкаў, якія б спагадліва ставіліся да беларускай незалежнасьці. Іх можна літаральна пералічыць па пальцах.

«Думаю, што БНФ, усе дэмакратычныя сілы павінны выйсьці на прынцыпова новы ўзровень дачыненьняў з дэмакратычнымі партыямі Расеі, – казаў я ў інтэрвію газэце «Свабода» па вяртаньні з Масквы. – Можна, канешне, абвінавачваць іх у

імпэрскіх амбіцыях – і заявы асобных лідэраў, на жаль, даюць падставы для гэтага. А можна інакш – распачаць двухбаковыя кансультацыі, аргумэнтаваць уласную пазыцыю. Вы ўявіце сабе рэакцыю таго самага Гайдара, калі ён чуе ад начальніка СС «Белая Русь» пра тое, што дзецям забараняюць вучыць расейскую мову, што расейцу ў Беларусі цяжка знайсьці інфармацыю на яго роднай мове – гэта, натуральна, будзе адмоўная рэакцыя. Але расейскія дэпутаты ня ведалі, што яшчэ сем гадоў таму ў Менску не было ніводнай беларускай школы, як невядома ім і тое, што агульны наклад расейскамоўнай прэсы нашмат перавышае наклад беларускамоўнай. Магчыма, дэфіцыт аб'ектыўнай інфармацыі зь Беларусі – гэта вынік і нашага нежаданьня ісьці на кантакт з дэмакратычнымі лідэрамі Расеі. І таму – пры ўсіх акалічнасьцях – найбольш плённым уяўляецца якраз шлях узаемных кантактаў і кансультацыяў. Не паедуць у Маскву Голубеў, Баршчэўскі, Хадыка – паедзе Гайдукевіч і К. Таму давайце выбіраць. Да таго ж палітыкі Беларусі павінны бачыць і пэрспэктыву разьвіцьця ўнутрыпалітычнай сытуацыі на ўсходзе. Рэйтынг расейскага прэзыдэнта як ніколі нізкі, да таго ж я пераканаўся, што на будучых выбарах яго не падтрымаюць дэмакратычныя рухі. Варта зьвярнуць увагу на такіх палітыкаў, як Ягор Гайдар і Георгій Яўлінскі. Я б вылучыў і Сяргея Юшанкова, які вольны ад імпэрскага мысьленьня і рэальна бачыць пэрспэктыву разьвіцьця беларуска-расейскіх дачыненьняў. У кожным разе, кантакт з

такімі палітыкамі быў бы на карысьць Беларусі... Калі ж казаць пра дачыненьні Беларусі і Расеі ў шырокім кантэксьце, то пазыцыя БНФ вядомая: Расея – у ліку нашых дзяржаўных прыярытэтаў, такая рэальнасьць. Але ўсё ж дачыненьні павінны будавацца на аснове парытэту, з улікам інтарэсаў абодвух бакоў» («Свабода», 1 лютага 1995).

Праз дваццаць гадоў, калі я пішу гэтыя радкі, няма ў жывых ні Гайдара, ні Юшанкова, ні Навадворскай, ні Нямцова. Але колькасьць тых расейскіх палітыкаў, якія прыязна ставяцца да беларускай незалежнасьці – як і тады, сёньня можна пералічыць на пальцах адной рукі.

# Як Пазьняк выйграў суд у Лукашэнкі

У канцы 1994-га расейскія генэралы пераканалі расейскага прэзыдэнта пачаць наступ на Грозны. Калісьці Ельцын прапаноўваў аўтаноміям «узяць сувэрэнітэту столькі, колькі яны здолеюць вынесьці» – выглядала, што мяцежная рэспубліка ўзяла занадта шмат. Асабліва з улікам наяўнасьці нафтавых радовішчаў. Ельцын пачаў бамбаваньне вайсковай тэхнікі, а потым мішэньню зрабіліся жылыя кварталы Грознага. За некалькі тыдняў горад быў ператвораны ў руіны.

Мы ў Народным Фронце ўспрынялі ваенныя дзеяньні ў Чачні як праяву імпэрскай палітыкі Крамля, якую адчувалі ў Беларусі зь першых дзён незалежнасьці – але ў адносінах да чачэнскага народу гэта быў ужо ня нафтавы ці фінансавы шантаж, а бамбаваньне мірнага насельніцтва.

У першыя дні 95-га мы ў дэпутацкай Апазыцыі прынялі заяву ў падтрымку Чачні. Потым было шмат спэкуляцый вакол яе, таму прывяду тэкст заявы цалкам, ён невялікі.

«Працягваецца мужная барацьба свабодалюбівага чачэнскага народу з расейскім рэгулярным войскам, якое па загаду імпэрскіх палітыкаў Расеі ўварвалася ў Чачэнскую рэспубліку, сее

сьмерць, разбурэньні, зьнішчае грамадзянскае насельніцтва.

Расейскія імпэрскія палітыкі, што даўно адмовіліся ад дэмакратыі, распачалі брудную, жорсткую вайну супраць невялікай каўкаскай краіны. Яны растапталі дэмакратычныя прынцыпы, законы, правы чалавека, мараль, права нацый на самавызначэньне, давер народаў. У інтарэсах новых расейскіх карпарацыяў, манаполіяў і капіталу вядзецца жорсткая бесчалавечная вайна з прымяненьнем самай сучаснай зброі і фактычна за браму на Каўказ, за нафтавыя камунікацыі і нафту. Імпэрскія сілы, сілы вайны, якія кіруюць Расеяй, паказалі ўсяму сьвету сваё жудаснае аблічча, пацьвердзілі, што яны гатовыя на ўсё і ня спыняцца ні перад якай жорсткасьцю, ні перад якай крывёй.

Але Чачэнская рэспубліка ня ўдзельнічала ў галасаваньні за расейскую канстытуцыю. Чачэнскі народ увесь час змагаўся за сваю свабоду і незалежнасьць, быў уключаны ў расейскую імпэрыю сілай зброі.

Вайсковая апэрацыя супраць цэлага народу, які ўжо перажыў расейскі генацыд і дэпартацыю, недапушчальная, вайна супраць яго – ганебная для тых, хто яе распачаў. Гэта злачынства супраць народу і яго права на самавызначэньне. Ніякія інтарэсы палітыкаў ня вартыя страты жыцьцяў людзей. Такія палітыкі павінны несьці крымінальную адказнасьць за злачынствы супраць чалавецтва, за сьмерць людзей, за забойствы па іхніх загадах.

Мы з трывогай назіраем, што сілы імпэрыялізму, агрэсіі і вайны, што ўзмацнелі ў Расеі, ствараюць пагрозу міру ў дачыненьні з народамі ў самой Расеі і з суседнімі краінамі і незалежнымі дзяржавамі.

Мы патрабуем спыніць вайну ў Чачні і неадкладна вывесьці адтуль усе акупацыйныя войскі. Мы зьвяртаемся да міжнароднай супольнасьці – узвысіць свой голас у абарону маленькай краіны і свабодалюбівага народу. Толькі народ праз сваю волю можа вызначыцца ў сваёй незалежнасьці і ў сваім лёсе бяз танкаў і войска, бяз крыві і зброі.

Дэпутаты Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Зянон Пазьняк, Валянцін Голубеў, Лявон Баршчэўскі, Ігар Гермянчук, Лявонці Зданевіч, Уладзімер Заблоцкі, Алег Трусаў, Галіна Сямдзянава, Ігар Пырх, Сяргей Антончык, Сяргей Навумчык, Мікалай Крыжаноўскі, Лявон Дзейка, Мікола Маркевіч, Віктар Аляміеў, Алесь Шут, Павал Холад, Сяргей Папкоў, Віталь Малашка, Віктар Какоўка, Барыс Гюнтэр, Юрась Беленькі».

Яшчэ ў першыя дні пасьля ўварваньня расейскіх танкаў у Чачню, 18 сьнежня 1994 году, мы правялі мітынг салідарнасьці з чачэнскім народам.

20 сьнежня на сэсіі Вярхоўнага Савету Лукашэнка заявіў, што на гэтым мітынгу Пазьняк нібыта заклікаў грамадзян Беларусі ехаць ваяваць у Чачню. На наступны дзень Пазьняк з трыбуны Вярхоўнага Савету абверг словы Лукашэнкі і за-

патрабаваў ад яго прабачэньняў, але не атрымаў ні аднаго, ні другога.

Урэшце, лідэр БНФ падаў у суд позву аб абароне гонару і годнасьці – адвакатам у яго была Надзея Дударава. Інтарэсы Лукашэнкі ў судзе прадстаўляў намесьнік кіраўніка прэзыдэнцкай адміністрацыі Міхаіл Сазонаў. Вось што пісаў пра працэс 11 траўня Аляксандар Старыкевіч:

«Пасьля чатырохмесячнай валтузьні позва патрапіла з раённага суду ў Вярхоўны, які рашыўся яе разглядзець. Па цяперашніх часах учынак варты павагі, асабліва калі ўлічыць, што якраз у той час Старшыня Канстытуцыйнага Суду Валер Ціхіня пасьля сяброўскай гутаркі з прэзыдэнтам знаходзіўся пад кропельніцай. Іван Мінец, які старшыняваў на паседжаньні, вёў яго на беларускай мове. Ён прапанаваў бакам разгледзець магчымасьць мірнага пагадненьня. Але Міхаіл Сазонаў заявіў, што адказьнікам такі варыянт не разглядаўся наогул і таму ён зьяўляецца магчымым толькі ў тым выпадку, калі пазоўнік здыме ўсе прэтэнзіі.

Выступ Пазьняка ў Вярхоўным Судзе з выкладаньнем патрабаваньняў пазову быў, напэўна, самым кароткім за ўсю ягоную палітычную кар’еру. Прамова лідэра апазыцыі працягвалася роўна 52 сэкунды. Пазоўнік заявіў, што заўсёды выступаў за нэўтралітэт Беларусі і няўдзел яе грамадзянаў ва ўзброеных канфліктах за межамі рэспублікі. Таму заява Аляксандра Лукашэнкі ганьбіць яго як чалавека і як палітыка... У якасьці пазоўных патрабаваньняў старшыня БНФ вы-

ставіў абвяржэньне зьвестак, якія яго ганьбяць, тым жа спосабам, якім яны былі распаўсюджаныя. Прэтэнзіяў наконт кампэнсацыі маральных стратаў Зянон Пазьняк да Аляксандра Лукашэнкі не вылучаў.

З выступу Міхаіла Сазонава зрабілася зразумелым, што адказьнік ніякімі доказамі пад сваю заяву не валодае. Абарончая тактыка будавалася на тым, што распаўсюджаныя прэзыдэнтам зьвесткі нават калі і зьяўляюцца не зусім дакладнымі, дык гонар і годнасьць лідэра апазыцыі ня ганьбяць: Сазонаў заявіў, што кіраўнік дзяржавы меў права даць такую ацэнку мітынгу, які адбыўся 18 сьнежня.

...Суд прызнаў распаўсюджаныя адказьнікам зьвесткі неадпаведнымі сапраўднасьці і ганьбячымі гонар і годнасьць аўтара пазову (вельмі важная сукупнасьць гэтых двух фактараў, паколькі ў адпаведнасьці з артыкулам 7 Грамадзянскага Кодэксу Беларусі, калі зьвесткі непраўдзівыя, але не зьяўляюцца ганебнымі, пазоў не задавальняецца).

Абвяржэньне павінна прагучаць у адной з інфармацыйных праграмаў Беларускага радыё. Заля сустрэла рашэньне суду апляДысмэнтамі («Имя», 17 траўня 1995 – друкуецца паводле: Зянон Пазьняк, «Развагі..», том 1, 2007, стар. 274-275).

Вярхоўны Суд Беларусі абавязаў Лукашэнку абвергнуць хлусьлівыя зьвесткі ў дачыненьні да Пазьняка і папрасіць у Пазьняка прабачэньня, – праз дваццаць гадоў гэта будзе здавацца нечым нерэальным.

Але тады, у траўні 95-га, такое рашэньне мяне ня вельмі зьдзівіла. Вядома, пасьля зьбіцьця дэпутатаў у Авальнай залі 12 красавіка казаць пра вяршэнства права ў Беларусі не выпадала. Але, з другога боку, у траўні 1995 году яшчэ захоўвалася закладзеная ў першыя гады сувэрэнітэту традыцыя незалежнасьці судовай сыстэмы, калі судзьдзі ўпершыню адчулі магчымасьць прымаць рашэньні без азіраньня на нейкія ўладныя кабінэты.

Недзе ў 1993 годзе мяне выклікалі ў раённы суд у якасьці сьведкі па адной справе абароны гонару і годнасьці; ішла сэсія парлямэнту, але я палічыў абавязковым прыйсьці ў суд і адказаць на пытаньні судзьдзі і адваката. Звычайная, рутынная справа для эўрапейскай дэмакратычнай краіны. Але ў залі зьяўленьне дэпутата ў якасьці звычайнага сьведкі, з выкананьнем усіх патрэбных працэдураў (напрыклад, папярэджаньня аб адказнасьці за дачу хлусьлівых паказаньняў) – тады выклікала зьдзіўленьне. Літаральна праз некалькі месяцаў пасьля рашэньня судзьдзі ў справе Пазьняка практыка адноснай незалежнасьці судовай ўлады будзе спыненая і суды вернуцца да савецкай сыстэмы падпарадкаваньня – толькі ўжо не камуністычным камітэтам, а выканаўчай уладзе.

Гэтае рашэньне Вярхоўнага Суду адбылося за тры дні да першага туру выбараў у Вярхоўны Савет 13-га скліканьня і ініцыяванага Лукашэнкам рэфэрэндуму. Увечары таго самага дня, калі Вярхоўны Суд прыняў сваё рашэньне, у тэлевізій-

ным выступе Лукашэнка сказаў, што суд абавязаў яго прынесьці прабачэньні, дык калі ўжо суд так вырашыў, дык... – і далей сказаў нешта зусім няўцямнае, што нельга было ўспрыняць ні як прабачэньне, ні як абвяржэньне хлусьлівай заявы.

Зразумела, што ніякага жаданьня абвяргаць свае словы і прыносіць прабачэньне Пазьняку ў Лукашэнкі не было: гэта магло б выклікаць сумневы ў праўдзівасьці і «чэснасьці» прэзыдэнта. Але і цягам наступных месяцаў Лукашэнка не выконваў рашэньне вышэйшай судовай інстанцыі.

У першым пазове да Лукашэнкі, задаволеным Вярхоўным Судом, Пазьняк не выстаўляў да яго ніякіх матэрыяльных прэтэнзіяў, патрабуючы абвергнуць паклёп і публічна прынесьці прабачэньні. Аднак Лукашэнка гэтага не зрабіў, і Пазьняк запатрабаваў матэрыяльнай кампэнсацыі памерам 500 мільёнаў рублёў.

Тады старшыня Вярхоўнага Суду Ўладзімер Каравай вынес пратэст, і 11 верасьня Прэзыдыюм Вярхоўнага Суду адмяніў рашэньне, прынятае 11 траўня.

Пры гэтым Пазьняку не далі магчымасьці прысутнічаць на пасяджэньні і доўгі час не давалі азнаёміцца з тэкстам пастановы Прэзыдыюму Вярхоўнага Суду. «Складваецца ўражаньне, што суду, як незалежнай сыстэмы ўлады, ужо не існуе – сказаў Пазьняк у інтэрвію карэспандэнту «Звязды» Валеру Каліноўскаму. – Так выглядае, што ён пераўтварыўся ў аддзел прэзыдэнцкай

структуры выканаўчай улады, дзе таксама перасталі выконваць закон. Так быць не павінна».

Не павінна – але ў 95-ым менавіта так і адбылося.

## «Навошта БНФ зьняў Хрушчова?»

Ня ведаю, ці застаўся хаця б адзін раён Беларусі, дзе не былі мае калегі з Апазыцыі БНФ. У такіх паездках мы напоўніцу выкарыстоўвалі закон аб статусе дэпутата, паводле якога ўлады мусілі даваць памяшканьне для сустрэчы з выбаршчыкамі. Фармальна маглі і адмовіць, бо часта дэпутаты былі з зусім іншых акругаў, але такіх выпадкаў да прыходу да ўлады Лукашэнкі не было. Дый пасьля, асабліва калі ў нашай групе быў Пазьняк, мясцовае начальства засьцерагалася адмаўляць – Пазьняка паважалі нават апанэнты і пабойвалася начальства.

На мяжы 1994-1995 гадоў у рэгіёны мы выяжджалі штотыдзень.

У адну з паездак, у Гомель, езьдзілі Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін. Але звычайна мы ашчадна ставіліся да нашых паважаных і ўжо не маладых выбітных творцаў і ў палітычныя рэйды іх не запрашалі. Затое для нас, дэпутатаў, гэтыя паездкі былі рэгулярнымі і, прызнаюся, даволі моцна вымотвалі і фізычна, і нэрвова.

Было гэтак: у раён (напрыклад, Ашмянскі ці Пастаўскі) выяжджалі тры-чатыры дэпутаты, звычайна на чале з Пазьняком. Былі і члены Сойму ці Ўправы БНФ – Віктар Івашкевіч, Вя-

часлаў Сіўчык ці нехта яшчэ. Ехалі на «франтаўскім» мікрааўтобусе, часам быў яшчэ адзін аўтамабіль – старэнькі «жыгуль», якім карыстаўся Пазьняк. На месцы разьбіваліся на дзьве групы – і пачыналіся паездкі па вёсках; за дзень удавалася пабываць у трох-чатырох калгасах ці саўгасах. Выступалі звычайна ў клюбах. Выступ наш звычайна доўжыўся дзьве-тры гадзіны, потым – адказы на пытаньні, якіх заўсёды былі дзясяткі. Далей – чарговая сустрэча. І яшчэ адна. Спаць валіліся як мёртвыя.

Назаўтра – новыя вёскі, новыя сустрэчы, а ўвечары дзьве групы аб'ядноўваліся і праводзілі сустрэчу ў райцэнтры, у вялікай залі (звычайна – у раённым Палацы культуры). Зразумела, асноўная цікавасьць людзей была да Пазьняка – яму і даводзілася выступаць больш за астатніх. Ён валодаў (і гэтая здольнасьць ня страцілася) уменьнем «трымаць» аўдыторыю, гаварыць зь ёй зразумелымі словамі. Вельмі часта тыя, хто ішоў на сустрэчу як ягоны праціўнік – выходзілі з залі ягонымі прыхільнікамі.

Для большасьці вяскоўцаў гэта былі першыя сустрэчы з прадстаўнікамі БНФ, наогул зь людзьмі, якія вызнаюць ідэалёгію Адраджэньня.

Здаваліся і камічныя выпадкі.

Прыехалі мы ў вёску Вязынь на Вялейшчыне (вёска ўвайшла ў гісторыю тым, што менавіта ў ёй быў арыштаваны чэкістамі Янка Філістовіч). Былі мы, здаецца, утрох – Лявон Баршчэўскі, Юрась Беленькі і я. Звычайна трэба было ўлічваць спэцыфіку аўдыторыі, гаварыць простай мовай,

без мудрагелістых палітычных тэрмінаў, якіх вяскоўцы маглі і ня ведаць. Гэтак было і ў Вязыні.

Пасьля нашых выступаў пайшлі пытаньні. І чым далей – тым больш складаней:

– Чаму Лукашэнка не адправіў у адстаўку карупцыянэраў, як абяцаў на выбарах?

– Ці наважыцца ўрад Чыгіра правесьці рынкавыя рэформы?

– А ці здолее Канстытуцыйны Суд супрацьстаяць прэзыдэнцкаму ціску?

Вяршыняй дасьведчанасьці вяскоўцаў было пытаньне пра зьмены выбарчага заканадаўства:

– Ці ёсьць шанец, што будучы Вярхоўны Савет прыме прапарцыйна-мажарытарную сыстэму?

Мы былі ўражаныя палітычнай сьпеласьцю ды інфармаванасьцю жыхароў гэтай невялікай вёсачкі. Вось вам і «зацюканы» беларускі народ, вось вам і неадукаваныя вясковыя жыхары, якіх палітолягі назаўсёды залічылі ў стабільны і непарушны электарат Лукашэнкі!

Завяршыўшы адказваць на пытаньні (тут ужо мы, як кажуць, «адвялі душу»), прыступілі да традыцыйнай працэдуры – прапанавалі запісвацца ў Народны Фронт і стварыць суполку БНФ (звычайна, пасьля сустрэчаў мінімум пяць-шэсьць чалавек у кожнай вёсцы запісваліся ў Фронт).

– Калі ласка, запісвайцеся, – прапанаваў Баршчэўскі. – Гэта варта зрабіць хаця б таму, што ваш прадстаўнік будзе мець сталыя кантакты з кіраўніцтвам БНФ у Менску, будзе прывозіць да вас літаратуру, распаўсюджваць інфармацыю. Навіны ж у вёску ня хутка даходзяць, а вы,

мы бачым, палітыкай цікавіцеся. І я б сказаў, што разьбіраецеся ў нюансах адносінаў паміж Вярхоўным Саветам і Апазыцыяй вельмі нават добра, ня горш за сталічных жыхароў.

У адказ – маўчаньне.

І тут уздымаецца маладая жанчына.

– Ды мы і так на ўсе вашы мітынгі ходзім, бо ў Менску жывем, я вось, напрыклад, супрацоўніца Інстытуту цепла- і масаабмену Акадэміі навук, дысэртацыю цяпер абараняю. А сюды мы ўсе прыехалі дапамагчы бацькам буракі капаць.

Мы зь Лявонам пераглянуліся і ледзь стрымаліся ад сьмеху.

Але найбольшая нечаканасьць была наперадзе.

Аднекуль з дальняга шэрагу залі бабуля запытала:

– Сыночкі, вось я вас паслухала, усё вы прыгожа й правільна кажаце. Але ў мяне да вас, да начальнікаў высокіх з гэнага БНФу, пытаньне будзе. Скажыце, а навошта ж вы Хрушчовава зьнялі?

(Яна так і сказала – «Хрушчовава», а не Хрушчова).

Можна было ўявіць, што ў сьвядомасьці бабулі жыцьцё яе было пазначанае нейкімі важнымі падзеямі: вайна, замужжа, нараджэньне дзяцей... і адстаўка Хрушчова ў кастрычніку 1964-га. Пэўна, штосьці было і іншае ў яе асабістым жыцьці – але наступнай палітычнай падзеяй пасьля адстаўкі Хрушчова стаўся гэты вось прыезд у вёску дэпутатаў БНФ. (У яе разуменьні – на-

чальства, і няважна, што ў момант адстаўкі Хрушчова гэтым «начальнікам» было па трычатыры гады, а некаторыя і не нарадзіліся.)

Трыццаць гадоў не было перад бабулькай нікога, хто б меў ахвоту патлумачыць ёй прычыну адстаўкі Хрушчова які, традыцыйна лічылася, «сядзеў у пячонках» сялянства за падаткі на кожную курыцу і на кожную яблыню. А можа таму цікавіў гэтую старую зь Вязыні Хрушчоў, што паўплываў ён на лёс нейкага блізкага чалавека, таго, хто сядзеў у ГУЛАГу і вярнуўся дадому пасьля хрушчоўскага ХХ зьезду?

...У эміграцыі, на чужыне, я часта прыгадваю тых, каго спаткаў у паездках па Беларусі, хто прыходзіў на нашы сустрэчы ў часам вельмі нацэпленыя, як лазьня, а, здаралася, што і ў прамерзлыя вясковыя клюбы. Памятаю бабулек з браслаўскай вёскі, што на роварах дабіраліся на сустрэчу, маладых энэргічных краязнаўцаў у Браславе, сьвятара ў Ашмянах, супрацоўнікаў музэю Багушэвіча ў Кушлянах на Смаргоншчыне, выкладчыкаў у Вялейцы, напаўпаралізаванага старога са Стаўпеччыны, які не ўздымаўся з ложка, слухаў радыё «Свабода», чытаў газэту «Свабода» і ведаў лепш за мяне, які дэпутат і як галасаваў...

Сьцерліся ў памяці назовы мястэчак і вёсак, забыліся імёны тых, з кім мы сустракаліся, з кім гутарылі, у каго гасьцявалі, але твары іх я бачу, нібыта яны побач, быццам і не прайшло столькі гадоў і няма адлегласьці ў тысячы кілямэтраў, – і гэтыя людзі засталіся ў маёй душы ўвасабленьнем беларускага народу.

## Карпенка – Лукашэнку: Не прамахніся і ня стрэльні сабе ў лоб

22 лютага 95-га старшыня Вярхоўнага Савету Мечаслаў Грыб загадаў адключыць мікрафон у Зянона Пазьняка.

Сьпікеру не спадабаліся словы лідэра БНФ пра тое, што «ў Ельцына рукі па локаць у крыві» пасьля ўводу войск у Чачню, і што ня трэба было прымаць яго ў Менску з такім гонарам (назіральнікі адзначылі, што знакі павагі і захады бясьпекі ў сувязі зь візытам расейскага прэзыдэнта ў Менск прыкметна перавышалі тое, што рабілася ў часе візыту прэзыдэнта ЗША Біла Клінтана). Пазьняк расцаніў вынікі прыезду Ельцына як «захоп Расеяй беларускай дзяржавы».

І яшчэ лідэр парлямэнцкай апазыцыі сказаў, што «надышоў час ставіць пытаньне пра адказнасьць прэзыдэнта перад сваім народам і запускаць мэханізм адстаўкі».

Магчыма, лёс Беларусі склаўся б іншым чынам, калі б замест адключэньня мікрафона старшыня Вярхоўнага Савету прыслухаўся да гэтай прапановы Пазьняка.

На той момант Лукашэнка даў дастаткова нагодаў, каб ня проста ўсумніцца ў ягонай здольнасьці абараняць інтарэсы незалежнай Беларусі – а

зрабіць сур’ёзныя захады, каб спыніць імклівую, пазыцыя за пазыцыяй, здачу Беларусі Крамлю.

Некалькімі месяцамі раней, увосень 94-га, я паставіў на сэсіі пытаньне аб стварэньні адмысловай парлямэнцкай камісіі для ацэнкі псыхічнага стану прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі; прапанова не была падтрыманая большасьцю дэпутатаў. Але тыя крокі, якія рабіў новаабраны кіраўнік Беларусі (прычым зь першага дня свайго прэзыдэнцтва) не пакідалі сумневу: калі нешта ў дзеяньнях Лукашэнкі і можна патлумачыць нейкімі асаблівасьцямі псыхікі, дык гэта – прагу да ўлады; а ўцягваньне Беларусі ў арбіту інтарэсаў Расеі было мэтанакіраваным і прадуманым працэсам.

«Рэйтынг Лукашэнкі падае, а давер да Пазьняка расьце» – пад гэтым загалоўкам выйшла 18 студзеня 1995 году інфармацыя ў газэце «Свабода». «Вынікі сацыялягічнага дасьледаваньня красамоўна сьведчаць, што за апошнія месяцы рэйтынг прэзыдэнта Лукашэнкі зьнізіўся амаль удвая. Тым часам папулярнасьць Народнага Фронту і давер да ягонага лідэра Зянона Пазьняка ўстойліва растуць», – пісала газэта, спасылаючыся на апытаньне Беларускай сацыялягічнай службы «Грамадзкая думка». «Гэты праект ажыцьцяўляўся разам з рэдакцыяй «Советской Белоруссии». Аднак пасьля зьмены кіраўніцтва газэты малаверагодна, што гэтыя зьвесткі будуць там надрукаваныя, – пісала «Свабода». – Апытаньне праводзілася па прапарцыйна-квотавай выбарцы. Кожны раз апытваліся 1000 рэспандэнтаў у 55

населеных пунктах усіх абласьцей Беларусі. Выбаркай ахопленыя ўсе сацыяльна-дэмаграфічныя групы насельніцтва. Варта адзначыць той факт, што апошняе апытаньне было праведзенае ў пэрыяд 10-20 сьнежня – г. зн. яшчэ да зьяўленьня «белых плямаў«, пасьля якіх рэйтынг «галоўнага цэнзара«, на думку сацыёлягаў, упаў зусім катастрафічна».

(Меліся на ўвазе «белыя плямы» ў шэрагу газэтаў, у тым ліку і той самай «Советской Белоруссии», калі на ўказаньне кіраўніка ўпраўленьня інфармацыі Аляксандра Фядуты – які, у сваю чаргу, выконваў распараджэньне кіраўніка прэзыдэнцкай адміністрацыі Леаніда Сініцына – з друку быў зьняты зачытаны на сэсіі Вярхоўнага Савету даклад дэпутата Апазыцыі БНФ Сяргея Антончыка аб карупцыі ў атачэньні прэзыдэнта. Усе дэпутаты ў Авальнай залі бачылі, як Лукашэнка выціраў сьлёзы. Але тое была хвілінная слабасьць: адразу пасьля выступу Лукашэнка распачаў жорсткі перасьлед Антончыка. Фядута падаў у адстаўку.)

За тыдзень да цытаванай публікацыі «Свабода» зьмясьціла інфармацыю зь Берасьця, дзе таксама праводзілася апытаньне сацыялягічнай групай «Шчырасьць» на замову газэты «Брестский курьер». «Вынікі дасьледаваньня паказалі, што рэйтынг Лукашэнкі ўпаў амаль у 2 разы ў параўнаньні з папярэднім апытаньнем, якое праводзілася пасьля 100 дзён прэзыдэнцкага кіраваньня Лукашэнкі. У кастрычніку дзейнасьць прэзыдэнта цалкам ці з пэўнымі агаворкамі пад-

трымлівалі 46,4 % апытаных, а ў канцы году – 26%. Прычым толькі 6% (раней такіх было 12%) заявілі, што яны ва ўсім падтрымліваюць Лукашэнку» («Свабода», 11 студзеня 1995 г.).

У пачатку 95-га людзі яшчэ не баяліся выказаць сваю думку, парлямэнцкая апазыцыя, хоць і з куды большымі цяжкасьцямі, чым пры Шушкевічу-Кебічу, праводзіла сустрэчы зь людзьмі на прадпрыемствах, ладзіла мітынгі. Кожныя выходныя дэпутаты БНФ выяжджалі ў рэгіёны. БНФ заключыў перадвыбарчае пагадненьне з дэмакратычнымі партыямі і падзяліў зь імі абсалютную большасьць акругаў, каб не ствараць канкурэнцыі паміж прыхільнікамі агульных падыходаў да незалежнасьці і дэмакратыі.

Усё паказвала на тое, што на выбарах Народны Фронт мае добрыя шанцы ўмацаваць свае пазыцыі ў Вярхоўным Савеце.

«Катастрафічнае» (паводле сацыёлягаў) для Лукашэнкі падзеньне ягонага рэйтынгу відавочна паўплывала б на вынікі выбараў, і ў адміністрацыі прэзыдэнта гэта добра разумелі. Распачаліся затрыманьні дэмакратычных актывістаў, якія выходзілі на пікеты, узмацніўся ціск на іх па месцы працы. Выдавецтва «Беларускі Дом друку» адмовілася працягваць дамовы зь незалежнымі газэтамі, што фактычна ставіла іх у паўлегальнае становішча.

У паездках па Беларусі мы штодня, і не адзін раз, чулі ад простых людзей: «Лукашэнка – харошы, але яму замінаюць». Спачатку я думаў, што гэта – вынік неглыбокага разуменьня сытуацыі,




Лявон Баршчэўскі, Валянцін Голубеў, Уладзімер Карміпкін (з плякатам), Зянон Пазьняк, Юрась Хадыка (ля мікрафона), Іван Нікітчанка на мітынгу БНФ.

але потым пераканаўся, што такі, як бы сёньня сказалі, слоган, запускаўся ў народ адмыслова.

Некалькі тыдняў у пачатку 95-га Лукашэнка і сам у публічных выступах нагнятаў сытуацыю, заяўляючы, што ўсе дрэнныя – Пазьняк, БНФ, журналісты, нарэшце, «стары» Вярхоўны Савет. Усё ішло да таго, што прэзыдэнцкая адміністрацыя пойдзе на нейкія радыкальныя крокі, якіх яшчэ не было ў незалежнай і зусім яшчэ нядаўна адносна дэмакратычнай Беларусі.

І такія заявы прагучалі – у выступе Лукашэнкі на сэсіі Вярхоўнага Савету 21 сакавіка. Лукашэнка абвінаваціў Вярхоўны Савет у прыняцьці неканстытуцыйных законаў (што было няпраўдай) і запатрабаваў ад дэпутатаў скласьці дэпутацкія паўнамоцтвы «самастойна», паколькі, на ягоную думку, канстытуцыйны тэрмін паўнамоцтваў Вярхоўнага Савету быў вычарпаны.

Варта заўважыць, што ў кастрычніку 1992 году Лукашэнка галасаваў супраць рэфэрэндуму аб датэрміновых выбарах і ніколі не падтрымліваў нашых прапановаў аб прысьпешваньні гэтых выбараў – пакуль быў дэпутатам. Зрабіўшыся прэзыдэнтам, ён убачыў у Вярхоўным Савеце орган, які стаяў на шляху да ўсталяваньня аўтарытарнага рэжыму. І трэба прызнаць, што тут Лукашэнка не памыліўся – якім бы ні быў Вярхоўны Савет паводле свайго складу, але ён мог (разам з Канстытуцыйным Судом) спыніць дыктатарскія памкненьні прэзыдэнта. І нават – чаго і запатрабаваў Пазьняк на сэсіі ў лютым – абвясьціць Лукашэнку імпічмэнт.

Прыкметна, што ў сваёй прамове (як ён сказаў, «апошняй» перад гэтым складам Вярхоўнага Савету – тут ён таксама падмануў), Лукашэнка запатрабаваў, каб перад складаньнем сваіх паўнамоцтваў дэпутаты ратыфікавалі беларуска-расейскі дагавор. Ніякія эканамічныя ці сацыяльныя законы Лукашэнку не цікавілі; дамова з Расеяй – перш за ўсё.

Праз два дні, 23 сакавіка, Лукашэнка выступіў на сэсіі яшчэ раз – у той дзень мы слухалі спавешчаньне старшыні КДБ Уладзімера Ягорава пра «лёзьненскі стрэл» (так званы замах на жыцьцё Лукашэнкі ў часе выбарчай кампаніі 16 чэрвеня 1994 году). Ягораў фактычна прызнаў, што сьледзтва нічога не дало. Гэта – афіцыйна, а неафіцыйна кожны ў Авальнай залі (у тым ліку і старшыня КДБ) ведаў, што Лукашэнка сам арганізаваў той стрэл па «мэрсэдэсе», які належаў Івану Ціцянкову.

Генадзь Карпенка заявіў, што яшчэ да стрэлу ведаў з вуснаў Лукашэнкі, што «ім плянуецца інсцэніроўка». Лукашэнка, паводле словаў Карпенкі, заявіў, што «ён паспрабуе стрэліць у якую-небудзь частку цела і народ яго на ложку шпітальным вынесе ў прэзыдэнты. Я заявіў Аляксандру Рыгоравічу – Аляксандар Рыгоравіч, не прамахніся, ня трап у лоб».

У той самы дзень Лукашэнка абрынуўся з новай порцыяй абвінавачаньняў на дэпутатаў БНФ і на тых членаў парлямэнту, хто быў настроены да прэзыдэнта крытычна. Ён запатрабаваў разгледзець пытаньне аб прызначэньні рэфэрэндуму аб наданьні расейскай мове статусу дзяржаўнай, зьмене сымболікі, інтэграцыі з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць парлямэнт.

Мы паспрабавалі блякаваць гэтую прапанову, і першае галасаваньне не дазволіла ўключыць пытаньне пра рэфэрэндум у парадак дня сэсіі. Аднак потым было праведзена пайменнае галасаваньне (як заўважыў Станіслаў Шушкевіч, з парушэньнем Рэглямэнту Вярхоўнага Савету), «за» выказаўся 171 дэпутат, і прапанаваны Лукашэнкам пункт быў унесены ў парадак дня.

Аўтарам «новых» сымбаляў быў кіраўнік прэзыдэнцкай адміністрацыі Леанід Сініцын. У траўні 2015-га ў інтэрвію карэспандэнту Радыё Свабода Іне Студзінскай ён прызнаецца, што «гэта была цалкам мая ініцыятыва. Я – аўтар герба і сьцяга. Я маляваў эскіз... Эскіз дакладна мой. Потым ужо мастак дадаў фарбы, крыху стылізаваў». У гэтым жа інтэрвію Сініцын бел-

чырвона-белы сьцяг і «Пагоню» назваў «журналісцкай выдумкай». («Колькі яны праіснавалі? Зусім крыху»; выглядае, Сініцын меў на ўвазе працягласьць статус нацыянальных сымбаляў як дзяржаўных (1991 —1995), мінулыя ж стагодзьдзі нацыянальнй гісторыі яго не цікавілі.) Яшчэ раней Сініцын прызнаўся Валянціну Голубеву, што намаляваў эскізы пасьля банкету ў мітрапаліта Філарэта з нагоды ягонага дня народзінаў. Філарэт нарадзіўся 21 сакавіка, дэпутатам раздалі «эскізы» ужо 23-га сакавіка. Такім чынам, праца «гэральдзістаў» (як потым назаве іх Лукашэнка) ішла роўна два дні. Гэта азначае, што галоўным было якраз ня столькі ўвесьці нейкую канкрэтную сымболіку (інакш бы над ёй працавалі не адзін тыдзень), а менавіта зьнішчыць дзяржаўны статус бел-чырвона-белага сьцяга і «Пагоні». У нейкі момант прарасейска арыентаваны кіраўнік прэзыдэнцкай адміністрацыі Сініцын зразумеў, што беларуская дзяржава пакуль яшчэ застаецца, і нейкія сымбалі ёй яшчэ патрэбныя – ну вось і накрэмзаў на хуткую руку «новыя», якія мала чым розьніліся ад савецкіх. (Пазьней, ужо ў адстаўцы, Сініцын выступіць зь ініцыятывай далучэньня Беларусі да Расеі).

Але ідэя рэфэрэндуму мае сваю перадгісторыю.

# «Ім патрэбна Беларусь без беларусаў»

Калі праз два дзесяцігодзьдзі аналізуеш, які «народ» выступіў за рэфэрэндум аб статусе беларускай мовы і зьмене дзяржаўных сымбаляў – дзівісься, наколькі гэта былі ня проста нешматлікія, а ўвогуле мізэрныя па сваёй колькасьці групы.

Так, увосень 1994-га (ужо пры Лукашэнку) у цэнтры Менску адбыўся пікет «Комитета за свободный выбор языка обучения», які патрабаваў наданьня расейскай мове статусу дзяржаўнай і спыненьня працэсу беларусізацыі адукацыі. Інфармацыя пра гэтую акцыю прайшла праз усе ўплывовыя афіцыйныя СМІ, у тым ліку дзяржаўнае радыё і тэлебачаньне. Вось толькі ў большасьці рэпартажаў не называлася колькасьць удзельнікаў «пратэсту супраць разьвязанай нацыяналістамі з БНФ гвалтоўнай беларусізацыі». А было гэтых удзельнікаў – аж два дзясяткі чалавек.

Таксама тады ўтвораны яшчэ пры Кебічу «Народны рух Беларусі» на чале зь Сяргеем Гайдукевічам выступіў з ініцыятывай правядзеньня рэфэрэндуму аб статусе расейскай мовы, аднак атрымаў адмоўныя высновы шасьці (!) камісіяў Вярхоўнага Савету, а таксама Міністэрства юс-

тыцыі: прапанаванае пытаньне супярэчыць заканадаўству.

Можна было б уявіць, што пасьля гэтага прыхільнікі рэфэрэндуму канчаткова спаўзуць на маргінэс і будуць уплываць на жыцьцё краіны ня болей, чым раздатчыкі расейскіх сьцяжкоў на вуліцах беларускіх гарадоў у тыя дні, калі я пішу гэтыя радкі. У гэты момант я сапраўды ня ведаю, чым скончыцца гэтая нібыта пацешная кампанія са сьцяжкамі – альбо тым, што праз год пра яе забудуць, альбо – уваходам расейскіх танкаў пад расейскім «трыкалёрам». Я ведаю толькі, што ўлады не перашкаджаюць глуханямым (альбо тым, хто прыкідваецца імі) распаўсюджваць сьцяжкі іншай дзяржавы. На мяжы 1994-95 гадоў адміністрацыя Лукашэнкі ўсяляк падтрымлівала прыхільнікаў спыненьня беларусізацыі. Зрэшты, нам у Народным Фронце ўжо тады было зразумела, што гэтыя маргінальныя групы выходзяць са сваімі лёзунгамі не з уласнай ініцыятывы, а менавіта паводле пэўнага пляну. І сцэнар гэты, як мы былі ўпэўненыя, распрацоўваўся ў адміністрацыі прэзыдэнта супольна з тымі сіламі ў Маскве, якія не маглі зьмірыцца з існаваньнем незалежнай Беларусі.

У самым пачатку 1995 году Лукашэнка заявіў, што мае намер правесьці рэфэрэндум па дзяржаўнай сымболіцы, мове і дэнансацыі Белавескіх пагадненьняў. Неўзабаве была арганізаваная і падтрымка ініцыятывы ад дэпутатаў.

18 сакавіка 1995 году ў «Звяздзе» зьявіліся звароты, падпісаныя 74 дэпутатамі Вярхоўнага

Савету. Адзін быў прысьвечаны зьмене дзяржаўных сымбаляў, другі – наданьню расейскай мове статусу другой дзяржаўнай.

Абодва звароты былі адрасаваныя прэзыдэнту Лукашэнку.

«На месцах дэпутатам Вярхоўнага Савету ад выбаршчыкаў працягваюць пастунаць нэгатыўныя водгукі аб дзяржаўнай сымболіцы Рэспублікі Беларусь.

Пытаньне аб сымболіцы набывае асаблівую значнасьць напярэдадні 50-годзьдзя Перамогі над фашысцкай Германіяй. Герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сьцяг былі зацьверджаны 27 ліпеня 1942 года гітлераўскім намесьнікам – гаўляйтэрам В. Кубэ для створанай акупантамі марыянэтачнай Беларускай цэнтральнай рады. Пад гербам «Пагоня» і бел-чырвона-белым сьцягам прыслужнікі фашысцкіх акупантаў са спэцыяльнага батальёну «Дальвітц» і штурмавой брыгады «Беларутэнія» расстрэльвалі і вешалі змагароў за вызваленьне Беларусі. Зыходзячы з вышэйвыкладзенага, у многіх выбаршчыкаў узьнікае правамернае пытаньне: «Як мы, вэтэраны вайны, і сыны і дочкі вэтэранаў, можам адзначаць 50-годзьдзе Вялікай Перамогі над фашызмам з афіцыйным сьцягам і гербам Рэспублікі Беларусь, якімі карысталіся беларускія нацыянал-фашысты ў гады гітлераўскай акупацыі і пад знакам якіх зьнішчалі нашых таварышаў, бацькоў і маці?»

Пытаньне аб сымболіцы патрабуе перагляду і ў сувязі з тым, што герб «Пагоня» зьяўляўся афіцыйным гербам вялікіх князёў літоўскіх

і створаны быў на літоўскай зямлі, а сьцяг тым больш ня мае ніякага дачыненьня да Беларусі, а зьяўляецца польска-літоўскай сымболікай.

З улікам таго, што Беларусь зьяўляецца суверэннай дзяржавай, не да твару ёй пераймаць герб і сьцяг, няхай і дружалюбнай, але іншай суверэннай дзяржавы – Літвы, якія былі зацьверджаныя парлямэнтам намнога раней за нашу рэспубліку.

У сувязі з вышэйвыкладзеным мы, дэпутаты Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, зьвяртаемся да Вас як Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь з просьбай, у адпаведнасьці з артыкулам 74, часткі 3 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь ініцыяваць правядзеньне рэспубліканскага рэфэрэндуму «Аб адносінах насельніцтва Рэспублікі Беларусь да афіцыйнай сымболікі Рэспублікі Беларусь» з адначаснай абавязковай прапановай прапрацоўкі новых сымбаляў Рэспублікі Беларусь».

Гэты зварот, пад якім стаяць подпісы 74 дэпутатаў Вярхоўнага Савету, рабіў ураджаньне на хуткую руку зробленага тэксту, з грубымі фактычнымі памылкамі (чаго вартыя толькі вызначэньне «Пагоні» як ня маючай дачыненьне да Беларусі альбо камічныя словы пра тое, што ў Беларусі зацьверджаны той самы сьцяг, што і ў Літве).

Добра ведаючы асаблівасьці выступаў у Вярхоўным Савеце дэпутатаў ад вэтэранскай арганізацыі, найперш Міхаіла Качана, чый подпіс стаіць першым, я схільны думаць, што тэкст пісалі менавіта дэпутаты-вэтэраны. Занадта ўжо падобныя некаторыя стылёвыя абароты і лек-

сыка (напрыклад, Качан часта ўжываў выраз «на месцах»).

Такія самыя выразы ёсьць і ў лісьце адносна наданьня расейскай мове статусу дзяржаўнай, але адчуваецца, што гэты тэкст быў істотна дапрацаваны (трэба думаць, у прэзыдэнцкай адміністрацыі), а, магчыма, і перароблены: устаўленая юрыдычная казуістыка. Якая, аднак, мела мала агульнага з рэальнасьцю.

«Паважаны Аляксандар Рыгоравіч! Шматлікія заявы грамадзян, працоўных калектываў, палітычных партый, грамадзкіх арганізацый да дэпутатаў Вярхоўнага Савету аб неадпаведнасьці Закону «Аб мовах у Беларускай ССР» і Закону «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь» Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і міжнародным прававым актам вымушаюць зьвярнуцца да Вас як да гаранта канстытуцыйных правоў і свабод грамадзян.

Арт. 50 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь абвяшчае права кожнага грамадзяніна карыстацца роднай мовай, выбіраць мову зносінаў. Дзяржава гарантуе ў адпаведнасьці з законам свабоду выбару мовы выхаваньня і навучаньня.

Усеагульная Дэклярацыя правоў чалавека, прынятая ААН у 1948 годзе, Пакты аб грамадзянскіх і палітычных правах, ухваленыя ААН у 1966 годзе, Парыская хартыя для новай Эўропы 1990 году, якія прызнаны Рэспублікай Беларусь, фіксуюць, што кожны чалавек валодае натуральнымі, неад’емнымі, непарушнымі правамі і сва-

бодамі, уключаючы права карыстаньня роднай мовай і навучаньня на роднай мове.

Разам з тым Закон «Аб мовах у Беларускай ССР», які быў прыняты да прыняцьця Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, зьмяшчае шэраг артыкулаў, якія супярэчаць як Канстытуцыі, так і міжнародна-прававым актам.

Так, напрыклад, артыкулы 23-26 Закону аб мовах наогул не прадугледжваюць свабоднага права выбару мовы выхаваньня і навучаньня. У гэтых самых артыкулах гаворыцца, што ў дзіцячых дашкольных установах, агульнаадукацыйных школах, прафэсійна-тэхнічных вучылішчах, сярэдніх спэцыяльных і вышэйшых навучальных установах навучаньне і выхаваньне вядзецца на беларускай мове, што яўна супярэчыць арт. 50 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і памянёным міжнародным прававы актам.

Больш таго, Закон аб мовах мае і ўнутраныя супярэчнасьці.

Так, артыкулы 23 і 24 прадугледжваюць, што ў агульнаадукацыйных школах клясы, у якіх навучаньне і выхаваньне вядзецца на расейскай ці іншай нацыянальнай мове, могуць ствarацца толькі пры неабходнасьці. Такая фармулёўка яўна супярэчыць артыкулу 22 гэтага самага закону, дзе права атрыманьня выхаваньня і адукацыі на беларускай або расейскай мовах гарантуецца кожнаму жыхару рэспублікі.

Атрымліваецца парадокс: бацькі, зьвяртаючыся з просьбамі аб пераводзе клясаў на расейскую мову навучаньня, спасылаюцца на артыкул

22 Закону аб мовах, а чыноўнікі, адмаўляючы ім у гэтым праве, спасылаюцца на артыкул 24 гэтага самага закону.

Артыкул 26 Закону аб мовах наогул істотна абмяжоўвае правы асобы, таму што пазбаўляе чалавека права здаваць уступныя экзамэны на мове, якая зьяўлялася асноўнай мовай яго навучаньня. Такім чынам, грамадзяне, якія навучаліся на беларускай мове, атрымаюць нічым не вытлумачальныя перавагі перад тымі, хто атрымаў адукацыю на расейскай, польскай, украінскай, яўрэйскай, літоўскай ці іншых мовах.

Супярэчаць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і шэраг палажэньняў Закону «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь».

Так, частка 4 артыкулу 6 гаворыць, што беларуская мова зьяўляецца асноўнай мовай выхаваньня і навучаньня. Такая фармулёўка дае магчымасьці чыноўнікам на месцах адвольна, а не зыходзячы з правоў і жаданьня грамадзян, адносіць дзіцячыя дашкольныя і навучальныя ўстановы да той або іншай мовы навучаньня.

Частка 4 гэтага самага артыкулу прадстаўляе права атрыманьня выхаваньня і навучаньня не на беларускай мове толькі грамадзянам пэўнай нацыянальнасьці ў месцах іх кампактнага пражываньня. Але ж у артыкуле 49 Канстытуцыі гаворыцца аб роўным праве грамадзян на адукацыю безь якіх-небудзь спасылак на іх нацыянальную прыналежнасьць, а артыкул 50 прама гарантуе свабоду выбару мовы кожнаму грамадзяніну.

Указаныя супярэчнасьці ў дзейным заканадаўстве Рэспублікі Беларусь служаць пажыўнай асновай для дыскрымінацыі грамадзян па моўных прыкметах, узмацненьня грамадзянскага процістаяньня і сацыяльнай напружанасьці ў грамадзтве.

Зыходзячы з вышэйсказанага і ў мэтах забесьпячэньня грамадзкай стабільнасьці і згоды, захаваньня ў Рэспубліцы Беларусь неад'емных правоў грамадзян, просім Вас у адпаведнасьці з арт. 74 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь ініцыяваць правядзеньне рэспубліканскага рэфэрэндуму па пытаньні аб наданьні расейскай статусу другой дзяржаўнай мовы».

За казуістычнымі фразамі гэтага звароту прыхоўвалася хлусьня: ніякія міжнародныя нормы Законам аб мовах не парушаліся. Немагчыма ўявіць, каб у Сарбону прыйшла група, напрыклад, абітурыентаў-расейцаў і запатрабавала выкладаньня на расейскай мове. Альбо студэнты зь Японіі вымагалі навучаньня ў нью-ёркскім Калюмбійскім унівэрсытэце па-японску.

Наадварот: калі ўжо казаць пра вышэйшую адукацыю, дык, нягледзячы на павелічэньне колькасьці лекцый на беларускай мове, цалкам справядліва было б сьцьвярджаць пра факты дыскрымінацыі беларускамоўных навучэнцаў. Дастаткова толькі таго, што ў Беларусі так і ня быў створаны нацыянальны ўнівэрсытэт. У незалежнай краіне на чацьвертым годзе яе існаваньня не было (і няма цяпер, калі я пішу гэтыя радкі) вышэйшай навучальнай установы, дзе

выкладаньне ўсіх дысцыплінаў вялося б на мове тытульнай нацыі.

Выступаючы 31 студзеня ў Доме літаратара на «круглым стале», прысьвечаным 5-годзьдзю прыняцьця Закону аб мовах, міністар працы Аляксандар Сасноў (на выбарах 1994 году ён уваходзіў у каманду Зянона Пазьняка), сказаў, што быў адзіным супрацоўнікам міністэрства, які валодае беларускай мовай – і гэта больш чым праз чатыры гады пасьля прыняцьця закону. А прадстаўнік міністэрства культуры і друку паведаміў, што з 721 зарэгістраванага пэрыядычнага выданьня толькі 146 – на дзяржаўнай, беларускай мове.

І, нарэшце, на тым самым «круглым стале» першы намесьнік міністра адукацыі Генадзь Пятроўскі заявіў, што «на сёньняшні дзень у нашай краіне 64,6 працэнта школ зь беларускай мовай навучаньня і толькі 4,6 працэнта школ працуюць на расейскай мове». Карэспандэнт штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», які рабіў рэпартаж з «круглага стала», усумніўся ў праўдзівасьці гэтых лічбаў, «бо нават у самім Менску няма афіцыйна ніводнай беларускай школы» («ЛіМ», 3 лютага 1995).

Прывяду некалькі цытатаў з апублікаваных у тыя дні заяваў і лістоў, якія зьявіліся ў адказ на ініцыятыву рэфэрэндуму, выказаную Лукашэнкам і групай дэпутатаў.

«Якім заганным кляймом Вы (Лукашэнка – С. Н.) можаце надзяліць ня толькі сябе, але і ўвесь свой родавы клан, калі будзеце па-ранейшаму

родную мову, як зьбітага з ног нядужага чалавека, жорстка адштурхоўваць уладарным ботам, замест таго, каб зь міласэрным клопатам дапамагчы ёй узьняцца? Дапамажы Вам Магутны наш Божа, зразумець памылковасьць, катастрафічнасьць сваёй пазыцыі, дапамажы не ўпадаць у грэх...» Ларыса Рабцэвіч-Бранавіцкая, г. Менск («Літаратура і мастацтва», 10 лютага 1995).

«Амаль усе мае сваякі і палова суседзяў у пад’езьдзе галасавалі ў першым туры за Пазьняка. У другім туры многія з гэтых пазьнякоўцаў пайшлі галасаваць за Лукашэнку. Таму сярод 56% насельніцтва, якое выбрала Вас прэзыдэнтам, шмат сьвядомых беларусаў, што паверылі ў Вашу высакароднасьць, прыстойнасьць. Чаму ж Вы хочаце пазбавіць маю дачушку роднай мовы, шаноўны прэзыдэнт? Дзе ж мне шукаць радзіму свайму дзіцяці? Хіба ў Кліўлендзе? Гэта несправядліва...» Яўгенія Краўчук, г. Менск. («Літаратура і мастацтва», 14 красавіка 1995).

«Народ ня просіць дзяржаўнага двухмоўя, не выступае супраць роднай мовы, не патрабуе рэфэрэндуму. Гэтае пытаньне мэтанакіравана ставілі і ставяць пэўныя антыбеларускія сілы, людзі, якім не дае спакою беларускае нацыянальна-культурнае адраджэньне, сувэрэнітэт Беларусі»... Зварот выкладчыкаў, асьпірантаў, студэнтаў і супрацоўнікаў Беларускага дзяржаўнага пэдагагічнага ўнівэрсытэту. Усяго – 1881 подпіс. (Тамсама).

Вялікі розгалас выклікаў «Ліст да прэзыдэнта» апублікаваны 10 сакавіка ў «Народнай газэце».




ФСК – гэта Фэдэральная служба контравыведкі Расейскай Фэдэрацыі, так у 1995 годзе называлася былое КДБ і будучае ФСБ. Карыкатура з газэты “Свабода”.

«Спадар прэзыдэнт, – пісаў аўтар, – як патлумачыць вам, што Беларусь – гэта ня толькі 57 працэнтаў выбаршчыкаў, якія аддалі за вас свае галасы, гэта ня толькі людзі, якія ненавідзяць беларускую мову, герб і сьцяг. Урэшце, гэта ня толькі ваша Магілёўская вобласьць, якая гэтак ахвотна падтрымала вас на выбарах... Ёсьць яшчэ і мы – заходнія беларусы, у якіх некалькі іншая гістарычная памяць, іншыя погляды на наша мінулае і будучае. Ёсьць унукі тых людзей, жыцьцё якіх падзяляецца на два пэрыяды: польскі і савецкі і якія да гэтага часу памятаюць межы

ўласнай зямлі, адабранай камуністамі... Натуральна, я не пішу ад імя іх усіх. І увогуле, каб не памыліцца, я пішу толькі ад сябе.

...Я ведаю тое, чаго, магчыма, ня ведаеце вы: толькі мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, павінны быць гаспадарамі на нашай беларускай зямлі... Я ніколі не скаруся, калі мая Беларусь зробіцца часткай якой заўгодна іншай дзяржавы, страціць незалежнасьць і свабоду. Я цярплю і буду цярпець колькі трэба і якія заўгодна страты, працаваць не пакладаючы рук, бяз сну і адпачынку, але толькі калі буду ўпэўнены ў шчасьлівай будучыні сваёй Радзімы – Беларусі, а значыць, і маіх нашчадкаў. У супрацьлеглым выпадку вы, спадар прэзыдэнт, можаце падпісваць дамовы, праводзіць рэфэрэндумы, парушаць Канстытуцыю, рабіць усё, што прывядзе да зьнікненьня Беларусі (спачатку як дзяржавы, а потым як нацыі), мне застаецца толькі адно – змагацца. Я ёсьць, і вам у выпадку такіх дзеяньняў давядзецца перакрочыць ня толькі праз горкі плач нашай інтэлігенцыі і адчайныя крыкі апазыцыі. Вам прыйдзецца перакрочыць і праз маю кроў. Праз кроў сотняў тысяч, мільёнаў такіх, як я. Як патлумачыць вам, спадар прэзыдэнт, што, ідучы за тымі, хто жыве імпэрскімі інстынктамі, хто сьпіць і бачыць далучэньне Беларусі да Расеі, можна лёгка штурхнуць усіх нас у прорву грамадзянскай вайны?

Я перакананы, што за будучыню дзяцей і ўнукаў людзі аддадуць самае дарагое – жыцьцё».

Пад лістом быў подпіс – Зьдзіслаў Вальняровіч, 29 гадоў, Гарадзенская вобласьць.

КДБ пачаў шукаць аўтара, але не знайшоў. Лукашэнка сваім указам ад 17 сакавіка зьняў з пасады галоўнага рэдактара «Народнай газэты» Іосіфа Сярэдзіча. Неўзабаве аўтар раскрыўся: гэта была маладая жанчына, выкладчыца Рэгіна Зімніцкая. «Мне здавалася, што калі прэзыдэнт гэта прачытае, дык, магчыма, адкарэктуе свае погляды, задумаецца, што існуюць іншыя меркаваньні», – заявіла яна журналістам на прэсавай канфэрэнцыі.

Натуральна, ніякага права здымаць Сярэдзіча Лукашэнка ня меў: галоўнага рэдактара газэты Вярхоўнага Савету прызначаў сам Вярхоўны Савет. Мы запатрабавалі ад дэпутатаў скасаваць гэтае рашэньне, аднак нашая прапанова не набрала належнай колькасьці галасоў.

7 красавіка 1995 году да Вярхоўнага Савету зьвярнуўся Саюз пісьменьнікаў Беларусі. «Мала дзе можна знайсьці такі памяркоўны закон, – гаварылася ў звароце. – У ім на вывучэньне мовы ў сфэры дзяржаўнага ўжытку адводзілася 3-5-10 гадоў. Але мала хто зважаў на гэта тады, як не зважае і цяпер. Зараз наступ на беларускую мову выходзіць на фінішную прамую... Чаму павінна быць узаконеная на нашай зямлі няхай і блізкая славянская, але ўсё-такі прынесеная мова? Няўжо трэба тое гвалтоўнае, што было праароблена за апошнія дзесяцігодзьдзі, яшчэ й узаконьваць?! Нідзе ў гарадах, вялікіх і малых, у гарадзкіх пасёлках і мястэчках, няма чыста бе-

ларускіх школ, беларускамоўныя клясы, што былі паадкрываліся, пад пагрозай зьнікненьня. Няма ніводнага ПТВ, тэхнікуму, ніводнай вышэйшай навучальнай установы, у якіх можна было б атрымаць адукацыю па-беларуску. Намер правесьці рэфэрэндум па наданьні расейскай мове статусу дзяржаўнай – гэта закамуфляваны прысуд на поўнае зьнішчэньне ў прававым парадку мовы беларускай. З такім становішчам беларускія пісьменьнікі ніколі не пагаджаліся і не пагодзяцца...

Зьвяртаемся да Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь пранікнуцца адказнасьцю перад народам, гісторыяй і будучыняй пры разглядзе пытаньня пра двухмоўе, дзяржаўную сымболіку...

Ворагам беларушчыны не патрэбна самастойная незалежная Беларусь. Няма мовы – няма дзяржавы. Ня трэба ім наш сьцяг і герб. Яны пра іх хлусяць, спэкулюючы на калябарантах... На нашай дабрыні спэкулююць нячыстыя на руку палітыкі, а то і проста ворагі. Ім патрэбна Беларусь безь беларусаў. Нашы рукі спрабуюць падняць на самаўдушэньне нашай мовы, герба, сьцяга. Уберажом жа на гэты раз Беларусь ад сусьветнага сораму і ганьбы» («Літаратура і мастацтва», 14 красавіка 1995).

Але ўратаваць краіну ад ганьбы – гэта, канешне, не цікавіла ініцыятараў рэфэрэндуму; падобна, што якраз нацыянальная ганьба, прыніжэньне Беларусі ў вачах сусьветнай супольнасьці – як неабходная ўмова далучэньня ў пэрспэктыве Беларусі да Расеі – і было галоўнай мэтай ініцыятараў рэфэрэндуму.

Хто ж тыя 74 дэпутаты (рэальна – 73, бо Барыс Савіцкі  адразу заявіў, што подпіс пастаўлены безь ягонай згоды), якія істотна паспрыялі таму, што ўжо ў тыя дні будзе названае нацыянальнай ганьбай?

Сёньня іх прозьвішчы (за выняткам хіба што Мікалая Дземянцея) нічога ня скажуць. Гісторыя нібыта адпомсьціла гэтым людзям, адправіўшы іх у нябыт. Але на старонках гэтай самай гісторыі яны павінны застацца – як засталіся імёны душыцеля паўстаньня 1863 году Мураўёва, аўтара даносаў, па якіх расстрэльвалі беларускіх літаратараў, Бэндэ, «чарнобыльскага Пілата» Сьлюнькова.

Вось жа, пад абодвума зваротамі да Лукашэнкі стаяць подпісы 74 дэпутатаў Вярхоўнага Савету. Спачатку я прывяду поўны сьпіс у тым складзе, у якім ён быў зьмешчаны ў «Звяздзе».

Міхаіл Качан, Барыс Гетц, В. Шукшын, Ульяна Крышталевіч, Аляксей Саенка, Павал Папоў, Ганна Бабарыкіна, Іван Ціханаў, Барыс Савіцкі (праз некалькі дзён на сэсіі Вярхоўнага Савету Савіцкі заявіў, што подпіс пастаўлены безь ягонай згоды – С. Н.), Мікалай Даменікан, Уладзімер Скрыцкі, Зінаіда Пянькова, Мікалай Спранецкі, Міхаіл Сасноўскі, М. Копач, В. Пыцуха, Валянцін Сарокін, Алена Усьціновіч, Пётра Мінчанка, Аляксандар Шыдлавец, Якаў Халшчэўнікаў, Аляксандар Трацьцякоў, Мікалай Якубец, Станіслаў Ціткоў, Раіса Самусевіч, Пётра Катушкін, Аляксандар Пазюмка, Леанід Прывалаў, Уладзімер Герасімаў, Анатоль Новікаў, Мікалай

Лакцюшын, Мікалай Дамашкевіч, Аляксандар Малахоўскі, Мікалай Гарэлік, Анатоль Вайцешык, Уладзімер Новікаў, Мікалай Канюшык, Васіль Марозаў, Пётра Скарабагацька, Уладзімер Кулакоў, Валеры Паўлаў, Надзея Ізвалава, Аляксандар Абухоў, Аляксандар Кічкайла, Аляксандар Авечкін, Анатоль Піскуноў, Валянцін Шкурко, Мікалай Судас, Мікалай Грынёў, Анатоль Сіўчыкаў, Генрых Яскевіч, Віктар Чырун, Міхаіл Жукоўскі, Анатоль Жук, Мікалай Дземянцей, Анатоль Дубоўскі, Анатоль Сакалоў, Яўген Радзецкі, Міхаіл Веславухаў, Уладзімер Уранюк, Іван Цітоў, Георгій Чэх, Баляслаў Шылько, Іван Цярэшка, Мікалай Гушаль, Ігар Нялюбін, Аляксандар Кузьмянкоў, Васіль Борыс, Іван Трусаў, Васіль Трафіменка, Аляксей Камай, Мікалай Коваль, Мікалай Скарынін, Яўген Бачароў.

Калі цяпер я перагледзеў гэты сьпіс, мне спачатку падалося, што ў ім вельмі шмат расейцаў паводле нацыянальнасьці. Зьвяртаю ўвагу на гэты аспэкт толькі таму, што афіцыйны даведнік «Народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь», выдадзены ў 1992 годзе, пазначаў нацыянальнасьць. Аднак, прааналізаваўшы сьпіс, я ўбачыў, што расейцаў у сьпісе як найменш васямнаццаць (калі арыентавацца на дадзеныя вышэйназванага даведніка; некалькі дэпутатаў былі абраныя пазьней, і іх нацыянальнасьць высьветліць не ўдалося). Чвэрць са сьпісу – гэта куды болей, чым расейцаў было прапарцыйна ў Вярхоўным Савеце XII скліканьня, але ніяк ня «большая частка». Сярод падпісантаў – адзін паляк і два

ўкраінцы. А пераважная большасьць дэпутатаў – беларусы.

Куды большую цікавасьць уяўляе аналіз прафэсійнага складу падпісантаў.

У сьпісе толькі адзін дэпутат – не «начальнік», гэта бульдазэрыст з Лоева Аляксандар Малахоўскі. Астатнія – самыя што ні ёсьць прадстаўнікі намэнклятуры ў яе «БССРаўскім» выглядзе.

Найперш – «былыя».

Тут – і былы Старшыня Вярхоўнага Савету, а да таго – сакратар ЦК КПБ Дземянцей, і былы другі сакратар ЦК КПБ Камай, і былы член Бюро ЦК КПБ, загадчык аргаддзелу ЦК Борыс, і былы сакратар абкаму Радзецкі, былыя першыя сакратары райкамаў Дамашкевіч, Трафіменка, Гушаль ды іншыя, былы намесьнік старшыні Савету міністраў Кічкайла. Але – ня толькі «былыя».

У сьпісе прадстаўленыя ўсе вобласьці, прычым кіраўнікамі высокага рангу (старшынямі ці намесьнікамі старшынь аблвыканкамаў, як бы цяпер сказалі – губэрнатарамі і віцэ-губэрнатарамі). Сярод падпісантаў некалькі вайскоўцаў, прычым чатыры – з генэральскімі званьнямі. Астатнія – палкоўнікі, але ёсьць і падпалкоўнік: Віктар Чырун начальнік вайскова-мэдычнай службы ўпраўленьня КДБ па Гомельскай вобласьці, Некалькі Герояў Савецкага Саюзу і Герояў Сацыялістычнай працы. Амаль у поўным складзе паставіла свае подпісы дэпутацыя ад вэтэранскай арганізацыі – найбольш артадаксальная частка Вярхоўнага Савету, якая абіралася не народам,

а на пленуме вэтэранаў, які складаўся толькі зь некалькіх дзясяткаў чалавек. Практычна ўсе дэпутаты-вэтэраны ў мінулым былі высокапастаўленымі партыйнымі работнікамі і чыноўнікамі.

Некаторыя з падпісантаў праз нейкі час «расчараваліся» у Лукашэнку і нават перайшлі ў апазыцыю да яго – але, што паказальна, працягвалі ганьбіць Наролны Фронт. Так, генэрал Валер Паўлаў, які пераехаў у Маскву і час ад часу выказваў адтуль рэзкія словы ў бок Лукашэнкі, нагадваючы, што «кожны адкажа перад народам і перад Богам за свае дзеяньні». не забываўся пры гэтым папракнуць Пазьняка ў «радыкалізме» і «празьмернай увазе беларускай мове». Не прыгадваючы, канешне, што сам ён, Паўлаў, паспрыяў, каб мова гэтая апынулася ў занядбаньні.

Тое, што за выкарыстаньне артыкулу 74 Канстытуцыі, які дае права прэзыдэнту ініцыяваць рэфэрэндум, сабралі 74 подпісы дэпутатаў – канешне, супадзеньне. Але сама лічба зусім не выпадковая: менавіта ня менш як 70 дэпутатаў Вярхоўнага Савету мелі права ініцыяваць разгляд таго або іншага пытаньня ў Канстытуцыйным Судзе; можна меркаваць, што калі б Вярхоўны Савет адмовіўся прызначаць дату рэфэрэндуму, быў бы зварот у Канстытуцыйны Суд.

Мы ў тыя дні ацанілі гэтыя звароты як нацыянальную здраду. Ня бачу прычынаў мяняць гэтае меркаваньне.

## «Прэзыдэнт хоча раскалоць наша грамадзтва»

23 і 24 сакавіка ў Авальнай залі ішло абмеркаваньне пытаньняў, унесеных Лукашэнкам на рэфэрэндум.

Мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, сканцэнтраваліся на двух аспэктах: супярэчнасьці лукашэнкаўскай ініцыятывы Канстытуцыі і законам і патэнцыйнай пагрозе расколу беларускага грамадзтва.

У адрозьненьне ад верасьня 1991-га, калі бел-чырвона-белы сьцяг і «Пагоня» зацьвярджаліся ў якасьці дзяржаўных сымбаляў пад узьдзеяньнем нядаўняй жнівенськай «нацыянальнай рэвалюцыі» (абвяшчэньня Незалежнасьці і спыненьня дзейнасьці КПБ-КПСС) і камуністы яшчэ канчаткова не адышлі ад разгубленасьці, – цяпер нашыя палітычныя апанэнты былі настроеныя рашуча. У 91-ым у камуністаў не было цэнтру, які мог бы арганізоўваць іх супраціў грамадзкім настроям і, канкрэтна, ініцыятывам дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Авальнай залі. Цяпер, у 95-ым, такі цэнтар быў. Антыадраджэнскія, праімпэрскія настроі і ў грамадзтве, і ў Вярхоўным Савеце адмыслова гальванізаваліся прэзыдэнцкай адміністрацыяй.

Супраць ініцыятывы рэфэрэндуму выказаўся на сэсіі старшыня парлямэнцкай камісіі па заканадаўстве Дзьмітры Булахаў, які юрыдычна абгрунтаваў сумнеўнасьць прапаноў Лукашэнкі (пазьней дэпутаты Апазыцыі БНФ у сваіх выступах дапоўнілі гэтыя высновы).

Булахаў заўважыў, што адзіным органам, паўнамоцным прымаць рашэньне аб прызначэньні рэфэрэндуму, ёсьць Вярхоўны Савет. Пры гэтым прэзыдэнт мае толькі права ініцыятывы рэфэрэндуму ( «ініцыятывы, а не прызначэньня», удакладніў Булахаў).

Дзьмітры Булахаў зьвярнуў увагу і на «найбольш значны разьдзел Канстытуцыі, які тычыцца дадзенай сытуацыі» – разьдзел VIII – і працытаваў частку другую 148-га артыкулу: «Зьмяненьні і дапаўненьні ў Канстытуцыі не праводзяцца ў пэрыяд надзвычайнага становішча, а таксама ў апошнія шэсьць месяцаў паўнамоцтваў Вярхоўнага Савету».

Таксама быў працытаваны артыкул 3 Закону аб рэфэрэндуме, дзе сказана, што «на рэспубліканскі рэфэрэндум не выносяцца пытаньні, якія парушаюць неад’емныя правы народу... на сувэрэнную нацыянальную дзяржаўнасьць, дзяржаўныя гарантыі існаваньня беларускай нацыянальнай культуры і мовы, пытаньні, якія могуць выклікаць парушэньне тэрытарыяльнай цэласьці».

Пытаньне аб статусе мовы якраз і трапляла пад гэтую катэгорыю і, такім чынам, вынясеньне яго на рэфэрэндум было неканстытуцыйным.



Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь

220010, г. Мінск, Дом Урада тэл. 29-60-[illegible], факс 26-06-10

10 красавіка 1995 №. 09-[illegible]

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь

Накіроўваю ўдакладнены праект пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню".

Дадатак: на 2 л. у 1 экз.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнка

Праект

Унесены Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь

ПАСТАНОВА
ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

1. Правесці на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у нядзелю, 14 мая 1995 года рэспубліканскі рэферэндум па важнейшых пытаннях дзяржаўнага і грамадскага жыцця.

2. Уключыць у бюлетэнь для тайнага галасавання на рэспубліканскім рэферэндуме наступную фармулёўку пытанняў, вынесеных на рэферэндум, і варыянты адказаў галасуючых:

1. Ці зацвярджаеце Вы дзяржаўны статус рускай і беларускай моў?
"за" або "супраць".

2. Ці зацвярджаеце Вы новыя Дзяржаўны сцяг і Дзяржаўны герб Рэспублікі Беларусь?
"за" або "супраць".

3. Ці падтрымліваеце Вы дзеянні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якія накіраваны на эканамічную інтэграцыю з Расійскай Федэрацыяй?
"за" або "супраць".

Тэзісы аўтара перад выступам ля мікрафона на раздадзенай дэпутатам прапанове Лукашэнкі.

Было і яшчэ адно палажэньне Закону аб рэфэрэндуме, якое тычылася пытаньня пра мову і на якое спаслаўся Булахаў. Гэта частка трэцяя артыкулу 36: «Рашэньне аб уваходзе Рэспублікі Беларусь у Саюз дзяржаваў і выхадзе зь яго, прыняцьці і зьмяненьні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь лічыцца прынятым, калі за яго прагаласавала больш за дзьве трацiны грамадзян, занесеных у сьпісы для галасаваньня». (Заўважу, што пытаньне пра мову на рэфэрэндуме 14 траўня 1995 году не набрала такой колькасьці.)

Старшыня Камісіі Вярхоўнага Савету па заканадаўстве Дзьмітры Булахаў зрабіў некалькі высноваў, цытую стэнаграму (тут і далей прамовы выступоўцаў на расейскай мове даюцца ў перакладзе на беларускую).

Дзьмітры Булахаў: «Дык вось, высновы наступныя. Першая. Пытаньні нумар адзін і нумар чатыры, прапанаваныя прэзыдэнтам (пытаньне, зьвязанае з двухмоўем, і пытаньне аб магчымым роспуску Вярхоўнага Савету з ініцыятывы прэзыдэнта), вырашаны ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь у частцы другой артыкулу 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, у якой пазначана: «Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь зьяўляецца беларуская мова. Рэспубліка Беларусь забясьпечвае права свабоднага карыстаньня расейскай мовай як мовай міжнацыянальных зносін».... Такім чынам, згодна з наўпроставай канстытуцыйнай забаронай, якая зыходзіць з артыкулу 148 часткі другой Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, вынясеньне гэтых пытаньняў на абавязковы

рэфэрэндум (падкрэсьліваю: 14 траўня 1995 года) немагчыма згодна з прамой забаронай. Пасьля – калі ласка, з новым Вярхоўным Саветам гэтыя пытаньні можна вырашыць.

...Пытаньне, якое зьвязанае з новай дзяржаўнай сымболікай, не сфармуляванае ў выглядзе абавязковай нормы права і патрабуе для яго афармленьня дадатковага рашэньня кампэтэнтнага органу, гэта значыць Вярхоўнага Савету. Значыць, у такім выглядзе пытаньне можа быць унесенае, падкрэсьліваю, тут ніякіх забаронаў няма, але яно можа мець толькі кансультацыйны характар, паколькі не ўтрымлівае абавязковай установкі...

Прапанову па пытаньнях нумар адзін і чатыры (я яшчэ раз скажу) можна вырашыць, калі ўносіць пытаньне двухмоўя, гэта значыць зьмены Канстытуцыі, перад новым складам Вярхоўнага Савету».

Лукашэнка, які прысутнічаў у залі, даў зразумець, што выступ Булахава – гэта толькі ягонае прыватнае меркаваньне, а ніяк не афіцыйная выснова парлямэнцкай камісіі.

Ад імя Камісіі па дзяржаўным будаўніцтве выступіў намесьнік яе старшыні Міхаіл Казючыц (былы першы сакратар Круглянскага райкаму КПБ), які – магчыма, упершыню ў Авальнай залі за ўвесь час кадэнцыі Вярхоўнага Савету XII скліканьня – фактычна заявіў, што закон пры патрэбе можна і не выконваць. Калі ўвосень 1992 году былі праігнараваныя амаль паўмільёна подпісаў за новыя выбары, гэта, як бы там ні было,

абгортвалася ў абалонку законнасьці. Цяпер жа прагучала нешта нечуванае.

Калі Казючыц гэта казаў, я пакруціў пальцам ля скроні, ён гэта заўважыў і зрэагаваў.

Міхаіл Казючыц: «Патрэбна калі-нікалі ня толькі ісьці па літары закону (шум у зале), які напісаны, але і чалавечага закону, які ў нас існуе. І можна махаць, Навумчык, я таксама ўмею махаць, вы выслухайце.

Я, таварышы, яшчэ раз хачу вам сказаць, што камісія яшчэ раз пераглядае не юрыдычны бок гэтага пытаньня, а больш чалавечы, таму што многія з нас (ну, некаму, магчыма, не падабаецца слухаць, але я выказваю тое меркаваньне, якое было абмеркавана і выносіцца на ваш разгляд камісіяй)... Юрыдычны бок вы выслухалі. А мы выносім іншы падыход у гэтым пляне».

«Іншы падыход» – азначаў ня што іншае, як прызначэньне рэфэрэндуму ў абыход закону. Выглядае, Казючыц не разумеў, што тым самым ён пацьвярджае незаконнасьць вынесеных Лукашэнкам пытаньняў. Лукашэнка гэта адчуў адразу і паспрабаваў «выправіць» Казючыца («магчыма, ён дрэнна тут растлумачыў»).

Лукашэнка ў сваім выступе сказаў, што ўсе прапанаваныя ім пытаньні (акрамя апошняга, пра права прэзыдэнта распускаць парлямэнт), прысутнічалі ў ягонай перадвыбарчай праграме (што было не зусім так, і пра гэта мы пазьней сказалі ў сваіх выступах). Асаблівую ўвагу ён надаў тэме мовы і сымболікі.



Аляксандар Лукашэнка паказвае дэпутатам эскізы новых сымбаляў. У прэзыдыюме – сьпікер Мечаслаў Грыб.

Аляксандар Лукашэнка: «Ад чаго мы адрываем нашых дзяцей? Вы паглядзіце, што робіцца сёньня ў школах. Ну, змаглі неяк прыпыніць гэты працэс сілай нейкіх рухаў прэзыдэнта».

Пад «працэсам» Лукашэнка, натуральна, меў беларусізацыю, і Лявон Баршчэўскі зь месца гучна сказаў, што хай бы Лукашэнка прыйшоў у гуманітарны ліцэй і паглядзеў, які там конкурс на месца.

Лукашэнка: «Прыйду, спадар Баршчэўскі, я нядрэнна ведаю ваш ліцэй, таму ня трэба мяне запрашаць, я ведаю, куды хадзіць (Шум у зале). І ніводнае з чатырох пытаньняў... Сядзелі, працавалі доўгі час юрысты, геральдысты, вывяралі кожны пункт маёй прапановы. Таму я вас прашу не лічыць, што гэта вось прыйшоў Лука-

шэнка і ўнёс. Сяргей Навумчык мне вось зараз паказаў прыкладныя ўзоры нашай прапановы, маёй прапановы наконт герба і сьцяга, якія я б хацеў прыкласьці да другога пытаньня. Яны тут маюцца. Калі патрэбна, павінны былі раздаць і сьцяг, і гэты герб».

Я сапраўды паказваў зь месца аркушы паперы з выявай прапанаваных Лукашэнкам сымбаляў – мне даў іх нехта з сакратарыяту Вярхоўнага Савету. Многія калегі, калі іх пабачылі, сьмяяліся.

«Не, шаноўная апазыцыя (я маю на ўвазе ня толькі БНФ, але наогул, хто ў апазыцыі да прапаноў прэзыдэнта), няма ў вас матываванага юрыдычнага абгрунтаваньня таго, што прэзыдэнт дзейнічае, парушаючы Канстытуцыю ці законы. Падабаецца некаму ці не, вы абавязаныя прызначыць рэфэрэндум», – падсумаваў Лукашэнка і заявіў, што ў выпадку непрызначэньня рэфэрэндуму Вярхоўны Савет чакаюць «наступствы» (трэба было разумець – роспуск).

Потым прыступілі да абмеркаваньня.

## «Нам прапануецца сваімі рукамі задушыць нашу дзяржаўную мову»

Працытую найбольш характэрныя выступы дэпутатаў, зь невялікімі удакладненьнямі і камэнтарамі.

Генадзь Карпенка: «Мы прымалі зусім нядаўна Канстытуцыю. Знайшлі рашэньне, якое задаволіла ўсіх. І як быццам бы не было ніякай канфрантацыі па мове. Гэтае рашэньне было

прынятае тут большасьцю ў парлямэнце. І мяркую, у такім самым кірунку нам патрэбна было б працаваць. У рэшце рэшт мова належыць ня нашаму парлямэнту, ня нашаму пакаленьню, мова належыць дзяржаве. Мова належыць будучыні. І будучыня – нашыя дзеці і ўнукі будуць вызначацца з гэтай мовай шляхам яе вывучэньня, удасканаленьня і разьвіцьця».

Дэпутат ад вэтэранскай арганізацыі Міхаіл Качан практычна слова ў слова паўтарыў зварот групы 73-х дэпутатаў да Лукашэнкі аб правядзеньні рэфэрэндуму і накінуўся на галоўнага рэдактара «Народнай газэты» Іосіфа Сярэдзіча, пад чым кіраўніцтвам газэта «даўно не адлюстроўвае ні народную думку, ні дэпутацкую».

Эмацыйным, але і абгрунтаваным быў выступ старшыні Камісіі па пытаньнях адукацыі, культуры і захаваньні гістарычнай спадчыны Ніла Гілевіча.

Ніл Гілевіч: «За доўгія дзесяцігодзьдзі таталітарнай сыстэмы беларускую мову фактычна паставілі на грань зьнікненьня, поўнага выцясьненьня з усіх сфэраў грамадзкага жыцьця рускай мовай. Трэба быць зусім глухім і сьляпым, каб ня чуць і ня бачыць гэтага. Значыць, пытаньне ўжо даўно стаіць так: або – або. Або мы будзем ратаваць нашу мову, або зьмірымся з тым, што яна сыдзе ў нябыт».

Тут перапыню цытаваньне Ніла Гілевіча: паэт трапна вызначыў той крытычны стан мовы, у які яна была пастаўленая. Вялізнымі высілкамі нацыянальных сілаў у пачатку 90-ых мова была

ўратаваная – але ўжо ў першыя месяцы пасьля перамогі Лукашэнкі на прэзыдэнцкіх выбарах ізноў апынулася пад пагрозай зьнікненьня. Апынулася невыпадкова: якраз «сыход у нябыт» беларускай мовы быў адной з мэтаў прапанаванага Лукашэнкам і ягонай прарасейскай камандай рэфэрэндуму. Яны цудоўна разумелі, куды трэба нанесьці ўдар, каб зьбіць нацыю з ног.

Ніл Гілевіч працягваў: «Дык вось, калі рускую мову ў Беларусі мы сёньня зробім дзяржаўнай, усё наша нацыянальнае Адраджэньне пакоціцца назад і беларуская мова пачне занепадаць далей. Яна не сканкурыруе зь дзяржаўнай рускай мовай. Будзем глядзець праўдзе ў вочы...»

Тут у цытаваньні выступу Гілевіча я вымушаны зрабіць яшчэ адну паўзу. У гэтым моманце адбыўся выпадак, характэрны для таго часу: некалькі дэпутатаў паўскоквалі са сваіх крэслаў і рушылі на выхад. У тыя дні кіраўнік прэзыдэнцкай адміністрацыі Сініцын перацягваў у структуры выканаўчай улады дэпутатаў, прызначаючы іх намесьнікамі міністраў і кіраўнікамі ведамстваў. Такім чынам дасягаліся дзьве мэты: памяншалася колькасьць дэпутатаў (прызначаныя на пасады часта складалі паўнамоцтвы) і куплялася ляяльнасьць тых, хто спадзяваўся ўладкавацца ў адміністрацыю. Будучыня мовы і нацыі гэтых людзей, канешне, цікавіла значна меней, а дакладней – не цікавіла зусім. А магчыма, яны добра адчувалі, што іх уласная будучыня пры Лукашэнку якраз і залежыць ад таго, наколькі выразна ўдасца ім прадэманстраваць новым гас-

падарам зьняважлівае, грэблівае стаўленьне да гэтай самай мовы.

Мечаслаў Грыб: «Прабачце, калі ласка, Ніл Сымонавіч... Паважаныя дэпутаты! Нельга ж так: ваш калега выступае – падымаемся, разыходзімся. Хіба ж так можна? Давайце выслухаем адзін аднаго. Калі ласка, Ніл Сымонавіч. Прабачце яшчэ раз».

Ніл Гілевіч: «Будзем глядзець праўдзе ў вочы. І не таму сканкурыруе, што горшая за рускую, не. Але яна ў такім занядбаным становішчы, што ёй патрэбна моцная дзяржаўная падтрымка.

Калі ж і рускую мову абвесьцяць дзяржаўнай, любы нават самы дробны чыноўнік адмовіцца пераходзіць на беларускую мову і вывучаць яе ня стане. Ён скажа: «Я карыстаюся дзяржаўнай рускай мовай і адчапіцеся ад мяне са сваёй беларускай....»

І ня трэба, ня трэба ніякіх палітычных спэкуляцый накшталт таго, што, ах, нашых дзяцей пазбаўляюць веданьня рускай мовы, адрываюць ад рускай літаратуры і культуры і гэтак далей. Ня трэба глядзець на нас, як на дзікуноў, якія ня хочуць ведаць рускую мову і адварочваюцца ад рускай культуры. У Законе «Аб мовах» чорным па беламу запісана: «Вывучэньне рускай мовы ва ўсіх школах (падкрэсьліваю, «ва ўсіх школах») Беларусі зьяўляецца абавязковым (падкрэсьліваю, «абавязковым»)... Сэнс, мэта, задачы тых, хто падымае крык, ня ў тым, каб абараніць рускую мову (яна ня мае патрэбы ў абароне), а ў тым, каб ня даць падняцца і заняць сапраўды дзяржаўнае

становішча беларускай мове. Іншымі словамі, каб ня даць ёй выжыць, бо калі яна выжыве, Беларусь ніколі ня стане «Северо-Западным краем» Расеі».

... Цяпер нам, парлямэнту рэспублікі, прапануецца сваімі рукамі задушыць нашу дзяржаўную мову, бо толькі так трэба разумець вынясеньне пытаньня аб дзьвюх дзяржаўных мовах на рэфэрэндум. Разьлік зразумелы: даведзены да галечы, да голаду і чорнай роспачы народ думае перш за ўсё пра кавалак хлеба і можа лёгка клюнуць на прыманку».

## «Міжнародная супольнасьць «закансэрвавала» за беларусамі бел-чырвона-белае спалучэньне»

Лявонці Зданевіч: «Ці ведаеце Вы, паважаны прэзыдэнт, гісторыю ўтварэньня нашых дзяржаўных сымбаляў? Я ў гэтым вельмі сумняваюся. Калі б Вы гэта ведалі, Вы б ніколі ня ўнесьлі тыя, на мой погляд, проста сьмешныя «каляровыя» прапановы, якія нам тут раздаваліся. Гэтыя сымбалі былі ўтвораныя ў вельмі незвычайных умовах мастаком, якому было даручана ў кароткі тэрмін (за два тыдні) зрабіць гэтыя распрацоўкі. Тое, што яны выпадкова створаны, пра гэта відавочна сьведчаць усе гэтыя сымбалі, усе гэтыя сьцягі і гербы былых савецкіх рэспублік.

Вы ведаеце, якія прынцыпы ўзятыя. Дамінанта – чырвоны колер, і потым нейкае там

адрозьненьне, якое па сутнасьці не адлюстроўвала нацыянальных, гістарычных, геральдычных традыцыяў. Увогуле, спалучэньне зялёнага і чырвонага колераў – антылягічна: гэта мусульманскае спалучэньне. Яно абсалютна неэстэтычна, а я маю адпаведную адукацыю, каб вам пра гэта казаць. Яно супярэчыць элемэнтарнай лёгіцы эстэтычнага ўспрыняцьця. Тое, што вы зьнялі адтуль серп з молатам, па сутнасьці не мяняе тое, што я казаў. Дарэчы, вось такі сымбаль, які быццам надае адраснасьць, вось гэты арнамэнт... Прабачце, нам дзясяткі гадоў казалі, што наша нацыянальнае адрозьненьне ад іншых славянаў і іх народаў – у тым, што мы хадзілі ў лапцях. Гэта на тым ўзроўні прыкладна зроблена, як архітэктура наша нацыянальная будавалася на тым, што мы арнамэнты на фасадах рабілі. Не, ёсьць іншыя, больш сур'ёзныя рысы!

...Як вы думаеце, паважаныя дэпутаты, – вось такое, на мой погляд, абсалютна ідэальнае спалучэньне белага, чырвонага і белага – гэта ідэальная кампазыцыя, бо яна сымэтрычная як ўздоўж, так і ўпоперак, – калі ў сьвеце існуе каля двухсот дзяржаваў, не было б выкарыстана? Вы ж ведаеце, што колераў увогуле няшмат. Яно, канешне, было б выкарыстана, але ж міжнародная супольнасьць «закансэрвавала» за беларусамі вось гэтае спалучэньне. Ніхто ня меў магчымасьці, права маральнага, узяць гэтыя спалучэньні (усе тыя краіны, якія ўтвараліся), бо ўсе ведалі, што гэтыя колеры сьцяга гісторыяй замацаваны за нашым народам. І незалежна ад таго, што будзе вырашана сёньня

ці потым, прыйдзе час, калі яны ўсё роўна на гэтую зямлю прыйдуць, бо яны прыйшлі даўно.

Што тычыцца герба. Ці можна параўнаць той выпадкова за некалькі дзён створаны герб з тымі сымбалямі, якія сьмех могуць выклікаць (аграрная нейкая рэспубліка). Навошта нам зямны шар, што, мы імпэрыялісты нейкія? Ды гэта сьмех проста! Разумееце, герб! Ну, сапраўды, мы прывыклі, прывыкнуць можна да ўсяго, але ж за намі гісторыя замацавала той герб, які зараз вось тут знаходзіцца».

Станіслаў Шушкевіч: «Аб дзяржаўных сымбалях. Я б хацеў сказаць, што галоўным спэцыялістам тут зьяўляецца дэпутат Качан. Ён вырашыў, што гэты сымбаль існуе з 1942 году. Не заплюшчвайце вочы на тое, што было. Вы паглядзіце здымкі архіўныя. У 1918 годзе летам бел-чырвона-белы сьцяг скідвалі кайзэраўскія салдаты, функцыянэры скідвалі, таму што гэта быў беларускі сьцяг, яго трэба было скінуць. Існавала беларуская дзяржава тады і...»

Пры згадцы аб Беларускай Народнай Рэспубліцы вэтэраны-камуністы закрычалі «Ложь! Не было никакого белорусского государства! Учите историю!»

Шушкевіч: «...Не, вы мне ўжо прабачце, я крыху лепей яе ведаю за вас, бо і мову я ведаю беларускую, а гэта на беларускай мове напісана.

У 1919 годзе быў напісаны верш «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», і там «штандар наш бел-чырвона-белы падняў сабой народны дух». Дык чаго ж вы 1942 год прыплялі сюды?»

## «Дзяржаўная мова павінна быць адзіная»

Уладзімер Новік: «Падкінуўшы пытаньні, якія стаяць, прапанаваныя прэзыдэнтам нашаму народу, мы закінем у лябараторыі, у цэхі, ва ўсе працоўныя калектывы вось гэтую задумку, якая будзе абмяркоўвацца, і безумоўна, яна адцягне ўвагу ад тых жыцьцёвых праблем, якія стаяць у нашым грамадзтве.

...Прэзыдэнт сказаў, што ёсьць праблема з адукацыяй нашых дзяцей, таму што фізыку, матэматыку немагчыма выкладаць па-беларуску. Я як спэцыяліст у свой час у галіне інфарматыкі магу сказаць адно, што сёньня было б лепей, каб нашы дзеці вывучалі гэтую навуку па-ангельску, бо няма расейскіх слоў у гэтай навуцы... Сёньня, на вялікі жаль, расейская мова страціла свае пазыцыі ў гэтай навуцы. Тое самае, што і ў мэдыцыне, і ў ядзернай фізыцы... безь якіх немагчыма рухацца да прагрэсу.

...Дзяржаўная мова як асноўны дакумэнт існаваньня дзяржавы павінна быць адзіная... Калі мы ўводзім дзьве мовы, мы павінны ўвесьці спэцыяльны дзяржаўны інстытут, які павінен сачыць за захаваньнем правоў гэтых абедзьвюх моў. Мы павінны прад'явіць прэтэнзіі да ўсіх дзяржаўных асоб, каб яны на аднолькавым узроўні валодалі гэтымі дзьвюма мовамі. І гэта вельмі няпростая рэч, і пра гэта гавораць тыя краіны, у якіх такая сытуацыя з мовай ёсьць».

Алег Трусаў: «Перад тым, як разглядаць прапановы прэзыдэнта, якія ён хоча вынесьці на

рэфэрэндум, патрэбна адказаць толькі на адно пытаньне: каму гэта выгадна? Беларускаму народу, з кішэні якога прэзыдэнт забярэ апошнія грошы, каб замяніць сотні тысяч пячатак, эмблемаў, дакумэнтаў і шыльдаў, аздобленых беларускай сымболікай, на твор асабістай фантазіі? Не, шаноўныя дэпутаты, народу гэта ня трэба. А вось прэзыдэнту і яго камандзе, якая завяліла з трэскам сваю эканамічную праграму, гэта неабходна, як паветра».

Віктар Алампіеў: «Прэзыдэнт заявіў, што тыя пытаньні, якія ён вынес на рэфэрэндум, гэта тое, што ён абяцаў падчас перадвыбарчай кампаніі. Але калі б вынесеныя пытаньні былі зьвязаныя з тым, як дапамагчы кампэнсаваць насельніцтву складкі тэлевізарамі і лядоўнямі, як запусьціць заводы ды вярнуць беспрацоўных на рабочыя месцы, як прыпыніць рост цэн, перамагчы злачыннасьць, то мы, безумоўна, павінны былі б зрабіць усё, каб гэтыя пытаньні былі вынесеныя на рэфэрэндум і рэфэрэндум па іх адбыўся б як мага хутчэй.

...Упэўнены, што калі б грамадзянам Беларусі далі магчымасьць ведаць сапраўдную гісторыю гэтага сьцяга хаця б за гэтае стагодзьдзе і што гэта быў дзяржаўны сьцяг дэмакратычнай Беларусі, якой яна стала 70 год таму – 25 сакавіка 1918 году, то большасьць грамадзян раз і назаўсёды выказалася б у падтрымку гэтага сьцяга. Але ж вы баіцеся праўды і адабралі ў народа магчымасьць ведаць праўду. Вы забаранілі трансьляцыю гэтага пытаньня ў Вярхоўным Савеце».

Да слоў дэпутата Апазыцыі БНФ і члена фракцыі БСДГ Віктара Алампіева дадам, што ня толькі трансьляцыя гэтага паседжаньня не вялася – у вечаровых тэлерэпартажах з сэсіі па дзяржаўным тэлебачаньні не прагучаў ніводзін фрагмэнт ніводнага выступу апанэнтаў Лукашэнкі.

Мікалай Крыжаноўскі: «Прэзыдэнт павінен імкнуцца аб'ядноўваць нацыю і ўмацоўваць дзяржаўныя інстытуты. Выходзячы з ініцыятывай рэфэрэндуму па ўнесеных чатырох пытаньнях ён робіць усё наадварот.

...Сёньня па Канстытуцыі і па законе беларуская мова зьяўляецца дзяржаўнай. Але ж ні прэзыдэнт, ні яго адміністрацыя і «вэртыкаль», ні Кабінэт міністраў, ні дырэктарскі корпус, ні дзяржаўныя служачыя не карыстаюцца дзяржаўнай мовай пры выкананьні сваіх дзяржаўных і службовых абавязкаў. І калі яшчэ нядаўна дзяржаўныя служачыя неяк імкнуліся авалодаць мовай, арганізоўвалі курсы, то са зьяўленьнем на найвышэйшай пасадзе Лукашэнкі ўсе гэтыя хілыя парасткі нацыянальнага Адраджэньня былі растаптаныя».

Ізноў жа, спыню цытаваньне – дэпутат Апазыцыі БНФ Мікалай Крыжаноўскі ў адным сказе акрэсьліў тое, што адбылося пасьля прыходу на прэзыдэнцкую пасаду Лукашэнкі: зьнішчэньне ўсяго таго, што прынята называць беларушчынай.

Мікалай Крыжаноўскі: «Не магу не зьвярнуць увагу на выказваньне прэзыдэнта аб тым, што

дакладныя навукі можна вывучаць толькі на расейскай мове. Мне адразу стала неяк шкада японскіх, карэйскіх, нямецкіх, амэрыканскіх ды іншых інжынэраў і навукоўцаў, якія ня ведаюць расейскай мовы. Але як беларускі інжынэр кажу, што пакуль на нашых аўтамабілях будуць стаяць яраслаўскія, сьвярдлоўскія ды каломенскія рухавікі і іншыя расейскія камплектуючыя вырабы, а не рухавікі такіх вядомых англамоўных фірмаў, як «Камінс», «Дэтройт Дызэль», «Катэрпілар» альбо нямецкай фірмы «Мотар Тэхнішэ Уніён», датуль нашы машыны будуць неканкурэнтназдольныя. Шкада, што прэзыдэнт гэтага не разумее. Разьяднаньне грамадзтва на беларусаў і расейскамоўных ня будзе спрыяць стабілізацыі ні эканамічнай, ні палітычнай сытуацыі».

Лявон Баршчэўскі: «Задумайцеся, што на сёньня адзіная ў сьвеце, паўтараю, адзіная ў сьвеце навучальная ўстанова, якая вядзе навучаньне і выхаваўчую работу на беларускай мове, – гэта Беларускі гуманітарны ліцэй, у якім я маю гонар працаваць. Больш ніводнай установы ў сьвеце, паўтараю, ня толькі на тэрыторыі Беларусі – няма. Няма ніводнай ВНУ, ПТВ, няма ніводнага тэхнікуму, вучылішча, няма ніводнай сярэдняй школы, якая цалкам працуе на беларускай мове. Задумайцеся над гэтым! Трэба 15–20 гадоў вельмі напружанай працы, і мы гэтую працу робім не пакладаючы рук, бяссоннымі начамі, каб ураўнаваць беларускую мову ў нейкай ступені з мовай расейскай хаця б рэальна».



Праект падрыхтаваны Апазіцыяй БНФ

НЕ ПРЫНЯТА

ПАСТАНОВА

ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню

У сувязі з тым, што прапанаваныя Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь пытанні не адпавядаюць Законам Рэспублікі Беларусь, а менавіта:

Пытанні аб статусе рускай мовы і дачыненнях з Расійскай Федэрацыяй супярэчаць часткі 3 артыкула 3 Закона "Аб народным галасаванні /рэферэндуме/ у Рэспубліцы Беларусь", а пытанні аб Дзяржаўным гербе і сцягу, а таксама магчымасці роспуску Вярхоўнага Савета не маюць юрыдычнай дакладнасці і не даюць магчымасці атрымаць адназначны адказ,

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

Адхіліць прапанову Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму і мерах па яго забеспячэнню".

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

ВЯРХОЎНЫ САВЕТ Рэспублікі Беларусь САКРАТАРЫЯТ СЕСІІ 23 03 1995

Праект пастановы аб адхіленьні прапанаванага Лукашэнкам рэфэрэндуму, падрыхтаваны дэпутатамі Апазыцыі БНФ.

У гэтых словах Лявона Баршчэўскага была горкая праўда. Так, у апошні год без Лукашэнкі, у верасьні 93-га, 80 адсоткаў першаклясьнікаў краіны пайшлі ў беларускія клясы. Пачыналі друкавацца новыя падручнікі па гісторыі, выйшлі падручнікі на беларускай мове па некаторых

дакладных дысцыплінах. Але гэта быў толькі пачатак, які ўдалося закласьці сапраўды неймавернымі высілкамі нацыянальнай інтэлігенцыі. У пачатку 90-ых чынавенства хаця б асабліва не перашкаджала беларусізацыі – але для стварэньня цалкам беларускамоўнага нацыянальнага ўнівэрсытэту, для зьяўленьня ў абласных і раённых цэнтрах хаця б пакуль па адной навучальнай установе, падобнай да гуманітарнага ліцэю, пра які згадаў Баршчэўскі, справа не дайшла. Лявон правільна акрэсьліў час, неабходны для рэальнага аднаўленьня ў правах беларускай мовы (прычым сапраўды гэтыя гады мусілі быць запоўненыя няспыннай працай), і тады, у 1995-ым, гэты дваццацігадовы тэрмін выглядаў надзвычай вялікім. Я пішу гэтыя радкі ў 2015-ым, мне здаецца, што час праляцеў імгненна, і можна толькі ўявіць, што было б зь беларускім школьніцтвам, увогуле зь беларускай сыстэмай адукацыі, калі б не ініцыяваны Лукашэнкам рэфэрэндум.

Леанід Зьвераў: «Рэфэрэндум па нацыянальным пытаньні – гэта небясьпечна. Гэта заўсёды вельмі небясьпечна, таму што нацыянальнае пытаньне – гэта вельмі горача, гэта вельмі гарачае пытаньне, якое магчыма. Успомніце, колькі канфліктаў было на тэрыторыі СНД на гэтым грунце... Нельга ніколі падаваць нават маленькую нагоду. Вынясеньне нацыянальных пытаньняў на рэфэрэндум, я лічу, напрыклад, можа парушыць гэты мір у грамадзтве, у якім зараз дастаткова праблемаў».

## «Ідзе спроба супрацьпаставіць рускіх і беларусаў»

Валянцін Голубеў: «Я таксама доўга думаў, навошта гэта робіцца вось зараз, ініцыюецца гэты рэфэрэндум? Ці трэба гэта нам, Вярхоўнаму Савету, ці трэба дзяржаве, ці трэба народу? Навошта?

Вось вы глядзіце: уводзіцца нейкая сытуацыя пэўнага псыхозу. Вы ж адчуваеце, і ўчора, і сёньня вось будзе яшчэ ў гэтай зале – ідзе спроба зрабіць ва ўсёй дзяржаве. Вы глядзіце: ідзе спроба супрацьпаставіць рускіх і беларусаў, рускамоўных беларусаў і беларускамоўных замест таго, каб зараз нас усіх аб'яднаць, сказаць: людзі, давайце ратаваць дзяржаву, давайце ратаваць саміх сябе, давайце зробім тое, каб было есьці што.

Прэзыдэнт што абяцаў на выбарах людзям? Ён абяцаў, што забясьпечыць матэрыяльнае становішча людзей, запусьціць заводы, памірыць усіх, што будзе добра. Дзе вы бачылі ў прэзыдэнцкай праграме, якая друкавалася, словы аб тым, што будзе зьменена сымболіка? Пра мову там быў адзін сказ: што прэзыдэнт забясьпечыць магчымасьць кожнаму чалавеку думаць на той мове, на якой ён гаворыць».

І сапраўды – у афіцыйнай перадвыбарчай праграме Лукашэнкі, якая ў чэрвені 1994 году публікавалася ў сродках масавай інфармацыі, нічога ні пра зьмену сымболікі, ні пра двухмоўе не гаварылася. Лукашэнка не хацеў прыцягваць празьмерную ўвагу да гэтай тэмы і агрэсіўна на-

стройваць супраць сябе сымпатызантаў Народнага Фронту, пэўная частка якіх у другім туры аддала яму свае галасы. Але Лукашэнка на сустрэчах з выбаршчыкамі ганіў «нацыяналістаў» за «прымусовае навязваньне беларускай мовы», ён падкрэсьлена насіў ня бел-чырвона-белы, а чырвона-зялёны, «БССРаўскі» дэпутацкі значок – і гэтага было дастаткова, каб прыхільнікі імпэрскай ідэі распазналі ў ім «свайго» і за яго галасавалі.

Валянцін Голубеў: «...Я вас прашу, шаноўныя, задумайцеся! Ці трэба нам ісьці на повадзе ў таго чалавека, які прапаноўвае (вось у дадзены момант прэзыдэнта) стварыць небясьпечную сытуацыю ў дзяржаве?... Куды нас гоняць і чаму менавіта 14 траўня? Вы глядзіце, прэзыдэнцкую кампанію як мы пагналі, як гналі, гналі на пэўныя сілы з прыняцьцем Канстытуцыі. Бачым, што зрабілі памылкі, таму што хутка рабілі. Прэзыдэнцкая кампанія ва ўсіх краінах, Штатах, год ідзе, мы за 20 дзён у нас прагналі. (Пад «мы» Голубеў меў на ўвазе Вярхоўны Савет як заканадаўчы орган, дэпутаты Апазыцыі БНФ увесну 1994-га не галасавалі за прэзыдэнцтва, а калі яно ўсё ж было прынятае – патрабавалі адкласьці выбары прэзыдэнта і правесьці іх толькі пасьля выбараў новага парлямэнту. – С.Н. ) Зараз рэфэрэндум – хуценька-хуценька. Скажыце, калі ласка, ці можна за гэты час народу растлумачыць усё як трэба ў тых умовах манапалізацыі сродкаў масавай інфармацыі?.. Вы бачыце, што робіцца з газэтамі? Вы бачыце, што на радыё, вы бачыце,

што на тэлебачаньні? Ці можна будзе людзям растлумачыць?»

Сяргей Антончык: «Я знарок прачытаў учора праграму Лукашэнкі, якую яны рыхтавалі. Там сапраўды не было пра сымбалі ані слова. Я хачу вось аб чым паведаміць: прапанова аб правядзеньні рэфэрэндуму па вядомых пытаньнях – гэта яскравы прыклад палітычнага махлярства. Кожная карта ў прапанаванай калодзе мечаная... гэта спроба раскалоць грамадзтва па сваіх правілах, прымусіць людзей гаварыць аб розных рэчах, толькі не аб правалах у эканоміцы, палітыцы, іншых сфэрах.

... Чаму прэзыдэнт гэтак любіць вось гэты прапанаваны замест «Пагоні» сымбаль? Калі я яго бяру ў рукі, я гляджу: ён падобны прынцыпова на вянок, які кладуць на магілу. І нават стужачкі ёсьць. На гэтай стужачцы яшчэ напісаць: «Ад прэзыдэнта Лукашэнкі незалежнай дзяржаве Рэспубліцы Беларусь».

## «За нацыянальнымі сымбалямі – гісторыя, але за імі і будучыня»

Мой выступ у той дзень я ўспрымаю сёньня як спробу паўплываць на пачуцьці найперш вэтэранаў, якія былі самымі зацятымі прыхільнікамі адмаўленьня ад нацыянальных сымбаляў і ўсталяваньня новых, прасавецкіх. У сваім памкненьні расчуліць гэтых людзей я нават пайшоў на тое, што ніколі не рабіў – талерантна выказаўся пра сьцягі з выявай Леніна і Сталіна.

Сяргей Навумчык: «Мы абмяркоўваем вельмі, я б сказаў, выбухованебясьпечную тэму, якая мае ня толькі юрыдычны аспэкт, пра які тут ужо дастаткова прафэсійна казалі, але і палітычны, і маральны. І нават дэмаграфічны аспэкт. Я хачу зьвярнуцца да некаторых выступленьняў, якія прагучалі ўчора ў зале, і найперш да Вашага выступленьня, паважаны дэпутат ад вэтэранскай арганізацыі Качан. Вы сказалі: «Як нам, вэтэранам, як нашым дзецям і ўнукам адзначаць 50-годзьдзе вялікай перамогі пад гэтым бел-чырвона-белым сьцягам і пад «Пагоняй»»?

Спачатку кароткая біяграфічная даведка. Абодва мае дзяды (і па мацярынскай, і па бацькоўскай лініі) ваявалі з фашызмам, абодва дайшлі да Бэрліну. І ў жонкі таксама абодва дзяды ваявалі, прычым адзін зь іх загінуў. Мая бабка загінула на сёмы дзень вайны пад Магілёвам ад снарада (я агаварыўся: баба Ліза, матчына маці, загінула 12 ліпеня 1941 году, у часе страшнага бою ўздоўж шашы ля вёскі Сідаравічы пад Магілёвам – С.Н., удакладненьне 2015) . Так што, як бачыце, ніякіх родзічаў у паліцыі ў мяне не служыла. Але я, мая сястра, мае стрыечныя браты, мае сябры 9 траўня будзем адзначаць гэтае сьвята пад дзяржаўнымі сымбалямі – пад бел-чырвона-белымі сьцягамі і гербам «Пагоня», аддаючы, дарэчы, належнае і тым палкавым, франтавым, дывізіённым сьцягам, пад якімі вы, паважаныя вэтэраны, ваявалі, нават калі на гэтых сьцягах будуць профілі Леніна і Сталіна».

На гэтых маіх словах вэтэраны задаволена заўсьміхаліся. Хутка я пераканаюся, што мая спроба дасягнуць зь імі нейкага паразуменьня была цалкам безвыніковай – яны прагаласуюць за рэфэрэндум і ўзрадуюцца, калі нас паб’юць у Авальнай залі. Але тады я яшчэ меў нейкую надзею. Вядома, цяпер бы я так не сказаў – і ня толькі таму, што спроба кампрамісу з гэтымі людзьмі безнадзейная. Цяпер я перакананы, што гэтыя сьцягі не павінны быць на ганаровых месцах, нават калі пад імі і рабіліся гераічныя ўчынкі. Месца сьцягам зь Леніным і Сталіным – там, дзе і сьцягам з гітлераўскай свастыкай.

Навумчык: «Дарэчы, вы ваявалі пад тымі сьцягамі, а не пад гэтым сьцягам, таму што гэты сьцяг з арнамэнтам, чырвона-зялёны, быў зацьверджаны толькі ў 1951 годзе. І калі мы кажам пра гісторыю, дык правільна сказаў дэпутат Зданевіч – давайце вернемся да той гісторыі, як ён прымаўся. З такой сьпешкай прымаўся, што, паважаныя дэпутаты, каб вы ведалі, газэта «Звязда» пра гэта пісала. Вось гэты арнамэнт, які тут, гэты так званы сымбаль заходзячага сонца, і гэты арнамэнт быў на ручніках, якія вешалі на надмагільныя крыжы на саракавы дзень пасьля сьмерці. Гэта гістарычны арнамэнт, але ён, выбачайце, пахавальны арнамэнт...

...За гэтым гербам, за гэтым сьцягам («Пагоняй» і бел-чырвона-белым сьцягам – удакладненьне 2015) больш старажытная гісторыя, але за ім і будучыня. І сёньня ёсьць новае пакаленьне, маладое пакаленьне, якое, дарэчы, яшчэ ня прый-

дзе галасаваць, ім толькі па пятнаццаць, па шаснаццаць, па дзесяць гадоў, але яны ўжо вывучылі ў школе пра гэты сьцяг, яны ўжо ведаюць, што пад гэтым сьцягам перамог і Шчэрба на алімпіядзе, і іншыя спартсмэны. І пад гэтым сьцягам ішло нашае нацыянальнае Адраджэньне, і за ім будучыня, і за гэтым гербам – будучыня.

Шаноўны прэзыдэнт! Шаноўныя дэпутаты! Вы бачыце, як у нас распаліліся сёньня страсьці ў гэтай залі? А што будзе, прабачце, на вуліцы? А на вуліцы будзе тое, што людзі – і маладыя, і старыя – не паразумеюцца, як, дарэчы, мы ня бачылі такога паразуменьня 3 ліпеня (1994 г.) – калі нас, маладых людзей, а з намі былі вэтэраны – і вэтэран Быкаў, і вэтэран вайны Вольскі, і вэтэран вайны аўтар помніка Перамогі архітэктар Заборскі, – калі мы выйшлі пад дзяржаўнымі сымбалямі, а нас сустрэлі фашысты. Паважаныя нашы вэтэраны сталі, на жаль (можа быць, яны самі гэтага ня ведалі), разам з фашыстамі, і фашысты таптал дзяржаўныя сымбалі (меліся на ўвазе актывісты прарасейскай шавіністычнай арганізацыі «Белая Русь», якія падтрымлівалі ў 1994 годзе Лукашэнку – С.Н., удакладненьне 2015).

І я хацеў бы, каб вы не распалялі страсьці. У нас ёсьць сёньня падставы для канструктыўнага дыялёгу, падставы для кансалідацыі, і гэтая падстава – эканоміка. Першая і апошняя – гэта эканоміка, і менавіта на кансалідацыю ў грамадзтве павінны быць накіраваны і дзеяньні прэзыдэнта, і дзеяньні Вярхоўнага Савету ў апошнія дні яго існаваньня, дзеяньні прадстаўнікоў вэтэранскай

арганізацыі і гэтак далей. Таму я зьвяртаюся да прэзыдэнта: калі вы ня хочаце распаляць страсьці ў грамадзтве, здыміце, калі ласка, сваю прапанову, у нас ёсьць шмат падстаў для кансалідацыі і шмат працы на бліжэйшыя месяцы і гады».

## «Не разумею вось гэтае імкненьне абавязкова сканцэнтраваць усю ўладу ў сваіх руках, усім кіраваць, за ўсё адказваць»

Віктар Какоўка: «Тыя пытаньні, якія вырашыў вынесьці прэзыдэнт на рэфэрэндум, дэструктыўныя па сваёй сутнасьці, і, напэўна, большасьць гэта разумее, хоць некаторыя, хто належыць да розных палітычных структураў, ня кажуць пра гэта наўпрост. Мы ж зараз цудоўна ведаем з досьведу краін бліжэйшага замежжа, што там рабілася, калі падымаліся пытаньні аб мове, і чым гэта скончылася. Мы цудоўна ведаем, чым скончылася прысьпешваньне з прыняцьцем Канстытуцыі, і вельмі многія ў гэтай залі (я б дазволіў сабе назваць іх большасьцю) кусаюць локці».

Барыс Гюнтэр: «Прэзыдэнт хоча гэтай правакацыяй раскалоць наша грамадзтва. На самой справе сёньня людзі пачалі асэнсоўваць сваю нацыянальнасьць, сваю дзяржаўнасьць».

Старшыня дэпутацкай Апазыцыі БНФ Зянон Пазьняк падсумаваў вынікі дыскусіі.

Зянон Пазняк: «Тут у выступах быў зроблены ўсебаковы аналіз сытуацыі з рэфэрэндумам, і ў

цэлым вымалёўваецца карціна, што ўсе чатыры прапановы складзеныя некарэктна.

...Пытаньне аб мове ўвогуле на рэфэрэндум не выносіцца, таму што гэта ня мы прыдумалі, гэта ня наш здабытак. Гэта здабытак нават ня ўсіх пакаленьняў, а ўсёй папуляцыі, якая жыла і ўтварыла нашу краіну.

...Я не разумею вось гэтае імкненьне абавязкова сканцэнтраваць усю ўладу ў сваіх руках, усім кіраваць, за ўсё адказваць. Разумееце, гэта нейкі ўжо псыхалягічны аспэкт, гэта, па-першае, заганная сыстэма. Яна вельмі памылковая, яна не карысная ні для грамадзтва, ні для нацыі.

...І апошняе, аб чым таксама гаварылася. Дзеля чаго ўвогуле гэты рэфэрэндум? Ясна, што яны (пытаньні – С.Н.) расколюць грамадзтва, гэта ж абсалютна зразумела, і выбары могуць быць таксама сарваныя, таму што грамадзтва палярызуецца па гэтых пытаньнях: не за каго вы будзеце галасаваць, а кожнаму кандыдату зададуць пытаньне: ты за які герб і за які сьцяг? І расколецца гэта ўсё на дзьве часткі, размыецца цэнтар. У выніку ўвогуле ні адзін кандыдат можа не набраць большасьці галасоў.  Пад гэтым таксама ляжыць такая падводная міна».

Як вядома, так і адбылося: у выніку травеньскіх выбараў шмат па якіх акругах дэпутаты не былі абраныя, і Вярхоўны Савет XIII склікаmake ня мог пачаць працу аж да студзеня наступнага году – не было патрэбнай паводле Канстытуцыі колькасьці дэпутатаў.

Пазьняк: «Таму я лічу, што гэтая пастаноўка пытаньня, вынас на рэфэрэндум такіх пытаньняў, нявыгадныя нашай дзяржаве. Гэтыя фармулёўкі не адпавядаюць закону, не адпавядаюць Канстытуцыі. Яны некарэктна сфармуляваныя, і безумоўна, што такі выхад (з такой ініцыятывай) мае ўсе падставы – і законныя і маральныя, і палітычныя – быць адхілены гэтым Вярхоўным Саветам».

Пасьля таго, як сьпікер Грыб паставіў на галасаваньне пытаньне аб спыненьні дыскусіі і яно было прынята, слова ізноў узяў Лукашэнка. Ён спрабаваў давесьці, што ніякіх парушэньняў Канстытуцыі і законаў у вынесенай ім прапанове няма. І пацьвердзіў, што «калі Вярхоўны Савет прыме рашэньне станоўчае па трох першых пытаньнях, я здыму чацьвёртае, каб у Зянона Пазьняка не было небясьпекі ў тым, што Лукашэнка ўсталюе заўтра дыктатуру ці што яна ўжо ўсталявана, як ён казаў».

Што азначала: нават права распусьціць Вярхоўны Савет для яго, Лукашэнкі, значыла меней, чым магчымасьць пазбавіцца ад дзяржаўнасьці беларускай мовы, ад нацыянальных сымбаляў і яшчэ болей прымацаваць Беларусь да Расеі.

Мы яшчэ раз зьвярнулі ўвагу на апрыёры немагчымы свабодны выбар ў часе рэфэрэндуму, паколькі электронныя СМІ знаходзіліся ў руках Лукашэнкі.

Лявонці Зданевіч: «Вы, паважаны прэзыдэнт, парушылі ўжо Канстытуцыю. Вы манапалізавалі сродкі масавай інфармацыі!»

Сьпікер Мечаслаў Грыб спыніў Зданевіча – «Выключыце першы мікрафон!», але я ўжо заняў трэці мікрафон, і калі дайшла чарга да мяне, працягнуў тое, пра што пачаў казаць Лявонці.

Навумчык: «Шаноўны Аляксандар Рыгоравіч! Пункт восьмы гэтай вашай пастановы гучыць так: «Рэкамэндаваць сродкам масавай інфармацыі арганізаваць усебаковае і аб'ектыўнае растлумачэньне сутнасьці пытаньняў, якія выносяцца на рэспубліканскі рэфэрэндум, рэгулярна асьвятляць ход падрыхтоўкі да рэфэрэндуму». Гэты ваш пункт цалкам адпавядае тым нормам Закону аб рэфэрэндуме, дзе сказана, што дзяржаўныя органы павінны арганізаваць усебаковае абмеркаваньне пытаньняў, якія выносяцца на рэфэрэндум.

А цяпер, калі ласка, адкажыце мне на пытаньне. Ці гарантуеце вы такое ўсебаковае асьвятленьне? Вось вы мяне папракалі ў тым, што я «перадзёргваю» факты, што большасьць у нас газэт – прыватныя. Але, Аляксандар Рыгоравіч, «Советская Белоруссия», «Рэспубліка», «Беларуская ніва», «Звязда» і шэраг іншых выданьняў па тыражы ў шмат разоў перавышаюць гэтыя невялічкія прыватызаваныя выданьні, якія ня маюць такога ўплыву. Плюс у вашых руках цалкам дзяржаўнае тэлебачаньне, плюс радыё (абедзьве праграмы). Такім чынам, сёньня, я думаю, вы ня можаце гарантаваць (нават вы) выкананьне гэтага восьмага пункту пастановы, калі нават мы яе і прымем. Пра якія роўныя ўмовы ў дадзеным выпадку можна казаць?»

Лукашэнка нічога не адказаў – канешне, манапалізацыя сродкаў масавай інфармацыі якраз і рабілася з мэтай пазбавіць апанэнтаў права голасу.

Гэтым маім выступам дыскусія была скончаная.

Было зразумела, што ніякія нашыя аргумэнты ні на Лукашэнку, ні на парлямэнцкую большасьць ня дзейнічаюць. Па сутнасьці, ніякіх традыцыйных парлямэнцкіх спосабаў супрацьстаяць спробе спыніць нацыянальнае Адраджэньне ў нас не заставалася. Але мы ўсё ж імкнуліся выкарыстаць усё, што магчыма, і таму працягвалі пераконваць дэпутатаў. І, канешне, ладзілі акцыі на вуліцах Менску і іншых гарадоў.

Паказальна, што ўжо 25 сакавіка (калі рэфэрэндум яшчэ ня быў нават прызначаны) міліцыя зьневажала дзяржаўны сьцяг. «Каля сталічнага опэрнага тэатра БНФ ладзіў сьвяткаваньне 77-х угодкаў незалежнасьці БНР, – пісала «Свабода». – Натуральна, што людзі ішлі на мітынг са сьцягамі і сьцяжкамі ў руках. Іх затрымлівала міліцыя, вырывала сьцягі, ламала дрэўкі, запіхвала ў машыны і везла ў пастарункі. Паводле нашых зьвестак, затрымалі каля 20 чалавек» («Свабода», 31 сакавіка 1995). Мы, дэпутаты, зьвярнуліся да генпракурора з патрабаваньнем «прыняць меры пракурорскага рэагаваньня па фактах зьнявагі дзяржаўнага сьцяга і грамадзянаў». Але нікога з міліцыянтаў не пакаралі – у той час міністар Юры Захаранка выконваў загады Лукашэнкі.

## Дэпутаты БНФ ідуць на галадоўку. Лукашэнка цярпіць фіяска

10 красавіка 1995 году Вярхоўны Савет працягваў абмеркаваньне прапанаваных прэзыдэнтам Лукашэнкам пытаньняў на рэфэрэндум.

Лукашэнка мяняў фармулёўкі; напрыклад, пытаньне пра мову гучала так: «Ці зацьвярджаеце Вы дзяржаўны статус рускай і беларускай моў?». І калі нехта лічыў патрэбным захаваць статус толькі беларускай мовы – ён быў абавязаны галасаваць і за статус расейскай. Калі ж ён выступаў супраць статусу расейскай – ён, такім чынам, выкрэсьліваў і дзяржаўны статус беларускай мовы.

(Між іншым, паказальна, што ў гэтай фармулёўцы Лукашэнкі руская мова была на першым месцы, хаця, паводле традыцыі пераліку, мусіла б ісьці па альфабэце на другім, пасьля беларускай.)

Я паспрабаваў давесьці да Лукашэнкі лягічную абсурднасьць пытаньня, цытую стэнаграму:

«Навумчык С. Н. (Віцебская-Чыгуначная акруга № 181)... Аляксандар Рыгоравіч, Вам, можа, не зразумелыя нейкія юрыдычныя тлумачэньні, пераходжу на бытавую мову. Скажам, у дваццацігадовай дзяўчыны пытаюць: скажы, Маша, ці хочаш ты ажаніцца зь Пецям ці Сашам? (тут,

канешне, прамоўца памыліўся: дзяўчаты ня жэняцца, а выходзяць замуж – удакладненьне 2015 г.). І яна адкажа – «Не». А можа, яна зь Пецем – хоча? Разумееце?».

Нарэшце, у канчатковым выглядзе Лукашэнка сфармуляваў пытаньні наступным чынам:

«Ці згодны Вы з наданьнем рускай мове аднолькавага статусу зь беларускай?».

«Ці падтрымліваеце Вы прапанову аб устанаўленьні новых Дзяржаўнага сьцяга і Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь?»

«Ці падтрымліваеце Вы дзеяньні прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, скіраваныя на эканамічную інтэграцыю з Расейскай Фэдэрацыяй?»

«Ці згодны Вы зь неабходнасьцю ўнясеньня зьмяненьняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якія прадугледжваюць магчымасьць датэрміновага спыненьня паўнамоцтваў Вярхоўнага Савету прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь у выпадках сыстэматычнага ці грубага парушэньня Канстытуцыі?»

Мы ў выступах ізноў зьвярталі ўвагу на тое, што паводле артыкулу 78 тагачаснай Канстытуцыі, рэфэрэндум павінен быў праводзіцца ў адпаведнасьці з законам. Праўныя аспэкты рэфэрэндуму рэгуляваліся Законам «Аб усенародным галасаваньні (рэфэрэндуме)». І вось, паводле гэтага закону, на рэфэрэндум не маглі выносіцца пытаньні нацыянальна-гістарычнай адметнасьці (пры гэтым распрацоўнікі закону кіраваліся тым, што мова, гістарычныя і нацыянальныя каштоўнасьці не належаць сучаснаму пакаленьню, і яно,

гэтае пакаленьне, ня мае права пазбаўляць іх пакаленьні будучыя і наагул вырашаць і за продкаў, і за нашчадкаў). Менавіта такімі пытаньнямі зьяўляліся два пытаньні з чатырох, прапанаваных А. Лукашэнкам: аб статусе беларускай мовы і аб дзяржаўных сымбалях.

Акрамя таго, мы казалі, што ліквідацыя статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай непазьбежна прывядзе да яе дыскрымінацыі і заняпаду, а зьмена дзяржаўнай сымболікі ўнясе раскол у грамадзтва.

Нашыя аргумэнты не ўспрымаліся парлямэнцкай большасьцю. Увечары 10 красавіка мы сабраліся ў 363-ім пакоі Дома ўраду, які быў замацаваны за Апазыцыяй, і вырашылі, што нам нічога не застаецца, як пайсьці на нейкія скрайнія захады.

Раніцай 11 красавіка мы канчаткова дамовіліся, што абвяшчаем галадоўку: я пасьпеў даслаць факс жонцы Галіне ў Нямеччыну, якая была ў тыя дні ў мюнхэнскай рэдакцыі радыё «Свабода» і мелася вярнуцца ў Менск 12 красавіка, што сустрэць у аэрапорце яе не змагу (сустрэла яе Галя Вашчанка-Пазьняк), але, нягледзячы на галадоўку, пасьпею выступіць у Канстытуцыйным Судзе, які меўся разглядаць пытаньне аб манапалізацыі прэзыдэнтам сродкаў масавай інфармацыі.

Пасяджэньне Вярхоўнага Савету, як звычайна, пачалося а 9-й раніцы з разьдзелу «Рознае».

Мне давялося зачытаць рэзалюцыю мітынгу, які адбыўся трыма днямі раней, 9 красавіка, каля будынку на Карла Маркса, дзе тады месьціўся


Для Галіны Навумчык

Галя!

Мы, у знак пратэсту, у $9^{30}$ у зале ВС абвяшчаем галадоўку. Таму, магчыма, я не паспею цябе сустрэць. Але тады сустрэне хто-небудзь іншы. З сабой беру камеру — будуць матэрыялы. У любым разе, у чацвер у $10^{00}$ буду выступаць у ВР.

С. Навумчык

Факс Галіне Навумчык у мюнхэнскую штаб-кватэру Радыё Свабода перад пачаткам галадоўкі, 11 красавіка 1995 г.

Вярхоўны Савет. Вось як гэта выглядала ў стэнаграме:

Сяргей Навумчык: «Мне даручана зачытаць наказ выбарнікаў, дадзеных дэпутатам Вярхоўнага Савету ад Апазыцыі БНФ падчас справаздачнай сустрэчы 9 красавіка ў Менску. «Выслухаўшы інфармацыю аб працы ў Вярхоўным Савеце, аб прапановах па ратыфікацыі пагадненьняў з Расеяй, пра ініцыятывы прэзыдэнцкай улады ў правядзеньні рэфэрэндуму аб мове, аб адмаўленьні ад гістарычнай беларускай і дзяржаўнай сымболікі, аб эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і аб наданьні абсалютных уладных паўнамоцтваў

прэзыдэнту, мы, выбарнікі гораду Менску, што сабраліся 9 красавіка 1995 года на спатканьне з дэпутатамі Вярхоўнага Савету ад Апазыцыі БНФ, заяўляем, што прэзыдэнцкая ініцыятыва аб рэфэрэндуме супярэчыць закону і Канстытуцыі. Гэтыя рэфэрэндумы, калі б яны адбыліся, толькі зганьбілі б нашу краіну, раскалолі і пасварылі наш народ, яны не палепшылі б, а пагоршылі б жыцьцё людзей.

Мы, выбарнікі з розных раёнаў Менску, даем наказ нашым дэпутатам Вярхоўнага Савету ад Апазыцыі адстойваць канстытуцыйныя нормы і законы нашай дзяржавы ў Вярхоўным Савеце і не пагаджацца з прэзыдэнцкай ініцыятывай ганебных для Беларусі рэфэрэндумаў, не галасаваць за ратыфікацыю невыгодных пагадненьняў з Расеяй. Лукашэнка ня выканаў сваіх абяцаньняў – не спыніў рост цэнаў, не запусьціў заводы, не пачаў рэформы, не зьнішчыў карупцыю. Жыцьц стала яшчэ горай і цяжэй. Зьневажаецца чалавек, наша краіна, наша мова, нашы нацыянальныя каштоўнасьці. Улада ня мае права зьдзекавацца з народа, які гэтую ўладу стварыў.

Мы пратэстуем і не прымаем такую антынародную палітыку. Патрабуем ад прэзыдэнта Лукашэнкі зьняць сваю ініцыятыву аб рэфэрэндуме. Просім нашых дэпутатаў ад Апазыцыі Народнага Фронту адстойваць нашы грамадзянскія, чалавечыя, сацыяльныя правы. Наша краіна наш народ дастойны лепшага жыцьця і лепшай долі». Прынята аднагалосна».

Таксама ў «Розным» з адмоўнай ацэнкай ініцыятывы аб рэфэрэндуме выступілі Анатоль Вярцінскі і Мікалай Крыжаноўскі. Юрась Беленькі выказаўся пра пляны расейскага «Газпраму» забраць беларускую маёмасьць, але таксама закрануў тэму рэфэрэндуму.

Анатоль Вярцінскі: «Я ўсё яшчэ ня трачу надзеі, я зьвяртаюся да прэзыдэнта з заклікам у гэты адказны, крытычны для краіны момант усьвядоміць усю адказнасьць перад ёй, стаць прэзыдэнтам усіх беларусаў, усёй Беларусі, а ня пэўных палітычных сілаў і калі ўжо зусім не адмовіцца ад ідэі правядзеньня рэфэрэндуму, то хаця б абвясьціць яго кансультацыйным па ўсіх чатырох пытаньнях».

Мікалай Крыжаноўскі: «Мне ўчора з Жодзіна даставілі сюды, прывезьлі адкрыты ліст... І ведаеце, у гэтым лісьце (ён вялікі, я ня буду ўсё зачытваць) людзі пішуць вельмі такія высокія, узьнёслыя словы, што «мова – душа народа», што «няма мовы – ня будзе народа» і што яны зьвяртаюцца і да старшыні Вярхоўнага Савету, і да дэпутатаў, спадзеючыся на іх розум, на іх сумленьне, на іх годнасьць. Але я думаю, што марны гэты зварот. Учарашняе пасяджэньне паказала, што ўсё-такі няма тут на што спадзявацца. І вось гэтыя пяць гадоў работы Вярхоўнага Савету паказалі, што сапраўды адбылося тое, што не павінна было адбыцца. І адбылася камічная трагедыя. Трагізм гэтай сытуацыі палягае ў тым, што зьнішчаецца дзяржава, зьнішчаюцца яе старажытныя, сьвятыя сымбалі, выкарчоўваецца, выкараняецца

яе мова. А камізм гэтай сытуацыі палягае ў тым, што людзі, ня ведаючы таго, абралі чалавека, які потым робіць усё гэта рукамі самога народа... Ёсьць Божы суд. І гэты суд прыйдзе. Пройдзе час – і прыйдзецца адказваць за тое, што тут створана. І я хацеў бы, каб тыя, хто яшчэ мае нейкае сумленьне і страх перад Богам – задумаліся над тым, што вы робіце (шум у залі)».

Юрась Беленькі: «...Будзе ня Божы суд, будзе суд нашага народа, бо гэта злачынцы, якія гэта зрабілі. Гэтыя злачынцы будуць стаяць перад судом нашага народа, калі прыйдзе наш сапраўдны беларускі ўрад, таксама, як будуць стаяць перад судом і тыя, хто вынес гэты ганебны рэфэрэндум, хто зьневажае нашу мову. Вы будзеце судзіцца з нашым народам, і тэрмін даўніны на вас ня будзе распаўсюджвацца, як не распаўсюджваецца тэрмін даўніны на ўсе злачынствы, якія зроблены супраць народа і дзяржавы. Так што, спадары дэпутаты, вы павінны памятаць пра гэта. Гэта ўсё ня пройдзе проста так для вас дарма. Вы будзеце адказваць перад нашым народам па ўсіх законах нашай будучай незалежнай дзяржавы (шум у залі)».

Старшыня ВС Мечыслаў Грыб: «Паважаны Юры Адамавіч, нельга ж так аднаму ўсіх судзіць (шум у залі). Прабачце. Добра. Слова мае дэпутат Пазьняк Зянон Станіслававіч. Наступным выступае дэпутат Зданевіч».

На гадзіньніку было 9.25. Далей ізноў цытую стэнаграму:

Пазьняк З. С.: «Спадары дэпутаты! Мінула амаль пяць гадоў дзейнасьці Вярхоўнага Савету, у якім усё вызначала і вызначае былая камуністычная намэнклятурная большасьць. Які ж вынік вашай дзейнасьці за пяць гадоў, спадары дэпутаты? Што вы нарабілі і што натварылі?

Пяць гадоў назад у нас быў аднолькавы жыцьцёвы ўзровень, як і ў краінах Балтыі. Але краіны Балтыі пайшлі па шляху свабоды і эканамічных рэформаў і цяпер ужо пачынаюць карыстацца пладамі сваёй разумнай палітыкі. Беларусь жа, дзякуючы перш за ўсё вашай дзейнасьці, пакацілася ў яму жабрацтва, разбурэньня эканомікі, інфляцыі. Ад рэформаў адмовіліся, краіну абрабавалі, народ абакралі, маёмасьць «прыхватызавалі». У людзей забралі грашовыя ўклады і аблігацыі, не далі ні зямлі, ні працы, ні нармальнага сацыяльнага забесьпячэньня. На кожную душу павесілі велізарную дзяржаўную пазыку.

І што ж прапануеце вы цяпер, разам з вашым прэзыдэнтам, якога вы прыдумалі, спадары дэпутаты? Што прапануеце вы цяпер, пад заслону, у канцы вашай бясплённай і разбуральнай дзейнасьці? Абрабаваўшы народ, вы, топчучы Канстытуцыю і закон, прапануеце яму рэфэрэндум аб яго сьвятой беларускай мове, аб яго гістарычным сьцягу і гербе ва ўмовах жабрацтва, бяспраўя, інфармацыйнай блякады і поўнага беззаконьня.

Абрабаваўшы народ, вы прапануеце яму грамадзкі раскол і грамадзянскае супрацьстаяньне. Абрабаваўшы народ, вы гатовыя прадаць неза-



У Авальнай залі 11 красавіка 1995 г.

лежнасьць яго Бацькаўшчыны, кінуць яго пад эксплюатацыю і расправу сваёй і замежнай мафіі. Вось вынік вашай пяцігадовай дзейнасьці.

Мы, дэпутаты Апазыцыі Беларускага Народнага Фронту, пратэстуем супраць зьдзекаў над нашым народам, над нашай Айчынай, над нашай Канстытуцыяй і законамі Рэспублікі Беларусь. Вычарпаўшы ўсе магчымасьці, у знак пратэсту супраць антызаконнасьці і згубнасьці вашых дзеяньняў мы абʼяўляем галадоўку тут, у цэнтры гэтай залі. Пачынаем яе цяпер, з гэтай хвіліны. Мы патрабуем выкананьня Канстытуцыі, законаў Рэспублікі Беларусь, свабоды слова і ліквідацыі цэнзуры... (Шум у зале)... спыніць рабаваньне народа і Бацькаўшчыны!.. (Шум у зале)... Шаноўная

Інэса Міхайлаўна! Вы – міністар аховы здароўя. Прашу Вас прыслаць урача і зафіксаваць пачатак галадоўкі. (Шум у зале). Прадаўжайце, спадары дэпутаты, сэсію».

Пасьля гэтых слоў Пазьняка мы, некалькі дэпутатаў Апазыцыі БНФ, выйшлі ў сярэдзіну Авальнай залі і селі перад прэзыдыюмам, каля трыбуны. Абвешчаны сьпікерам выступ Лявонція Зданевіча не адбыўся – Лявонці сеў з намі. У Лявона Дзейкі быў з сабой фотаапарат – у той дзень здымкі рабілі і прафэсійныя журналісты, але толькі Лявону ўдалося зафіксаваць некаторыя вечаровыя падзеі, калі фоткарэспандэнтаў выдалілі з залі.

Грыб абвясьціў перапынак, а потым заявіў:

«Згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, згодна з Законам «Аб рэфэрэндуме», згодна з Часовым рэглямэнтам Вярхоўнага Савету, мы павінны разглядаць прапанову прэзыдэнта, якую ён нам унёс, па правядзеньню рэфэрэндуму.

Мы можам уносіць прапановы па тэрміну – 14, 28 ці 11 чэрвеня, гэта справа Вярхоўнага Савета. Астатнія пытаньні, пытаньні, якія ён сфармуляваў і ўносіць на рэфэрэндум, – гэта яго справа. Мы можам яму ўносіць рэкамэндацыі, можам прапанаваць нешта іншае ўдакладніць, і так далей, але гэта яго справа, пагадзіцца ці не пагадзіцца. Ніякіх альтэрнатыўных праектаў мы ня маем права разглядаць па гэтым пытаньні, прабачце мне, ніякіх, ні пісьмовых, ні вусных. Мы павінны ісьці так, як патрабуе ад нас заканадаўства».

Два з паловай гады перад тым і сам Грыб, тады яшчэ не старшыня Вярхоўнага Савету, і дэпутат Лукашэнка, і большасьць іншых дэпутатаў праігнаравалі Закон аб рэфэрэндуме ды адмовіліся прызначаць рэфэрэндум аб датэрміновых выбарах, праігнараваўшы 442 тысячы подпісаў, сабраных БНФ. Але цяперашняя сытуацыя прынцыпова адрозьнівалася ад таго, што было ўвосень 1992 году. Тады Беларускі Народны Фронт дзейнічаў у поўнай адпаведнасьці з Канстытуцыяй і законам. Цяпер жа Лукашэнка, уносячы свае прапановы, парушаў і Канстытуцыю, і заканадаўства, паколькі закон наўпрост забараняў выносіць на рэфэрэндум пытаньні, якія тычацца мовы і нацыянальнай сымболікі.

Да мікрафона выйшаў старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай «Грамады» Алег Трусаў: «Я зьвяртаюся перш-наперш да спадара прэзыдэнта, да міжнароднай супольнасьці і да дэпутатаў Вярхоўнага Савету. Вы ведаеце, што спадар прэзыдэнт груба парушыў Канстытуцыю, груба парушыў усе магчымыя законы, зьняўшы з пасады галоўнага рэдактара спадара Сярэдзіча. Я патрабую ад спадара Прэзыдэнта адмяніць свой незаконны ўказ і ў знак пратэсту далучаюся да сяброў па Апазыцыі і абʼяўляю галадоўку».

Алег сеў побач з намі.

Выступіў Сяргей Антончык, над якім ішоў судовы працэс за ягоны даклад аб карупцыі ў камандзе Лукашэнкі: «Апазыцыя Беларускага Народнага Фронту. Спадары дэпутаты! Дзе вы бачылі краіну, дзе судзяць ня тых, хто крадзе,



Пачатак галадоўкі. Ігар Пырх, Зянон Пазьняк, Лявонці Зданевіч, Сяргей Навумчык, Мікалай Крыжаноўскі, Ігар Гермянчук, Сяргей Папкоў.

а тых, хто выступае супраць гэтага крадзяжу? Спадар прэзыдэнт, ці ведаеце Вы, што банкам «Белаграпрамбанк», дзе быў старшынём Чыгір, у 1993 – пачатку 1994 года было выдзелена 145 мільярдаў крэдытных рэсурсаў фірме «Пушэ»? Ці ведаеце вы, што фірма «Пушэ» зараз будуе катэдж Чыгіру? Ці мае права прэм'ер-міністар Чыгір займацца зараз кіраўніцтвам у вашай структуры? Чаму да гэтага часу не адхілены ад улады Сініцын, сыну якога плацяць камэрцыйныя фірмы больш за дзясяткі тысяч даляраў кожны год? Чаму не адхілены Ціцянкоў і іншыя людзі? Таму ў знак пратэсту я далучаюся да галадоўкі і патрабую адстаўкі тых людзей, якія

зараз ня могуць, ня маюць права па маральных законах кіраваць нашай беларускай незалежнай дзяржавай».

Сяргей таксама спусьціўся да трыбуны і далучыўся да нас.

Выступіў Генадзь Майсееў (ён падпісваў шмат якія заявы Апазыцыі БНФ) ды абурыўся папярэднім вечаровым тэлерэпартажам з пасяджэньня Вярхоўнага Савету, на якім абмяркоўвалася мэтазгоднасьць рэфэрэндуму – «Адзін прэзыдэнт! Ні сьпікера парлямэнту, нікога! Адзін голас прэзыдэнта! Ніводнага слова дэпутата! Што гэта такое? Тэлебачаньне што, зрабілася прыдаткам прэзыдэнцкай улады?... Паважаны Лукашэнка! Я баюся, што вы апыняцеся ў лепшым выпадку на пасадзе губэрнатара адной з расейскай вобласьцяў. Падумайце напярэдадні рэфэрэндуму, што Вы робіце. Спыніцеся, пакуль ня позна».

У залі зьявіўся Лукашэнка. Ягоная прамова мела нэрвова-гістэрычную танальнасьць. Ён заявіў (перакладаю з расейскай): «Я ні на ёту не адступлюся ад сваіх сёньняшніх прапаноў. Ня трэба сёньня ніякіх абмеркаваньняў. Мечаслаў Іванавіч (Грыб – С. Н.) правільна сказаў: вы ня маеце права зьмяняць пытаньні, якія ўнёс прэзыдэнт».

Дэпутат Апазыцыі БНФ Барыс Гюнтэр заявіў, што ў часе прыняцьця Пастановы аб рэфэрэндуме зафіксаваў галасаваньне адным дэпутатам за іншага, які ў гэты момант у залі адсутнічаў.

Галіна Сямдзянава зьвярнула ўвагу на парушэньні працэдуры і між іншым сказала, што «ў нас шмат парушэньняў Канстытуцыі было ў гэтай



За прэзыдэнцкай трыбунай – Аляксандар Лукашэнка, у прэзыдыюме – Мечаслаў Грыб і Іван Бамбіза, выступае Ўладзімер Леўчык. Удзельнікі галадоўкі – Алег Трусаў, Сяргей Навумчык, Барыс Гюнтэр, Сяргей Антончык, Лявон Баршчэўскі, Аляксандар Шут, Уладзімер Заблоцкі.

залі. Выкручвалі рукі дэпутатам увесь час, зараз віртуозна гэта робіць прэзыдэнт. І я вельмі задаволеная, што ў гэтай залі зьявіліся ня толькі дэпутаты Вярхоўнага Савету, ня толькі апазыцыя, але і сапраўдныя мужчыны, якія вырашылі, што хоць такім чынам абараніць гонар дзяржавы».

Гэта, сапраўды, была крайняя мера.

Нічога падобнага на галадоўку, якая была намі абвешчаная ў той дзень, у Вярхоўным Савеце ніколі не было. І для большасьці дэпутатаў гэта само па сабе было нечым надзвычайным.



Барыс Гюнтэр, Сяргей Навумчык, Сяргей Антончык, Лявон Баршчэўскі, Аляксандар Шут, Пётра Садоўскі, Валянцін Голубеў, Віталь Малашка, Юрась Беленькі.

Яны – ва ўсялякім разе, шмат хто зь іх, – адчулі, што мы маем самыя сур'ёзныя намеры. Потым, праз гады, мы абмяркоўвалі той момант з калегамі-дэпутатамі Апазыцыі БНФ і сышліся ў тым, што гатовыя былі ісьці на сьмерць. Напэўна, калі чалавек гатовы на сьмерць, калі ён бачыць канец жыцьцёвага шляху – гэта адчуваецца. Ва ўсякім разе, мне цяжка патлумачыць іншым, нечым рацыянальным, тое, што здарылася потым.

Мы сядзелі тварам да дэпутатаў, глядзелі ім у вочы – а яны глядзелі ў вочы нам.

Далей і адбылося тое, на што, па шчырасьці, асабіста я не разьлічваў і што можна назваць цудам.



На трыбуне – Ніл Гілевіч.

Прапанаваныя Лукашэнкам пытаньні, якія яшчэ ўчора, як адчувалася, гатовая была зацьвердзіць большасьць дэпутатаў, – пачалі праваліваццца.

Так, за пытаньне «Ці згодны вы з наданьнем расейскай мове роўнага статусу зь беларускай? Так ці не» – прагаласавалі 124 дэпутаты пры патрэбных для прыняцьця станоўчага рашэньне 152-ух.

Пытаньне «Ці падтрымліваеце вы прапанову аб устанаўленьні новага Дзяржаўнага сьцяга і Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь? Так ці не?» – падтрымала 150 дэпутатаў (не хапіла двух галасоў).

За пытаньне «Ці згодны вы зь неабходнасьцю ўнясеньня зьмяненьняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якія прадугледжваюць магчымасьць датэрміновага спыненьня паўнамоцтваў Вярхоўнага Савету Прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь у выпадках сыстэматычнага ці грубага парушэньня Канстытуцыі? Так ці не?» – прагаласавала толькі 86 дэпутатаў, амаль у два разы меней, чым было неабходна.

І толькі пытаньне «Ці падтрымліваеце вы дзеяньні прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, якія накіраваны на эканамічную інтэграцыю з Расейскай Фэдэрацыяй? Так ці не?» набрала патрэбную для зацьвярджэньня колькасьць галасоў – 180. Мне падаецца, што на гэта паўплываў выступ Генадзя Карпенкі, які імкнуўся давесьці, што ў Лукашэнкі і без усялякага рэфэрэндуму ёсьць магчымасьць наладжваць эканамічныя сувязі з Расеяй, але ні прэзыдэнт, ні ягоны ўрад ня ўстане іх рэалізаваць («Сёньня трэба камусьці паказаць, што нехта перашкаджае эканамічным сувязям з Расеяй. Ніхто не перашкаджае. Поўны правал у эканоміцы»). Карпенка прапанаваў пытаньне «не выносіць на рэфэрэндум, а прагаласаваць Вярхоўным Саветам цалкам, падтрымаць эканамічныя сувязі і інтэграцыю з Расеяй». Некаторыя дэпутаты маглі не ўспрыняць гэта так, што паколькі парлямэнт усё роўна ня будзе галасаваць за прапанову Карпенкі – хай тады пытаньне пра інтэграцыю з Расеяй, за якую выказаўся і Карпенка, будзе вынесенае на рэфэрэндум.



Дэпутаты слухаюць Радыё Свабода: Алег Трусаў, Барыс Гюнтэр, Валянцін Голубеў, Сяргей Навумчык, Лявон Дзейка. Уладзімер Заблоцкі.

Такім чынам, тры з чатырох прапанаваных Лукашэнкам пытаньні не прайшлі.

Для Лукашэнкі гэта быў правал – яшчэ ў часе галасаваньня ён узяў слова і заявіў, што «ўсе мае пытаньні ўносіліся ў комплексе... вы (дэпутаты – С. Н.) парушылі цэласны комплекс пытаньняў, якія я выносіў на галасаваньне».

Лукашэнка таксама сказаў, што мог бы пагадзіцца на кансультацыйны характар трэцяга і чацьвертага пытаньняў (інтэграцыя з Расеяй і права прэзыдэнта распускаць парлямэнт), але настойвае на абавязковым характары першых двух (мовы і дзяржаўныя сымбалі).

Гэтая ягоная «кампрамісная» заява пацьвярджала, што пытаньні аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай і аб скасаваньні «Пагоні» і бел-чырвона-белага сьцяга як дзяржаўных сымбаляў – мелі для Лукашэнкі нават большае значэньне, чым ягонае права распускаць парлямэнт.

Увогуле, Лукашэнка ў той дзень некалькі разоў браў слова, і ягоныя выступы былі прасякнутыя нянавісьцю, грэблівасьцю і да незалежнасьці краіны, і да беларускай мовы і да дэпутатаў Апазыцыі БНФ.

Прывяду некалькі характэрных урыўкаў зь ягоных выступаў у Авальнай залі ў той дзень 11 красавіка; даю іх на мове арыгіналу.

«Голодовку объявили, может, прекратят. Они сегодня хорошо поели и могут день голодать... Единственное, на что вы способны, это вот тут сесть, возле этой трибуны, чтобы вас фотографы сфотографировали и завтра в международную супольнасць направили гэтыя здымки, каб яшчэ раз Беларусь трепали, топтали, вытирали ноги. Не трэба им Бацькаушчына! Не трэба им Беларусь, дарагия мае! Я-то это знаю!.. Вопрос ведь не в русском языке, сегодня это вопрос не геополитики – это стратегия нашего государства...

Ну, неужели вам принести стенограмму, я её прочитал ещё с того страшного заседания, которое мы провели здесь? Неужели вам надо напоминать то, что мы здесь натворили? (маюцца на ўвазе альбо пасяджэньне 25 жніўня 1991, калі была абвешчана незалежнасьць Беларусі, альбо

10 сьнежня 1991, калі былі ратыфікаваныя Белавескія пагадненьні – С. Н.).

... Да нет у меня никаких амбиций, уважаемые мои! Я родился на этой земле, я предан этой стране, этой республике не меньше, чем вы. Но вы же посмотрите, что происходит на самом деле! Но я же не могу даже вам сказать всего того, что происходит, нельзя сказать, поскольку завтра в «Свабодзе», в радио «Свабода» передадут... Збэсьцяць, стопчуць, здрадником объявят!

...Сегодня для каждого вопрос – это вопрос детей. По той же русской мове. Я приезжаю на свою родину, и мне говорят в Шклове: сегодня первый, второй, третий классы насильственно переводят на соответствующий язык. Зачем, говорю. Зачем? Учебников няма. Мне говорят: давай учебники. Их нет. Посмотрите, какие создали учебники. Посмотрите, какое засилье сегодня в культуре. Люди воют».

Зьвяртае ўвагу тое, што Лукашэнка пагрэбаваў нават узгадаць беларускую мову, вызначыўшы яе як «соответствующий язык». І, вядома, прыкметна, што замест таго, каб наладзіць выданьне падручнікаў на беларускай мове (а ў прэзыдэнта меліся для гэтага ўсе сродкі), ён пажадаў пазбавіць дзяцей магчымасьці на гэтай мове вучыцца. Пройдзе дваццаць гадоў, і ў абласных цэнтрах не застанецца ніводнай беларускамоўнай школы. У раённых цэнтрах – таксама.

І тым ня менш, нягледзячы на гістэрычныя заявы Лукашэнкі – ягоныя пытаньні былі праваленыя.



Нашы канкрэтныя
умовы і патрабаваньні
згодна заявы 11.04.1995 г.

[redacted]

1. Не прымаць супярэчную закону і Канстытуцыі ініцыятыву Прэзідэнта аб рэферэндуме. Выканаць у гэтым пытаньні Канстытуцыю і закон.

2. Адмяніць незаконны ўказ №113 Прэзідэнта Лукашэнкі аб [redacted] увядзеньні цэнзуры [redacted] ў Беларусі і звальненьні з пасады галоўнага рэдактара „Народнай газеты".
Адмяніць манаполію на сродкі масавай інфармацыі ў руках прэзідэнцкай улады, паколькі гэта супярэчыць закону, Канстытуцыі і парушае правы чалавека.

3. Прыцягнуць да адказнасьці людзей з адміністрацыі Прэзідэнта Лукашэнкі, замешаных у карупцыі.
Спыніць судовы перасьлед дэпутата Сяргея Антончыка.

Сьпіс патрабаваньняў удзельнікаў галадоўкі, складзены Зянонам Пазьняком. 11 красавіка 1995 г.

Такім быў першы вынік галадоўкі.

У адзін зь перапынкаў мы ўдакладнілі свае патрабаваньні. Зянон Пазьняк перадаў Мечыславу Грыбу поўны іх сьпіс:

«1. Не прымаць супярэчную Закону і Канстытуцыі ініцыятыву Прэзыдэнта аб рэфэрэндуме. Выканаць у гэтым пытаньні Канстытуцыю і закон.

2. Адмяніць незаконны ўказ нумар 113 Прэзыдэнта Лукашэнкі аб увядзеньні цэнзуры ў Беларусі і звальненьні з пасады рэдактара «Народнай газэты» (Сярэдзіча – С. Н.). Адмяніць манаполію на сродкі масавай інфармацыі ў руках прэзыдэнцкай улады, паколькі гэта супярэчыць закону, Канстытуцыі і парушае правы чалавека.

3. Прыцягнуць да адказнасьці людзей з адміністрацыі Прэзыдэнта Лукашэнкі, замяшаных у карупцыі. Спыніць судовы перасьлед дэпутата Сяргея Антончыка (за даклад аб карупцыі ў камандзе Лукашэнкі – С. Н.)».

На вечар 11 красавіка нас было 19 чалавек: Мікалай Аксаміт, Сяргей Антончык, Лявон Баршчэўскі, Юрась Беленькі, Ігар Гермянчук, Валянцін Голубеў. Уладзімер Заблоцкі, Барыс Гюнтэр, Лявон Дзейка, Лявонці Зданевіч, Мікалай Крыжаноўскі, Мікола Маркевіч, Віталь Малашка, Сяргей Навумчык, Зянон Пазьняк, Сяргей Папкоў, Пётра Садоўскі, Алег Трусаў, Аляксандар Шут.

Хацеў далучыцца да галадоўкі, але мусіў класьціся ў шпіталь дэпутат Апазыцыі БНФ, палкоўнік міліцыі Ігар Пырх, і Пазьняк параіў яму



Старшыні Вярхоўнага
Савета Рэспублікі
Беларусь
М. І. Грыбу

Дэпутатаў Вярхоўнага Савета
З. Пазьняка, В. Голубева, С. Антончыка,
С. Навумчыка, Ю. Гермянчука, У. Заблоцкага, В. Малашкі, Ю. Беленькага,
Б. Гюнтара, П. Садоўскага, Л. Дзецкі,
С. Папкова, Л. Зданевіча, М. Крыжаноўскага, М. Маркевіча, А. Трусава,
А. Шута, Л. Баршчэўскага

Інфармуем Вас, што як нам стала вядома з боку структур прэзідэнцкай адміністрацыі і сілавых утварэнняў ноччу магчымыя дзеянні, якія пярэчаць нашаму канстытуцыйнаму праву на свабоднае [illegible] недатыкальнасць і парушаюць дэпутацкую недатыкальнасць.

Просім забяспечыць нашу ахову і выкананне законаў і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

11. 04. 1995. (16.00)

З. Пазьняк
І. [illegible]
[illegible]
Б. [illegible]
С. [illegible]
А. Шут

Ліст Мечаславу Грыбу, напісаны Зянонам Пазьняком і падпісаны дэпутатамі. 11 красавіка 1995 г.

ўстрымацца ад акцыі (праз чатыры гады Ігар заўчасна памёр). Натуральна, мы не маглі дапусьціць удзелу ў галадоўцы Галіны Сямдзянавай.

А 18-й пасяджэньне скончылася. Яшчэ днём Галіна Сямдзянава атрымала інфармацыю, што супраць удзельнікаў галадоўкі можа быць ужытая сіла.

Пазьняк зьвярнуўся да Грыба з просьбай забясьпечыць нашую ахову, той сказаў, што нібыта кіраўніцтва КДБ паабяцала даслаць сваіх людзей.

У ноч з 11 на 12 красавіка людзей сапраўды даслалі – але не на просьбу Грыба і не для аховы...

## «Пазьняка ўдарылі нагой у грудзі, выціскалі вочы, білі аб сьцяну»

11 красавіка, пасьля заканчэньня вечаровага пасяджэньня Вярхоўнага Савету, мы пачалі рыхтавацца да ночы.

Афіцыйная прэса толькі назаўтра апублікуе інфармацыю пра нашую галадоўку. «Советская Белоруссия» вынесе на першую паласу загаловак «Голодовка: жест отчаяния или рекламный трюк перед избирательной кампанией?»; тэкст не пакідаў сумненьняў, што, канешне, гэта рэклямны ход.

Але гэты нумар выйдзе заўтра, а ў той вечар у мяне ў руках быў нумар за 11 красавіка, з артыкулам «Главное – это работать для народа»: «Мы согласны жить без депутатов, и пусть эти деньги идут на садики, на школьное питание. В общем, распускайте всех депутатов по домам. Пусть тот, кто громче всех кричит, возьмёт любой разваленный завод и покажет, как надо делать «адраджэнне». Передайте Лукашенко: пусть не болеет, работает спокойно, все простые люди за него». Артыкул быў напісаны не журналістам, аўтар быў прадстаўлены як «Наш политический обозреватель Анна Яковлевна Вечерская, повар столовой комбината «Белшина».



Прымерка спальных мяхоў. Сяргей Навумчык, Алег Трусаў, Віталь Малашка, Лявон Баршчэўскі.

Хаця канчатковае рашэньне пра пачатак галадоўкі было прынятае ў апошнюю хвіліну, мы ставіліся да гэтай акцыі сур'ёзна і не зьбіраліся яе спыняць, пакуль ня будуць выкананыя нашыя патрабаваньні. Актывісты БНФ перадалі нам спальнікі, з буфэту прынесьлі некалькі пач-

каў мінэральнай вады. Голад пакуль асабліва не адчуваўся, хаця стан быў нэрвовы – да нас паступала інфармацыя, што будзе ўжытая сіла. Пазьняк папярэдзіў пра гэта старшыню Вярхоўнага Савету Мечаслава Грыба; сьпікер паабяцаў, што будзе трымаць сытуацыю пад кантролем.

Падзеі, якія адбыліся потым, апісаныя шматкроць. Некаторыя аўтары разыходзяцца ў храналёгіі і дэталях, і я палічыў за лепшае прывесьці словы саміх удзельнікаў галадоўкі – прычым у пэўных выпадках іх нават нельга назваць успамінамі, паколькі напісаныя яны былі адразу пасьля падзеяў 11 – 12 красавіка 1995 году. Я выкарыстаў публікацыю Ігара Герменчука «Банда Лукашэнкі выканала загад свайго гаспадара» («Свабода», 15 красавіка 1995), уласны артыкул «Іхнія рукі ўжо ў крыві», («Свабода», 21 красавіка 1995), публікацыю сьведчаньняў дэпутатаў у газэце «Свободные новости» за 15 красавіка 1995, успаміны Лявона Баршчэўскага «Крывавая ноч» («Народная воля», 12 красавіка 2003), а таксама матэрыялы газэты «Пагоня» за красавік 1995 году. На маю просьбу сваімі ўспамінамі пра тую ноч падзяліліся Зянон Пазьняк і Юрась Беленькі. Таксама, падаючы храналёгію падзеяў, пазначаю час, калі яны адбываліся.

Навумчык: «Пасьля 18 гадзінаў прэзыдэнцкая ахова запатрабавала ад журналістаў пакінуць залю. Зразумела, што бальшыня з акрэдытаваных у ВС замежных карэспандэнтаў зрабілі гэта неахвотна: журналіст мае права і абавязаны бачыць падзеі, пра якія піша, на ўласныя вочы. Дарэчы,



Першая спроба супрацоўнікаў службы аховы прэзыдэнта выдаліць дэпутатаў-галадоўшчыкаў з Авальнай залі.

і мы таксама былі зацікаўленыя ў прысутнасьці прадстаўнікоў прэсы: нам здавалася, што пры іх прэзыдэнцкія людзі будуць вымушаныя паводзіць сябе больш прыстойна. Але застацца ўдалося толькі карэспандэнтцы радыё «Свабода» Алене Радкевіч».

22.05. У нас быў пераносны тэлевізар, і мы паглядзелі вечаровы рэпартаж з сэсіі. Зьвярнулі на сябе ўвагу закадравыя словы карэспандэнткі з прозьвішчам Муха: «Прэзыдэнт імкнуўся вырашыць праблему мірнымі шляхамі, але вычарпаў усе магчымасьці». Гэта азначала, што пойдуць шляхамі нямірнымі.



Міхаіл Цесавец і Вячаслаў Каралёў спрабуюць выцягнуць з крэсла Барыса Гюнтэра.

23.00. У Авальную залю ўвайшоў начальнік упраўленьня аховы Міхаіл Цесавец з начальнікам службы аховы прэзыдэнта Вячаславам Каралёвым. Цесавец заявіў, што нібыта паступіў сыгнал (тэлефонны званок) пра закладзеную ў будынку бомбу, што ўсе з будынку павінны быць эвакуаваныя, і таму мы павінны пакінуць Авальную залю. У той момант мы сядзелі ў правым, калі стаць тварам да прэзыдыюму, яго сэктары. Цесавец таксама спаслаўся на загад Грыба пакінуць памяшканьне – але, зьвязаўшыся са сьпікерам, мы даведаліся, што ніякага падобнага распараджэньня Грыб не даваў. Што праўда – калі б і даў, мы б яго ня выканалі, тут было важна перака-

нацца, што Цесавец хлусіць – і пра распараджэньне Грыба, і пра «бомбу». Каралёў заявіў нам: «Мы разьбярэмся з вамі пасьля 14-га траўня» – на гэты дзень былі прызначаныя выбары і рэфэрэндум) .

Разам з Каралёвым і Цесаўцом прыйшлі некалькі дзясяткаў чалавек у вайсковай і міліцэйскай форме, а таксама хлопцы моцнага целаскладу ў скураных куртках і джынсах. Цесавец загадаў ім вывесьці нас з залі, аднак мы паказалі свае дэпутацкія пасьведчаньні і заявілі ім пра крымінальную адказнасьць за парушэньне нашай недатыкальнасьці. Гэта падзейнічала.

Магчыма, таму падзейнічала, што на бальконе ўжо зьявіліся два відэаапэратары, якія здымалі на камэры. Усё, што адбывалася ў Авальнай залі, фіксавалася – патрапілі б на стужку і твары тых, хто прыклаў бы да нас рукі.

Убачыўшы, што падначаленыя не зьбіраюцца выконваць загад, Цесавец і Каралёў самі вырашылі паспрабаваць выцягнуць хоць некалькі дэпутатаў – так бы мовіць, паказаць падначаленым, што з намі няма патрэбы цырымоніцца. Яны спрабавалі выцягнуць з крэслаў спачатку Барыса Гюнтара, потым Ігара Герменчука, але мы ўзяліся за рукі і не аддалі ім сваіх таварышаў.

Пакуль ішла тузаніна зь Цесаўцом і Каралёвым, група сапёраў пад кіраўніцтвам палкоўніка са спэцыяльнай тэхнікай пачала мэтар за мэтрам аглядаць Авальную залю – шукалі «бомбу». Былі і службовыя сабакі (здаецца, дзьве).



Лявонці Зданевіч і Лявон Баршчэўскі. На заднім пляне – супрацоўнікі службы аховы прэзыдэнта.

Далей – зноў цытую ўласнае сьведчаньне з газэты «Свабода».

Навумчык: «А 23-ай гадзіне, калі ў залю ўвайшла прэзыдэнцкая ахова, Радкевіч знаходзілася за сталом старшыні ВС (бо менавіта на ім была настольная лямпа) і працавала над рэпартажам. Рукі ёй не круцілі, але выцягнулі з дыктафона касэту. На нашыя патрабаваньні вярнуць журналістцы яе рабочы матэрыял, ахоўнік адказаў катэгарычным: «Не». Гэта – парушэньне правоў журналіста, зафіксаваных у шэрагу міжнародных дакумэнтаў. Праз некалькі хвілінаў Алену Радкевіч вывелі з залі і затрымалі.

Каля паловы першай ночы мы атрымалі інфармацыю, што Алена Радкевіч не вярнулася да-

хаты: яе апытвалі ў памяшканьні аховы. Некалькі дэпутатаў сышлі на першы паверх. Зрабіць гэта было вельмі проста, бо ўсе дзьверы былі адчыненыя. Міліцыя нават прапанавала мне выйсьці на плошчу, праўда, без гарантыяў вяртаньня ў залю (потым я буду дзякаваць Богу, што ня выйшаў, бо назад бы мяне ўжо не ўпусьцілі, далейшыя падзеі адбыліся б без мяне, і я ня ведаю, як я глядзеў бы ў вочы калегам-дэпутатам. Дый увогуле, як я глядзеў бы ў вочы людзям – удакладненьне 2015 году.) За цэнтральнымі дзьвярыма стаяла група журналістаў – інтэрвію давялося даваць праз зачыненыя шкляныя дзьверы. Журналісты паведамілі, што ў двор Дома ўраду праехаў картэж і ў прэзыдэнцкіх пакоях запалілася сьвятло. Вяртаючыся па левай лесьвіцы, я зазірнуў за фіранкі – на пляцоўцы перад прэзыдэнцкім пад’ездам стаяў «Мэрсэдэс«, побач – міліцэйскія машыны. Шпіль для сьцяжка быў пусты (ня ведаю, якім чынам Лукашэнка зрываў ненавісны яму сымбаль). Між іншым, празь некалькі хвілінаў прэзыдэнцкі лімузін бачыў і Алег Трусаў. Знаходжаньне Лукашэнкі ў Доме ўраду – яшчэ адно пацьверджаньне, што ні ў якую «бомбу» яны ня верылі. Натуральна ж, Вярхоўны галоўнакамандуючы ня мог сабе адмовіць у задавальненьні асабіста кіраваць апэрацыяй па ўзброенай дэпартацыі сваіх палітычных апанэнтаў».

Вярнуўшыся ў Авальную залю, я папрасіў у Ігара Герменчука цыгарэту, хаця і не палю. Мы выйшлі ў калідор, які вёў да памяшканьняў, што месьцяцца за франтальнай сьцяной

(за прэзыдыюмам). Дзьверы ў адзін з пакояў былі адчыненыя, і адтуль чуліся жаночыя галасы. Падышлі – і ўбачылі машыністак, якія здымалі з магнітафонных стужак тэкст для стэнаграмы сэсіі. Жанчыны звычайна працавалі ў некалькі зьменаў, ня быў выключэньнем і той дзень (дакладней, ужо ноч) – дзіўным было хіба тое, што працавалі яны, калі верыць Цесаўцу і Каралёву, пад пагрозай сьмерці, у памяшканьні, якое ў любы момант магло ўзьляцца ў паветра ад выбуху бомбы. Тады як у выпадку рэальнай пагрозы менавіта жанчын трэба было эвакуаваць у першую чаргу. І гэта зрабілася для нас яшчэ адным пацьверджаньнем: ніякай «бомбы» няма, яе прыдумалі.

12 красавіка 1995 г. , 00.41. Сапёры завяршаюць сваю працу, пратакол ад дэпутатаў падпісваюць Алег Трусаў і Барыс Гюнтэр.

Мы вырашылі, што можна легчы адпачыць – тут, на падлозе, тым больш, што яшчэ пад вечар нам прынесьлі спальныя мяхі. Дамовіліся па чарзе дзяжурыць – першым быў Лявон Дзейка.

Спачатку я вырашыў уладкавацца ля прэзыдэнцкай трыбуны – тут нікога не было, бо ўсе леглі ўнізе, ля трыбуны цэнтральнай. На пюпітры быў стос брашураў, якія раздавалі дэпутатам; атрымліваў іх і Лукашэнка. На праектах «Грамадзянскага працэсуальнага кодэксу» і Праграмы выхаду з эканамічнага крызісу былі пазнакі Лукашэнкі ад рукі – выглядае, тэзісы да выступу. У тым ліку – «Мы накануне зимы. Идут игры», «Только поддержка моих предложений многих




Нататкі Аляксандра Лукашэнкі на брашуры, пакінутай ім у Авальнай залі.

заставит работать!». Выглядала, ляжалі гэтыя брашуры яшчэ з восені, патрэбы ў іх ужо ў Лукашэнкі не было. Ды хай бы й была. Я, грэшны, забраў іх сабе. Але ня ў якасьці сувэніру – а каб з часам знайсьці экспэрта-графоляга, які б па почырку мог вызначыць псыхічныя асаблівасьці аўтара гэтых нататак. (Увосень 1994-га я выносіў у Вярхоўным Савеце прапанову аб стварэньні адмысловай камісіі па вывучэньні псыхічнага здароўя Лукашэнкі, але яна не была прынятая. Аднак пра тую ініцыятыву напісала

«Советская Белоруссия», што ўжо праз год будзе выглядаць неверагодным.)

Але нешта ніяк не ўдавалася мне заснуць на гэтым месцы, дзе апошнія некалькі месяцаў гадзінамі прысутнічаў Лукашэнка, дзе, здавалася, застаўся ягоны дух. І сапраўды, у Авальнай залі было ня холадна, але ля прэзыдэнцкай трыбуны дзьмуў такі моцны скразьняк, што можна было падумаць – гэта нейкія інфэрнальныя сілы ня хочуць, каб я там заставаўся. Я спусьціўся ўніз, да цэнтральнай трыбуны, і ўлёгся на падлозе, здаецца, каля Сяргея Антончыка і Валянціна Голубева.

Мне ўсё ж удалося заснуць – але падалося, што сон цягнуўся некалькі сэкундаў.

Пабудзіў голас Валянціна Голубева.

02.35. Голубеў адчуў, як паветра нібыта калышацца – так бывае, калі непадалёку рухаецца вялікая маса людзей. Валянцін таксама пачуў гук, які можа распазнаць толькі той, хто служыў у войску. І каму знаёмы гэты спэцыфічны, ні з чым не параўнальны ляскат, калі мэталёвае зьвяно рэменя дакранаецца да мэталу аўтамата. Гэты гук ня зблытаеш ні з чым. Ён выразны, але нягучны. Я ня ведаю, як Валянцін пачуў яго праз дзьверы. Магчыма таму, што ў Авальнай залі была поўная цішыня. А можа быць, у яго, як і ў мяне, гэты гук стаіць у вушах з тых дзясяткаў разоў, што даводзілася хадзіць у войску ў каравул. У начным зімнім лепельскім лесе гэты ціхі гук быў чуваць за дзясяткі мэтраў. Верагодна, пачуў бы, распазнаў бы яго і я – калі б

не заснуў. Валянцін прачыніў дзьверы ў фае і ўбачыў, што яно поўнае людзей у вайсковай форме з аўтаматамі, імі была запоўненая ўся прастора, іх было некалькі сотняў (пазьней налічаць 600 чалавек – гэта па 30 на кожнага з нас). Шмат хто быў у плястмасавых шаломах, іншыя – у супрацьгазах і рэсьпіратарах. Непасрэдна перад Голубевым быў вайсковец з кулямётам. (Навошта быў кулямёт – мне не зразумела і сёньня. Я разумею, навошта «калашнікавы» – з аўтаматаў нас можна было хутка і надзейна, не пакідаючы параненых, расстраляць. Кулямётам жа можна было толькі ператварыць сьцяну ў Авальнай залі ў друз.)

Пазьней мы зразумеем, як важна было тое, што Валянцін прачнуўся, што ён нешта адчуў, што пайшоў паглядзець за дзьверы: паводле аднаго са сцэнароў (і пра гэта назаўтра ўскосна прагаварыцца Лукашэнка), у Авальную залю павінен быў быць пушчаны ўсыпляльны газ; нас бы вынесьлі адтуль, паклалі б на падлогу пустыя пляшкі з-пад гарэлкі, зьнялі б гэта на тэлекамэры і паказалі па тэлебачаньні (нешта падобнае – прычым са шпрыцамі нібыта з-пад наркотыкаў – зрабілі пасьля разгону намётавага гарадка на Плошчы ў 2006 годзе). Маглі быць і варыянты: газ мог дзейнічаць не ўсыпляльна, а ап'яніць, нас бы зьнялі на камэры, і відовішча па тэлебачаньні было б яшчэ больш цікавым. Тое, што зрабіў далей Голубеў – сарвала падобныя пляны.

Голубеў крыкнуў: «Кулямётчыкі! Пад'ём!».

(Потым некаторыя калегі будуць казаць, што Валянцін крыкнуў пра аўтаматчыкаў. Зусім маг-

чыма. Але – «Пад’ём!» ён крыкнуў дакладна. Гэты крык я чую, нібыта ён прагучаў толькі што.)

Да дзьвярэй падбег Алег Трусаў – і пацьвердзіў, што так, у фае – вайскоўцы.

Імгненна Авальная заля асьвяцілася. Мы пасьпелі апранулца і сесьці туды, дзе былі раней – у правым сэктары прэзыдыюму – некалькі гадзінаў перад тым. Адчыніліся цэнтральныя дзьверы, па праходзе да нас ішлі трое.

02.48. Ігар Гермянчук: «У залю ўвайшлі Цесавец, Каралёў і зь імі невядомы чалавек у паўвайсковым адзеньні (пазьней я апазнаў у ім Юрыя Барадзіча, у той час камандзіра «Альфы«, потым – начальніка службы аховы Лукашэнкі – С.Н.). «Вам даецца пяць хвілін, каб пакінуць памяшканьне. Не губляйце часу», – заявіў Цесавец. Ад нас яны пачулі ранейшы адказ. Цесавец нахабна кінуў: «У вас засталося тры хвіліны». Пасьля гэтага яны разьвярнуліся і пайшлі на выхад.

02.51. Цесавец даў каманду, і ў момант расчыніліся ўсе дзьверы, у залю ўварваліся прыкладна 200 чалавек: першымі да нас беглі грамілы ў чорных масках і цёмных камбінэзонах, за імі – спэцназаўцы ў шлёмах, рэсьпіратарах і з дубінкамі, а па пэрымэтры залі стаялі аўтаматычкі».

Тут спыню цытаваньне Ігара і ўдакладню слова «беглі». Людзі ў чорных масках і такіх самых чорных трыко ня проста беглі па праходзе – некаторыя зь іх скакалі па крэслах, перакульваліся ў паветры, рабілі нейкія акрабатычныя нумары і выкрыквалі нешта падобнае на «Кья!» – напэўна,

гэта рабілася адмыслова, каб увесьці нас у стан шоку. А магчыма, яны накручвалі самі сябе. Потым тагачасны першы намесьнік старшыні КДБ генэрал Валер Кез прызнаецца, што гэта былі афіцэры спэцпадразьдзяленьня КДБ «Альфа». У кожным разе, падскокі працягваліся літаральна дзесяць-пятнаццаць сэкундаў; яны ўскочылі да нас, у правы сэктар прэзыдыюму.

Пазьняк: «У залю пасыпаліся людзі ў чорных масках і чорным адзеньні. Яны ляцелі на нас, як зграя варон. Іх было вельмі шмат».

Гермянчук: «Накінуліся з усіх бакоў. Выцягвалі спачатку тых, хто сядзеў з краю. На Пазьняка адразу ўскочылі трое, пачалі душыць, круціць галаву, упершыся пальцамі ў вочы».

Беленькі: «Той у трыко, што бег наперадзе, зрабіў ў паветры нешта накшталт сальта і ўдарыў нагамі ў грудзі Пазьняка».

Пазьняк: «Пярэднія маскі сходу скочылі на бар'ер і, пераскокваючы празь пярэдніх дэпутатаў (я сядзеў, здаецца, у другім ці трэцім радзе), кінуліся на мяне, топчучы нагамі і хапаючы рукамі. З аднаго я садраў маску. Пад ёй быў азлоблены тып гадоў трыццаці з чорнымі валасамі і вачыма – характэрны мангола-расейскі твар. Тады на мяне накінуліся ўтрох і пачалі тахціць нагамі, стараючыся запіхнуць пад лаву».

Навумчык: «Пазьняк сядзеў перада мной, і я бачыў, што яго білі з асаблівай жорсткасьцю. Адзін «гарыла» ўдарыў яго нагой у грудзі, другі круціў галаву і ціснуў вочы. Потым, калі выводзілі, Пазьняка білі аб сьцяну. Судова-мэдычная

экспэртыза зафіксавала ў яго пяць пашкоджаньняў рознай цяжкасьці».

Баршчэўскі: «(Чалавек у чорнай масцы) схапіў яго (Пазьняка) і спрабаваў выдавіць яму вока».

Пры гэтым Пазьняк здолеў нейкім чынам сарваць з таго маску – як і Ігар Гермянчук.

Гермянчук: «Пакуль дацягнуліся да мяне, удалося сарваць некалькі масак».

Баршчэўскі: «Бакавым зрокам убачыў, як Ігар Гермянчук сарваў усё ж такі маску з аднаго «малпападобнага«, і той... імгненна адбег убок і кінуўся на падлогу!»

Такое дзеяньне чалавека ў масцы выглядала лягічна: ён ведаў, што вядуцца відэаздымкі (здымалі як мінімум тры апэратары, два – на бальконе і адзін – у партэры Авальнай залі), усьведамляў, што робіць злачынства, і не жадаў, каб яго апазналі. У словах Лявона Баршчэўскага няма ніякай супярэчлівасьці з тым, што кажа Ігар Гермянчук, які піша, што сарваў маску зь некалькіх (а не з аднаго) асобаў у чорным – Баршчэўскі пасьпеў ўбачыць толькі аднаго, бо далей...

Баршчэўскі: «Людзі ў чорным імгненна закруцілі мне рукі за сьпіну, прычым так, што мой падбародак апынуўся ніжэй каленяў. Мяне пацягнулі паўкругам папярэчнага праходу, што ішоў уздоўж задняга шэрагу дэпутацкіх крэслаў. Каля крэслаў ланцугом стаялі вайскоўцы ў камуфляжы і поўнай амуніцыі, і кожны зь іх імкнуўся ботам пацэліць мне ў твар. Шмат каму гэта ўдавалася, з разьбітага твару ішла кроў».

Беленькі: «Прынамсі, аўтаматчыкі былі ўжо без рэсьпіратараў. Мяне схапілі ззаду за горла і сталі душыць, потым моцна заламалі левую руку, пры гэтым парвалі мне паліто. У залі чуліся крыкі, гукі ўдараў, шум...»

Пазьняк: «Потым падскочылі яшчэ і выцягнулі мяне ў праход. Двох трымалі за рукі, а трэці чамусьці стараўся выціснуць мне вочы пальцамі ў шархаватай пальчатцы. Я круціў галавой, не даючы падонку зрабіць бандыцкі прыём. Прыём яму ня ўдаўся. Сарваў мне толькі скуру ля пераносіцы. Мне заламалі рукі і пацягнулі да дзьвярэй».

Гермянчук: «Удар у сьпіну, схапілі і пацягнулі (за рукі за ногі). У нейкі момант удалося вырваць адну нагу. Тады схапілі ўжо чалавек шэсьць. Нейкі падонак пачаў біць кулаком у твар. Адчуў, што палілася кроў...»

Мікалай Крыжаноўскі: «Мяне схапілі, закруцілі рукі, выбілі левае плячо».

Скруціўшы нам рукі, людзі ў чорных масках перадавалі нас спэцназаўцам, кожнага цягнулі да дзьвярэй тры-чатыры спэцназаўцы, яшчэ некалькі дзясяткаў стаялі ўздоўж сьцяны Авальнай залі – яны і білі нас нагамі ў твар ці ў жывот.

«Адны зь дзьвярэй адчыняюць галавой каардынатара парлямэнцкай Апазыцыі. («Пагоня»).

Прыгаданым каардынатарам Апазыцыі БНФ быў я, далей ізноў працытую уласны запіс тых дзён.

Навумчык: «Я якраз належу да тых нешматлікіх, каму дасталася менш. Бо сядзеў у цэнтры,

і калі зьлева пачалі круціць дэпутата Беленькага, спрабаваў нешта даказваць ім пра «дэпутацкі імунітэт». Аднак хутка аказаўся са скручанымі рукамі. Потым так і валаклі да самага «варанка». (Сапраўды, якраз маёй галавой адкрылі цэнтральныя дзьверы ў Авальную залю, якія чамусьці былі прычыніліся – мяне цягнулі ці то трое, ці то чацьвёра, і выбілі дзьверы маёй галавой як таранам – здаецца, нават зламалі замок, але паколькі я пішу гэтыя радкі, галава аказалася мацнейшай за дзьверы – удакладненьне 2015 г.) Але пасьпеў убачыць, як білі дубінкаю па сьпіне Віталя Малашку, Мікалая Крыжаноўскага з крэсла выцягвалі за шыю. Перада мной валаклі Беленькага – адзін зь «пятністых» спэцназаўцаў падскочыў і нагой ударыў яго ў жывот».

«Дэпутатаў б'юць прафэсійна: па нагах і нырках, а спускаючы зь лесьвіцы, яшчэ і аб поручні» («Пагоня»).

На Мікалая Аксаміта наваліліся некалькі чалавек у чорных масках, адзін гэтак моцна скочыў на сьпіну, што Мікалай страціў прытомнасьць (яго і вывалаклі з Авальнай залі апошнім).

Пазьняк: «На лесьвіцы ўсюды ланцугом уздоўж сьцен стаялі міліцыянэры. Калі бандзюгі вялі мяне па сходах, то раз-пораз стараліся з размаху ўдарыць аб сьцяну, а падонак, які ішоў з тылу, увесь час біў мяне чаравікамі па нагах. Пад ганак падагналі адчынены хапун, і я, зразумеўшы, што можа быць, рэзка вырваўся і сам ускочыў ў кадлуб, не даючы магчымасьці ім кінуць мяне на жалезную падлогу».

Беленькі: «Мяне пацягнулі, скруціўшы так, што галава знаходзілася на ўзроўні каленяў. Выцягнулі ў двор, там шыхтом стаялі аўтаматчыкі. Пакуль цягнулі ўздоўж шыхта, разоў можа сем ударылі дубінкамі. Там, у двары, у канцы шыхта, стаялі міліцэйскія «газікі». Калі падцягнулі да машыны, тыя што мяне цягнулі (апранутыя ў скураныя курткі), перадалі мяне міліцыянтам. Чалавек у цывільным, які аддаваў каманды, стукнуў мяне кулаком па патыліцы і выгукнуў перад адчыненымі дзьвярамі «газіка»: «З разьбегу закідвайце!» Але мне тут пашэнціла, мяне закінулі без разьбегу, бо калі б з разьбегу, галавой аб сьценку машыны...»

Баршчэўскі: «Мяне павалаклі долу па сходах, што вялі да выхаду ў задні двор Дома ўраду. Там стаялі «уазікі-варанкі» з адчыненымі заднімі дзьвярыма. Мяне падцягнулі да адных дзьвярэй і, нібы бервяно, укінулі ўсярэдзіну машыны».

Навумчык: «Нас кідалі па чатыры-пяць чалавек у жоўтыя «варанкі«, прычым кідалі пераважна галавою ўперад. Нумар майго «варанка» быў 09-03 МИМ. Высадзілі нас у цэнтры гораду. Аляксандра Шута перад тым, як выпусьціць, яшчэ раз жорстка зьбілі дубінкамі».

Гермянчук: «Мяне кінулі ў жоўты міліцэйскі «ўазік» уперад нагамі. Бразнулі дзьверы, і машына выехала ў горад. Нас было пяцёра: Садоўскі, Трусаў, Баршчэўскі, Шут і я. «Хто дзе жыве?» – запытаўся чалавек у скуранцы, які сядзеў побач з кіроўцам. Мы заявілі, каб вёз у Пракуратуру Рэспублікі. Такі варыянт яму, безу-

моўна, не падабаўся, але ў рэшце рэшт мы ўсё ж пад’ехалі да пракуратуры. Выклікалі дзяжурнага пракурора. Прыехала хуткая дапамога».

Баршчэўскі: «Як высьветлілася пазьней, нашая «пяцёрка» дэпутатаў, дамогшыся неадкладнага звароту ў пракуратуру, крыху сапсавала першапачатковыя пляны арганізатараў садысцкай акцыі. Знаёмыя супрацоўнікі тагачаснай аховы Дома ўраду пазьней расказвалі некаторым калегам – дэпутатам, нібыта каля 4 гадзін 30 хвілін той самай ночы дзяжурны па Доме ўраду атрымаў званок ад нейкага быццам бы «сьведкі», які сказаў, што ў раёне плошчы Незалежнасьці адбываецца бойка паміж людзьмі, некаторых зь якіх ён раней «бачыў па тэлевізары»».

Такім чынам, калі б у пракуратуры не была зафіксаваная заява дэпутатаў – на раніцу краіна прачнулася б пад паведамленьне радыё і тэлебачаньня, што дэпутаты-франтаўцы ўчынілі бойку зь «нявыяўленымі асобамі» альбо нават паміж сабой: адсюль у іх і кровападцёкі – які спэцназ, якая «Альфа»? Сцэнароў, як выглядае, было некалькі. Невядома, хто канкрэтна іх распрацоўваў, але можна з абсалютнай пэўнасьцю сьцьвярджаць, што Аляксандар Лукашэнка і кіраўнік прэзыдэнцкай адміністрацыі Леанід Сініцын трымалі «апэрацыю» пад сваім непасрэдным кантролем.

04.00. Усіх дэпутатаў раскідалі ў розных месцах гораду, але, не дамаўляючыся пра гэта папярэдне, мы сабраліся ля гатэлю «Кастрычніцкі». Пайшлі ў так званую «лечкамісію», якая месьцілася непадалёку, на Чырвонаармейскай. Я патэлефанаваў

свайму сябру, карэспандэнту «Известий» Аляксандру Старыкевічу, ён імгненна прыехаў і прысутнічаў пры мэдычным абсьледаваньні.

Баршчэўскі: «Дактары «лечкамісіі» гаварылі нам, што фіксуюць нашыя пабоі, выразна ўсьведамляючы сабе магчымыя нэгатыўныя для сябе наступствы».

Калі мы выходзілі зь лечкамісіі, ужо было сьветла.

Надыходзіў новы дзень – ва ўжо іншай краіне.

## Быкаў: «Краінай закіруе прэзыдэнцкая хунта»

Начныя падзеі ў Авальнай залі 11–12 красавіка 1995 году, на думку некаторых аглядальнікаў, зафіксавалі пераход да новага этапу ў найноўшай гісторыі Беларусі. Але пра ацэнкі палітыкаў і палітолягаў – пазьней, цяпер – пра тое, як зрэагавалі літаральна ў першыя ж гадзіны пасьля зьбіцьця дэпутатаў беларускія пісьменьнікі.

Прывяду два тэксты – паэта і празаіка. Абодва прагучалі ў тыя дні на хвалях Свабоды.

12 красавіка 1995 году Сяржук Сокалаў-Воюш, які тады працаваў у мюнхэнскай рэдакцыі Радыё Свабода, напісаў верш і даслаў яго факсам у Менск – і мы з калегамі-дэпутатамі прачыталі такія радкі:

Галодным – спагада, сытым – праклён,
А галадаючым – нізкі паклон,
А галадаючым – слава і плён...
«А хто гэта іх, не адзін мільён...»?
Бяда? гора?
Брыда й гонар,
Брыда: і здрадніцтва,
І адступніцтва.
Брыда варожасьці
І падкупніцтва,

Гонар за собскасьць,
за люд,
за нацыю,
хай задураную,
абылганую,
але
не памерлую,
не заганную,
Якая раптам на каранацыю
Брыду прывяла праз давернасьць натуры,
А тэй
Захацелася
Дыктатуры...
Галодным – жаль мой,
Сытым – мой стрэл,
А галадаючым – мой жа ўдзел.
«Чаго ж» ізноў «захацелась» нам? —
Прыйсьці ў заўтра, а не ўварвацца,
На зло «господам» і на зло «панам» —
ЛЮДЗЬМІ ЗАВЁМСЯ —
НАРОДАМ ЗВАЦЦА!
Галодным – заклік,
Сытым – гразьба,
А галадаючым – цьвёрдасьць раба,
Што скінуў кайданы з рук
І ёрмы з гарба... касьба й малацьба...
Бязьмежнасьць жыцьця...
А
Ў гэтай бязьмежнасьці
Ёсьць унікальнасьць!
Няма зьліцьця
Ворага Незалежнасьці.

*12 красавіка 1995 году, Мюнхэн.*

Вестка пра тое, што адбылося ў Авальнай залі, разышлася па Менску імгненна. Калі я вярнуўся дахаты, каб хоць некалькі гадзінаў паспаць, патэлефанаваў Уладзімер Арлоў. Празь нейкі час давялося яшчэ раз пераказваць абставіны падзеяў у Авальнай залі – пазваніў Васіль Уладзімеравіч Быкаў.

І неўзабаве на хвалях Свабоды прагучаў быкаўскі камэнтар (пазьней яго зьмясьціла газэта «Свабода», са скарачэньнем; я падаю тэкст так, як яго прачытаў Быкаў):

«Вельмі хацелася б памыліцца, згледзець усё як эпізод у няпростых калізіях палітычнага змаганьня на Беларусі, але, здаецца, памыліцца тут немагчыма. Тое, што адбылося ў апошнія дні, ёсьць ня што іншае, як прэлюдыя фашыстоўскага перавароту, калі група асобаў учыняе крывавую лазьню ў сьценах парлямэнту і захоплівае ўсю паўнату ўлады ў краіне.

Адбылося тое, што нядаўна адбывалася хіба што ў шэрагу лацінаамэрыканскіх краінаў, у чорнай Афрыцы, некаторых краінах Азіі. Але што цікава: нідзе той дыктатарска-фашыстоўскі рэжым не затрымаўся надоўга. У крайнім выпадку, яго хутка зьмяняў такі ж, хоць і пад іншым кіраўніцтвам, які ставіўся да сваіх папярэднікаў гэтак сама бязьлітасна, як тыя ставіліся да сваіх. У нас жа вельмі непрыемна і нават страшна, што ўсё тое інсьпіравана зьверху, пад кіраўніцтвам быццам бы дэмакратычна абранага прэзыдэнта, у руках якога і без таго засяроджана вялізарная сіла.




Першая паласа газэты «Свабода».

Раней ён тую сілу праз сваю славутую «вэртыкаль» пагрозьліва рэалізоўваў на плошчах ды вуліцах, якія захапілі ўзброеныя фармаваньні зь іхняй тэхнікай, як гэта было 9-га красавіка, з арыштам кожнага, хто ў дзень угодкаў БНР адважваўся ўзяць у рукі беларускі нацыянальны сьцяг. Цяпер іх судзяць у розных судах сталіцы. Але самае на ўвесь сьвет ганебнае ён учыніў у парлямэнце, калі прымяніў сілу да жменькі непакорнай апазыцыі. Нават кішэнны па сутнасьці, паслухмяны і пракамуністычны Вярхоўны Савет стаў для яго перашкодай.

Але перашкодай на шляху – куды? Ведама ж, для ўстанаўленьня асабістай дыктатуры, каб «усур'ёз і надоўга». Сёньня ён перамог рукамі «гарылаў» у чорных масках. Ужо пэўна, што на Беларусі ня будзе парлямэнту, ня будзе дэмакратычных выбараў, зьнікнуць рэшткі вольнае прэсы.

Краінай закіруе прэзыдэнцкая хунта, а як кіруе хунта – мы добра ведаем зь нядаўняга вопыту. Беларусь падае яшчэ глыбей у прорву палітыка-эканамічнага крызісу, на выйсьце зь якога страчваюцца апошнія спадзяваньні.

Што ж, можна хіба павіншаваць беларусаў зь мінулымі выбарамі. Горай – ня зробіш. Для сябе, для грамадзтва, для нашчадкаў – таксама».

Апошнімі – па тым часе – былі выбары 1994 году, на якіх прэзыдэнтам краіны быў абраны Аляксандар Лукашэнка.

## «Парлямэнт, у які ўвайшлі войскі – ужо не парлямэнт»

А 6-ай раніцы 12 красавіка агляд у «лечкамісіі» зьбітых у Авальнай залі дэпутатаў Апазыцыі БНФ быў завершаны; лекары юрыдычна зафіксавалі ў нас «цялесныя пашкоджаньні».

Абмеркаваўшы сытуацыю, вырашылі пачаць з таго, каб паінфармаваць пра падзеі кіраўніцтва Вярхоўнага Савету. Мы (Зянон Пазьняк, Алег Трусаў, Валянцін Голубеў, аўтар гэтых радкоў і яшчэ два дэпутаты, ня памятаю хто канкрэтна) пайшлі да старшыні Вярхоўнага Савету Мечаслава Грыба.

Гутарылі мы хвілін пятнаццаць (здаецца, у кабінэце знаходзіўся і віцэ-сьпікер Іван Бамбіза, а таксама быў генэральны пракурор Васіль Шаладонаў).

У асноўным гаварылі мы, а нашы твары з крывападцёкамі і драпінамі падмацоўвалі нашыя словы.

Расповед зрабіў вельмі моцнае ўражаньне і на Грыба, і на Шаладонава. Генэральны пракурор заявіў, што яго ўжо праінфармавалі пра наш начны зварот у пракуратуру і ён пачынае крымінальную справу (у гэтай справе адбылося нават паседжаньне калегіі Генэральнай пракуратуры). Грыб сказаў, што дзяжурныя па КДБ і МУС ад-

маўляюць удзел іх падразьдзяленьняў у зьбіцьці дэпутатаў. Грыб выказаў меркаваньне, што гэта магло быць падразьдзяленьне «Альфа», непасрэдна падпарадкаванае Лукашэнку.

Грыб, памятаю, назваў тое, што адбылося, дзяржаўным злачынствам і вырашыў тэрмінова сабраць Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету.

Мы былі на гэтым паседжаньні Прэзыдыюму і распавялі, што адбылося. Нават нашыя традыцыйныя апанэнты зь ліку былой камуністычнай намэнклятуры, пачуўшы пра начныя падзеі ў Авальнай залі, сядзелі прыгнечаныя.

Член Прэзыдыюму, старшыня парлямэнцкай Камісіі па экалёгіі Барыс Савіцкі (той самы, чый подпіс сфальсыфікавалі ў «лісьце 74-ох» да Лукашэнкі з просьбай правесьці рэфэрэндум), заявіў, што пасьля зьбіцьця дэпутатаў ў Вярхоўнага Савету ёсьць толькі два магчымыя варыянты. Альбо распачаць працэдуру адстаўкі Лукашэнкі, альбо – самараспусьціцца.

«Беларусь яшчэ ніколі гэтак блізка не падыходзіла да мяжы грамадзянскай вайны», – заявіў Грыб.

На Прэзыдыюме была выказана прапанова не праводзіць пасяджэньне ў Авальнай залі Дома ўраду, а сабраць дэпутатаў у будынку, дзе ў той час месьціўся Вярхоўны Савет (раней тут быў ЦК КПБ, пазьней – адміністрацыя прэзыдэнта), у той самай залі, дзе праводзіліся пленумы ЦК, а ў апошнія гады – нарады дэпутатаў. Аднак прагучала меркаваньне, што ў залі няма электроннай сыстэмы галасаваньня.

Тут шмат што залежала ад Грыба – у яго было дастаткова паўнамоцтваў, каб прыняць рашэньне. Алё ён яго не прыняў і вырашыў абмеркаваць гэта на сэсіі Вярхоўнага Савету, якая, паводле пляну, канешне ж, мелася адбывацца ў Авальнай залі (натуральна, ніякага рашэньня сэсія, якая праходзіла ў аточаным спэцназам Доме ўраду, не прыняла; пра вынікі гэтай нерашучасьці сьпікера – пазьней).

На нашай прэсавай канфэрэнцыі, якая сабрала дзясяткі беларускіх і замежных журналістаў, мы расказалі падрабязнасьці начных падзеяў і заявілі, што ў Беларусі адбыўся ўзброены прэзыдэнцкі путч, альбо, іншымі словамі – дзяржаўны пераварот.

Пасьля прэсавай канфэрэнцыі мы пайшлі ў Дом ураду, які ўжо знаходзіўся ў аблозе міліцыі. На плошчы былі невялікія купкі актывістаў Беларускага Народнага Фронту, якіх міліцыя цясьніла да выхаду з мэтро і далей, у сквэр. Міліцыянты вырывалі з рук «франтаўцаў» і рвалі бел-чырвона-белыя дзяржаўныя сьцягі.

Плошча зелянела ад колеру людзей у форме, езьдзілі грузавыя аўтамабілі з закратаванымі вокнамі, раўла сырэна. Было поўнае адчуваньне, што цэнтар сталіцы акупаваны войскамі варожай краіны.

Мы паспрабавалі прайсьці ў Дом ураду, аднак у правае крыло будынку (дзе быў 363-ці пакой Апазыцыі БНФ) нас не пусьціла ахова. Дэпутацкія пасьведчаньні не падзейнічалі. Тады накіраваліся ў пад’езд насупраць – так званы «ўрадавы»

(менавіта ў тым крыле будынку месьціўся Савет Міністраў). Тут ужо сабраліся журналісты, і міліцыі было болей, у тым ліку былі і АМАПаўцы.

Нас проста фізычна спынялі, не даючы прайсьці.

Міліцэйскі начальнік нам паведаміў, што дэпутатаў прапускаюць толькі паводле сьпісу – у якім нашыя прозьвішчы адсутнічалі. Хто падпісаў гэты сьпіс – сказаць адмовіліся.

«Пакажыце мне загад, я – дэпутат Вярхоўнага Савету. І мяне не пускаюць у залю паседжаньняў», – захаваўся відэазапіс патрабаваньня Уладзімера Заблоцкага да міліцыянтаў.

У гэты момант на ўваходзе зьявіўся генэральны пракурор Васіль Шаладонаў. Але і яго не было ў сьпісе (ён і не павінен быў там быць, у сьпіс уносілі толькі дэпутатаў).

Шаладонаў паспрабаваў прайсьці, але яго схапілі за рукі. «Генэральны пракурор? Пайшоў вон!» – афіцэр міліцыі быў катэгарычны, і генпракурору давялося прыкласьці немалыя фізычныя намаганьні, каб вырвацца з рук ахоўнікаў.

Згрупаваўшыся, мы ўсё ж прарвалі ланцуг аховы і пайшлі ў бок Авальнай залі. Вакол нас бегалі нейкія людзі з рацыямі – але нас не кранулі. Разам з намі прарваліся некалькі журналістаў, але іх у Авальную залю не пусьцілі.

У Авальнай залі мы селі не на свае звычайныя крэслы, у якіх правялі пяць дэпутацкіх гадоў, а ў правы сэктар амфітэатру, туды, дзе звычайна сядзелі міністры.



Міліцыя спрабуе не пусьціць Васіля Шаладонава ў Дом ураду. Фота з газэты «Свабода».

Адчувалася, што большасьць дэпутатаў ужо ведалі пра начныя падзеі. Успрынялі яны навіну па-рознаму.

За тое, каб у Авальную залю ўпусьцілі акрэдытаваных журналістаў, выказаўся Генадзь Карпенка. Супраць выступіў былы першы сакратар Лёзьненскага райкаму кампартыі Іван Авін, заявіўшы, што «заклікі да таго, каб зайшлі сюды ў залю журналісты – гэта заклікі да таго, каб сарваць пасяджэньне сэсіі».

Грыб заявіў, што сам ён «нікому ніякіх загадаў не даваў, каго пускаць» і што «прэзыдэнт сказаў, што журналістам ніякіх перашкод ня будзе» і папрасіўся «да прэзыдэнта схадзіць».

Адчувалася, што Грыбу ня столькі трэба вырашыць сытуацыю з журналістамі, колькі ўвогуле

высьветліць, што рабіць. Ён выглядаў разгублена. Хоць рашэньне ляжала на паверхні. Ужо адно тое, што не Вярхоўны Савет, а кіраўнік выканаўчай улады (прэзыдэнт) вырашае, каму быць на паседжаньні парлямэнту, а каго – не пускаць, было досыць важкім пацьверджаньнем страты заканадаўчай уладай сваёй самастойнасьці.

Тым больш, што і дэпутаты (не прадстаўнікі Апазыцыі БНФ) адразу заявілі, што пасьля начных падзеяў працаваць у Авальнай залі нельга.

На жаль, з тым, каб праводзіць сэсію ў падкантрольным Лукашэнку Доме ўраду, а не ў будынку Вярхоўнага Савету, выступіў Генадзь Карпенка. (Трэба прызнаць, што часамі ён выступаў даволі блытана. За дзень да гэтага, жадаючы аспрэчыць эканамічную эфэктыўнасьць прапанаваных Лукашэнкам дамоваў з Масквой, Карпенка выказаўся за трэці пункт рэфэрэндуму (аб інтэграцыі з Расеяй), і ён – адзіны – набраў належную колькасьць галасоў дэпутатаў.)

Аднак большасьць выступоўцаў была за тое, каб пакінуць падкантрольны Лукашэнку Дом ураду – нават тыя, хто асаблівымі сымпатыямі да БНФ не вылучаўся. Як, напрыклад, старшыня парлямэнцкай камісіі па экалёгіі Барыс Савіцкі.

Савіцкі: «Я хачу давесьці да ведама дэпутатаў, што большасьць членаў Прэзыдыюму на ранішнім паседжаньні палічыла сёньня немагчымым праводзіць паседжаньні ў гэтай залі ў сувязі з абстаноўкай, якая склалася, лічыла неабходным праводзіць паседжаньні ў нашым будынку.

Нягледзячы на гэта, вы (Грыб – С.Н. ) пачалі тут паседжаньне як бы нічога і ня здарылася».

Уладзімер Цялежнікаў: «Начнымі падзеямі абражаны статус кожнага чалавека, які мае дэпутацкую недатыкальнасьць. Я вам хачу сказаць, што асабіста я, пры такім прэсінгу і кантролі, у гэтай залі псыхалягічна не хачу працаваць».

Уладзімер Сапронаў: «... Мне маё выхаваньне і мая нацыянальная прыналежнасьць (я рускі чалавек, магчыма, у мяне мэнталітэт не такі, як у беларусаў), не дазваляюць далей трываць вось гэтыя ўсе абразы, Мечаслаў Іванавіч, проста не дазваляюць. І я не магу зьмірыцца з абразай нават не самога сябе, а імя дэпутата Вярхоўнага Савету, за якім стаяць выбаршчыкі – сотні, мільёны грамадзян Рэспублікі Беларусь, у тым ліку і за дэпутатамі Апазыцыі. Таму я, паколькі працую на прафэсійнай аснове, стаўлю Вас, Мечаслаў Іванавіч, у вядомасьць: тут, у гэтай залі, больш ні разу нагі маёй ня будзе. Я зьяжджаю ў Вярхоўны Савет, на сваё працоўнае месца».

Дэпутат Апазыцыі БНФ, палкоўнік міліцыі Ігар Пырх папрасіў у нас прабачэньня, што «ня мог прыняць удзел у акцыі пратэсту» (Як я казаў вышэй, з-за праблем са здароўем Пазьняк параіў яму ўстрымацца ад галадоўкі. У 1999 годзе Пырх заўчасна памёр).

Ігар Пырх: «... Прыношу свае прабачэньні калегам па апазыцыі. Калі мне дадуць маральнае права ўзяць удзел – я вазьму. Але больш за тое, я хацеў бы сказаць і ўнесьці прапанову: так, пагутарыць трэба з прэзыдэнтам. І мала гэтага.

Мне падаецца, надышоў час скончваць выціраць (прабачце за выраз) соплі, трэба разгледзець паводзіны прэзыдэнта. Па-мойму, ужо адназначна ўстала пытаньне пра імпічмэнт».

Вось такім быў адзіна правільны альгарытм дзеяньняў Вярхоўнага Савету і яго старшыні.

Ужо было відавочна, што ў сьценах Авальнай залі адбылося дзяржаўнае злачынства. Хоць юрыдычную ацэнку яму павінен быў і мог даваць толькі суд, але палітычная ацэнка мусіла быць толькі адна: за начнымі падзеямі стаяў Лукашэнка, і гэтым самым ён паставіў пад сумнеў сваё права займаць пасаду прэзыдэнта.

У старшыні Вярхоўнага Савету былі ўсе падставы дзейнічаць рашуча.

Аднак Мечаслаў Грыб выбраў іншае. Ён папрасіў «дазвол схадзіць да прэзыдэнта, таму што ён можа мяне прыняць да 13 гадзін, потым у яго будзе прэс-канфэрэнцыя і так далей, і я такой магчымасьці ня буду мець. Схадзіць і пагаварыць наконт гэтай залі. Потым прыйсьці, вам дакласьці вынікі нашых перагавораў і паставіць на галасаваньне, вырашыць, дзе мы будзем працаваць і як будзем працаваць. Ці згодны вы з гэтым? Згодны».

Прыблізна у 12 гадзін 20 хвілінаў Мечыслаў Грыб вярнуўся зь перамоваў з Лукашэнкам.

Газэта «Пагоня» надрукавала ягоныя адказы журналістам адразу пасьля той сустрэчы: калі іх чытаеш – бачыш, што гэта ўжо зусім ня той чалавек, які яшчэ пару гадзін таму казаў пра небясьпеку грамадзянскай вайны. Асноўны ляй-

тматыў выкладзенай Грыбам уласнай пазыцыі – пошук кампрамісу з тым, з кім шукаць яго было ўжо бессэнсоўна.

«Кар.: Спадар Цесавец сьцьвярджае, што вы санкцыянавалі эвакуацыю дэпутатаў?

Грыб: Я казаў, што калі існуе рэальная небясьпека жыцьцю, патрэбна эвакуаваць, а калі не – хай застаюцца.

Кар.: Якую пазыцыю на пасяджэньні Прэзыдыюму занялі асабіста Вы?

Грыб: Як заўсёды, узважаную. Я не схіляюся ні да аднаго з бакоў, а зараз імкнуся разабрацца ў сытуацыі, якая склалася. Мая галоўная мэта – не дапусьціць кровапраліцьця. Мы апынуліся на самым краі. Я і ў прэзыдэнта быў, і зь Сініцыным размаўляў. Прэзыдэнт кажа, што будынак Дома ўраду – яго рэзыдэнцыя, і што ён нікому не дазволіць парушаць парадак у ёй, нават дэпутатам. Прэзыдэнт таксама гаворыць, што ён быў у курсе ўсіх начных падзей, яму дакладалі.

Кар.: Парлямэнт прыме якое-небудзь рашэньне па начным інцыдэнце?

Грыб: На Прэзыдыюме мы вырашылі падрыхтаваць палітычную заяву з характарыстыкай палітычнай сытуацыі ў краіне напярэдадні выбараў.

Кар.: Але, калі Лукашэнка заяўляе, што ён аб усім ведаў і вырашыў не дапусьціць парушэньняў у сваёй рэзыдэнцыі, то бомба тут ні пры чым?

Грыб: Так, сапраўды, гэтае пытаньне вельмі важнае, але лепш пацікавіцца ў самога прэзыдэнта.

Кар.: Пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу па факце зьбіцьця ці выкрыцьця бомбы?

Грыб: Як я зразумеў з адказу Шаладонава на прэзыдыюме ВС, справа ўзбуджаная па факце зьбіцьця. Аднак я лічу, што сам факт магчымасьцяў выкрыцьця бомбы ў будынку Дома ўраду – ужо крымінальны.

Кар.: Спадар Шаладонаў заявіў, што званок паступіў не ад ананіма, а па ўнутраным тэлефоне...

Грыб: Так, генэральны пракурор сказаў менавіта так.

Кар.: Сёньня ў Авальную залю не пускалі журналістаў. Чаму?

Грыб: Прэзыдэнт мне заявіў, што такіх распараджэньняў ён не даваў. Як толькі я да яго зьвярнуўся, пытаньне было зьнятае.

Кар.: А дэпутатаў ад Апазыцыі?

Грыб: Прэзыдэнт заявіў, што парушылі ўчора парадак. А калі яны будуць сябе паводзіць так, як іншыя дэпутаты, дык нічога супраць гэтых парлямэнтарыяў прэзыдэнт ня мае..»

Гэта вельмі дзіўныя словы з вуснаў сьпікера парлямэнту, які абавязаны кантраляваць выкананьне закону (і, не забудзем, чалавека з вышэйшай юрыдычнай адукацыяй – Грыб быў генэрал-лейтэнантам міліцыі). Дэпутаты маюць права (і абавязак) працаваць на сэсіі паводле Канстытуцыі і законаў, незалежна ад таго, як яны «будуць сябе паводзіць», а не паводле жаданьня прэзыдэнта (які, між іншым, абавязаны быць галоўным гарантам Канстытуцыі). У Грыба проста не хапіла

мужнасьці сказаць Лукашэнку ў твар тое, што ён мусіў бы яму сказаць: што гэтае ночы адбылося дзяржаўнае злачынства, што – мяркуючы па сьведчаньнях дэпутатаў – адказнасьць за гэта нясе сам Лукашэнка, адказнасьць як мінімум палітычную. Варта прызнаць, што генэральны пракурор Шаладонаў у той дзень выявіў куды большую сьмеласьць.

«Кар.: Ці не выключаеце вы магчымасьць пастаноўкі пытаньняў прэзыдэнцкага рэфэрэндуму на паўторнае галасаваньне парлямэнтарыяў?

Грыб: Прэзыдыюм абмяркоўваў гэтыя пытаньні і прыйшоў да высновы, што ставіць на перагаласаваньне пытаньне рэфэрэндуму ня варта.

Кар.: Прэзыдэнт зноўку настойвае на правядзеньні рэфэрэндуму па чатырох пытаньнях?

Грыб: Так, сапраўды. Прэзыдэнт настойвае на правядзеньні рэфэрэндуму па чатырох пытаньнях, прычым яны будуць насіць абавязковы характар».

Пасьля паўгадзіннага перапынку Грыб вярнуўся ў Авальную залю, па маіх адчуваньнях, яшчэ больш дэмаралізаваны і прапанаваў «працягваць разгляд чарговых пытаньняў» гэта значыць, ісьці па парадку дня, у які абмеркаваньне начных падзеяў уключана не было.

У гэты момант у залі зьявіўся дэпутат, начальнік упраўленьня аховы палкоўнік Цесавец – і Валянцін Голубеў, не ўтрымаўшыся, кінуўся на яго. Пабіць ён Цесаўца не пасьпеў – той адскочыў,

Грыб паклікаў у залю ахову, сказаўшы што «ён таксама дэпутат, і ніхто яго яшчэ не абвінаваціў, таму што гэта можа зрабіць суд».

Грыб распавёў пра сваю сустрэчу з Лукашэнкам і перадаў ягоныя словы наконт дэпутатаў Апазыцыі, што «калі яны ня будуць парушаць парадак у рэзыдэнцыі прэзыдэнта, тады няхай прыходзяць і выконваюць свае абавязкі, якія яны лічаць неабходным выконваць. Я перадаю вам ягоныя словы. Няхай прыходзяць і выконваюць свае абавязкі так, як ім належыць. Калі яны будуць парушаць парадак, ён будзе вымушаны прымаць меры, каб гэты парадак усталяваць».

На гэтым у гісторыі беларускага парлямэнтарызму можна было ставіць кропку: сьпікер парлямэнту пагадзіўся з тым, што менавіта прэзыдэнт будзе вызначаць, што і як рабіць дэпутатам, паводле ягонага, Лукашэнкі, разуменьня, што такое «парадак».

Ніякай ацэнкі словам Лукашэнкі Грыб ня даў.

Не правёў ён і абяцанага перад паходам да Лукашэнкі галасаваньня адносна пераносу паседжаньняў з Дома ўраду ў будынак Вярхоўнага Савету.

Замест гэтага Грыб перадаў дэпутатам прапанову Лукашэнкі паслухаць «інфармацыю міністра абароны Анатоля Іванавіча Кастэнкі, а таксама інфармацыю начальніка аховы будынкаў Міхаіла Міхайлавіча Цесаўца».

Міністар абароны, генэрал-палкоўнік Анатоль Кастэнка быў апрануты ў цывільны касьцюм

і дакладаў аб правядзеньні сапёрных дзеяньняў па пошуку «бомбы» .

Ён заявіў, што Лукашэнка яму «паставіў задачу, сказаў, што трэба прыняць усе захады, таму што ён нясе адказнасьць за бясьпеку дэпутатаў».

На пытаньні міністар абароны пагадзіўся адказваць «толькі ў той сувязі, у якой я кампэтэнтны, і ў той частцы задачы, якую мы вырашалі» – тым самым даючы зразумець, што справа яго і ягонага ведамства – выключна пошук «бомбы», які завяршыўся толькі а 12-й гадзіне дня. І што ніякага дачыненьня да сілавога выдаленьня дэпутатаў з залі яго ведамства ня мае.

Галіна Сямдзянава запыталася, чаму «паклапаціліся» толькі пра дэпутатаў, а не эвакуавалі зь небясьпечнага памяшканьня супрацоўнікаў сакратарыяту Вярхоўнага Савету, а таксама Лукашэнку, Сініцына і Ціцянкова.

«Тут, у цэлым, нікога не было, акрамя міліцыі» – адказаў генэрал (што няпраўда: мы зь Ігарам Герменчуком бачылі супрацоўніц сакратарыяту ў памяшканьнях за Авальнай заляй).

На што я і зьвярнуў увагу Кастэнкі:

Навумчык: «Спадар генэрал-палкоўнік, учора ў 10 гадзін вечара (праз паўтары гадзіны, як тут зьявіўся гэты чалавек, які сказаў пра міну) я і дэпутат Гермянчук стаялі вунь там, у тым калідоры і курылі, і бачылі, як па лесьвіцы сыходзілі стэнаграфісткі. Іх ніхто не эвакуаваў. Учора, дакладней ужо сёньня, калі браць па часе, у 1 гадзіну 20 хвілін вось там, ля прэзыдэнцкага пад'езда, з гэтага двара (я спэцыяльна пады-

шоў і паглядзеў) стаялі «мэрсэдэс» са сьцяжком (праўда, сьцяжок быў у чахле), другі «мэрсэдэс» прыкрыцьця і дзьве машыны ДАІ. Такім чынам, Лукашэнка знаходзіўся – правільна, у рэзыдэнцыі, але ў гэтай рэзыдэнцыі, тут. І менавіта, відавочна, ён кіраваў апэрацыяй. Не хачу прасіць Вас адказваць, бо інакш баюся, што яшчэ больш заблытаецеся».

Кастэнка: «Не, я хачу вам сказаць, што вы памыляецеся. Спытайце ў паставых міліцыянтаў – ніякіх «мэрсэдэсаў» тут не было (Шум у залі)».

Гэтая рэпліка сьведчыць, што міністар абароны альбо ўвогуле не арыентаваўся ў сытуацыі («прэзыдэнцкія «мэрсэдэсы» бачыў не адзін толькі я) альбо сьвядома пакрываў Лукашэнку.

Алесь Шут непасрэдна тут, у Авальнай залі, задраў кашулю і паказаў міністру абароны і дэпутатам кровападцёк на сьпіне ад дубінкі. Гэта выклікала ў дэпутатаў эфэкт, які нас вельмі зьдзівіў. Хаця за пяць гадоў знаходжаньня побач з гэтымі людзьмі нішто ў іх рэакцыі нас зьдзіўляць было не павінна.

«Мала далі!» – крыкнуў зь месца Мікалай Дзямянцей, былы (да абвяшчэньня Незалежнасьці) старшыня Вярхоўнага Савету.

«Мала! Трэба было больш!» – крычалі іншыя.

Потым на трыбуну ўзьняўся Міхаіл Цесавец, які імкнуўся абвінаваціць нас у непадпарадкаваньні «законным» патрабаваньням і даводзіў, што сілавых мэтадаў на нас не ўжывалі: «У 2 гадзіны 40 хвілінаў дэпутаты былі праведзеныя



Аляксандар Шут паказвае сьляды ад міліцэйскіх дубінак.

ў машыны і дастаўленыя ва ўказаныя імі месцы (у цэнтры гораду»).

Сярод іншага, Цесавец заявіў, што «...Радкевіч Алена Яўгенаўна, прадстаўнік радыё «Свабода» ў Рэспубліцы Беларусь, з 18 гадзінаў хавалася ў гэтай залі... і ў прэзыдыюме, вось тут... і пад

мяшкамі... І апошняя была выдаленая ў вельмі культурнай форме, без усялякага фізычнага гвалту і прымусу».

Алена сапраўды была ў залі – рыхтавала рэпартаж для радыё. І не пад мяхамі хавалася, а сядзела спачатку за сталом прэзыдыюму (тут было пісаць зручней, чым за дэпутацкімі пюпітрамі), а пазьней – за прэзыдэнцкай трыбунай. Цесавец пабаяўся сказаць пра апошняе – трыбуна Лукашэнкі мусіла заставацца ў вачах насельніцтва некранутай ды сакральнай.

Крыху пазьней у сваім выступе дэпутат Ігар Гермянчук, галоўны рэдактар газэты «Свабода», патлумачыць, што «безумоўна, як толькі пачалася сытуацыя з «замініраваньнем«, мы адсюль пазванілі карэспандэнтам. Гэта іх прафэсійны абавязак, тут яны павінны быць, каля гэтага будынка павінны быць, каб паведамляць навіны. Я як журналіст, калі б мае людзі тут не былі, выгнаў бы іх за гэта з работы».

Словы Цесаўца пра тое, што дэпутатаў нібыта ніхто не зьбіваў, абверг Валянцін Голубеў.

Голубеў: «... пад той час, калі тут стаялі аўтаматчыкі скрозь, калі адусюль ляцела «Альфа» у чахлах на галаве, толькі былі дзьве прорэзі на вачах, як тут нагамі білі дэпутатаў Вярхоўнага Савету на гэтай трыбуне, дубінкамі, вось тут стаялі дзьве відэакамэры, і ўсё гэта здымалася. Як мне завярнулі рукі за сьпіну, і тварам... у падлогу, і нагой ударылі па пазваночніку – я ўпаў, гэта таксама здымалася. Як білі дэпутата Герменчука па твары, гэта таксама здымалася...

Ведаеце, ёсьць у хрысьціянстве, у праваслаўі (і я праваслаўны)... і даруе, магчыма, Бог некаторым і гэтым бязбожнікам. Калі ў царкве прайшло апаганеньне, калі нехта павесіўся, царква не працуе. У парлямэнт, калі ўвайшлі войскі, калі парлямэнт захапілі – гэта ўжо не парлямэнт. Разьбярыцеся вы з гэтым фашызмам, паглядзіце на гэтыя стужкі... Дэпутаты, людзі нас выбралі, каб вы да праўды дабіраліся. Калі будуць біць дэпутатаў, народ беларускі зьнішчаць. У вас ёсьць магчымасьць запатрабаваць, паглядзець і зрабіць выснову. Калі вы гэтага ня зробіце, прыйдзе фашызм, ён ужо ідзе...»

Грыб спыніў Голубева: «Няма чаго тлумачыць па гэтаму пытаньню, таму што ў мяне ёсьць дамоўленасьць аб тым, што гэтыя здымкі, якія здымаліся на кінакамэру (насамрэч – на відэакамэры – С.Н.), будуць усім дэпутатам паказаны. Мяне запэўніў прэзыдэнт у гэтым».

Вера Мечаслава Грыба ў «дамоўленасьць» з Лукашэнкам і ягоныя «запэўніваньні» выглядалі, як найменш, наіўна.

У момант, калі Грыб прамаўляў, на цэнтральную трыбуну выйшаў Ігар Гермянчук – сьпікер быў вымушаны папрасіць уключыць яму мікрафон. Ігар падрабязна, у дэталях, распавёў пра начныя падзеі. Аднак сьпікер некалькі разоў спрабаваў яго спыніць («Ігар Іванавіч, на сёньня хопіць»).

Гермянчук: «... уварваліся праз усе дзьверы, уварваліся трыма шарэнгамі. Першая – гэта людзі ў нейкай чорнай спартовай альбо такой шэрсьця-

ной форме з панчохамі на галаве і толькі вочы прарэзаныя. За імі ішлі спэцназаўцы ў касках, альбо ў рэсьпіратарах, альбо са шчытамі, з дубінкамі і з аўтаматамі. І трэцяя шарэнга... аўтаматчыкі стаялі з аўтаматамі па ўсім пэрымэтры залі. Яны кінуліся адразу вось у гэты сэктар, на Пазьняка кінуліся трое (а тут сядзелі тры чалавекі).

Грыб: Ігар Іванавіч, колькі Вам патрэбна часу?

Гермянчук: Тры хвіліны яшчэ.

Грыб: Дайце дзьве хвіліны. Ён ужо адну прагаварыў.

Гермянчук: Тры хвіліны.

Грыб: Ну, дайце тры.

Гермянчук: Кінуліся і пачалі цягнуць. Я сядзеў у сярэдзіне, я спрабаваў адцягнуць руку, як цягнулі дэпутата Маркевіча. Калі тры бандыты круцілі галаву Пазьняку, я спрабаваў адцягнуць іх рукі і пачаў здымаць гэтыя іх капюшоны (маскі – С.Н.). І сарваў, па меншай меры, пакуль яны да мяне дацягнуліся, чатыры капюшоны. У адзін з момантаў мяне перагрэлі гумавай палкай. Да мяне дабраліся, мяне схапілі, я вырваўся. Яны перакінулі мяне ў нейкія іншыя рукі, і потым, калі я зноў вырваўся, мяне падхапілі шэсьць чалавек і нейкі сёмы бандыт (скот!) ішоў зьверху, несьлі мяне сем чалавек, а ён зьверху кулаком мне разьбіваў нос, раскрывавіў нос. І занесьлі ў машыну пятым чалавекам, ва ЎАЗік кінулі ўперад нагамі. Такім чынам, гэтыя людзі паводзілі сябе па-бандыцку. Маскі ім патрэбны былі ня толькі,

каб схаваць твары, а каб проста не адчуваць ніякіх тармазоў».

Пасьля выступу Ігара Герменчука Мечаслаў Грыб сказаў, што «выслухалі мы і той бок, і той», і прачытаў запіску да яго Лукашэнкі, у якой той пісаў, што можа прыйсьці ў Вярхоўны Савет а 16-й гадзіне, «даць дадатковую інфармацыю, а таксама адказаць на пытаньні дэпутатаў». «Давайце мы зробім перапынак да 16 гадзін і сабяромся, паслухаем прэзыдэнта і будзем працаваць далей».

Грыб паводзіў сабе так, нібыта нічога не адбылося, і парлямэнт можа «працаваць далей».

Але Валянцін Голубеў меў рацыю: парлямэнт перастаў быць парлямэнтам. Памыліўся Валянцін хіба толькі ў тым, што страціў Вярхоўны Савет гэтую функцыю не ўначы, калі ў ягоных сьценах зьбілі дэпутатаў, а ў час дзённага паседжаньня, калі дэпутацкая большасьць на чале са сьпікерам адмовіліся абараніць зьбітых і заклікаць да адказнасьці вінаватых.

Пазьней Алег Трусаў наступным чынам патлумачыць мэтазгоднасьць правядзеньня сэсіі ў будынку Вярхоўнага Савету (а ня Дому ўраду):

«У сваім доме і сьцены дапамагаюць. Будынак Дома ўраду ўжо не належаў Вярхоўнаму Савету, ён належаў прэзыдэнту і ўраду. А будынак на Карла Маркса, 38 яшчэ быў Вярхоўнага Савету. І той мог прыняць рашэньне праводзіць закрытае пасяджэньне, без усялякай дадатковай аховы, але з допускам прэсы, на той час яшчэ шматлікай. І гэта было б вельмі важным стрымліваючым фак-

тарам супраць паўтору начной акцыі. Бо калі б сярод белага дня ў залю пасяджэньняў уварваліся людзі ва ўніформе, то інакш як разгонам парлямэнту, адкрытым пераваротам, відавочным для ўсяго сьвету, гэтую акцыю патлумачыць было б цяжка. Вакол Дома ўраду, у самім будынку пасьля той ночы знаходзілася безьліч людзей у форме».

Сэнс ня толькі ў тым, што перанос пасяджэньня з Дома ўраду дазволіў бы запабегчы паўтору сілавой апэрацыі. Усё магло б адбыцца па-іншаму і ў справе рэфэрэндуму.

На пасяджэньні Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету (і гэта пацьвердзіў у вышэй цытаваным інтэрвію Мечаслаў Грыб) было вырашана не перагаласоўваць прапанаваныя Лукашэнкам на рэфэрэндум пытаньні. Гэта азначала, што рэфэрэндум, калі б Лукашэнка яго ўсё ж правёў, адбываўся б з парушэньнем прадугледжанай законам працэдуры прызначэньня (зрэшты, ужо само зьбіцьцё дэпутатаў зрабіла плебісцыт нелегітымным).

Можна толькі ўявіць, што адбылося б, калі б Грыб заняў рашучую пазыцыю і, як пра гэта заявілі дэпутаты Апазыцыі БНФ, а таксама нават некаторыя члены Прэзыдыюму Вярхоўнага Савета – запатрабаваў пачаць працэдуру імпічмэнту Лукашэнкі.

## Лукашэнка: дэпутаты БНФ пагражалі адрэзаць сабе галовы, а затым выразаць ахоўнікаў

У перапынку паседжаньня сэсіі 12 красавіка мы вырашылі, што больш ня будзем знаходзіцца ў Авальнай залі. Усё, што трэба было сказаць, было сказана, убачылі мы і рэакцыю сваіх калег-дэпутатаў: палітра эмоцый, ад страху да зларадзтва, што нас зьбілі.

А 16-ай, адразу пасьля перапынку, да мікрафона выйшаў старшыня Апазыцыі БНФ.

Пазьняк: «Шаноўны Мечаслаў Іванавіч! Спадары дэпутаты! Мы сёньня прапрацавалі першую палову нашага пасяджэньня і з усёй відавочнасьцю пацьвердзілі старую аксіёму: парлямэнт, у які былі ўведзеныя войскі, ужо не парлямэнт. Таму мы ня можам працаваць больш у гэтай залі, пакідаем яе і прадаўжаем галадоўку ў іншым месцы – у Вярхоўным Савеце».

Грыб адказаў, што «ў нас галадоўка не забаронена».

Яшчэ некалькі гадзінаў перад гэтым Грыб сьцьвярджаў, што Беларусь наблізілася да грамадзянскай вайны – цудоўна разумеючы, што каталізатар гэтага працэсу ня хто іншы, як Лукашэнка.

Але цяпер з вуснаў сьпікера гучала іншая лексыка. Калі чытаеш словы Грыба праз шмат гадоў – дзівісься імгненнай зьмене настрою, гэтаму піетэту, гэтай гатовасьці падпарадкоўвацца Лукашэнку.

Грыб: «Каб нам не затрымліваць паважанага прэзыдэнта Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнку, які пажадаў прыйсьці сёньня і даць нейкую дадатковую інфармацыю і адказаць на нашы пытаньні... Я ўношу прапанову, Аляксандар Рыгоравіч, каб вы гэта спачатку зрабілі, а потым, калі застанецца час, будзем іншыя пытаньні разглядаць, таму што ў вас таксама шмат спраў і мы ня можам вас трымаць тут доўга».

На пачатку пасяджэньня Лукашэнкі ў Авальнай залі не было – ён назіраў за выступамі па маніторы ў сваім кабінэце, які месьціўся тут жа, у Доме ўраду, на тым самым паверсе, што і ўваход у Авальную залю. Зь ягонага маналёгу мы зразумелі, што ўсе папярэднія гадзіны ён уважліва сачыў за выступамі ў Вярхоўным Савеце.

У папярэднія тыдні Лукашэнка некалькі разоў выступаў перад дэпутатамі і казаў, што вось ужо гэты выступ – апошні, больш ён сюды ня прыйдзе. Але – прыходзіў. Гэтым разам Лукашэнка ня проста ўвайшоў, а ледзь ня ўбег у Авальную залю ў атачэньні целаахоўнікаў. Ён сеў за прэзыдэнцкую трыбуну і, пэўна, даў нейкі знак Грыбу, што хоча выступіць.

Што далей адбывалася ў Авальнай залі – мы ўжо бачылі па маніторах з пакоя прэс-цэнтру на першым паверсе Дома ўраду.



СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ

Основана в августе 1927 года

Среда, 12 апреля 1995 года

## Голодовка: жест отчаяния или рекламный трюк перед новой избирательной кампанией?



## Оппозиция добилась своей цели. Скандал состоялся. Тем не менее договор с Россией ратифицирован

Гэткімі загалоўкамі адгукнулася на падзеі ў Авальнай залі прэзыдэнцкая «Советская Белоруссия».
На здымку ўнізе справа аўтар спрачаецца зь міністрам абароны генэрал-палкоўнікам Анатолем Кастэнкам.

Выступ Лукашэнкі быў адным з самых эмацыйных ягоных маналёгаў за ўвесь час дзейнасьці Вярхоўнага Савету. Але пры гэтым, прамаўляючы, ён уважліва сачыў за рэакцыяй у залі, рэагуючы ня толькі на рэплікі дэпутатаў, але і на міміку журналістаў (так, накінуўся на Аляксандра Старыкевіча, які пасьмяяўся зь нейкіх словаў Лукашэнкі – а слухаць тыя словы бязь сьмеху, нягледзячы на ўвесь драматызм сытуацыі, было цяжка).

Лукашэнка імкнуўся даказаць, што менавіта дэпутаты Апазыцыі вінаватыя ў «дэстабілізацыі сытуацыі» і што з дэпутатамі нічога дрэннага не рабілі – наадварот, выратоўвалі іх жыцьцё. З вуснаў прэзыдэнта гучалі абсурдныя заявы. Працытую некалькі ягоных выказваньняў у арыгінале – з камэнтарамі.

Лукашэнка: «Знал или не знал президент о том, что происходило здесь, в своей резиденции, в резиденции правительства? Уважаемые депутаты! Ну конечно же, знал... Ну конечно, знал президент. Президент не просто знал, президент каждые 30 минут был информирован (как глава государства) министром обороны о том, что происходит здесь, в Доме правительства. Поэтому я прямо, откровенно отвечаю на ваш вопрос: знал! Более того вставал вопрос – какова роль президента в защите голодающих здесь людей? Правда (вы не волнуйтесь) никто здесь не голодал. Всё тут было: и поспать, и закусить. Всё было. И рвались сюда, подносили понемножку (это так по-простецки, по-мужицки говоря). Всё

здесь было, никто с голоду тут бы не умер. И ради Бога, пусть бы здесь голодали. Насмешили людей, опозорили парламент, пятно бросили на этот Верховный Совет, которому осталось два дня работать. Но это была позиция. Этим людям надо было... Поэтому непосредственная моя роль была в защите жизни этих людей».

Гэта была адна з асноўных тэзаў, якую ў наступныя дні, перад выбарамі, імкнулася распаўсюдзіць афіцыйная прапаганда: дэпутаты не галадавалі, яны елі і нават пілі. Ну а калі нехта паведаміў пра «бомбу» – давялося іх выратоўваць.

Лукашэнка: «Я не верил в то, что какой-то там может произойти взрыв, я думал о провокации, я просто подспудно подумал: «А вдруг?» Но не верил, поэтому принял решение сюда поехать. Но когда Леонид Григорьевич вместе с людьми, которым я поручил находиться постоянно здесь, позвонил мне и сказал: «Мы категорически против того, чтобы вы здесь находились. Служба безопасности категорически отказалась обеспечить безопасность». Это её право по положению.

...И я ни на каких «мерседесах» сюда не ехал. Наумчик (я слышал) говорит, что там флажок был в чехле. Машина стоит во дворе. Идите посмотрите, как можно зачехлить флажок, и зачем? Флажок мой (на моём автомобиле) снимается. Он снимается, а не зачехляется. И как Наумчик, если он здесь сидел, он не мог в час ночи выйти... Насколько я знаю, выйти он не мог, потому что я распорядился: смотрите депутатов,

чтобы чего-либо не случилось. Пусть находятся в пределах этого зала. Они просто физически не могли куда-то пройти, выйти и так далее... По моей информации (которую я получил), они вцепились здесь друг за друга и сидели, а потом уснули. Поэтому это враньё, что они видели тут, как на «мерседесе» приехал Лукашенко, а второй «мерседес» сопровождал. Меня второй «мерседес» не сопровождает».

Лукашэнка забыўся, што людзям (нават дэпутатам Вярхоўнага Савету) час ад часу трэба хадзіць у прыбіральню, якой у Авальнай залі не было. Увогуле, з Авальнай залі (ва ўсякім разе, да моманту, пакуль мы леглі спаць прыблізна а першай гадзіне ночы) мы маглі свабодна выйсьці праз некалькі ўваходаў і гэтак жа свабодна вярнуцца. Напрыклад, у часе перапынку паміж пасяджэньнямі і ўвечары я хадзіў ў машынапіснае бюро. А першай гадзіне ночы мы зь Ігарам Герменчуком выходзілі папаліць у калідор, вокны якога якраз выходзяць да «прэзыдэнцкага» пад'езду ва ўнутраным двары Дома ўраду. Перад гэтым журналісты, зь якімі я размаўляў праз дзьверы цэнтральнага ўваходу ў Дом ураду, паведамілі што ў двор праехаў прэзыдэнцкі картэж. Два «мэрсэдэсы» разам зь міліцэйскімі машынамі я і ўбачыў ля «прэзыдэнцкага» пад'езду – адзін зь іх быў менавіта лукашэнкаўскі, са шпілем для сьцяжка. Што яшчэ раз пацьвярджае: Лукашэнка быў у Доме ўраду.

Лукашэнка: «Я абсолютно не препятствовал никаким действиям МВД, спецподразделений,

которые эвакуировали отсюда людей. Отнюдь. Единственное, я говорил: учтите, нас провоцируют. Ни в коем случае, даже не царапните этого человека, поскольку будет гвалту на весь мир... Когда их пришли эвакуировать, они все были уже одеты. Их препроводили по три человека в машину. Я говорю: больше машин подгоните, «уазик», легковые машины, отвезите домой. Захотели к Верховному Совету. Ну, к Верховному Совету их и завезли».

Пад «этим человеком» Лукашэнка мае на ўвазе Зянона Пазьняка. Менавіта на Пазьняка першага накінуліся афіцэры «Альфы» ў чорных масках, і менавіта яго зьбівалі найбольш жорстка. Пасьля таго, як Валянцін Голубеў нас пабудзіў, мы сапраўды пасьпелі апрануцца і селі ў правым сэктары прэзыдыюму. Адносна ж «их препроводили» – у міліцэйскія «варанкі» нас кідалі галавою ўперад, а Алеся Шута, перш чым выкінуць ля сквэру Янкі Купалы, зьбілі дубінкамі.

Лукашэнка: «Когда мне Тесовец со слезами на глазах позвонил около 12 часов ночи и сказал: Александр Григорьевич, не получается по-хорошему, повынимали ножи, достали лезвия. Первое, говорят, вскрываем вены, отрезаем себе головы и вас повырезаем, кровью зальём здесь всё. Ну, извините, такие угрозы в резиденции президента – это уже слишком».

Камэнтуючы гэты пасаж Лукашэнкі, я тады параіў яму не чытаць на ноч «Вершнік без галавы» Майн Рыда (хаця гэта была мая любімая кніга ў дзяцінстве). Трэба мець багатую фантазію,

каб уявіць сабе людзей, якія спачатку адразаюць сабе (альбо адзін аднаму) галовы, а потым (безгаловыя) носяцца па Авальнай залі за ахоўнікамі прэзыдэнта, залiваючы ўсё крывёю. Такое – і тут нельга не пагадзіцца з Лукашэнкам – сапраўды «уже слишком» дзе б тое ні было, а ня толькі ў рэзыдэнцыі прэзыдэнта.

Між іншым, цягам свайго выступу Лукашэнка некалькі разоў ужываў гэты выраз – «рэзыдэнцыя прэзыдэнта» у дачыненьні да Дома ўраду, тады як ягоная адміністрацыя і падпарадкаваны яму Кабінэт міністраў займалі толькі частку Дома ўраду. Авальная заля да маёмасьці Кіраўніцтва справамі прэзыдэнта не належала. Лукашэнка гэта ведаў, але яму важна было нават і праз гэта даць зразумець дэпутатам – тым, якія засталіся ў залі – што яны залежаць ад яго.

Гэты псыхалягічны ціск на дэпутатаў адчуваўся цягам усяго выступу Лукашэнкі. Супрацьстаяць яму ў тых умовах магла б толькі цьвёрдая пазыцыя старшыні Вярхоўнага Савету – але Мечаслаў Грыб сядзеў прыгнечаны і ніякіх рашучых крокаў не зрабіў (у тым ліку і тады, калі Лукашэнка абрынуўся на Генэральнага пракурора Шаладонава, і калі ён загадаў расейскім журналістам зьяжджаць зь Беларусі – маючы на ўвазе словы Грыба, што Беларусь наблізілася да мяжы грамадзянскай вайны).

Ва ўмовах відавочнага парушэньня Лукашэнкам і ягонымі падначаленымі закону – гэта азначала ўстаць на іх, парушальнікаў, пазыцыю.

У той самы дзень дэмаралізаваныя ціскам Лукашэнкі і бязвольнымі паводзінамі Грыба дэпутаты прагаласавалі за ратыфікацыю Дамовы аб двухбаковых беларуска-расейскіх адносінах.

Тады ж, увечары 12 красавіка, мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, прынялі заяву, у якой абвясьцілі пра спыненьне палітычнай галадоўкі.

«11 красавіка 1995 г. у 9.35 беларускага часу мы, група дэпутатаў Вярхоўнага Савету Апазыцыі Беларускага Народнага Фронту, у колькасьці 19 чалавек, пратэстуючы супраць грубых парушэньняў Канстытуцыі і законаў дзяржавы Прэзыдэнтам і Вярхоўным Саветам, супраць згубнай палітыкі Прэзыдэнта і большасьці Вярхоўнага Савету, якая накіраваная на канчатковае разбурэньне нашай эканомікі, незалежнасьць нашай дзяржавы і раскол грамадзтва шляхам правядзеньня незаконнага рэфэрэндуму, вымушаны былі пайсьці на крайнюю меру – абʼявіць палітычную галадоўку проста ў залі Вярхоўнага Савету. Аднак пасьля таго, як ноччу з 11 на 12 красавіка ў залю сэсій Вярхоўнага Савету, дзе мы праводзілі палітычную акцыю галаданьня, былі ўведзены вайсковыя фармаваньні, узброеныя аўтаматамі і дубінкамі ў колькасьці некалькіх сот чалавек, якія напалі на нас, прымянілі фізычную сілу, зьбілі да крыві многіх дэпутатаў непасрэдна ў пасяджэньні залі парлямэнту і груба вывалаклі на вуліцу, зважаючы таксама на няспынныя пагрозы нашаму жыцьцю, якія зыходзяць ад розных сілавых структураў, падпарадкаваных прэзыдэнту А. Лукашэнку, мы ня можам прадаўжаць палітычную галадоўку.

Гвалтоўным незаконным спосабам нас пазбавілі магчымасьці праводзіць грамадзкую акцыю, чым груба парушылі нашы грамадзянскія, чалавечыя правы, дэпутацкую недатыкальнасьць, Канстытуцыю і Закон аб статусе дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

12 красавіка ў 20 гадзін 25 хвілінаў мы, знаходзячыся ў будынку Вярхоўнага Савету, прынялі рашэньне аб спыненьні галадоўкі.

Дэпутаты Апазыцыі БНФ: З. Пазьняк, В. Голубеў, Л. Баршчэўскі, А. Шут, С. Навумчык, У. Заблоцкі, С. Антончык, А. Трусаў, В. Малашка, М. Крыжаноўскі, Б. Гюнтэр, П. Садоўскі, Л. Зданевіч, М. Маркевіч, Л. Дзейка, І. Гермянчук, С. Папкоў, Ю. Беленькі, М. Аксаміт».

Тым часам у Авальнай залі панаваў страх. Дэпутаты былі вымушаныя працаваць фактычна пад ціскам – псыхалягічным, маральным, дый сілавым. І падзеі наступных сутак гэта пацьвердзілі.

Назаўтра, 13 красавіка, Мечаслаў Грыб вёў сэсію, нібыта нічога і ня здарылася, а дэпутаты ў шпаркім тэмпе прымалі законы (напрыклад «Аб патэнтах на гатункі расьлінаў»). Ратыфікавалі Дамову паміж Беларусьсю і Расеяй «Аб сумесных намаганьнях па ахове дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь», якая давала Маскве практычна неабмежаваныя магчымасьці кантролю над беларускімі памежнымі войскамі. Акрамя таго, Дамова прадугледжвала, што «беларускі бок дае паветраным судам памежных войскаў Расейскай Фэдэрацыі права на бязвыплатнае

выкарыстаньне сваёй паветранай прасторы, аэрапортаў, аэрадромаў, пасадачных пляцовак, атрыманьне навігацыйнай, мэтэаралягічнай і іншай інфармацыі».

Нарэшце, дэпутаты, якія засталіся ў Авальнай залі, зацьвердзілі ўсе пытаньні рэфэрэндуму ды з энтузіязмам абвясьцілі 7 лістапада, дзень «кастрычніцкай рэвалюцыі» – дзяржаўным сьвятам.

Лукашэнка зноў і зноў браў слова, агітаваў за саюз з Расеяй, прагаворваўся, што выбары не адбудуцца, што ніводзін дэпутат Апазыцыі БНФ у новы Вярхоўны Савет не патрапіць.

А ў буфэце пад Авальнай заляй ужо былі накрытыя сталы.

Урыўкі са стэнаграмы:

Лукашэнка: «... я приглашу сейчас этот весь зал за счёт государства. Слышите? Я имею право. И выпьем и по сто, и по двести граммов...»

Грыб: «Дзякуй. Усіх вас чакаюць у буфэце».

## Ці надзяваў Лукашэнка чорную маску?

Калі старшы сьледчы па асабліва важных справах пры Генэральным пракуроры Бролішс скончыў афіцыйную частку гутаркі, ён устаў, падышоў да вакна і, павярнуўшыся да мяне, спытаўся:

– Сяргей Іосіфавіч, як Вы думаеце – хутка гэта ўсё скончыцца?

Ня трэба было тлумачыць, што ён мае на ўвазе пад «гэта ўсё» – але і нешта канкрэтнае адказаць я, вядома, ня мог. Думаю, што сьледчы і не чакаў ад мяне такога адказу, а проста хацеў паказаць свае адносіны да новых парадкаў.

У той самы дзень Бролішс мне сказаў, што Адміністрацыя прэзыдэнта, якой кіраваў Леанід Сініцын, адмовілася перадаць у пракуратуру відэазапіс зьбіцьця дэпутатаў. На касэце, якую далі ў адміністрацыі, бачна толькі, як мы сядзім у правым сэктары прэзыдыюму – за некалькі сэкундаў да таго, як у Авальную залю ўвайшлі Цесавец, Каралёў і невядомы ў кепцы колеру хакі. Аднак на гэтым запіс абрываецца.

Для нас імя Бролішса было гарантыяй таго, што сьледзтва пойдзе сур'ёзна: менавіта Бролішс расьсьледаваў у канцы 80-ых справу па Кура-

патах і, паводле ацэнак Пазьняка, паказаў сябе чалавекам сумленным і прынцыповым.

Такое самае ўражаньне Бролішс зрабіў і на мяне пры асабістым знаёмстве. Кожнага з удзельнікаў галадоўкі выклікалі ў Генэральную пракуратуру, і мы дэталёва апісвалі Бролішсу падзеі той ночы.

Даволі хутка Бролішсу ўдалося апытаць удзельнікаў падзеяў – за выключэньнем тых самых загадкавых «людзей у масках».

Праўда, і тыя, хто прыходзіў на допыт у пракуратуру, давалі, мякка кажучы, няпраўдзівыя паказаньні: усе яны заявілі, што дэпутатаў не зьбівалі, тады як нас білі ня толькі тыя, у масках, але і спэцназаўцы, якія цягнулі нас па Авальнай залі і па прыступках у варанкі. А Алесь Шут быў зьбіты дубінкамі ўжо пасьля таго, як яго выкінулі ля сквэру Янкі Купалы.

5 кастрычніка 1995 году Язэп Бролішс прыняў рашэньне аб прыпыненьні папярэдняга сьледзтва па крымінальнай справе, узбуджанай 12 красавіка 1995 г. па факце зьбіцьця дэпутатаў. Працытую фрагмэнт Пастановы:

«Устаноўлена, што ў Доме ўраду былі вайскоўцы ўнутраных войскаў першай роты вайсковай часткі 3214 у колькасьці 37 чалавек, першай роты вайсковай часткі 5448 у колькасьці 43 чалавек, атрад міліцыі асаблівага прызначэньня МУС у складзе 86 чалавек, 24 службоўцы Галоўнага ўпраўленьня аховы МУС. Гэтыя ваеннаслужачыя і супрацоўнікі міліцыі дапытаныя, паказалі, што гвалту адносна дэпутатаў не ўжывалі.

Апроч вышэйназваных, у Доме ўраду былі і зьдзяйсьнялі актыўныя дзеяньні ў адносінах да дэпутатаў падразьдзяленьні, ведамасная прыналежнасьць і асабісты склад якіх сьледзтвам ня выяўленыя.

Наяўныя ў справе зьвесткі пра ўдзел у падзеях, што расьсьледуюцца, ваенізаванага фармаваньня органаў дзяржбясьпекі па барацьбе з тэрарызмам кіраўніцтва КДБ РБ не пацьвердзіла.

Датычнасьць войска ў падзеях у Доме ўраду Міністэрства абароны адмаўляе.

Упраўленьнем аховы пры прэзыдэнце рэспублікі неаднаразовыя запыты пракуратуры пакінутыя без рэагаваньня.

Касэты відэазапісу, выкананага ў залі пасяджэньняў Вярхоўнага Савету, Адміністрацыя прэзыдэнта сьледзтву не перадае. Зьмест касэтаў мае істотнае значэньне для вызначэньня кола ўдзельнікаў падзей, што расьсьледуюцца, выяўленьня іх асобаў, ступені ўдзелу і магчымай віны, і, такім чынам, выяўленьня ісьціны па справе...

Улічваючы, што па справе вычарпаныя ўсе магчымасьці для зьбіраньня дадатковых доказаў сьледчым шляхам, кіруючыся п. 3 арт. 194 КПК РБ, пастанавіў: папярэдняе сьледзтва па справе прыпыніць праз невыяўленьне асоб, якія падлягаюць прыцягненьню ў якасьці абвінавачаных».

Такім чынам, Бролішс пералічвае тых супрацоўнікаў сілавых ведамстваў, каго яму ўдалося апытаць (усяго 190 чалавек). Гэта – далёка ня поўная колькасьць тых, хто знаходзіўся ў тую ноч

у Доме ўраду (неафіцыйна Бролішс казаў, што было каля 600 чалавек).

Але самае галоўнае – сьледчаму так і не ўдалося высьветліць, хто былі тыя людзі ў чорных трыко і чорных масках, якія першымі напалі на дэпутатаў? Тыя самыя, «ведамасная прыналежнасьць» якіх «ня выяўленая».

Хто зьбіваў дэпутатаў Апазыцыі БНФ? – пытаньне, на якое няма афіцыйнага адказу і сёньня. Але – толькі афіцыйнага. Выканаўцаў злачыннага загаду можна даволі лёгка выявіць; некаторыя іх імёны добра вядомыя.

Дык хто ж гэта быў?

Існавала некалькі вэрсіяў, і кожная зь іх мела аргумэнтацыю.

Казалі, што гэта былі супрацоўнікі службы аховы Лукашэнкі. На карысьць гэтага быў той факт, што за тры гадзіны да зьбіцьця, калі начальнік упраўленьня аховы Цесавец і начальнік службы аховы Лукашэнкі Каралёў спрабавалі выдаліць нас з Авальнай залі, – разам зь імі былі пара дзясяткаў маладых людзей у джынсах і скураных куртках (іх удалося сфатаграфаваць Лявону Дзейку), якія прайшлі ў сэктар прэзыдыюму, дзе мы сядзелі, аднак ніякіх сілавых дзеяньняў да нас не зьдзяйсьнялі. Магчыма – яны рабілі, так бы мовіць, рэкагнасцыроўку, вывучалі месца будучых дзеяньняў (а таксама і прыглядаліся да нас, аб’ектаў гэтых самых дзеяньняў).

Але тое, што мы перад самым зьбіцьцём селі ў той самы сэктар, дзе і сядзелі раней – супадзеньне: мы маглі сесьці і ў іншыя крэслы.

Дарэчы, потым казалі, што сярод гэтых «гарылаў» у чорных масках мог быць і Лукашэнка, які не адмовіў сабе ў задавальненьні асабіста нанесьці ўдары па сваім палітычным праціўніку – Зянону Пазьняку.

У гэтым сэнсе паказальны ліст, зьмешчаны неўзабаве пасьля падзеяў у газэце Свабода.

«Быў ці не прэзыдэнт Лукашэнка сярод гарылаў у чорных масках, якія зьбівалі дэпутатаў Вярхоўнага Савету ў ноч 12 красавіка? Гэтае пытаньне шмат каго хвалюе. У кожным выпадку ён як прэзыдэнт павінен несьці маральную адказнасьць за ўсё, што адбылося. Але ж ці можа несьці маральную адказнасьць чалавек, які ня мае сумленьня?

Хто-хто, але менавіта грамадзянін А. Лукашэнка са сваімі доўгімі рукамі ды кароткім розумам хацеў бы адкруціць галаву Зянону Пазьняку. У гэтым няма сумневу. І каб адвесьці душу, у гэтай сытуацыі Лукашэнку спатрэбілася б ня больш за тры хвіліны – і гэта зусім не перашкодзіла б даваць каштоўныя ўказаньні па тэлефоне праз кожныя трыццаць хвілінаў. У ягонае 100-працэнтнае алібі няма веры, як і ня можа быць ніякага даверу да такога прэзыдэнта. Тым больш, што ўзровень маральнасьці, які ён дэманструе ў сваіх публічных выступах, сьведчыць аб наяўнасьці ў гэтага чалавека пры высокай уладзе садысцкіх схільнасьцяў.

Таму, пакуль ня будуць сарваныя маскі з усіх пасланых прэзыдэнтам і ягонай камандай бандытаў, ня будуць устаноўленыя і абнародаваныя

іх асобы і фізіяноміі, падазрэньне аб асабістым удзеле грамадзяніна Лукашэнкі А.Р. у бандыцкім нападзе на дэпутатаў застаецца. Галіна Самко» («Свабода», 6 траўня 1995).

Ведаючы Лукашэнку, я цалкам дапускаю, што ён мог бы выявіць такое жаданьне, пра якое напісала аўтарка ліста ў газэту.

Але гэтая вэрсія адразу падаецца мне нерэальнай, і вось чаму.

У часе «апэрацыі» ў Авальнай залі знаходзіліся дзясяткі ўзброеных аўтаматычнай зброяй людзей, і ніхто ня мог даць ніякай гарантыі, што не пачнецца страляніна і куля – выпадкова – не пацэліць Лукашэнку ў лоб.

З гэтай прычыны магчымасьць прысутнасьці Лукашэнкі ў гэты момант у Авальнай залі выключалася – кіраўніцтва службы аховы хутчэй бы адмовілася ад апэрацыі, чым падставіла свайго патрона. Лукашэнка быў у сваім кабінэце за некалькі дзясяткаў мэтраў ад месца падзеяў, магчыма, назіраў за падзеямі па маніторы (і ўжо дакладна прагледзеў потым відэастужку) – але ў Авальнай залі яго не было.

Іншая вэрсія, якая абмяркоўвалася – што дэпутатаў зьбівала дасланая з Расеі (магчыма, з Масквы) група нейкай спэцслужбы.

Першы аргумэнт на карысьць гэтай вэрсіі – тое, што пасьля начнога візыту Цесаўца і Каралёва прайшло амаль тры гадзіны, і за гэты час якраз даляцеў самалёт з камандай «чорнамасачнікаў». Такое рэальна, асабліва калі ўлічыць, што апэра-

цыя магла быць распрацаваная ў Маскве альбо з удзелам расейскіх «кансультантаў».

Другі аргумэнт – калі зьбівалі Мікалая Крыжаноўскага і ён крыкнуў – «Што вы робіце, вы ж беларусы!» – яго пачалі біць яшчэ мацней. У некаторых маіх калегаў было ўражаньне, што людзі ў масках не разумеюць значэньня беларускіх словаў.

Аднак падзеі, якія адбываліся ў наступныя гады, калі ўжо не загадкавыя людзі ў чорных масках, а міліцыянты, беларускія хлопцы, набраныя зь беларускіх гарадоў і вёсак, жорстка, у кроў зьбівалі ўдзельнікаў масавых акцый і пры гэтым асабліва зьдзекаваліся з тых, хто размаўляў па-беларуску – паказалі, што нянавісьць да беларускага – зусім неабавязкова ўласьцівасьць прыхадняў.

У 2015 годзе ў інтэрвью Радыё Свабода былы кіраўнік прэзыдэнцкай адміністрацыі Леанід Сініцын сказаў, што кіраваў зьбіцьцём дэпутатаў камандуючы ўнутранымі войскамі Валянцін Агалец.

Увосень 1995 году тагачасны выканаўца абавязкаў Генэральнага пракурора Васіль Капітан сказаў мне ў прыватнай гутарцы, што першы намесьнік старшыні КДБ Рэспублікі Беларусь Валер Кез, сапсаваўшы адносіны зь Віктарам Шэйманам (на той час – сакратар Рады бясьпекі), прызнаўся, што зьбівала нас спэцпадразьдзяленьне афіцэраў КДБ «Альфа». Аднак, сказаў Капітан, паколькі гэтае падразьдзяленьне звышсакрэтнае – КДБ адмовіўся перадаць прозьвішчы ўдзельнікаў Ге-

нэральнай пракуратуры (што само па сабе ў прававой дзяржаве было б незаконным).

Празь некалькі гадоў генэрал-лейтэнант Валер Кез у адным зь інтэрвію папрасіў прабачэньня ў дэпутатаў Апазыцыі БНФ і сказаў, цяпер ужо публічна, што зьбівалі іх афіцэры групы КДБ «Альфа». Менавіта яны і былі тымі самымі «гарыламі» ў чорных масках.

У чэрвені 1996-га, калі мы разам зь Зянонам Пазьняком былі ў Варшаве (тады яшчэ мы ня думалі, што гэта будзе пачаткам шматгадовай эміграцыі), гартаючы адну зь менскіх газэтаў, я апазнаў чалавека, які быў апрануты ў форму хакі (такога самага колеру была і ягоная кепка) і ўвайшоў у Авальную залю разам зь Цесаўцом і Каралёвым за некалькі хвілінаў да таго, як на нас наляцелі людзі ў масках. Пад фотаздымкам быў подпіс – «новы начальнік службы аховы прэзыдэнта Юры Бародзіч».

12 красавіка 95-га Бародзіч кіраваў «Альфай» у Авальнай залі – а ўжо праз тры тыдні, 4 траўня, Лукашэнка прызначыў яго начальнікам Службы прэзыдэнцкай аховы.

Тады ж я напісаў ліст у Генэральную пракуратуру; адтуль на мой менскі адрас прыйшоў адказ, што мой зварот далучаны да крымінальнай справы.

Вось як увосень 2014 году газэта «Советская Белоруссия» падавала ягоную біяграфію: «Генэрал-маёр запасу Юрый Бародзіч – адзін з найбольш паважаных і дасьведчаных спэцыялістаў у сфэры дзяржаўнай аховы і бясьпекі. І гэта адзна-

чаюць як у нашай краіне, так і ў краінах – удзельніцах СНД. Менавіта гэтага чалавека ў 1995 годзе Аляксандар Лукашэнка прызначыў кіраўніком сваёй службы бясьпекі. Раней афіцэр камандаваў групай «А» КДБ, стаяў ля вытокаў беларускай «Альфы». Яшчэ падчас службы ў СБП Юрый Барадзіч кіраваў Фэдэрацыяй хакею Беларусі.

Пасьля адстаўкі быў афіцыйным прадстаўніком Камітэту дзяржбясьпекі Беларусі пры ФСБ Расеі і Антытэрарыстычным цэнтры СНД, у нашай краіне узначальваў БФСТ «Дынама» («Советская Белоруссия», 2 кастрычніка 2014).

Выглядае, што і пасьля майго звароту (апазналі «чалавека ў кепцы» і іншыя дэпутаты) Барадзіча ў пракуратуры ніхто не дапытваў, да адказнасьці не прыцягваў, і ў момант, калі я пішу гэтыя радкі, ён усё яшчэ застаецца «адным з найбольш паважаных».

У 2007 годзе Лукашэнка надаў Барадзічу (прычым ён ужо знаходзіўся ў адстаўцы) званьне генэрал-маёра – выпадак унікальны. На момант, калі я пішу гэтыя радкі (2015) Барадзіч узначальвае вэтэранскую арганізацыю афіцэраў «Альфа» і раздае інтэрвію, у якіх прызнаецца ў «пэўнай настальгіі па Савецкім Саюзе» і заяўляе расейскім журналістам, што «мы гаворым на адной мове і нас зьвязвае агульная гісторыя». Што ж – для таго, каб беларусы былі пазбаўленыя сваёй мовы і забыліся на ўласную гісторыю, уначы 12 красавіка 1995-га ён прыклаў пэўныя намаганьні.

## 100 000 даляраў за відэа зьбіцьця дэпутатаў

Дзе цяпер відэазапіс зьбіцьця ў Авальнай залі дэпутатаў Апазыцыі БНФ – напэўна, адна з найбольшых загадак найноўшай беларускай гісторыі. Гэты запіс, калі б ён быў паказаны па тэлебачаньні вясной 1995 году, мог бы зьмяніць і вынікі рэфэрэндуму, і вынікі выбараў у Вярхоўны Савет.

У часе свайго доўгага маналёгу на сэсіі Вярхоўнага Савету 12 красавіка, праз некалькі гадзінаў пасьля зьбіцьця дэпутатаў, Лукашэнка паабяцаў паказаць відэазапіс начных падзеяў:

«Да никто никого не бил, никто никого не ломал. Сейчас с бытовой кассеты, которая здесь была отснята, мы перегоняем на БТК (или какая там кассета.) (сыстэма прафэсійнага тэлевізійнага запісу «Бэтакам» – С. Н.) и мы покажем не только депутатам. Как только эта перегонка будет закончена, мы покажем это не только депутатам, мы покажем это всему народу... Мы покажем народу эту плёнку».

Але запіс так і ня быў паказаны. Ня ўбачылі яго ні дэпутаты, ні народ, ні сьледчыя Генэральнай пракуратуры.

У інтэрвію Аляксандру Фядуту тагачасны кіраўнік прэзыдэнцкай адміністрацыі (і адзін

з арганізатараў начной «апэрацыі») Леанід Сініцын прызнаўся:

«Мне раніцай (12 красавіка – С. Н.) прынесьлі гэтую касэту, я паглядзеў яе. Паклікаў Міхаіла Чыгіра (у той час – прэм’ер-міністар – С. Н.): «Паглядзі, што там адбывалася». Мы паглядзелі касэту, і потым яна апынулася ў Замяталіна. Я перадаў яе Замяталіну» (Аляксандар Фядута, «Лукашенко. Политическая биография», Москва, «Референдум», 2005, с.245).

Свае ўражаньні ад убачанай на запісе «апэрацыі» Сініцын ацаніў Фядуту адным словам: «Жахліва».

(Тут у дужках заўважу, што Міхаіл Чыгір нідзе публічна ня выказаў абурэньня ўбачаным. Праз некалькі месяцаў, у жніўні 1995-га, ён асудзіў страйк супрацоўнікаў Менскага мэтрапалітэну і паабяцаў яго спыніць; лідэраў страйкаму паклалі на асфальт аўтаматчыкі, а дэпутат Сяргей Антончык быў інтэрнаваны. Увосень 1996-га Чыгір сышоў з пасады прэм’ера і перайшоў у апазыцыю.)

Уладзімер Замяталін, якому Сініцын перадаў касэту, узначальваў упраўленьне інфармацыі ў прэзыдэнцкай адміністрацыі і быў вядомы як арганізатар прапагандысцкіх правакацый супраць актывістаў нацыянальнага руху. Праз некалькі гадоў ён прызнаецца Уладзімеру Някляеву, што лічыць існаваньне Беларусі як незалежнай краіны непатрэбным.

Дні ішлі, а відэастужку па тэлебачаньні не паказвалі.

18 красавіка мы (Зянон Пазьняк, Валянцін Голубеў, Ігар Гермянчук, Алег Трусаў і аўтар гэтых радкоў) правялі прэсавую канфэрэнцыю, на якой запатрабавалі даць відэазапіс у эфір.

«Прэзыдэнт заявіў на сэсіі, што відэазапіс будзе паказаны па тэлебачаньні, і мы настойваем, каб ён выканаў свае абяцаньні. Гэта ня зойме шмат тэлевізійнага часу, будзе дастаткова паказаць тыя хвіліны (ад 2.45 ночы), калі адбываўся гвалтоўны захоп дэпутатаў».

Перад прэсавай канфэрэнцыяй сьледчы па асабліва важных справах пры генэральным пракуроры Язэп Бролішс, які вёў справу па зьбіцьці дэпутатаў, паведаміў нам, што ў адміністрацыі прэзыдэнта адмовіліся перадаваць відэазапіс зьбіцьця (пракуратура атрымала толькі запіс падзеяў, якія адбыліся да моманту ўварваньня спэцгрупы «Альфа» у залю).

Ігар Гермянчук заўважыў на прэсавай канфэрэнцыі, што ні пра якую законнасьць у Беларусі казаць ужо не даводзіцца, калі ігнаруюцца запыты нават Генэральнай пракуратуры.

«Тое, што адбылося ў ноч на 12 красавіка – гэта пракамуністычны путч, – канстатаваў Зянон Пазьняк. – Сілаю зброі была адхіленая з парлямэнту апазыцыйная частка дэпутатаў. Кіраваў гэтай акцыяй асабіста прэзыдэнт Лукашэнка разам зь Ціцянковым і Сініцыным (пра гэта адкрыта паведаміў Цесавец). Былі зьбітыя і выкінутыя з залі якраз тыя дэпутаты, якія адкрыта крытыкавалі палітыку прэзыдэнта. Гэтым самым была настрашаная частка іншых дэпутатаў, якія яшчэ

вагаліся, і з парушэньнем працэдуры прэзыдэнт працягнуў праз парлямэнт усе свае авантуры, якія пазбаўляюць нашу краіну сувэрэнітэту... Нават Мусаліні, які пагражаў увесь час разагнаць парлямэнт, пабаяўся ўвесьці войскі, бо выдатна разумеў, што нават у той сытуацыі гэта будзе адпаведным чынам расцэнена грамадзкасьцю... Цяпер, калі прэзыдэнт Лукашэнка пераступіў цераз кроў, то ён пойдзе і далей».

Ні намаганьні сьледчага Бролішса здабыць відэазапіс зьбіцьця, ні нашы, дэпутацкія патрабаваньні паказаць касэту па тэлебачаньні – не далі ніякіх вынікаў. Яшчэ ў красавіку 1995-га газэта «Свабода» надрукавала паведамленьне пра распавед аднаго з супрацоўнікаў тэлерадыёкампаніі, якому ўдалося пабачыць запіс у часе таго самага перагону з бытавой касэты на прафэсійную, пра якую казаў Лукашэнка.

Навошта рабілася гэтая перагонка – невядома. Эпізод зьбіцьця, канешне, Лукашэнка дэманстраваць па тэлебачаньні не зьбіраўся, а вось скарыстаць нейкія фрагмэнты з Авальнай залі (напрыклад, сьпячых дэпутатаў), якія потым можна было б пад нешта падмантажаваць, – такая задума ў арганізатараў начных падзеяў, напэўна была. Але і ад яе давялося адмовіцца – бо нішто з той ночы не магло скампрамэтаваць дэпутатаў Апазыцыі БНФ. А паставіць пад сумнеў словы Лукашэнкі, наадварот, магло – у гледачоў адразу б узьнікла пытаньне: а дзе запіс таго, як дэпутатаў акуратна выносяць на руках (альбо яны самі добраахвотна выходзяць)? У час, калі

я пішу гэтыя радкі, такое можна стварыць з дапамогай кампутарных тэхналёгіяў (штучнасьць можа распазнаць толькі экспэртыза) – але тады, у 1995-ым, гэта было надзвычай складана.

«Відэазапіс гвалтоўнага захопу дэпутатаў у залі Вярхоўнага Савету ніколі ня будзе паказаны па тэлебачаньні», – сказаў «Свабодзе» «адзін з супрацоўнікаў тэлерадыёкампаніі (ён не пажадаў, каб называлася ягонае імя), якому выпадкова ўдалося паглядзець стужку».

«Тое, што я бачыў, – кажа ён, – вельмі жахліва: баевікі ў чорных масках з разгону, як ваўкі, накінуліся на дэпутатаў, якія сядзелі адзін каля аднаго, узяўшыся за рукі. Запіс вельмі якасны. Бачна, як дэпутатаў зьбіваюць, круцяць ім галовы, выцягваюць за рукі і ногі, чуваць жахлівыя крыкі...»

Далей «Свабода» паведамляе, што «першымі і, напэўна, апошнімі гледачамі гэтых кадраў былі некаторыя тэлежурналісты і многія тэхнічныя супрацоўнікі апаратна-студыйнага комплексу БТ, што на вуліцы Камуністычнай. Менавіта сюды на другі дзень пасьля той жахлівай ночы прыехалі людзі прэзыдэнта, каб перагнаць відэазапіс з бытавой касэты на прафэсійную. Увесь гэты відэаматэрыял яны забралі з сабой. Паводле зьвестак газэты «Свабода», відэазапіс гэтых драматычных падзеяў спрабавалі купіць за вялікія грошы расейскія, а таксама заходнія тэлекампаніі». («Свабода», 21 красавіка 1995).

Сапраўды, такія зьвесткі былі і ў мяне. Распавядалі, што прадстаўнікі амэрыканскай тэле-

кампаніі дамовіліся з адным з супрацоўнікаў тэлецэнтру, якому нібыта ўдалося скапіяваць кадры зьбіцьця дэпутатаў, што ён прадасьць стужку. Называлася і сума – 100 тысяч даляраў, грошы вялікія і цяпер, а па тых часах у Беларусі гэта была гіганцкая сума, чатырохпакаёвая кватэра ў цэнтры Менску каштавала 25 тысяч. Аднак у апошні момант супрацоўнік тэлецэнтру адмовіўся ад гешэфту: ён справядліва палічыў, што жыцьцё даражэйшае за якія заўгодна грошы.

Атрымаць відэазапіс хацелі і беларускія кінэматаграфісты. Вось што праз 20 гадоў, у красавіку 2015-га, расказаў мне рэжысэр Юры Хашчавацкі:

«Мы даведаліся пра тое, што перакрываецца для чагосьці тэлебачаньне на Камуністычнай, зразумелі, што яны будуць спрабаваць пераганяць гэты запіс для таго, каб змантаваць нешта для іх прымальнае. Мы рванулі туды ў надзеі дабрацца да любога рэдакцыйнага пакоя – тады па тракце з цэнтральнай можна было перапісаць усё, што гоніцца, але нас туды не пусьцілі! Але гэта была наша здагадка. Хоць было відавочна, што менавіта ў гэтыя пару дзён яны паспрабуюць выканаць абяцаньне Лукашэнкі «паказаць усё прыгожа». «Прыгожа» не атрымалася, і яны не паказалі нічога».

Мне казалі, што касэты з запісам той ночы 12 красавіка 1995 году некаторыя былыя паплечнікі Лукашэнкі памясьцілі ў сэйфы нейкіх заходніх адвакацкіх кантораў – як гарантыю іх, паплечнікаў, уласнай бясьпекі.

Цынічна выказаўся пра гэта ў 2015 годзе ў інтэрвію Радыё Свабода Леанід Сініцын: «Так сходу і не ўзгадаю, куды падзелася стужка». Адносна ж зьбіцьця дэпутатаў парлямэнту былы кіраўнік прэзыдэнцкай адміністрацыі заявіў: «Спрэчкі можна вырашаць унутры парлямэнту, а можна вырашаць на вуліцы. І вынік таго, што Ўкраіна вырашыла ўсё на вуліцы, мы бачым. А мы вырашылі іх у парлямэнце. Груба. Але вырашылі. І мы зараз жывем спакойна».

У момант, калі я ішу гэтыя радкі, сам Сініцын (як і іншыя арганізатары зьбіцьця дэпутатаў і рэфэрэндуму) сапраўды жыве спакойна. А на вуліцах беларускіх гарадоў міліцыя зьбівае, хапае і цягне ў пастарункі людзей за выкарыстаньне нацыянальнай сымболікі і нават, здараецца – за размову па-беларуску.

## Страчаны шанец імпічмэнту

Рэфэрэндум і выбары 1995 году праходзілі ў атмасфэры наступу Лукашэнкі на свабоду слова. Уласна, да вясны 95-га прэзыдэнцкай адміністрацыі ўдалося паставіць незалежную прэсу ва ўмовы, у якіх яна за ўсе папярэднія гады існаваньня незалежнай Беларусі ніколі не была.

У сьнежні 1994-га газэты выйшлі зь «белымі плямамі» замест дакладу дэпутата Апазыцыі БНФ Сяргея Антончыка аб карупцыі ў камандзе Лукашэнкі. У пачатку студзеня 95-га выдавецтва «Беларускі Дом друку» адмовілася працягваць дамовы на друкаваньне шэрагу незалежных газэт, у тым ліку і «Свабоды» Ігара Герменчука.

У сакавіку 95-га Лукашэнка зьняў з пасады рэдактара «Народнай газэты» Іосіфа Сярэдзіча – за публікацыю ліста супраць рэфэрэндуму. Ніякага права звальняць рэдактара газэты – органу Вярхоўнага Савету – Лукашэнка ня меў, але такая драбяза, як закон, яго не цікавіла. На пасаду галоўнага рэдактара быў прызначаны Мікалай Галко, які адразу заняў пазыцыю падтрымкі лініі Лукашэнкі і ў дачыненьні рэфэрэндуму, і адносна палітычных апанэнтаў прэзыдэнта.

Але яшчэ да звальненьня Сярэдзіча, у студзені 95-га, па ўзгадненьні з дэпутатамі Апазыцыі БНФ я ініцыяваў зварот дэпутатаў у Канстытуцыйны


У Канстытуцыйны Суд
Рэспублікі Беларусь.
Высокі Суд,

Чарнавік звароту дэпутатаў у Канстытуцыйны Суд, складзены аўтарам.

Суд з нагоды наступу Лукашэнкі на свабоду прэсы. Была і канкрэтная прававая падстава – артыкул 33 Канстытуцыі, які забараняў манапалізацыю сродкаў масавай інфармацыі.

Для таго, каб суд прыняў справу да разгляду, патрэбна было 70 подпісаў дэпутатаў; мне удалося сабраць 84.

(Між іншым, скажу, што гэта была магічная лічба – 84. Менавіта столькі дэпутатаў падпісалі ў жніўні 91-га зварот аб неадкладным скліканьні сэсіі ВС, на якой была абвешчаная незалежнасьць. А яшчэ раней, у студзені, столькі ж падпісалі заяву з асуджэньнем вайсковага здушэньня імкненьня літоўцаў да незалежнасьці. Але гэтым разам склад падпісантаў адрозьніваўся: некаторыя з тых, хто нас падтрымліваў раней, свае подпісы не паставілі (яны далучыліся да Лукашэнкі), але падпісаліся тыя, хто быў у камуністычным лягеры.)

Тэкст звароту давялося пісаць мне, ён раней нідзе не публікаваўся.

«Высокі Суд,

сваім Указам № 14 ад 4 жніўня 1994 году «Аб стварэньні Кіраўніцтва справамі Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь» Прэзыдэнт перадаў выдавецтва «Беларускі Дом Друку» Кіраўніцтву справамі Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. Гэтае выдавецтва займае дамінуючае месца на рынку паліграфічных паслуг Беларусі. Акрамя таго Прэзыдэнту непасрэдна падпарадкаваная Нацыянальная тэлерадыёкампанія, якая зьяўляецца адзіным тэлевізійным сродкам масавай інфармацыі, што

вяшчае на ўсю тэрыторыю Рэспублікі Беларусь. Гэта, на нашу думку, супярэчыць арт. 33 (частка 3) Канстытуцыі, якая не дапускае манапалізацыі сродкаў масавай інфармацыі. Манаполія выканаўчай улады на сродкі масавай інфармацыі стала прычынай парушэньняў канстытуцыйных правоў грамадзянаў Рэспублікі Беларусь.

У выніку супрацьпраўных дзеяньняў службовых асоб забаронена публікацыя дакладу дэпутата Вярхоўнага Савету С. Антончыка ў шэрагу выданьняў (газэты «Советская Белоруссия» № 281 ад 22.12.94 г. і № 282 ад 23.12.94 г., «Звязда» № 261 ад 23.12.94 г., «Рэспубліка» № 248 ад 22.12.94 г., «Фемида» № 51 ад 26.12.94 г. Гэтая забарона, а таксама нявыхад у сьвет асобных нумароў «Народнай газеты», забарона на выпуск з галоўнай экспэдыцыі газэт «Свабода» і «Газета Андрэя Клімава» з тэкстамі дакладу зьяўляюцца, на наш погляд, парушэньнем артыкулу 33 (частка 3) Канстытуцыі, які не дапускае цэнзуру, і артыкулу 34 (частка 1), які гарантуе грамадзянам права на атрыманьне, захоўваньне і распаўсюджваньне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі.

У выніку распараджэньня намесьніка Кіраўніка справамі Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь У. Лазоўскага ад 2.01.95 г. забаронена пралянгацыя ў 1995 годзе дамоваў выдавецтва «Беларускі Дом друку» з шэрагам пэрыядычных выданьняў. У адпаведнасьці з законамі «Аб супрацьдзеяньні манапалістычнай дзейнасьці і разьвіцьці канкурэнцыі», «Аб прадпрыемствах у Рэспубліцы Беларусь» прадпрыемства было абавязана

ўлічваць інтарэсы спажыўца. У выніку рэдакцыйныя калектывы ня выканалі сваіх абавязаньняў перад падпісчыкамі, а падпісчыкі – грамадзяне Беларусі не атрымалі своечасова інфармацыю. Такім чынам, парушаны артыкул 34 (частка 1) Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, які гарантуе грамадзянам права на распаўсюджваньне інфармацыі і права на своечасовае яе атрыманьне. У шэрагу публічных заяў (у прыватнасьці, на сэсіі Менскага гарадзкога савету 10.01.95) Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь падтрымаў падобныя дзеяньні службовых асоб. Разам з тым, у адпаведнасьці з Канстытуцыяй, Прэзыдэнт абавязаны выступаць гарантам канстытуцыйных правоў грамадзян.

Просім Канстытуцыйны Суд:

разгледзець канстытуцыйнасьць Указу Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь № 19 ад 4 жніўня 1994 году «Аб кіраўніцтве справамі Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь» і яго адпаведнасьці артыкулу 33 (частка 3) Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь у частцы перадачы выдавецтва «Беларускі Дом друку» Кіраўніцтву справамі Прэзыдэнта, а таксама іншых указаў і распараджэньняў Прэзыдэнта, якія вядуць да манапалізацыі сродкаў масавай інфармацыі і ўжываньня цэнзуры.

Разгледзець канстытуцыйнасьць распараджэньня намесьніка Кіраўніка справамі Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь сп. У. Лазоўскага аб забароне на пралянгацыю дамоваў выдавецтва «Беларускі Дом друку» з шэрагам выданьняў і яго адпаведнасьць артыкулу 34 (частка 1) Канстытуцыі.

Групу дэпутатаў у Канстытуцыйным Судзе прадстаўляюць: С. Навумчык, І. Гермянчук.

Да падрыхтоўкі і разгляду пытаньня прыцягнуты экспэрты, якія прымуць удзел у пасяджэньні Канстытуцыйнага Суду: А. Галаўко, Н. Доўнар, Л. Русак.

Дэпутаты Вярхоўнага Савету (подпісы, усяго – 84)».

Сярод тых, хто падпісаўся – дэпутаты ад вэтэранскай арганізацыі Аляксандар Трацьцякоў і Герой Савецкага Саюзу генэрал Барыс Гетц. Былі ў сьпісе і яшчэ генэралы – былы старшыня КДБ (люты-ліпень 1994) генэрал-лейтэнант Генадзь Лавіцкі, былы начальнік Памежных войскаў генэрал-лейтэнант Яўген Бачароў, былы міністар унутраных спраў БССР генэрал-лейтэнант Віктар Піскароў.

Аналітычнае інфармагенцтва «Павет» адзначала ў тыя дні, што «незалежна ад канчатковага рашэньня Канстытуцыйнага Суду, палітычны выйгрыш ініцыятараў звароту відавочны. Безумоўна, што да працэсу будзе прыцягнутая ўвага сродкаў масавай інфармацыі, прычым самых розных палітычных накірункаў. Зварот у Канстытуцыйны Суд падтрымаюць і лідэры партый, якія, у большасьці, пазбаўленыя магчымасьці выхаду ў электронныя сродкі масавай інфармацыі».

15 лютага Канстытуцыйны Суд прыняў рашэньне «Аб узбуджэньні справы аб адпаведнасьці Канстытуцыі Ўказу Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь у частцы перадачы выдавецтва «Беларускі дом друку» Упраўленьню справамі Прэзыдэнта

Рэспублікі Беларусь, Указаў Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь № 27 ад 5 жніўня 1994 г. «Аб стварэньні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь» і № 128 ад 28 верасьня 1994 г. «Пытаньні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь».

Пры гэтым суд адмовіўся ўзбуджаць справу адносна распараджэньня намесьніка Кіраўніка справамі прэзыдэнта, якое фактычна забараняла «Дому друку» падпісваць дамовы зь некаторымі незалежнымі выданьнямі – «паколькі гэта не ўваходзіць у кампэтэнцыю Канстытуцыйнага Суду».

У лютым і ў сакавіку я вёў кансультацыі з экспэртамі, якіх мы вырашылі прыцягнуць да справы. Была падрыхтаваная грунтоўная прававая база. Працэс быў прызначаны на пачатак красавіка, але я папрасіў старшыню Суду Валера Ціхіню перанесьці яго на некалькі дзён, паколькі ў Вярхоўным Савеце разглядалася пытаньне рэфэрэндуму. Ціхіня пагадзіўся і прызначыў новую дату – 13 красавіка.

А 11 красавіка мы абвясьцілі галадоўку. Але і з улікам галадоўкі я быў гатовы прадстаўляць пазыцыю дэпутатаў у Вярхоўным Савеце – і ў сумцы, якая была са мной у Авальнай залі, меў усе неабходныя дакумэнты. Перад тым, як нас пачалі зьбіваць, я пасьпеў павесіць рэмень сумкі сабе на шыю – зь ёй мяне і выцягнулі з Авальнай залі і кінулі ў «варанок».

Паседжаньне Канстытуцыйнага Суду пачалося раніцай 13 красавіка.



На пасяджэньні Канстытуцыйнага Суду. Сярод удзельнікаў – дэпутаты Алег Трусаў, Сяргей Навумчык, Мікалай Крыжаноўскі, Пётра Садоўскі, журналісты Аляксандар Старыкевіч і Валянцін Жданко.

Тактыка нашая была такая: я рабіў асноўны выступ ад імя дэпутатаў і казаў толькі пра юрыдычныя аспэкты справы, якія тычыліся выключна тэмы звароту (сродкі масавай інфармацыі). У якасьці члена Суду справу прадстаўляў Міхаіл Пастухоў – у якім мы ўжо тады адчулі аднадумца.

У залі былі і дэпутаты Мікалай Крыжаноўскі, Пётра Садоўскі, Алег Трусаў. Яны распавялі

судзьдзям пра падзеі ў Вярхоўным Савеце ў ноч з 11 на 12 красавіка. Адчувалася, што судзьдзі былі ўражаныя.

Інтарэсы прэзыдэнцкага боку прадстаўлялі начальнік дзяржаўна-прававога ўпраўленьня адміністрацыі прэзыдэнта Аляксандар Марыскін і старшыня тэлерадыёкампаніі Рыгор Кісель.

Марыскін даводзіў, што ўказамі Лукашэнкі «Дом друку» і тэлерадыёкампанія былі проста перададзеныя з адных дзяржаўных рук у іншыя (раней яны ўваходзілі ва ўрадавыя структуры) і, маўляў, нічога прынцыпова істотнага, супярэчнага Канстытуцыі не адбылося.

Але наступны аргумэнт Марыскіна выклікаў усьмешку нават у некаторых членаў Канстытуцыйнага Суду: ён сказаў, што Белтэлерадыёкампанія не зьяўляецца сродкамі масавай інфармацыі, а гэта ўсяго толькі – орган кіраваньня. А значыць, факту манапалізацыі прэзыдэнтам электронных СМІ – няма. Тое самае паўтарыў і кіраўнік лукашэнкаўскага тэлебачаньня Рыгор Кісель, якому адзін з судзьдзяў задаў пытаньне – па якім тэлеканале ён можа паглядзець выступы дэпутатаў у разьдзеле «Рознае»? «Кісель адказаў, што тэарэтычна гэтым мог бы заняцца 8-ы канал. Прысутныя ў залі спэцыялісты тут жа далі даведку: 8-ы канал закрыты ўладамі на час перадвыбарчай кампаніі. Фармальна – па прычыне рамонту сродкаў сувязі», – адзначаў у «Звяздзе» Валянцін Жданко.

Дарэчы, Рыгор Кісель, які паводзіў сябе на пасяджэньні разьвязна і, я б сказаў, з пэўнай

доляй нахабнасьці, заявіў, што будзе выконваць толькі тыя пастановы Вярхоўнага Савету, якія ён і ягоныя юрысты палічаць адпаведнымі Канстытуцыі. Такім чынам, ён фактычна паставіў сябе па-за законам.

Прыведзена ў публікацыі і маё тлумачэньне:

«Прадстаўнікі ўлады заяўляюць, што ніякай манаполіі няма – і называюць колькасьць зарэгістраваных прыватных выданьняў. Іх, сапраўды, нешта пад сямсот. Але колькі зь іх рэальна выходзіць? І давайце паглядзім на суадносіны накладу прыватных і так званых «дзяржаўных» выданьняў. Возьмем самыя вядомыя, з найбольшым накладам. «Белорусский рынок» і «Белорусская деловая газета», «Фемида» – па 20 тысяч, «Свабода» – 60 тысяч. Затое «Белорусская нива» – 120 тысяч, «Советская Белоруссия» – 250 тысяч, «Звязда» і «Рэспубліка» – па 170 тысяч, «Народная газета» – 550 тысяч. Дадайце сюды абласныя ды раённыя газэты. Суадносіны, я думаю, у лепшым выпадку – адзін да дзесяці. Ці, напрыклад, выдавецтва «Беларускі дом друку». Так склалася, што ён займае дамінуючае становішча на рынку паліграфічных паслугаў. І калі «Свабодзе», «Фемідзе» , шэрагу іншых выданьняў было адмоўлена ў пралянгацыі дагавораў – рэдакцыйныя калектывы трапілі ў надзвычай складанае становішча. Дарэчы, яшчэ ў 1991 годзе я зьвяртаўся да Кебіча з просьбай вывесьці гэтае прадпрыемства з падпарадкаваньня Гаспадарчага ўпраўленьня Саўміну. У тым самым годзе супрацоўнікі выдавецтва прынялі рашэньне па-

мяняць форму ўласнасьці і стварыць народнае прадпрыемства. Я думаю, што акцыянаваньне «Дома друку» – найлепшы варыянт. Але з улікам інтарэсаў простых працаўнікоў: наборшчыкаў, друкароў, інтарэсаў рэдакцыйных калектываў. Пэўная колькасьць акцый павінна была б пайсьці на аўкцыён – сёньня відавочна, што дзяржава ня ў стане ўтрымаць гэты гігант. Але першым крокам павінна быць вывядзеньне яго з-пад падпарадкаваньня Кіраўніцтва справамі прэзыдэнта. Пакуль жа кіраўніцтва выдавецтва знаходзіцца ў ролі чыноўнікаў і вымушана выконваць загад. А што на тэлебачаньні? Падпарадкаваная прэзыдэнту Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія зьяўляецца адзінай тэлекампаніяй, якая вяшчае на ўсю тэрыторыю краіны. Акрамя таго, гэтая структура ў дадатак выконвае функцыі цэнтральнага органу дзяржаўнага кіраваньня. Згодна з зацьверджаным прэзыдэнцкім указам палажэньнем, ёй адведзена права рэгістраваць (альбо не рэгістраваць) іншыя тэлекампаніі» («Звязда, 14 красавіка 1995).

Пераважная большасьць экспэртаў пагаджалася з нашымі аргумэнтамі і падмацоўвалі іх уласнымі.

«Ацэнкі юрыстаў былі ў асноўным не на карысьць прэзыдэнцкага боку... – пісаў Валянцін Жданко. – Да прыкладу, Людміла Русак, загадчыца катэдры грамадзянска-прававых дысцыплінаў Акадэміі кіраваньня пры Кабінэце Міністраў ацаніла статус тэлерадыёкампаніі ў яе цяперашнім выглядзе з уладнымі функцыямі



Канстытуцыйны Суд зачытвае сваё рашэньне.

і правам даваць ці не даваць дазвол на адкрыцьцё іншых вяшчальных кампаній ня проста як манаполію, а як супэрманаполію выканаўчай улады. Прыкладна такую самую ацэнку далі і два іншыя спэцыялісты, што выступілі ў судзе – Натальля Доўнар і Ігар Лапша. Апошні да ўсяго прапанаваў і магчымае выйсьце з гэтай сытуацыі. Паколькі працэс акцыянаваньня тэлерадыёкампаніі непазьбежна расьцягнецца ў часе, кантроль над тэлебачаньнем і радыё, на ягоную думку, мог бы быць перададзены створанаму дзеля гэтага незалежнаму Грамадзкаму назіральнаму савету».

«Апоўдні 14 красавіка Канстытуцыйны Суд выслухаў заключныя прамовы бакоў. Ад групы

дэпутатаў выступалі Сяргей Навумчык і Пятро Садоўскі. Навумчык сярод іншага зьвярнуў увагу судзьдзяў на тое, якія канкрэтна выданьні страцілі права друкавацца ў Доме друку нібыта па тэхнічных прычынах – газэты «Свабода», «Феміда», «Газэта Андрэя Клімава» – якраз тыя, што дазвалялі сабе крытыкаваць прэзыдэнта. Затое ніякія тэхнічныя цяжкасьці не перашкодзілі застацца пад дахам Дома друку мноству забаўляльных, спартовых і эратычных выданьняў. Ад імя Прэзыдэнта выступіў Аляксандар Марыскін, які ізноў зрабіў акцэнт на лінгвістычных аргумэнтах – на тым, што ў Канстытуцыі забаронена манапалізацыя як працэс, а не манаполія як зьява, і што нідзе ў Законе не запісана, што Нацыянальная тэлерадыёкампанія зьяўляецца сродкам масавай інфармацыі. А таму, маўляў, ведамства Рыгора Кісяля да сродкаў масавай інфармацыі не адносіцца. Суд, аднак, прыслухаўся толькі да часткі гэтых аргумэнтаў» («Звязда», 15 красавіка 1995).

Канешне, калі сыходзіць з духу закону, суд увогуле мусіў адхіліць усе аргумэнты прадстаўніка прэзыдэнцкага боку, бо нават у такім сьціслым выглядзе, як іх перадала публікацыя «Звязды», яны выглядалі папросту алягічна і абсурдна. І некаторыя судзьдзі гэта разумелі, але (як і ў Вярхоўным Савеце) вырашыла арытмэтычная большасьць пры галасаваньні.

У выніку, Канстытуцыйны Суд прызнаў супярэчным Канстытуцыі толькі адзін з трох указаў Лукашэнкі, які мы абскарджвалі – ад 28 верасьня

1994 г. аб наданьні Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі статусу органу дзяржаўнага кіраваньня.

Падрабязную і аб'ектыўную інфармацыю пра пасяджэньне Канстытуцыйнага Суду зь дзяржаўных выданьняў дала толькі «Звязда». Зь незалежных выданьняў вылучылася газэта «Беларусь», якая надрукавала павярхоўны і тэндэнцыйны тэкст сваёй карэспандэнткі Веранікі Трызны пад загалоўкам «Справа Навумчыка» – 2:1 на карысьць прэзыдэнта». У артыкуле дэпутаты, якія абаранялі свабоду слова ў Вярхоўным Судзе (а гэта былі дэпутаты Апазыцыі), былі абвінавачаныя ў тым, што нібыта яны «гэтыя нарматыўныя акты прымалі», хаця менавіта дэпутаты БНФ патрабавалі прававых гарантыяў свабоды слова і дамагаліся прыняцьця законаў аб дэманапалізацыі.

Карэспандэнтка Трызна наўмысна зьліла ў адно пракамуністычную парлямэнцкую большасьць і апазыцыю, цынічна заўважыўшы, што «народныя абраньнікі, як высьветлілася, за сябе толкам пастаяць ня здолелі. Ні ў залі пасяджэньняў Вярхоўнага Савету, ні ў залі пасяджэньняў Вярхоўнага Суду». (Па іроніі лёсу, праз год Трызна будзе прэс-сакратаром старшыні Вярхоўнага Савету XIII скліканьня Сямёна Шарэцкага, які на выбары ішоў зь лёзунгам аднаўленьня СССР, а ў якасьці сьпікера здаў выканаўчай уладзе ўсё, што толькі можна было здаць, і ў давяршэньне ўсяго – праваліў імпічмэнт.)

Тым ня менш, Канстытуцыйны Суд прызнаў адзін з указаў Лукашэнкі неадпаведным Асноў-

наму закону і абавязаў яго прывесьці яго ў адпаведнасьць з Канстытуцыяй. Што Лукашэнкам не было зроблена.

З улікам падзеяў у Авальнай залі ў ноч з 11 на 12 красавіка гэта магло быць ужо ня толькі палітычнай, але і юрыдычнай падставай для пачатку працэдуры імпічмэнту – але пры той умове, зразумела, калі б у кіраўніцтва Вярхоўнага Савету была палітычная воля.

Пра ступень гэтай «волі» можа сьведчыць тое, што па заканчэньні працэсу ў Канстытуцыйным Судзе ніхто з кіраўніцтва парлямэнту (ні Мечаслаў Грыб, ні ягоныя намесьнікі) не пацікавіліся ў мяне акалічнасьцямі судовага разбору. Напэўна, ім хапіла інфармацыі з прэсы. Пройдзе некалькі тыдняў, і Лукашэнка «папросіць» Вярхоўны Савет з будынку на вуліцы Карла Маркса, і сьпікер – пагодзіцца. А яшчэ праз некалькі месяцаў Грыб і кіраўніцтва Вярхоўнага Савету пачнуць усьведамляць, што іх цынічна падманулі і што заканадаўчая ўлада цалкам падмятая прэзыдэнцкім апаратам.

Але – запозна.

## Рэфэрэндум, які ня меў легітымнасьці

Як пазьней заўважыў былы член Канстытуцыйнага Суду, доктар юрыдычных навук прафэсар Міхаіл Пастухоў, ужо адно толькі зьбіцьцё дэпутатаў Вярхоўнага Савету ў часе працэдуры прызначэньня рэфэрэндуму робіць вынікі гэтага рэфэрэндуму «юрыдычна нікчэмнымі».

Цяпер больш падрабязна – пра тое, у якой атмасфэры адбываўся рэфэрэндум і як ён быў ацэнены ў грамадзтве адразу пасьля яго правядзеньня.

Вялікі прапагандысцкі эфэкт меў паказаны па тэлебачаньні за некалькі дзён да рэфэрэндуму фільм рэжысэра Азаронка «Дзеці хлусьні», у якім паміж лідэрамі БНФ і дзеячамі нацыянальнага руху праводзілася наўпроставая паралель з фашыстоўскімі акупантамі. У фільме былі кадры выступаў на мітынгу ў гонар гадавіны БНР дэпутатаў Пазьняка, Трусава і Навумчыка, старшыні БЗВ Статкевіча, у карыкатурным выглядзе паказваўся паэт Сыс. Зьдзеклівыя камэнтары даваў мастацтвазнавец Савіцкі – сын вядомага жывапісца. Закадравы тэкст чытаў актор Гасьцюхін.

Пазьней Васіль Быкаў перадаў мне тэкст артыкулу для маскоўскай газэты «Известия», нагодай напісаньня быў паказ фільму па расейскім

тэлебачаньні. Артыкул напісаны па-расейску, арыгінал захоўваецца ў мяне, і быкаўскія ацэнкі даюць добрае ўяўленьне пра тую прапагандысцкую акцыю.

«... Гэты фільм, паводле задумы яго аўтараў, павінен быў выканаць ролю прапагандысцкага тарана, нанесьці адчувальны ўдар па сымпатыі выбаршчыкаў да нацыянальнай дэмакратыі рэспублікі, якая ўзмацнялася, і тым самым спрыяць замацаваньню ўлады левых, г. зн. камуністычных сілаў, – пісаў Быкаў. – У комплексе іншых шмат якіх антыдэмакратычных захадаў фільм дасягнуў прыкметнага эпатуючага эфэкту, пазыцыі дэмакратаў былі пахіснутыя, пракамуністычныя сілы пашырылі сваю ўладу. У цэлым акцыя зь фільмам была пасьпяховай. І гэта зразумела. З часоў мінулай вайны ў генэтычнай памяці беларусаў жыве катэгарычнае непрыманьне фашызму і зьвязаных зь ім зьяваў. На гэтым традыцыйным пачуцьці замоўшчыкі і згулялі правакацыйную ролю кірмашовых кішэньнікаў, якія ў зручныя для сябе моманты крычаць «Трымай злодзея!». Беларусы супольна кінуліся лавіць уяўнага фашыстоўскага злодзея і тут жа былі жорстка абкрадзеныя самі – у іх скралі ўладу».

Быкаў прааналізаваў прыёмы, якія выкарыстоўвалі аўтары фільму. «Мэтадам паралельнага мантажу сцэн сучаснага антыкамуністычнага мітынгу і даўняга фашыстоўскага параду выбудоўваецца непрывабны вобраз беларускай дэмакратыі. Выступ фашыстоўскіх аратараў перад шыхтом калябарантаў увесь час чаргу-

ецца з прамовамі апазыцыйных парлямэнцкіх дэпутатаў, лідэра БНФ Зянона Пазьняка, – сына і ўнука змагароў супраць фашызму, якія заплацілі за гэта жыцьцямі. Асаблівы клопат аўтараў фільму выклікае імкненьне абвергнуць адкрыты З. Пазьняком факт пахаваньня ахвяраў сталінскага генацыду ва ўрочышчы «Курапаты», які яны гэтак старанна і беспасьпяхова адмаўляюць. Дэманстрацыя перад камэрай залатых ланцужкоў, гістарычныя пошукі самадзейных гісторыкаў, іх спасылкі на адсутнасьць у архівах КДБ адпаведных дакумэнтаў – хлусьня, спрацаваная паводле рэцэптаў Гёбэльса, якая дзейнічае тым больш безадмоўна, чым болей неверагоднай здаецца. У нармальнай дэмакратычнай дзяржаве ў такіх выпадках надыходзіць дзеяньне крымінальнага кодэксу альбо ва ўсялякім разе – псыхалягічнае расьсьледаваньне ў духу тэорыяў Фрэйда і Юнга. У нас жа стваральнікаў фільму чакаў трыюмф ляўрэатаў...

Фільм – несумнеўная фальшыўка, тэндэнцыйная падробка, створаная выпрабаваным мэтадам спэцслужбаў у форме і ў цывільным з зусім празрыстымі мэтамі», – падсумаваў Васіль Быкаў.

Ніякія нашыя спробы дамагчыся тэлевізійнага эфіру для абвяржэньня абвінавачаньняў, зробленых у фільме, ня мелі выніку – эфір нам не далі.

10 траўня мы, дэпутаты БНФ, правялі прэсавую канфэрэнцыю, на якой выказаліся пра атмасфэру ў грамадстве і сытуацыю ў СМІ напярэдадні выбараў і рэфэрэндуму.

«Наш досьвед сустрэчаў з выбаршчыкамі ў акругах дазваляе зрабіць наступныя высновы. У насельніцтва прэвалююць настроі апатыі, пэсымізму, нявер'я ў магчымасьць якіх-небудзь пазытыўных пераменаў. Па-другое, лукашэнкаўская прапаганда выпрацавала рэзка адмоўнае стаўленьне да Вярхоўнага Савету. І ня толькі да дэпутатаў цяперашняга парлямэнту, але і ў адносінах да парлямэнту як органу дзяржаўнай улады. Лукашэнка, іншыя вышэйшыя службовыя асобы публічна заяўляюць, што можна і не выконваць законы, што можна рабіць усё, што заўгодна. Насаджаецца культ уседазволенасьці. У сусьветнай гісторыі ёсьць аналёгія – Мусаліні. Што да выбараў, дык многія людзі лічаць, што парлямэнт зусім непатрэбны».

Мы заявілі, што Лукашэнка зацікаўлены, каб выбары не адбыліся зусім. І гэта былі не пустыя словы: у часе аднаго з тэлевыступаў Лукашэнка наўпрост сказаў, што галасаваць ня пойдзе – «усё роўна падмануць» (мелася на ўвазе, што «падмануць» ня тыя, хто лічыць галасы – а падмануць дэпутаты). Тым самым ён зарыентаваў сваіх прыхільнікаў не галасаваць на выбарах.

У якой заўгодна праўнай дзяржаве падобны заклік прэзыдэнта непазьбежна пацягнуў бы за сабой ягоную адстаўку.

І пры гэтым дзяржаўнае тэлебачаньне і радыё заклікала людзей ісьці на рэфэрэндум, прычым на экранах паказвалі, што менавіта трэба выкрэсьліваць у бюлетэнях, а што – пакідаць. Пакідаць,

вядома ж, трэба было «за» прапанаваныя Лукашэнкам пытаньні.

За ўсе некалькі тыдняў па дзяржаўным тэлебачаньні нам не далі выступіць супраць пытаньняў, якія Лукашэнка вынес на рэфэрэндум. Больш за тое: у выступах кандыдатаў у дэпутаты такія словы выразаліся; супрацоўнікі радыё адразу раілі кандыдатам не кранаць пытаньня рэфэрэндуму, бо – ня пройдзе ў эфір.

Ніводзін наш, дэпутатаў Апазыцыі БНФ, запыт да старшыні Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Рыгора Кісяля аб выдзяленьні нам эфіру для выказваньня пазыцыі па рэфэрэндуме ня толькі ня быў задаволены, але нават і не атрымаў адказу (пры Кебічы нам, дэпутатам, хай і ня зь першай спробы, але ўдавалася атрымліваць тэлеэфір).

Так, 9 траўня мы (Зянон Пазьняк, Лявон Баршчэўскі і аўтар гэтых радкоў) зьвярнуліся да Кісяля з патрабаваньнем даць у суботу, 13 траўня, 45 хвілінаў эфіру пяці дэпутатам Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце з мэтай абнародаваньня пазыцыі па рэфэрэндуме і перадвыбарчай праграмы – аднак, як і раней, не атрымалі адказу.

Гэта было парушэньнем і Закону аб статусе дэпутата, і Закону аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме).

Галасаваньне адбылося 14 траўня.

Паводле афіцыйных вынікаў ЦВК, у рэфэрэндуме ўзяло ўдзел 64,8 працэнтаў зарэгістраваных выбаршчыкаў. Пры гэтым за наданьне расейскай мове статусу дзяржаўнай прагаласавалі 83,3 працэнты, супраць – 12,7. За зьмену сымболікі

за – 75,1 працэнтаў, супраць – 20.5. За падтрымку Лукашэнкі ў справе інтэграцыі з Расеяй за – 83,3 працэнты, супраць – 12,5. За права прэзыдэнта распускаць парлямэнт за – 77,7 працэнтаў, супраць – 17,8.

Дык якія ж артыкулы Канстытуцыі і заканадаўчыя акты былі парушаныя ў часе прызначэньня і правядзеньне рэфэрэндуму?

Паводле артыкулу 78 тагачаснай Канстытуцыі, рэфэрэндум павінен быў праводзіцца ў адпаведнасьці з законам. Прававыя аспэкты рэфэрэндуму рэгуляваліся Законам «Аб усенародным галасаваньні (рэфэрэндуме)». Паводле яго, на рэфэрэндум не маглі выносіцца пытаньні нацыянальна-гістарычнай адметнасьці (калі патлумачыць простымі словамі – мова, гістарычныя і нацыянальны каштоўнасьці не належаць сучаснаму пакаленьню, і яно ня мае права пазбаўляць іх пакаленьні будучыя і наогул вырашаць і за продкаў, і за нашчадкаў). Менавіта такімі пытаньнямі зьяўляліся два пытаньні з чатырох, прапанаваных А. Лукашэнкам: аб статусе беларускай мовы і аб дзяржаўных сымбалях. Варта нагадаць, што якраз на гэтай падставе за некалькі месяцаў да рэфэрэндуму Цэнтральная камісія па выбарах і рэфэрэндумах адмовіла групе грамадзян у правядзеньні рэфэрэндуму па моўным пытаньні, і пяць парлямэнцкіх камісій далі адмоўныя заключэньні, бо прапанова не адпавядала заканадаўству.

Як пазьней адзначаў доктар юрыдычных навук, прафэсар, былы член Канстытуцыйнага Суду

Міхаіл Пастухоў, з «палажэньняў Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь вынікае, што пытаньні, накіраваныя на зьніжэньне дзяржаўных гарантый існаваньня беларускай мовы, у тым ліку шляхам прыніжэньня яе ролі ў параўнаньні зь іншымі мовамі, ня могуць выносіцца на рэспубліканскі рэфэрэндум. Аналягічную выснову трэба зрабіць і адносна пытаньняў аб зьмене Дзяржаўнага сьцяга і Дзяржаўнага герба як пытаньняў, якія замахваюцца на неад'емнае права беларускага народу на нацыянальную дзяржаўнасьць».

Нарэшце, артыкул 17 Канстытуцыі вызначаў беларускую мову як дзяржаўную, а расейскую – як мову міжнацыянальных зносін. Зьмена іх статусу азначала зьмену Канстытуцыі. Паводле артыкулу 148-2 Канстытуцыі, зьмена Канстытуцыі не магла праводзіцца ў апошнія шэсьць месяцаў паўнамоцтваў дзейнага Вярхоўнага Савету (а выбары новага ВС былі прызначаны ў адзін дзень з рэфэрэндумам, і калі б ВС-13 быў абраны ў поўным складзе, паўнамоцтвы ВС-12 скончыліся б не пазьней, чым праз тры месяцы пасьля галасаваньня).

Такім чынам, вынясеньне пытаньняў аб мове і сымбалях парушала артыкулы 17, 78 і 148-2 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, а таксама Закон «Аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме)».

## Парушэньні у часе прызначэньня рэфэрэндуму

У адпаведнасьці з законам, рэфэрэндум павінен быў прызначаць Вярхоўны Савет (у той час – ВС XII скліканьня). ВС дзейнічаў у адпаведнасьці з Канстытуцыяй і шэрагам законаў, у тым ліку – Законам «Аб статусе дэпутата Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь» і «Часовым Рэглямэнтам Вярхоўнага Савету».

Толькі пасьля зьбіцьця дэпутатаў Вярхоўны Савет зацьвердзіў чатыры пытаньні, прапанаваныя А. Лукашэнкам на рэфэрэндум.

Паводле прафэсара М. Пастухова, «толькі адзін факт скарыстаньня фізычнай сілы ў дачыненьні да дэпутатаў «людзьмі ў камуфляжнай форме» (ды яшчэ ў будынку парлямэнту!) ставіць пад сумненьне законнасьць пастановы Вярхоўнага Савету наконт прызначэньня рэфэрэндуму, паколькі рашэньне было прынятае пад прымусам. Само ж увядзеньне ўзброеных людзей у парлямэнт і напад на дэпутатаў можна кваліфікаваць як захоп улады гвалтоўным чынам». Такім чынам, працэдура прызначэньня рэфэрэндуму адбывалася з парушэньнем, як мінімум, Закону «Аб статусе дэпутата Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь» (паводле якога дэпутат зьяўляецца асобай недатыкальнай) і «Часовага Рэглямэнту Вярхоўнага Савету», а таксама Крымінальнага Кодэксу.

## Парушэньні ў часе агітацыі

Закон «Аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме)» прадугледжваў атрыманьне грамадзянамі поўнай інфармацыі па пытаньнях, вынесеных на галасаваньне, а таксама роўныя магчымасьці агітацыі «за» і «супраць».

За некалькі тыдняў, якія папярэднічалі галасаваньню, па дзяржаўных тэле- і радыёканалах ішла суцэльная агітацыя ў падтрымку пазыцыі А. Лукашэнкі. На адным толькі тэлебачаньні працягласьць перадачаў з агітацыяй за пытаньні рэфэрэндуму, паводле маніторынгу, складала дзясяткі гадзін. Апанэнтам слова не далі. На 14 траўня былі прызначаныя таксама выбары ў Вярхоўны Савет XIII скліканьня, і ў адпаведнасьці з заканадаўствам кандыдаты мелі права на выступ у СМІ. Аднак у выступе кандыдатаў з эфіру выразалася ўсе словы, дзе яны выказваліся супраць прапанаваных А. Лукашэнкам пытаньняў рэфэрэндуму.

Нарэшце, яшчэ раз нагадаю, што перад галасаваньнем група дэпутатаў ВС (З. Пазьняк, Л. Баршчэўскі, С. Навумчык) зьвярнуліся з афіцыйным запытам да старшыні Дзяржтэлерадыёкампаніі Р. Кісяля з просьбай даць 45 хвілінаў эфірнага часу 13 траўня для выказваньня сваёй пазыцыі па пытаньнях рэфэрэндуму і абвяржэньня інфармацыі, якая папярэдне прагучала ў фільме «Дзеці хлусьні». Эфір дадзены ня быў, хаця гэта гарантавалася дэпутатам Законам «Аб статусе дэпутата Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь».

Такім чынам, агітацыя ў пытаньнях рэфэрэндуму адбывалася з парушэньнямі Законаў «Аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме)», «Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь» і «Аб статусе дэпутата Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь».

## Парушэньні ў часе галасаваньня

Падчас самога галасаваньня назіральнікі (прычым афіцыйна зарэгістраваныя) зафіксавалі шматлікія парушэньні.

Парушэньні былі зафіксаваныя на кожным участку, дзе былі назіральнікі ад БНФ (а Народны Фронт выставіў сваіх кандыдатаў у больш як 100 выбарчых акругах).

21 траўня Сойм партыі БНФ адзначыў, што рэфэрэндум быў неканстытуцыйным і «праходзіў ва ўмовах прэзыдэнцкай манаполіі на сродкі масавай інфармацыі і друк. Грамадзтва ня мела магчымасьці азнаёміцца з альтэрнатыўнымі поглядамі. Дзяржаўныя сродкі інфармацыі вялі аднабаковую прапаганду ў інтарэсах пазыцыі прэзыдэнта і ягонай групы. Адбывалася масавая дэзінфармацыя людзей. Антыбеларускія сілы імкнуліся пазбавіць народ выбару, і гэта ў асноўным было дасягнута... Галасаваньне на рэфэрэндуме, асабліва ў сельскай мясцовасьці, было сфальсыфікавана выканаўчымі ўладамі і іхнімі прадстаўнікамі ў выбарчых камісіях і на ўчастках пад кантролем мясцовай прэзыдэнцкай «вэртыкалі». Пра гэта сьведчаць шматлікія

факты, зарэгістраваныя назіральнікамі як ад Партыі БНФ, так і іншымі. У шмат якіх сельскіх акругах не прыйшла галасаваць і палова грамадзянаў, унесеных у сьпісы для галасаваньня. Колькасьць тых, хто прагаласаваў, завышаная. І тым ня менш па другім і чацьвёртым пытаньнях рэфэрэндуму прагаласавала «за» менш за палову ад агульнай колькасьці выбаршчыкаў.

Правядзеньне рэфэрэндуму ў антыдэмакратычных абставінах робіць ягоныя вынікі заведама нелегітымнымі і не дазваляюць прызнаць іх за рэальнае волевыяўленьне народу. Гэтак сама ня будуць законнымі ўгрунтаваныя на выніках рэфэрэндуму захады, скіраваныя на абмежаваньне дэмакратыі і зьнішчэньне незалежнасьці нашай краіны», – гаварылася ва Ўхвале Сойму Партыі Беларускага Народнага Фронту.

Заўважу, што гэта была афіцыйная заява афіцыйна зарэгістраванай партыі, перададзеная ў ЦВК і не абвергнутая гэтай камісіяй.

У часе выбараў у Беларусі працавала дэлегацыя міжнародных назіральнікаў ад АБСЭ. Назіральнікі больш сканцэнтраваліся на выбарах, чым на рэфэрэндуме, але паколькі галасаваньне і на выбарах, і на рэфэрэндуме праходзіла адначасова, іх высновы можна аднесьці і да «плебісцыту». Як паведамляла газэта «Свабода», (№20, 19.05.1995), у дзень галасаваньня назіральнікі АБСЭ наведалі больш за 70 участкаў – у Менску і ў рэгіёнах. Міжнародныя назіральнікі адзначылі, што «выканаўчая ўлада неадэкватна ўмешвалася ў некаторыя аспэкты выбарчага

працэсу», партыі і кандыдаты ня мелі патрэбнага доступу да СМІ, пра апазыцыйныя партыі і іх кандыдатаў распаўсюджвалася «паклёпніцкая інфармацыя». «Дэлегацыя таксама заўважыла, – адзначалася ў прэсавым рэлізе, – іншыя парушэньні, калі выбаршчыкі бралі, крэсьлілі і кідалі ў урны па некалькі бюлетэняў як парлямэнцкіх, так і па рэфэрэндуме». «Выбары ў Беларусі не адпавядалі ўсім міжнародным стандартам свабодных і роўных выбараў», – зрабіла выснову місія назіральнікаў АБСЭ.

Такім чынам, галасаваньне адбывалася з парушэньнем Закону «Аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме)».

## Зацьвярджэньне вынікаў

Прыкметна, што Вярхоўны Савет XII скліканьня нягледзячы на тое, што пасьля рэфэрэндуму выконваў функцыі вышэйшага заканадаўчага органу краіны яшчэ амаль восем месяцаў (у выніку таго, што ВС-13 ня быў своечасова абраны, паўнамоцтвы ВС-12 скончыліся 9 студзеня 1996 г.) – не зацьвердзіў вынікаў травеньскага рэфэрэндуму.

Дэпутаты БНФ у ВС XII скліканьня на чале зь Зянонам Пазьняком адразу заявілі пра нелегітымнасьць рэфэрэндуму і непрызнаньне ягоных вынікаў.

Мы заявілі, што бел-чырвона-белы сьцяг і герб «Пагоня» застаюцца дзяржаўнымі сымбалямі,

што статус беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай не павінен быць зьменены, выступілі супраць палітыкі «інтэграцыі» з Расеяй. Таксама, мы заявілі, што Лукашэнка ня мае права роспуску парлямэнту і ўвогуле не зьяўляецца легітымным прэзыдэнтам. Былі мітынгі, прэсавыя канфэрэнцыі, выступу ў друку, звароты да заходніх палітыкаў і ў міжнародныя арганізацыі.

Аднак такую пазыцыю падзялілі ня ўсе, хто называў сябе дэмакратамі. «Дэмакратычным сілам трэба было біць ва ўсе званы з нагоды нелегітымнасьці першага рэфэрэндуму. І для гэтага было досыць падстаў і фактаў. Але і старшыня Вярхоўнага Савету М. Грыб, і старшыня Канстытуцыйнага суду В. Ціхіня прамаўчалі. Такім чынам шлях да дыктатуры гвалту быў адкрыты», – перакананы кіраўнік праваабарончага цэнтру «Прававая дапамога насельніцтву» Алег Волчак («Народная газэта», 14 траўня 2010).

«Можна канстатаваць, – піша далей Волчак, – што службовыя асобы, якія мелі дачыненьне да правядзеньня незаконнага рэфэрэндуму, учынілі крымінальна каральныя дзеяньні, якія кваліфікуюцца як захоп і ўтрыманьне дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам, а таксама замах на жыцьцё дзяржаўных дзеячоў з мэтай дэстабілізацыі грамадзкага парадку і ўзьдзеяньня на прыняцьцё рашэньняў дзяржаўнымі органамі (тэрарыстычны акт). Усе ўдзельнікі тых падзей, ад шараговага і да афіцэрскага складу, якія ўжывалі гвалт супраць дэпутатаў парлямэнту, таксама павінны быць прыцягнуты па даных артыкулах

як непасрэдныя саўдзельнікі і выканаўцы захопу ўлады. Такая самая крымінальная адказнасьць ляжыць на членах Цэнтрвыбаркаму, якія зацьвердзілі вынікі незаконнага рэфэрэндуму.

Фактычна, 12 красавіка 1995 году кіраўнік дзяржавы Лукашэнка мусіў быць адхілены ад улады ў сувязі з грубым парушэньнем Канстытуцыі, паколькі сваім рашэньнем аб прызначэньні рэфэрэндуму пра замену нацыянальнай сымболікі і ўвядзеньне расейскай мовы ў ранг дзяржаўнай перавысіў свае службовыя паўнамоцтвы, дадзеныя яму Канстытуцыяй».

Такім чынам, у часе прызначэньня і правядзеньня рэфэрэндуму 1995 году былі парушаныя, як мінімум, артыкулы 17, 78 і 148 ч. 2 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, Законы «Аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме)», «Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь», «Аб статусе дэпутата Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь», а таксама «Часовы Рэглямэнт Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь». Асобная тэма – артыкулы Крымінальнага Кодэксу, пад якія трапляюць дзеяньні службовых асобаў, супрацоўнікаў праваахоўных органаў і спэцслужбаў у сувязі з падзеямі 12 красавіка 1995 году.

Я перакананы: для будучага дэмакратычна абранага кіраўніка Беларусі (альбо парлямэнту, калі будзе прынята рашэньне вярнуцца да парлямэнцкай рэспублікі), пытаньне аднаўленьня ў статусе дзяржаўных сымбаляў бел-чырвона-белага сьцяга і герба «Пагоня», а таксама статусу

беларускай мовы – будзе пытаньнем аднаўленьня законнасьці.

Яно зойме роўна столькі сэкундаў ці хвілінаў, колькі трэба, каб паставіць подпіс пад указам альбо прагаласаваць за адпаведную парлямэнцкую пастанову.

## Разбуральныя наступствы для нацыі

Антыканстытуцыйнасьць рэфэрэндуму была акрэсьленая і ў адмысловай Заяве, якую прыняў Другі міжнародны кангрэс Беларускага ПЭН-цэнтру. За гэтую Заяву галасавалі Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Уладзімер Арлоў ды іншыя беларускія літаратары.

Удзельнікі Кангрэсу адзначылі, што рэфэрэндум «быў прызначаны і праводзіўся з парушэньнем шэрагу палажэньняў Канстытуцыі краіны ва ўмовах абмежаваньня свабоды сродкаў масавай інфармацыі, а таксама мэтанакіраванай дэзінфармацыі і дэзарыентацыі электарату ў нацыянальна-культурных пытаньнях.

Ужо сам факт вынясеньня на плебісцыт пытаньняў зьмены нацыянальнай сымболікі і ўвядзеньня расейскай мовы ў якасьці другой дзяржаўнай, сьведчыць, што вярхоўная ўлада ня лічыць клопат пра духоўныя каштоўнасьці нацыі сваім абавязкам. Гэта пацьвярджаецца і наступнымі дзеяньнямі прэзыдэнцкай улады, якая пачала выкарыстоўваць вынікі рэфэрэндуму ў сваіх інтарэсах, ігнаруючы неабходнасьць іх



«Даруй мне, мой народ» – падпісаў аўтар карыкатуры, апублікаванай у газэце “Свабода” пасьля рэфэрэндуму.

зацьвярджэньня Вярхоўным Саветам краіны. Нягледзячы на тое, што значная частка электарату не падтрымала прэзыдэнта (за зьмену сымболікі прагаласавалі толькі каля паловы агульнага сьпісачнага складу выбаршчыкаў) рэфэрэндум быў абвешчаны поўнай перамогай яго ініцыятара».

Наступны прагноз, зроблены ўдзельнікамі Кангрэсу ПЭН-цэнтру, цалкам паўтараў тое, што казалі на сэсіі Вярхоўнага Савету мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, калі спрабавалі сарваць прызначэньне рэфэрэндуму:

«Непасрэдным наступствам рэфэрэндуму 14 траўня 1995 г. можа стаць рэзкае звужэньне беларускай мовы ўва ўсіх сфэрах дзяржаўнай

палітыкі, што ўжо назіраецца ў сыстэме адукацыі. На практыцы ўвядзеньне расейскай мовы як другой дзяржаўнай будзе замацоўваць рэальнае сёньня нераўнапраўе беларускай мовы і спрыяць яе выцясьненьню, а значыць, будзе працягвацца русыфікацыя і дэнацыяналізацыя беларускага народу, якія праводзіліся ў Расейскай імпэрыі, а потым у СССР. Такая небясьпечная палітыка спараджае раскол у грамадзтве і непазьбежна ставіць нацыянальную інтэлігенцыю ў апазыцыю да ўлады. Удзельнікі кангрэсу выказваюць глыбокую трывогу за будучыню беларускай нацыянальнай культуры».

Трывога была цалкам апраўданая.

Ужо 17 ліпеня, праз два месяцы пасьля рэфэрэндуму, Лукашэнка вырашыў у прамым эфіры тэлебачаньня зачытаць тэмы сачыненьняў і дыктовак для абітурыентаў вышэйшых навучальных установаў. Гэта само па сабе было дзеяй незвычайнай, унікальнай у сусьветнай практыцы. Але прыкметна тое, што абнародаваньне тэмаў ён пачаў з сачыненьняў па расейскай мове і літаратуры, і толькі потым перайшоў да беларускай мовы і літаратуры.

У тыя дні дэпутат Менскага гарадзкога савету Алесь Бяляцкі ў інтэрвію агенцтву «Павет» заўважыў, што ўведзеная пасьля рэфэрэндуму палітыка выбару мовы навучаньня ў сярэдніх школах (цяпер бацькі атрымалі права самі выбіраць мову) мае вельмі цікавую і паказальную асаблівасьць.

А менавіта: калі бацькі хаця б траіх школьнікаў жадаюць навучаць сваіх дзяцей па-расейску – дык і астатнія дваццаць вучняў будуць вучыцца на расейскай, а не на беларускай мове. Пры гэтым на расейскую мову пераводзіліся нават вучні чацьвертых-пятых клясаў, якія раней навучаліся па-беларуску.

Ніякага «зваротнага» правіла (кшталту, калі б бацькі траіх вучняў пажадалі вучыць дзяцей па-беларуску, і іншыя займаліся б у беларускай клясе) – вядома ж, уведзена не было.

Такім чынам, адразу пасьля рэфэрэндуму па беларускім школьніцтве быў нанесены моцны ўдар.

А кіраўнік справамі прэзыдэнта Іван Ціцянкоў 16 траўня забраўся на дах адміністрацыі і пад відэакамэры разарваў бел-чырвона-белы сьцяг – які ўсё яшчэ заставаўся дзяржаўным.

Увесну 2015-га я папрасіў Зянона Пазьняка ацаніць тое, што адбылося дваццаць гадоў таму.

«Травеньскі рэфэрэндум 1995 году, які насуперак закону праводзіў новы рэжым антыбеларускай улады, я прыраўноўваю да дзяржаўнага перавароту, які меў (і працягвае мець) катастрафічныя разбуральныя наступствы для Беларускай нацыі. Ад самага пачатку ён быў абстаўлены як дзяржаўны пераварот, з увядзеньнем спэцвойска ў парлямэнт, зьбіваньнем дэпутатаў Апазыцыі БНФ, захопам парлямэнцкіх будынкаў, парлямэнцкіх газэт і ўсяго друку, растаптаньнем законнай волі парлямэнту і з апорай антызаконных дзеянь-

няў на чужую краіну (Расею). Гэты рэфэрэндум незаконны і зманіпуляваны, і яго палажэньні будуць адмененыя сапраўднай беларускай уладай, а спраўцы яго будуць злоўленыя і пойдуць пад суд».

# КДБ: «Прыносім спачуваньні Зянону Станіслававічу»

– Гэта той самы Навумчык, што ўдзельнічаў у галадоўцы? – жанчына сярэдняга веку ўглядалася ў мой фотаздымак на стэндзе, які актывісты БНФ выставілі калі ўнівэрсаму «Першамайскі» ва Ўручча.

Я чакаў, што наступнымі яе словамі будзе нешта кшталту – «Канешне, я за яго прагаласую. Ён жа за народ пацярпеў». Але памыліўся.

– Іх пабілі? Ну дык і правільна. І яшчэ мала далі! – жанчына не пажадала слухаць сяброў маёй каманды і пайшла ў бок унівэрсаму.

Вось гэтае «Мала далі!» – было даслоўным паўторам рэакцыі Мікалая Дземянцея, былога Старшыні Вярхоўнага Савету, а яшчэ раней – сакратара ЦК КПБ, на крывападцёк ад дубінкі, які Алесь Шут паказаў ў Авальнай залі. Дземянцей таксама крыкнуў – «Мала вам далі!»

Але тое, што ўспрымалася натуральным з вуснаў камуністычнага функцыянэра, было нечаканым пачуць ад звычайнай жанчыны. Прадстаўніка таго самага народу, за інтарэсы якога мы змагаліся пяць гадоў у Вярхоўным Савеце XII скліканьня і якія зьбіраліся абараняць у будучым парлямэнце.

Тым больш што на самым пачатку агітацыйнай кампаніі па выбарах у новы Вярхоўны Савет XIII скліканьня, літаральна праз пару дзён пасьля галадоўкі дэпутатаў БНФ, адзін з удзельнікаў маёй каманды сказаў:

– Сяргей, цяпер ты можаш увогуле ня весьці агітацыю. Можаш на ўвесь час кампаніі паехаць у Крым, хіба што там мора яшчэ халоднае. Пасьля таго, што з вамі зрабілі людзі Лукашэнкі, лічы, што дэпутацкі мандат у кішэні. У нас народ любіць незаслужана пакрыўджаных і зьбітых.

Канешне, я ўспрыняў гэтую параду як жарт, працаваў увесь час выбарчай кампаніі на мяжы магчымасьцяў (як і іншыя мае калегі па дэпутацкай апазыцыі). Але не сумняваўся, што брутальныя дзеяньні Лукашэнкі, якімі б зьняважлівымі яны для нас ні былі – у грамадзкай сьвядомасьці будуць успрынятыя на нашу карысьць. Бо тыя словы падтрымкі, якія я чуў ад Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Уладзімера Арлова, дзясяткаў прыхільнікаў Народнага Фронту – нібыта не давалі падстаў меркаваць інакш.

Між іншым, пацьвердзіў маё перакананьне (праўда, гэта адбылося пазьней), адзін з дэпутатаў польскага Сэйму. Ён сказаў, што можа хіба толькі марыць, каб яго зьбілі за палітычныя погляды на загад прэзыдэнта ў сьценах парлямэнту: гэта стоадсоткава азначала б перамогу на наступных выбарах.

Аднак усё аказалася па-іншаму. Людзі (большасьць зь іх) рабілі свой выбар паводле нейкага зусім нечаканага, ірацыянальнага альгарытму,

пад моцным узьдзеяньнем афіцыйнай прапаганды, якая ў Беларусі ў 1995 годзе мела выразны антыбеларускі і прарасейскі характар. Уласна, гэткая самая танальнасьць ёй была ўласьцівая і на папярэдніх прэзыдэнцкіх выбарах 1994 году, але тады не выкарыстоўвалася ў такім маштабе тое, што пазьней атрымае назоў «брудных тэхналёгіяў» і «чорнага піяру». А таксама – не было такіх фальсыфікацыяў, якія суправаджалі і вясновыя выбары, і восеньскія давыбары.

Уласна, гэтым выбарам, іх аналізу варта было б прысьвяціць не адзін разьдзел, а асобную кнігу. Я ж спынюся толькі на некаторых іх аспэктах.

## Блёк дэмакратычных сілаў – за незалежнасьць Беларусі

Выбары ў Вярхоўны Савет складаліся з двух этапаў. Першы – у траўні 1995 году (першы тур быў сумешчаны з рэфэрэндумам), колькасьць абраных на ім дэпутатаў была недастатковай для легітымнасьці новага Вярхоўнага Савету. Другі тур адбыўся ў лістападзе-сьнежні і даў патрэбную для кворуму колькасьць дэпутатаў.

У самым пачатку 1995 году назіральнікі прагназавалі рост шанцаў апанэнтаў Лукашэнкі на фоне падзеньня яго рэйтынгу.

Фармальна, апазыцыя Лукашэнку складалася з двух антаганістычных блёкаў – «дэмакратаў» і «камуністаў». Першыя выступалі за незалежнасьць Беларусі і рынкавыя эканамічныя рэ-

формы, другія – за максымальную інтэграцыю з Расеяй (аж да аб’яданьня) і дзяржаўнае рэгуляваньне эканомікі.

Аднак паняцьце «блёк» у дачыненьні да перадвыбарчай сытуацыі 1995 году можна ўжыць толькі зь вялікай доляй умоўнасьці. Ідэя стварэньня адзінага дэмакратычнага блёку не ажыцьцявілася – непераадольнай праблемай быў падзел акругаў.

У Народным Фронце мы ў той час адзначылі, што найбольшая віна за раздробленасьць дэмакратычных сілаў была на кіраўніцтве Партыі народнай згоды (ПНЗ) і яе старшыні Генадзю Карпенку. У другой палове 1994 году (пасьля прэзыдэнцкіх выбараў) Карпенка выступіў за цесны блёк з БНФ, адбыліся перамовы паміж ім і Пазьняком. Была дамоўленасьць, што ў выпадку, калі ПНЗ ня будзе зарэгістраваная, Генадзя Карпенку падтрымаюць структуры Народнага Фронту. У кіраўніцтве ПНЗ было шмат прадстаўнікоў былой камуністычнай намэнклятуры, якія рэзка нэгатыўна ставіліся да БНФ, і Карпенка заявіў, што нават калі кіраўніцтва яго партыі не пажадае супрацоўнічаць з Народным Фронтам – ён падпіша пагадненьне з Пазьняком як прыватная асоба. Але ў выніку Карпенка падпарадкаваўся жаданьню кіраўніцтва сваёй партыі, якое на кампрамісы з БНФісьці не жадала.

Быў сфармаваны «цэнтрысцкі блёк» – у яго ўвайшлі ПНЗ, Аб’яднаная дэмакратычная партыя (на чале з Аляксандрам Дабравольскім) і Грамадзянская партыя (яе ўзначальваў Васіль

Шлындзікаў). У эканамічнай частцы мэты цэнтрысцкага блёку практычна не адрозьніваліся ад праграмы БНФ, але яго лідэры не акцэнтавалі ўвагу на небясьпецы імпэрскіх памкненьняў Расеі (а некаторыя нават выступалі з прарасейскіх пазыцый).

У блёк «левых сілаў» увайшлі Сацыялістычная партыя, Партыя камуністаў Беларусі, Аграрная партыя, Арганізацыя вэтэранаў вайны і працы, Камуністычны Саюз моладзі і Саюз афіцэраў. Усе гэтыя арганізацыі выступалі за аднаўленьне СССР альбо аб'яднаньне з Расеяй. Заяўляючы журналістам пра неблагія шанцы на перамогу, лідэры блёку спасылаліся на прыклад перадвыбарчай кампаніі Лукашэнкі, які таксама выступаў за аднаўленьне СССР.

За незалежнасьць Беларусі без усялякіх агаворках выступаў блёк дэмакратычных сілаў, у які ўвайшлі Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада, Беларуская сялянская партыя, Беларуская хрысьціянска-дэмакратычная партыя, Партыя Беларускага Народнага Фронту, Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі.

У падмурак блёку былі пакладзеныя наступныя прынцыпы:

- Забесьпячэньне правоў асобы, абвешчаных Усеагульнай дэклярацыяй правоў чалавека і стварэньне прававой дзяржавы;

- Умацаваньне дзяржаўнага сувэрэнітэту: агульнадзяржаўныя інтарэсы маюць бясспрэчны прыярытэт над інтарэсамі клясавымі, партыйнымі, групавымі;

- Правядзеньне рашучых рынкавых рэформаў, якія прадугледжваюць:

а) увядзеньне нацыянальнай валюты;

б) зьніжэньне ўзроўню інфляцыі;

в) прыватызацыю дзяржаўнай маёмасьці;

г) рэфармаваньне калгасаў і саўгасаў, стварэньне спрыяльных умоваў для разьвіцьця фэрмэрскіх гаспадарак;

- Абвяшчэньне ўласнасьці грамадзянаў і юрыдычных асобаў сьвяшчэннай і недатыкальнай, абарона яе ўсёй сілаю дзяржаўнай улады;

- Стварэньне цывілізаванай сыстэмы сацыяльнай абароненасьці;

- Адраджэньне духоўнага жыцьця і нацыянальнай самасьвядомасьці беларускага народу, умацаваньне дзяржаўнасьці беларускай мовы; стварэньне грамадзянскай супольнасьці і забесьпячэньне нацыянальна-культурнай аўтаноміі нацыянальных меншасьцяў Беларусі;

- Умацаваньне барацьбы са злачыннасьцю.

Акрамя дэкляраваных прынцыпаў, Ценявы Кабінэт БНФ распрацаваў «Асноўныя кірункі рэформаў для выхаду з крызісу», якія мы прадставілі як перадвыбарчую плятформу Фронту. Яна складалася з дванаццаці разьдзелаў, якія ўтрымлівалі як аналіз эканамічнай сытуацыі, гэтак і канкрэтныя прапановы ў сфэрах фінансавай палітыкі, сацыяльнай абароны насельніцтва, экалёгіі, прыватызацыі і рэструктурызацыі індустрыі, стратэгіі разьвіцьця паліўна-энэргетычнага комплексу, інвэстыцыйнай палітыкі, аграрнай палітыкі і зямельнай рэформы. (Як і ў папярэднія

гады, мы выступалі за прыватную ўласнасьць на зямлю.) Калі ў 1992 годзе галоўны рэдактар парлямэнцкай «Народнай газэты» Іосіф Сярэдзіч надрукаваў на дзьвюх палосах эканамічную праграму Апазыцыі БНФ, дык цяпер прызначаны Лукашэнкам новы рэдактар Мікалай Галко адмовіўся публікаваць перадвыбарчую плятформу Фронту. І нават не патлумачыў прычыну сваёй адмовы.

Увогуле, асноўная роля ў блёку належала Беларускаму Народнаму Фронту, які меў сваю фракцыю ў парлямэнце, Ценявы Кабінэт з групай экспэртаў, моцныя структуры ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. «Грамада» таксама мела сваіх дэпутатаў (яны ўваходзілі ў склад парлямэнцкай Апазыцыі БНФ). Пэўную вядомасьць меў кіраўнік Сялянскай партыі Яўген Лугін. Што да БХДП і НДПБ, дык яны, хутчэй, усяго толькі запаўнялі пэўныя нішы ў партыйным спэктры – мне, напрыклад, было невядома пра якія-небудзь іх акцыі нацыянальнага маштабу. Хаця праз гады давялося даведацца пра парадаксальнае ўспрыманьне гэтага самага партыйнага спэктру некаторымі заходнімі аналітыкамі. У даволі папулярных штогадовых энцыкляпэдычных даведніках (і нават турыстычных выданьнях) у пераліку партыяў адзначалася Аб’яднаная дэмакратычная партыя ды Нацыянальна-дэмакратычная партыя, але ні словам ня згадваўся Народны Фронт. Патлумачыць гэта можна хіба тым, што да 1995 году БНФ ня быў юрыдычна афармлены як партыя – а ўкладальнікі даведнікаў кіраваліся якраз фармальным

падыходам. Але ў выніку шмат у каго з заходніх палітыкаў (і асабліва журналістаў) складалася скажонае ўяўленьне пра расклад палітычных сілаў у Беларусі і іх рэальны ўплыў.

Горш, што скажонае ўяўленьне пра сваю значнасьць мелі і некаторыя партыйныя лідэры, якія лічылі, што БНФ павінен быць зь імі «на роўных». У свой час Быкаў назваў Народны Фронт авангардам дэмакратычнага і нацыянальнага руху; некаторыя лідэры «карлікавых» партыяў гэта не лічылі.

Выступаючы ў студзені на пасяджэньні Сойму БНФ, адмыслова прысьвечаным будучым выбарам, Зянон Пазьняк сказаў, што сытуацыя больш складаная, чым была на выбарах Вярхоўнага Савету XII скліканьня вясной 1990 году. На Сойме быў створаны Выбарчы камітэт на чале з Уладзімерам Анцулевічам і адбылася ратыфікацыя Дэклярацыі прынцыпаў дэмакратычнага блёку. БНФ дамагаўся, каб блёк быў створаны ня толькі на пэрыяд выбараў, але і на ўсе пяць гадоў кадэнцыі будучага Вярхоўнага Савету.

Тады ж, у студзені, адбылася і Соймавая канфэрэнцыя «Імпэрская сутнасьць палітыкі Расеі», на якой з дакладамі выступілі Зянон Пазьняк і Юры Хадыка. «Слушнасьць і ранейшых паглядаў Фронту на расейскую палітыку, і леташняга Пазьняковага артыкулу «О русском империализме...» пацьвердзілася нават больш хутка і трагічна, чым чакалася (мелася на ўвазе вайна ў Чачні – С.Н.). Наша задача – выйсьці з СНД і ўсіх падкантрольных Расеі структураў, інакш нас ня будзе

# АСНОЎНЫЯ КІРУНКІ РЭФОРМАЎ ДЛЯ ВЫХАДУ З КРЫЗІСУ

## ПЕРАДВЫБАРЧАЯ ЭКАНАМІЧНАЯ ПЛЯТФОРМА БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ "АДРАДЖЭНЬНЕ"[1]

### Крытычны стан эканомікі

Вытворчасьць валавага ўнутранага прадукту за 1994 г. у параўнаньні з папярэднім скарацілася на 20% і склала ў дзейных цэнах 20,3 трлн. руб. Прадукцыя *прамысловасьці* зьменшылася на 19,3%. Пастаяннай тэндэнцыяй зьяўляецца рэзкае зьніжэньне аб'ёмаў вытворчасьці у галоўчых экспартных галінах. Так, у 1994 г. аб'ём вытворчасьці грузавых аўтамабіляў скараціўся на 31%, трактароў -- на 48%, мэталарэзных станкоў -- на 39%.

Вытворчасьць *сельскай гаспадаркі* скарацілася на 14,1%. На 18% зьменшыўся выраб каўбасных вырабаў, на 16% -- масла. У параўнаньні з 1990 г. зьніжэньне ўраджайнасьці сельскагаспадарчых культураў у 1,5-2 разы (збожжавых з 36 да 23 ц/га, бульбы -- з 182 да 90 ц/га), скарачэньне пасяўных плошчаў і вялікія страты пры захаваньні прывялі да рэзкага пагаршэньня забесьпячэньня насельніцтва прадуктамі. У 1994 годзе на душу насельніцтва ў грамадзкім сэктары выпрадукавана

[1] Прапануе Грамадзкі (Ценевы) Кабінэт міністраў Беларускага Народнага Фронту. Плятформу распрацавалі: А.Станкевіч, У.Тарасаў, І.Нікітчанка, У.Кулажанка, Л.Зданевіч, С.Гусак, Ю.Беленькі, М.Крыжаноўскі, В.Маскіч, С.Папкоў. Кіраўнік Кабінэту міністраў З.Пазьняк, прэм'ер-міністр Кабінэту У.Заблоцкі.

Перадвыбарчая эканамічная праграма БНФ, 1995 год.

як народу, а будучыня Расеі – толькі ў распадзе імпэрыі, зрабілі выснову выступоўцы», – пісала ў «Свабодзе» Вера Чуйко.

Такім чынам, Беларускі Народны Фронт заставаўся на пазыцыях эўрапейскага выбару і максымальнай (наколькі магчыма) незалежнасьці ад Расеі, імпэрскія памкненьні якой ужо прывялі да вялікіх ахвяраў у Чачні.

І вось якраз гэтая пазыцыя зрабілася мішэньню для прапагандысцкай машыны, для ўсёй дзяржаўнай прэсы, манаполія якой пры Лукашэнку дасягнула такой канцэнтрацыі, пра якую Кебіч ня мог і марыць.

## «Песьняры» і «Верасы» за паплечнікаў Лукашэнкі

Магчымасьці ў кандыдатаў ад уладных структураў (найперш, канешне, паплечнікаў Лукашэнкі) былі неабмежаваныя, і выкарыстоўвалі яны іх напоўніцу.

Старшыня Віцебскага аблсавету Уладзімер Кулакоў даставіў у Мёрскі раён актораў Віцебскай філярмоніі. Праўда, у калгасны клюб людзей давялося заганяць.

Затое ў Шклове заля не магла ўмясьціць усіх жадаючых, бо прыехалі зоркі «першай велічыні». Канешне, ня самі прыехалі. Як паведамляла газэта «Свабода», блізкі паплечнік Лукашэнкі і ягоны памочнік Уладзімер Канаплёў (які дапамагаў Лукашэнку яшчэ на выбарах у «саюзны»

парлямэнт у 1989 годзе) арганізаваў у Шклове, дзе ён балятаваўся, «грандыёзны канцэрт з удзелам вядомага кампазытара В. Раінчыка, «Верасоў» і «Песьняроў» на чале з Ул. Мулявіным. Канцэрт быў бясплатны, публіку прапускалі па запрашальных білетах, якія разьмяркоўваў старшыня акруговай выбарчай камісіі Ул. Клюйко».

І гэта, канешне, быў не адзіны выпадак прыцягненьня сьпевакоў да бясплатных канцэртаў. Яшчэ адзін памочнік прэзыдэнта Валер Кучынскі прывёз у сваю акругу ў Кобрыне Аляксандра Саладуху.

Старшыня Аграрнай партыі і былы дарадца Кебіча Сямён Шарэцкі, які ішоў на выбары зь лёзунгам аднаўленьня СССР, павіншаваў сваіх выбаршчыкаў паштоўкамі, якія, на думку мясцовых актывістаў, каштавалі куды болей, чым выдаткаваная выбарчай камісіяй сума. Аднак выглядае, што выбарчая камісія такія паштоўкі не лічыла агітацыяй і ніякага парушэньня Закону аб выбарах ня ўбачыла. Шарэцкі, які ішоў на выбары па Наваградзкай-сельскай акрузе, абяцаў «аднавіць адзіную разбураную дзяржаву» (СССР), першым крокам да чаго бачыў далучэньне Беларусі да Расеі «на канфэдэрацыйных пачатках».

Агітацыйныя магчымасьці кандыдатаў ад БНФ і дэмакратычных партыяў былі значна меншыя. Пераважна мы праводзілі сустрэчы з выбаршчыкамі і выстаўлялі пікеты. «У часе пікетаваньня высьветлілася, што прэзыдэнт Лукашэнка пасеяў з тэлеэкрана небясьпечнае насеньне – частка людзей, пераважна простых, гаварыла ягонымі

словамі: мы на выбары ня пойдзем, усё роўна падмануць», – пісаў у «Свабодзе» Сяргей Астраўцоў.

Гэтым самым яны паўтаралі словы, сказаныя напярэдадні выбараў Лукашэнкам.

## Мэта – не прапусьціць кандыдатаў БНФ

На выбарах 1995 году Лукашэнка і ягонае атачэньне мелі стратэгічныя і тактычныя мэты.

Зразумела, ідэальным варыянтам для Лукашэнкі было б увогуле ня мець ніякага парлямэнту. На гэта, між іншым, і былі накіраваныя высілкі афіцыйнай прапаганды – у падкантрольных Лукашэнку СМІ ў апошнія месяцы перад выбарамі штодня пісалася і казалася, што «дэпутаты перашкаджаюць прэзыдэнту», час ад часу закідваліся «меркаваньні працоўных» (насамрэч, у большасьці зварганеныя ў прэзыдэнцкай адміністрацыі), што «не патрэбны нам гэты Вярхоўны Савет увогуле». Вянцом была заява Лукашэнкі пра тое, што сам ён на выбары ня пойдзе – бо «ўсё роўна падмануць». (Меліся на ўвазе ня члены выбарчых камісіяў, а дэпутаты. Яны, дэпутаты, падмануць, якіх бы – правых, левых, незалежных – ні абралі.) Гэтыя словы Лукашэнкі перагукаліся зь ягоным перадвыбарчым слоганам на прэзыдэнцкіх выбарах 1994 году: «Я ня з левымі, я ня з правымі, я – з народам». Што азначала ігнараваньне якіх бы там ні было партыяў і ўвогуле партыйных працэдураў. Гэты самы

прынцып Лукашэнка вызнаваў і цяпер, на пасадзе кіраўніка дзяржавы, не спрыяючы ўмацаваньню і разьвіцьцю пакуль яшчэ кволай партыйнай сыстэмы (безь якой немагчымая дэмакратыя), а наадварот – зьнішчаючы яе.

І ўсё ж у Лукашэнкавай адміністрацыі разумелі, што, як бы ні хацелася, але цалкам пазбыцца найвышэйшага заканадаўчага органу – гэта будзе ўжо занадта непрыгожа выглядаць у вачах міжнароднай супольнасьці (у пачатку 1995-га лукашэнкаўцы яшчэ зьвярталі на гэта ўвагу).

Таму галоўнай рэальнай стратэгічнай мэтай было атрымаць максымальна паслухмяны Вярхоўны Савет, які ня толькі ня будзе супрацьстаяць прэзыдэнту ў якасьці заканадаўчай улады, але праштампуе ўсе ягоныя рашэньні, аж да ўваходжаньня ў склад Расейскай Фэдэрацыі (ідэя заняць месца ў Крамлі не пакідала Лукашэнку да 1999 году, калі наступнікам прэзыдэнта Ельцына зрабіўся Пуцін). У кожным разе, парлямэнт мусіў быць прарасейскім і прапрэзыдэнцкім.

Гарантаваць гэта можна было толькі пры адсутнасьці ў Вярхоўным Савеце прадстаўнікоў найбольш пасьлядоўнай нацыянальна арыентаванай палітычнай сілы, якая мела досьвед парлямэнцкай дзейнасьці і структуры ва ўсіх рэгіёнах краіны – Беларускага Народнага Фронту.

З самага пачатку выбарчай кампаніі Лукашэнка і ягоныя паплечнікі прагаворваліся, што ніхто з дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Вярхоўны Савет XIII скліканьня ня пройдзе. «В новом парламенте от этой оппозиции БНФ вообще ни одного

не останется», – заявіў Лукашэнка на другі дзень пасьля нашага зьбіцьця ў Авальнай залі. Тое самае раней казаў нам і начальнік прэзыдэнцкай аховы Каралёў, які, спрабуючы выдаліць нас з залі паседжаньняў, заявіў, што «после 14 мая мы с вами разберёмся!»

Прызнацца, увесну 95-га мне такія словы падаваліся толькі выяўленьнем іх жаданьня і своеасаблівай прапагандысцкай рыторыкай. Дадам – рыторыкай бясьсільнай. Бо было зразумела, што ня ўсе з трох дзясяткаў дэпутатаў будуць абраныя, але каб ня быў абраны зусім ніхто – вось гэта выглядала нерэальным. Мне падавалася, што БНФ захавае колькасны склад сваіх прадстаўнікоў у новым Вярхоўным Савеце, а магчыма, і павялічыць яго. І гэтую маю упэўненасьць падзялялі практычна ўсе паплечнікі па Народным Фронце. А базавалася яна на тым, што Народнаму Фронту немагчыма было закінуць нейкія прэтэнзіі, якія б зрабілі немагчымым праход прадстаўнікоў у парлямэнт.

Аднак у гэтых спадзяваньнях мы сыходзілі з прагматычнага меркаваньня, што на нашу карысьць былі дасягненьне Незалежнасьці Беларусі, пяць гадоў заканадаўчай працы, стварэньне некалькіх эканамічных праграмаў. «Беларускі Народны Фронт заўсёды казаў людзям праўду», – быў наш лёзунг на выбарах, і ў ім не было ніякага перабольшаньня.

Аднак словы Лукашэнкі пра тое, што ніхто ня пройдзе, аказаліся ня проста эмоцыяй, а сьведчаньнем існаваньня цынічнага і дэталёва

распрацаванага пляну. Пры гэтым, пакіданьне нацыянальных сілаў па-за межамі парлямэнту было толькі яго часткай, спосабам дасягненьня асноўнай мэты: спыненьня працэсу нацыянальнага Адраджэньня і аднаўленьня татальнай русыфікацыі.

Менавіта для гэтага рэфэрэндум і сумясьцілі з выбарамі (першым турам). Разьлік тут быў д’ябальскі.

Па-першае, прапанова вярнуцца да фактычна савецкіх сымбаляў павінна была мабілізаваць пракамуністычныя і праімпэрскія сілы, якія былі асноўнымі апанэнтамі Народнага Фронту. Тых, хто зь нянавісьцю ставіўся да Незалежнасьці і дэмакратыі і прыйшоў 14 траўня галасаваць за прапанаваныя Лукашэнкам пытаньні. Гэтым, з аднаго боку, падвышалася яўка, а з другога – павялічвалася колькасьць галасоў, аддадзеных за камуністаў і прыхільнікаў Лукашэнкі. Працэнт галасоў, аддадзеных за БНФ, адпаведна, зьменшыўся.

Усе заслугі Народнага Фронту за амаль сем гадоў ягонай дзейнасьці афіцыйная прапаганда ператварыла ў заганы: Незалежнасьць падавалася як «злачынны развал вялікай дзяржавы», заканадаўчыя ініцыятывы – як бясплённая балбатня, эканамічная праграма замоўчвалася і, наадварот, БНФ папракалі ў ігнараваньні эканамічных праблемаў.

У другім туры выбараў, куды па Менску і абласных цэнтрах выйшлі пераважна камуністы і актывісты БНФ, націск прапаганды рабіўся пе-



Сяргей Навумчык — малады, вопытны палітык, дэмакрат і патрыёт Беларушчыны. У як былы дэпутат ранейшага ВС, удзельнік апазіцыі БНФ ён праявіў немалую загартоўку ў барацьбе з камуна-фашыстамі за дабрабыт і шчасьце беларускага народа. Ягонае палітычная грунтоўнасьць, ідэйная прынцыповасьць і адданасьць справе беларускага Адраджэньня робяць яго адным з самых відных сучасных палітыкаў з нялёгкай, але, несумненна, шчасьлівай будучыняй.

Васіль Быкаў

Тэкст Васіля Быкава для выбарчай улёткі аўтара, вясна 1995 г.

раважна на тое, каб на ўчастkі прыйшло як мага меней людзей. Вынікі рэфэрэндуму, якія выклікалі вялікае расчараваньне і своеасаблівую «грамадзкую дэпрэсію» ў нацыянальна арыентаваных сілаў, гэтай мэце паспрыялі. Канешне, многія актывісты БНФ прыйшлі галасаваць – але былі і тыя, хто ня вызначыўся, выбары праігнаравалі.

На выбарах у траўні ў дэпутаты не патрапіў ніводзін кандыдат ад Народнага Фронту – пры гэтым, паводле падлікаў, агульная колькасьць галасоў, пададзеных за гэтых кандыдатаў, была прыблізна гэткай, як і колькасьць тых, хто на прэзыдэнцкіх выбарах галасаваў за Пазьняка (каля 700 тысячаў).

Гэта быў парадокс мажарытарнай выбарчай сыстэмы: маючы падтрымку даволі значнай часткі насельніцтва, БНФ не атрымліваў у новым

парлямэнце ніводнага дэпутата. Менавіта на гэта і быў разьлік у прэзыдэнцкай адміністрацыі ўвосень 1994 году, калі пралукашэнкаўскія дэпутаты блякавалі прапанаваную дэпутатамі БНФ прапарцыйна-мажарытарную сыстэму. Тады пэўную ролю ў тым, каб нашыя прапановы не прайшлі, адыграў кіраўнік прапрэзыдэнцкай фракцыі Анатоль Лябедзька; пройдзе зусім няшмат часу, і ён пашкадуе пра гэта, паспрабаваўшы на досьведзе ўласнай партыі заганы мажарытарнай сыстэмы пад жорсткім кантролем прэзыдэнцкай вэртыкалі. (Хоць дзеля справядлівасьці варта сказаць, што яшчэ большую ролю адыграла Вольга Абрамава, якая пераагітавала значную частку дэпутацкага корпусу, ужо гатовага пагадзіцца на нашыя прапановы.)

Ва Ўхвале Сойму БНФ, прынятай у траўні, адзначалася, што «ў часе выбараў, якія праходзілі з парушэньнямі дэмакратычных нормаў Закону аб выбарах, назіральнікі адзначылі мноства фальсыфікацыяў, асабліва на правінцыі і ў сельскай мясцовасьці. Усё гэта сьведчыць, што пракамуністычны путч, які пачаўся 12 красавіка 1995 году, працягваецца».

У выніку, у траўні не была абраная нават палова дэпутатаў, і Вярхоўны Савет XII скліканьня працягваў захоўваць свае паўнамоцтвы. У афіцыйнай прэсе распачалася кампанія яго дыскрэдытацыі як вышэйшага органу заканадаўчай улады; асабліва вылучалася «Народная Газэта», галоўны рэдактар якой Мікалай Галко

быў прызначаны на пасаду Лукашэнкам з парушэньнем заканадаўства.

Падпарадкаваныя Лукашэнку дэпутаты Вярхоўнага Савету блякавалі сэсію; 14 чэрвеня ў залі сабраліся толькі 199 дэпутатаў. Мы доўга абмяркоўвалі, ці варта намісьці зноў у Авальную залю – але вырашылі, што варта. Каб падтрымаць законнасьць і Вярхоўны Савет як альтэрнатыву аўтарытарызму.

11 кастрычніка Вярхоўны Суд пацьвердзіў легітымнасьць Вярхоўнага Савету XII скліканьня да моманту пачатку першай сэсіі новага Вярхоўнага Савету. А 30 кастрычніка КС прызнаў правамоцным рашэньне Вярхоўнага Савету аб зьмяншэньні яўкі выбаршчыкаў (да 25 працэнтаў) для прызнаньня таго, што выбары адбыліся.

## Другі раўнд: «На двары ўжо сьмярдзела новая рэчаіснасьць»

На другі раўнд выбараў (давыбары) у лістападзе 1995 году БНФ выставіў 69 кандыдатаў, камуністы амаль у два разы болей – 121.

Сам я на восеньскія выбары не ішоў: у мяне было нейкае ўнутранае адчуваньне, што гэта бессэнсоўна, што нікога з нас усё роўна не прапусьцяць. Але большасьць калег па дэпутацкай апазыцыі пайшлі – шмат у чым кіруючыся ў тым ліку і настроямі, якія ў той момант ахаплівалі грамадзтва. Настроі людзей былі іншыя, чым вясной: эканамічная сытуацыя пагоршылася, Лу-

кашэнка прымяніў жорсткія мэтады здушэньня страйку менскіх мэтрапалітэнаўцаў, жыцьцё пад «новымі» прасавецкімі сымбалямі не вярнула ў эпоху таннай каўбасы і гарэлкі.

Між іншым, вынікі выбараў паказалі, што ўпэўненасьць маіх калегаў была не беспадстаўнай: калі на вясновых выбарах у акругах кандыдаты ад БНФ саступілі сваім апанэнтам-камуністам у першым і ў другім туры, дык на другім раўндзе «франтаўцы» іх апярэдзілі. Аднак адміністрацыя (пры дапамозе ЦВК) не прапусьціла іх у новы парлямэнт.

Вялізныя намаганьні прэзыдэнцкая адміністрацыя кінула ў Смаргонь, дзе балятаваўся Зянон Пазьняк. Пазьняк набраў 47 % галасоў, ягоны супернік – 40%, але 13% прагаласавалі супраць абодвух кандыдатаў, і выбары не адбыліся. Апошняя лічба была нерэальнай – звычайна супраць абодвух галасавала ня больш за 5% выбаршчыкаў.

Прыкметнай была роля камуністаў. Спачатку па акрузе Пазьняка былі тры кандыдаты – лідэр БНФ, «незалежны» (якога і падтрымлівала прэзыдэнцкая адміністрацыя) і прадстаўнік партыі камуністаў, якую ўзначальваў Сяргей Калякін. У тым выпадку, калі б усе трое былі ўнесеныя ў выбарчыя бюлетэні, адбыўся б другі тур (ён быў прызначаны на 10 сьнежня). Аднак «нечакана» камуніст-калякінец зьняў сваю кандыдатуру, і, такім чынам, выбары лічыліся несапраўднымі, паколькі ужо ў першым туры ўдзельнічалі два

кандыдаты і абодва не набралі 50% плюс адзін голас.

Падазроным было тое, што на кожным выбарчым участку ў акрузе, дзе балятаваўся Пазьняк, прыблізна а 17-ай гадзіне невядома адкуль зьявіліся стосы бюлетэняў. Затым на ўчасткі прыходзілі людзі, якіх мясцовыя жыхары раней ніколі ня бачылі, участковыя камісіі выдавалі ім бюлетэні, а міліцыя ў тым часе не давала назіральнікам наблізіцца да сталоў камісіяў і пракантраляваць законнасьць выдачы бюлетэняў (у тым ліку і праверыць, ці ўнесеныя гэтыя людзі ў сьпісы для галасаваньня).

Як адзначала інфармацыйна-аналітычнае агенцтва «Павет», «нягледзячы на наяўнасьць да пяці назіральнікаў на выбарчы ўчастак, – фактычна ні на водным з участкаў не ўдалося арганізаваць належны кантроль. Члены камісій і міліцыя не дазвалялі назіральнікам набліжацца да сталоў, за якімі выдавалі бюлетэні. Таму вялікая колькасьць бюлетэняў выдавалася без прад’яўленьня пашпартоў, што ёсьць грубым парушэньнем закону. Акрамя таго, на некаторых участках колькасьць бюлетэняў, якія выявіліся ў скрынях, перавышае колькасьць тых, хто прагаласаваў. Гэта, на думку назіральнікаў, азначае толькі адно: бюлетэні былі кінутыя ў скрыні ня выбаршчыкамі, а некім іншым. На некаторых участках было зафіксаванае галасаваньне асобаў, якія не зьяўляюцца грамадзянамі Беларусі

Але самым грубым парушэньнем, безумоўна, зьяўляецца адмова ўчастковых камісіяў дапусь-

ціць назіральнікаў да сталоў, за якімі пасьля ўскрыцьця скрыняў ішоў падлік галасоў. Назіральнікам паказалі толькі ўжо падлічаныя бюлетэні.

На шэрагу ўчасткаў гэткімі апэрацыямі кіравалі прадстаўнікі КДБ зь Менску і Горадні. У той самы дзень Зянон Пазьняк зьвязаўся са старшынём КДБ Уладзімерам Ягоравым. Спадар Ягораў сказаў, што ён ня мае ніякага дачыненьня да гэтых акцыяў і што камандзіраваньне супрацоўнікаў КДБ у Смаргонь прайшло безь ягонага ўдзелу».

На прэсавай канфэрэнцыі, якая адбылася 30 лістапада, я заявіў, што, паводле нашых зьвестак, гэтымі «невядомымі» былі супрацоўнікі Гарадзенскай управы КДБ.

Праз некалькі дзён прэс-служба КДБ Рэспублікі Беларусь выступіла з заявай, якая называлася ні больш, ні менш як «КДБ як люстэрка беларускай дэмакратыі».

«Сяргей Навумчык на прэс-канфэрэнцыі 30 лістапада г. г. афіцыйна абвінаваціў КДБ у зрыве выбараў па Смаргонскай акрузе, дзе балятаваўся спадар Зянон Пазьняк. Прыносім спачуваньні Зянону Станіслававічу, і не выпадкова. Зь яго адыходам з парлямэнцкай арэны апазыцыя пазбаўляецца кансультанта, які ведаў «пра розныя пагрозы нацыянальнай бясьпецы» значна лепей, чым КДБ», – з сарказмам пісалі аўтары ў цывільным і, канешне, абвяргалі датычнасьць сваіх калег да зрыву выбараў у акрузе Пазьняка.

Я папрасіў Зянона Пазьняка і Юрася Беленькага прыгадаць свой удзел у тым «восеньскім» раўндзе выбараў – гэтыя ўспаміны красамоўна сьведчаць пра мэханізм фальсыфікацыяў ня толькі на ўзроўні акруговых выбарчых камісіяў, але і ЦВК.

Зянон Пазьняк: «На паўторных выбарах я балятаваўся ў Смаргоні. Там супраць мяне выставілі лекара гарадзкой паліклінікі (самы прахадны кадр у правінцыі на той час).

У Смаргоні мая каманда (кіраўнік групы Сяргей Папкоў) некалькі разоў рабіла апытаньні людзей (па 130-170 асобаў). Увесь час аказвалася, што я ішоў наперадзе зь невялікім адрывам (4-5 адсоткаў).

У выніку ўсё сталася, як і ў Менску: выбары не адбыліся (прагаласавала, як паведамілі, крыху менш за палову). Але праз нейкі час нечакана для выбарчай камісіі выявілася (знайшліся сумленныя людзі), што не ўлічылі 500 галасоў (прытым галасавалі ў асноўным за мяне). Так што ў сапраўднасьці выбары адбыліся і мая кандыдатура прайшла.

Я напісаў скаргу ў ЦВК. ЦВК паслала ў Смаргонь камісію на чале з членам ЦВК Аляксандрам Жуком. Камісія пацьвердзіла парушэньне і фальсыфікат. І вось тады старшыня ЦВК Аляксандар Абрамовіч наадрэз адмовіўся прымаць патрэбнае паводле закону рашэньне. Камісія Жука паставіла пытаньне аб звароце ў пракуратуру. Абрамовіч адмовіўся. Растлумачыць сваю пазыцыю ён ня мог, але казаў, што нічога ня будзе рабіць. (Пазь-

нейшы мой зварот у пракуратуру таксама ня меў выніку, нават адказу не было.) На двары ўжо сьмярдзела новая рэчаіснасьць.

Абрамовіч як скончаны канфарміст («чалавек-трава» як мы яго называлі) стаў потым аддана супрацоўнічаць з рэжымам і падрыхтаваў яму гэтую дзікую ў юрыдычна-палітычным пляне канстытуцыю дыктатуры, што існуе цяпер і пакрывае барбарства рэжыму (пазьней Абрамовіч быў прызначаны намесьнікам кіраўніка адміністрацыі прэзыдэнта – С.Н.).

У Вярхоўны Савет XIII скліканьня насуперак устаноўкам рэжыму прарваліся акрамя мяне яшчэ тры дэпутаты Незалежнасьці: Юры Беленькі, Валянцін Голубеў і Генадзь Грушавы. Беленькага і Голубева новыя ўлады таксама выкінулі. Пакінулі толькі аднаго Грушавога.

Ужо тады стала зразумела, што нармальных, законных выбараў у Беларусі больш ня будзе. Ва ўсялякім разе да таго часу, пакуль існуе ва ўладзе гэтая антыбеларуская калгасна-гэбоўская група». (Зянон Пазьняк, архіў аўтара).

Зянон Пазьняк прыгадаў прыклад Валянціна Голубева. Ён набраў у сваёй акрузе 58% галасоў, але на выбары, паводле афіцыйных дадзеных, прыйшло 49,9% выбаршчыкаў. Валянціну не хапіла літаральна некалькіх галасоў. Зразумела, гэтае «не хапіла» было невыпадковым. Кандыдат ад БНФ, дэпутат Менскага гарадзкога савету Міраслаў Кобаса, які балятаваўся па Кунцаўшчынскай акрузе ў Менску, набраў 49% галасоў – пры яўцы 49,8% выбаршчыкаў.

Юрась Беленькі: «На восеньскіх выбарах, дакладней, другі тур ужо адбыўся ўзімку, 10 сьнежня1995 году, я перамог на выбарах. Тады на выбары прыйшлі і маладыя людзі, і людзі сярэдняга веку. І гэта як раз і адыграла вырашальную ролю. Паводле афіцыйных дадзеных, за мяне прагаласаваў 8031 выбаршчык (51,6%), за камуністку Т. Бібік—6295.

Але рэжым ня думаў прапускаць мяне ў дэпутаты. Было афіцыйна абвешчана, што выбары не адбыліся, што да кворуму не хапіла 60 чалавек!

Як яны зрабілі гэты недахоп кворуму?

На другі дзень пасьля галасаваньня ў другім туры да мяне зьвярнулася мая выбаршчыца спадарыня Курыльчук і паведаміла наступнае. Яна працавала выхавацелькай у інтэрнаце Фінансава-эканамічнага тэхнікуму. У дзень галасаваньня, па старой савецкай завядзёнцы, кантралявала студэнтаў тэхнікуму, што жылі ў інтэрнаце, каб тыя, як яна сказала, не адлыньвалі ад выкананьня сваіх грамадзянскіх абавязкаў – гэта значыць, прыйшлі на выбарчы ўчастак, які месьціўся ў фае інтэрнату, і прагаласавалі. Яна прыйшла ў выбарчую камісію і папрасіла паказаць сьпісы выбаршчыкаў, дзе былі прозьвішчы «яе студэнтаў». Сьпісы ёй у камісіі паказалі. І, як яна сьведчыла, насупраць прозьвішчаў не было подпісаў аб атрыманьні бюлетэняў. Яна паднялася на паверхі інтэрнату і пачала сарамаціць студэнтаў. Але ў адказ пачула, што тыя прагаласавалі. Каб даказаць, што яны маюць рацыю, студэнты разам з выхавацелькай спусьціліся ў выбарчую камісію і запатрабавалі

паказаць сьпісы зь іх подпісамі аб атрыманьні бюлетэняў. У камісіі, без асаблівага энтузіязму, дасталі сьпісы з подпісамі студэнтаў і патлумачылі, што гэта ёсьць дадатковыя сьпісы!

Вось тут і раскрыўся мэханізм фальсыфікацыі. Выбаршчыкі былі занесены ў сьпісы для галасаваньня двойчы і, такім чынам, быў завышаны кворум для галасаваньня. Няма ніякага сумневу, што гэта не была самадзейнасьць камісіі. Навошта ім было гэта рабіць, рабіць сабе дадатковую работу? Ясна, што тут быў загад куратараў ад рэжыму, калі тыя пабачылі, што не ўдаецца заваліць мяне іншымі спосабамі.

Падчас галасаваньня на ўсіх выбарчых участках акругі, акрамя аднаго, прысутнічалі мае назіральнікі. Так вось менавіта на тым участку, на якім не было назіральнікаў, я прайграў, на астатніх 11-ці выйграў.

Увогуле, мэханізм фальсыфікацый на тых выбарах ужо быў запушчаны напоўніцу. Стрымліваючымі фактарамі ад абсалютных фальсыфікацыяў, як тое пачало рабіцца ў наступныя гады, было тое, што не былі стоадсоткава «адфільтраваныя» выбарчыя камісіі і меўся доступ назіральнікаў да падліку галасоў. Але гэта былі толькі менавіта стрымліваючыя фактары. Бо толькі ў складзе некаторых камісій былі людзі, якія гатовыя былі ісьці насуперак патрабаваньням рэжыму аб рабленьні фальсыфікацыяў. Там, дзе такіх людзей не было, вынікі выбараў былі максымальна сфальсыфікаваныя ўжо тады.

Калі высьветліўся мэханізм фальсыфікацыяў на маёй акрузе, я напісаў заяву ў Цэнтральную выбарчую камісію з патрабаваньнем правесьці праверку ў сувязі з выяўленымі парушэньнямі і прызнаць мяне абраным дэпутатам, бо зробленае штучна завышэньне кворуму значна перавышала тыя 60 чалавек якіх не не хапала каб быць прызнаным абраным дэпутатам. Я прыйшоў у ЦВК і быў прыняты старшынём камісіі доктарам юрыдычных навук Абрамовічам. Абрамовіч меў тады ў дэмакратычных асяродках рэпутацыю прыстойнага чалавека і дэмакрата. Прачытаўшы маю заяву, Абрамовіч заўважыў, што ў тэксьце ёсьць юрыдычная недакладнасьць і, каб яе выправіць, трэба заяву перапісаць. Што я і зрабіў.

Празь некалькі дзён адбылося адкрытае паседжаньне ЦВК, дзе Абрамовіч зачытаў маю заяву і дадаў, што заява ня можа быць прынятай ЦВК, бо няправільная рэдакцыя. І пераказаў, як трэба было напісаць правільна. Пераказ гэты цалкам адпавядаў зьместу той, першапачатковай заявы, якую Абрамовіч прапанаваў выправіць. Я стаў сьведкам банальнай подласьці чалавека, ад якога ну ніяк подласьці не чакаў. Але пазьней па-філязофску разважаў, а чаго трэба было чакаць? Якіх людзей Лукашэнка прызначае на найвышэйшыя пасады?

Прынамсі, яшчэ што важна зазначыць. Неаднаразова (гэта значыць ня раз і ня два, як мінімум разы тры-чатыры) я потым чуў ад сваіх выбаршчыкаў наступнае: «Як жа, Юры Адамавіч, вас ня выбралі? Колькі я знаю, за вас усе галасавалі!»

Ці «За вас жа ўвесь наш дом галасаваў!» І гэтак далей. Мяркую, што рэальная колькасьць галасоў, пададзеных за мяне, была значна большай, за тыя 51,6%, якія афіцыйна падала акруговая выбарчая камісія». (Юрась Беленькі, архіў аўтара).

Канешне, акругі Пазьняка, іншых дэпутатаў Апазыцыі БНФ былі пад асаблівым кантролем прэзыдэнцкай адміністрацыі, але усе «франтаўскія» кандыдаты адчулі вялізнае супрацьстаяньне ўладаў. Тут ёсьць адзін вельмі важны момант, пра які забываюць, калі кажуць, што вось жа, маўляў, некаторыя дэмакратычныя палітыкі былі абраныя ў Вярхоўны Савет 13-га скліканьня, а кандыдаты БНФ – не былі абраныя. Найперш заўважу, што слова «абраныя» было б больш лягічным замяніць на «прапушчаныя». Але галоўнае, што супрацьстаяньну ўладаў кандыдатам БНФ (у тым ліку і з фальсыфікацыямі) было непараўнальна больш жосткім, чым у адносінах да іншых.

Гэтаму ёсьць шмат прычынаў, адна зь іх – розьніца ў стаўленьні кандыдатаў да Лукашэнкі.

На другім раўндзе выбараў кандыдаты БНФ ішлі з патрабаваньнем адстаўкі Лукашэнкі з пасады прэзыдэнта. Іншыя, «няфронтаўскія» кандыдаты, не вылучалі такога тэзісу, казалі пра асобныя недахопы кіраваньня, а некаторыя нават заклікалі да «канструктыўнага дыялёгу» (гэтыя спробы «канструктыўнага дыялёгу» ў 96-ым змарнуюць такія каштоўныя першыя месяцы існаваньня новаабранага Вярхоўнага Савета).

Увогуле, было уведзенае жорсткае цэнзураваньне ўлётак і выступаў кандадатаў. Калі на травеньскіх выбарах з выступаў кандыдатаў ад БНФ (у тым ліку і ў троххвілінных радыёэфірах) выразалі тое, што тычылася пытаньняў рэфэрэндуму, дык у часе давыбараў цэнзуравалася якая заўгодна крытыка ў бок Лукашэнкі. Такога не было нават на выбарах 1990 году, у камуністычныя часы, калі праходзіла крытыка першага сакратара ЦК КПБ (і генэральнага сакратара ЦК КПСС).

Вельмі красамоўны прыклад – цэнзураваньне ўлётак кандадатаў ад БНФ на Берасьцейшчыне Ўладзімера Базана, Леаніла Несьцерчука і Ігара Судака.

У іх улётках цэнзура загадала выкінуць словы «Будзем дамагацца адхіленьня законным шляхам ад улады Лукашэнкі і ягоных прыслугачоў за парушэньне Канстытуцыі і законаў». Ва ўлётцы кандыдата ад БНФ у Пінскай выбарчай акрузе выдалілі словы «Вольная Беларусь – Беларусь бяз прэзыдэнта».

Намесьнік старшыні Берасьцейскага аблвыканкаму Леанід Лемяшэўскі накіраваў у абласную друкарню загад аб выпуску агітацыйных матэрыяляў кандыдатаў толькі з санкцыі начальніка абласнога ўпраўленьня па ахове дзяржаўнай таямніцы (гэтая структура цалкам кантралявалася КДБ).

У выніку, абласны цэнзар загадаў выкінуць з улёткі Базана, Несьцярчука і Судака наступныя радкі:



Листовку Ч. Базана, П. Невдуха и І. Судника в печать разрешаю без двух абзацев в обращении к избирателям и со слов „зато о себе... Каждая... рубли в год."

1

Брест ____ 196 г.

17.11.95.

Цэнзар паставіў дату пад сваім загадам выдаліць з улётак актывістаў БНФ крытычныя радкі пра Лукашэнку – 17 лістапада 1995 г. Але на цэнзарскай пячатцы стаіць 196... г. Ні крах КПСС, ні ўтварэньне незалежнай Беларусі – нішто не прымусіла цэнзурнае ведамства паглядзець на каляндар.

«Затое пра сябе «усенароднаабраны» не забывае. Бранiраваны «мэрсэдэс» прэзыдэнта каштуе 350 тыс. Даляраў, на асабістую ахову выдаткоўваецца штодня 40 тысяч даляраў, прэзыдэнцкі спартовы комплекс і тэнісны корт у Драздах абыдзецца нам больш чым у 70 тысяч даляраў. Асабісты самалёт абышоўся беларускаму народу ў 45 мільёнаў даляраў (такую раскошу не дазваляюць сабе прэзыдэнты Францыі і ЗША, канцлер Нямеччыны, прэм'ер-міністар Вялікай Брытаніі і г.д.). А. Лукашэнка дорыць расейскім «грашовым мяхам» сродкі на транзыт праз нашу тэры-

торыю – каля 2,3 мільярдаў даляраў у год. Гэта значыць, што з кішэні кожнага жыхара Беларусі, уключна з немаўлятамі і глыбокімі старымі, забіраюць прыблізна 4 мільёны рублёў у год».

Інфармацыя, прыведзеная ў гэтых радках, была ўзятая з паведамленьня дэпутатаў Апазцыі БНФ.

У першым туры восеньскіх выбараў было абрана 18 дэпутатаў, у другім – 59. Да поўнага складу Вярхоўнага Савету не хапала 62 дэпутатаў, аднак кворум для пачатку сэсіі быў сабраны.

Першая сэсія Вярхоўнага Савету адбылася 9 студзеня 1996 году – і ў гэты дзень юрыдычна скончыліся паўнамоцтвы Вярхоўнага Савету XII скліканьня. Скончыліся, такім чынам, і паўнамоцтвы дэпутатаў Апазыцыі Беларускага Народнага Фронту. Адсутнасьць у новым парлямэнце дэпутацкай фракцыі БНФ і Зянона Пазьняка адыграла фатальную ролю ў лёсе парлямэнтарызму дый увогуле ў лёсе дэмакратыі – калі ўвосень 96-га, у дні меркаванага імпічмэнту і «маскоўскага дэсанту» не было людзей, здольных рашуча выступіць за нацыянальныя інтарэсы краіны, без азіраньня на Маскву.

Але гэта – падзеі наступнага, 1996 году.

# Васіль Быкаў: «Наш гістарычны час стане змарнаваны»

Вынікі рэфэрэндуму і выбараў выклікалі вялікае расчараваньне і нават апатыю ў пэўнай частцы нацыянальна арыентаванага грамадзтва.

Уласна, такія настроі былі яшчэ да 14 траўня: за два дні да галасаваньня штотыднёвік «Літаратура і мастацтва» зьмясьціў на першай паласе фотаздымак бел-чырвона-белага сьцяга і «Пагоні» над Домам ураду, а побач – верш «Сон перад рэфэрэндумам»:

Вось і ўсё.
Засталося
Апошнюю кропку паставіць,
І Айчыны грудок
Замяце назаўсёды зіма.
Вось і ўсё.
Мой народ
На апошняй сваёй пераправе:
Паміраe народ,
Калі мовы ў народа няма...
Вось і ўсё.
Апускаюцца рукі
У роспачнай скрусе,
І нікога вакол.
Ды і я на зямлі не прарок...
І няма больш маёй,

І няма Беларусі...
Замятае зіма
Назаўсёды
Айчыны грудок.

Зусім іншую танальнасьць, чым у вершы Міхася Башлакова, меў ліст навучэнцаў Беларускага гуманітарнага ліцэю:

«Так, мы яшчэ дзеці і ня маем права ўдзельнічаць у выбарах, а таму ня можам уплываць на палітыку кіраўнікоў дзяржавы. Але ў нас ёсьць свае перакананьні. Мы абураныя тым, што адбываецца на Беларусі: зьнявага асобы, мовы, нацыянальнай культуры і сымболікі, наступ на дэмакратыю і рэформы. Мы не жадаем жыць пад штучнай савецкай сымболікай, якая ніякім чынам не зьвязаная з гістарычнай і культурнай спадчынай Беларусі. Мы ня хочам жыць у паліцэйскай дзяржаве, дзе чалавек можа пацярпець толькі за любоў да Бацькаўшчыны. Мы лічым, што сёньня кожны павінен вырашыць раз і назаўсёды, кім ён хоча быць: быдлам, якое падганяюць хворыя, прагныя ўлады кіраўнікі, – ці вольным чалавекам... Навучэнцы Беларускага гуманітарнага ліцэю: Н. Астроўская, Н. Болбат, А. Герасімовіч, Н. Зелянкова, К. Іваноўская і інш. (усяго 27 подпісаў)» (Свабода, 6 траўня 1995).

Выказаліся маладыя і пасьля 14 траўня.

«Надыдзе наш час, – пісалі ў лісьце ў «Свабоду» навучэнцы Жодзінскага паліттэхнікуму. – Ня кожны з нас, на жаль, яшчэ мае выбарчае права. Аднак мы даўно ўжо ўсьвядомілі права

на годнасьць. Нас абурае антыбеларуская прэзыдэнцкая акцыя, якая мела назву «рэфэрэндум». Мы – моладзь, і мы выступаем за нашу родную незалежную Беларусь, за мову, дадзеную нам Богам, за сьвятыя сымбалі: бел-чырвона-белы сьцяг і «Пагоню». Лукашэнка з камуністамі думае, што, вярнуўшы сталінскія сымбалі, ён зможа затаптаць нашу веру і нашу годнасьць. Ня ўдасца! Мы ніколі не падтрымаем савецкі ідыятызм. Вашыя «ідэалы» ніжэй за нас. Імі нават немагчыма грэбаваць, бо для нас яны не існуюць, яны мёртвыя. Ведайце, што надыдзе і наш час. Зусім хутка! І над Беларусяй ізноў і назаўжды залунае бел-чырвона-белы сьцяг». Пад лістом падпісаліся Сяргей Салаш і яшчэ пятнаццаць навучэнцаў.

Быў зроблены і аналіз сытуацыі.

«Рэфэрэндум нельга назваць нават піравай перамогай. Гэта параза, прычым для ўсяго народу. Па-першае, народ зрабіў несьвядомы замах на сваю будучыню, па-другое, за адзін дзень беларусы апынуліся па два бакі аднаго лёсу. Мяжа перад перакананьнямі можа стацца мяжой паміж пакаленьнямі. Сёньня яна яшчэ не адчувальная, але ўжо існуе. Ці прымалі ў разьлік ініцыятары рэфэрэндуму гэты самы галоўны вынік? А можа, яны лічаць, што наступным крокам з'явіцца рэфэрэндум аб аб'яданьні Беларусі і Расеі...?» – рытарычна пытаўся сябра «Маладой Грамады» Вадзім Шостак (Свабода, 3 чэрвеня 1995).

«Нідзе і ніколі з вуснаў Лукашэнкі і ягонае каманды не прагучала ніякіх прагнозаў і доказаў рэальнага (г. зн. паэтапнага) паляпшэньня палі-

тычнай, эканамічнай, сацыяльнай, культурнай сытуацыі ў Беларусі ў выпадку яе далучэньня да РФ. Усё, што можна было пачуць – адкрыем доступ да расейскай нафты, адкрыем для сябе расейскі рынак, і будзем жыць як пры Савецкім Саюзе. Усё!» – пісаў у «Свабодзе» Сяргей Дубавец.

Перамогу Лукашэнкі на рэфэрэндуме (і вынікі выбараў) Васіль Быкаў расцаніў як перамогу камуна-фашыстоўскіх сілаў.

«Лідэр БНФ болей за пяць гадоў праводзіў вельмі мэтанакіраваную, выразна нацыянальную палітыку, вёў нястомную апазыцыйную барацьбу ў Вярхоўным Савеце, агітацыйную работу сярод людзей. І калі ён не дасягнуў большага, дык не па ўласнай віне. Мабыць, рэч у тым, што сучасная дэмакратыя (у тым ліку і нацыянальная) не надзеленая адэкватнымі сродкамі барацьбы з таталітарнымі, камуна-фашыстоўскім сіламі, аўтарытарызмам...

Хіба ў таталітарным грамадзтве, пры аўтарытарнай дыктатуры, якая таропка сфармавалася напярэдадні выбараў, магчымае нейкае палітычнае спаборніцтва, справядлівыя дэмакратычныя выбары? Іх не было 70 гадоў, адкуль жа ім узяцца цяпер? Найперш для народа гэта нязвыкла і нават пакутна – выбіраць на ўласны розум, калі заўсёды гэта рабілі іншыя, нібыта разумнейшыя. Зноў жа: хіба выбарчыя рэжысэры, высокія спэцыялісты сваёй справы, забыліся на нядаўнюю навуку арганізацыі мас дзеля «аднадушнага адабрэньня і падтрымкі»? Сам прэзыдэнт напярэдадні выба-

раў прагаварыўся ў прамым тэлеэфіры, што «всё равно обманут». Не ўдакладніўшы, аднак, на чыю карысьць «обманут». Але цяпер усё стала зразумела – хто ашукаў, каго і дзеля чаго.

Так, цяпер можна пачуць разважаньні пра недастатковасьць, непапулярнасьць ідэі беларускага Адраджэньня. Але, здаецца, з-пад увагі выпускаецца той факт, што адбывалася ня толькі Адраджэньне – ішла жорсткая барацьба з камуністычным таталітарызмам, і нацыяналізм, як пісаў знакаміты філёзаф Ф. Фукуяма, быў «неабходнай умовай узьнікненьня дэмакратыі». Там, дзе нацыянальная ідэя не сфармавалася, не адбылося і дэмакратызацыі. І наадварот, дзе яна перамагла – перамаглі і рэформы, тыя грамадзтвы не бязь цяжкасьцяў, але ўсё ж рушылі ў кірунку сусьветнай эканомікі. Урэшце рушым туды і мы, і таксама абапіраючыся на уласны нацыяналізм і дэмакратызацыю: законы сусьветнага эканамічнага разьвіцьця змусяць нас да таго. Толькі наш гістарычны час стане змарнаваны. І мы зноў апынемся ззаду, за ўсімі. І бяднейшыя за ўсіх» (Гутарка Васіля Быкава зь Юрасём Залоскам, «Свабода», 3 чэрвеня 1995 ).

5 ліпеня – з ініцыятывы Пазьняка – у будынку Акадэміі навук, у кабінэце яе віцэ-прэзыдэнта Гарэцкага адбылася нарада лідэраў шэрагу палітычных партый, у якой узялі ўдзел Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч, акадэмікі Сяргей Астапчык, Радзім Гарэцкі, Іван Нікітчанка, прэзыдэнт Саюзу прадпрымальнікаў Уладзімер Карагін, эканаміст Анатоль Станкевіч, рэктар Акадэміі мастацтваў

Васіль Шаранговіч, дэпутаты Дзьмітры Булахаў, Генадзь Карпенка, Зянон Пазьняк і Станіслаў Шушкевіч. У паведамленьні для прэсы казалася, што «удзельнікі нарады выказалі перакананьне, што ўсе здаровыя сілы Беларусі павінны аб’яднаць сваю дзейнасьць і накіраваць яе на прадухіленьне разбуральных працэсаў, на стварэньне шырокай грамадзкай кааліцыі за ўмацаваньне дзяржавы і незалежнасьці».

Пазьняк даў высокую ацэнку нарадзе, убачыўшы ў ёй патэнцыял для аб’яднаньня інтэлектуальнай эліты з мэтай выпрацоўкі канцэпцыі разьвіцьця дзяржавы.

Васіль Быкаў быў больш крытычны, заявіўшы ў інтэрвію агенцтву «Павет», што «ў адрозьненьне ад камуна-фашыстаў, дэмакратам ніколі не ўдаецца аб’яднацца. Таталітарызм выкарыстоўвае ўсё, нават так званыя «забароненыя» сродкі. У барацьбе ж з таталітарызмам у дэмакратыі няма адэкватных сродкаў. Аднак гэта не азначае непазьбежнасьці паразы. Неабходна шукаць у маналіце таталітарызму слабое месца і наносіць удар менавіта сюды. Каля двух мільёнаў грамадзянаў на рэфэрэндуме не падтрымалі пракамуністычную сымболіку. Вось з гэтымі людзьмі і павінны працаваць дэмакраты, калі хочуць быць пачутыя і астатнім насельніцтвам. Але павелічэньне кола прыхільнікаў зойме не адзін год».

На нарадзе ўздымалася тэма правядзеньня кангрэсу дэмакратычных сілаў, у тым годзе ён праведзены ня быў, аднак пэўным вынікам

паразуменьня было тое, што на давыбарах у Вярхоўны Савет апанэнтам Лукашэнкі ўдалося разьмеркаваць паміж сабой выбарчыя акругі (хаця і ня ўсе).

8 чэрвеня прайшоў другі этап IV зьезду БНФ (першы этап адбыўся ў пачатку красавіка, быў зроблены перапынак на час выбараў).

Зьезд канстатаваў, што вынікі рэфэрэндуму «сьведчаць, што асноўныя нацыянальныя каштоўнасьці – мова, гістарычная дзяржаўная сымболіка, дзяржаўная незалежнасьць і дэмакратычная сыстэма ўлады – не зьяўляюцца каштоўнасьцю для значнай часткі беларускага грамадзтва. Гэтыя каштоўнасьці зрабіліся прадметам палітычнай маніпуляцыі для кіраўніцтва краіны». Дэлегаты выказаліся за кансалідацыю ў імя абароны дзяржаўнай незалежнасьці, заявіўшы, што «вакол ідэі беларускай незалежнасьці могуць раўнапраўна згуртавацца палітычныя сілы рознай арыентацыі, а таксама грамадзянскія і грамадзкія аб’яднаньні, прафэсійныя саюзы, саюзы прадпрымальнікаў, арганізацыі нацыянальных меншасьцяў, сьвецкія канфэсійныя аб’яданьні і гэтак далей».

Ужо 27 ліпеня, у дзень сьвяткаваньня гадавіны прыняцьця Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце (гэта было афіцыйнае, дзяржаўнае сьвята), міліцыя рвала бел-чырвона-белыя сьцягі, а АМАПаўцы зьбівалі людзей дубінкамі. Былі затрыманыя арганізатары шэсьця – актывісты БНФ Віктар Івашкевіч і Вячаслаў Сіўчык. Член Сойму БНФ, дэпутат Менскага гарадзкога савету



Удзельнікі IV зьезду БНФ Сяргей Навумчык, Уладзімер Арлоў, Лявон Дзейка, Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў, Лявон Баршчэўскі, Мікалай Крыжаноўскі.

Ўладзімер Несьцер прад'явіў капітану міліцыі сваё дэпутацкае пасьведчаньне і папрасіў афіцэра прад'явіць сваё. У адказ ён быў тут жа зьбіты міліцыяй, затрыманы і дастаўлены ў Маскоўскае аддзяленьне міліцыі. Мы з Валянцінам Голубевым паехалі ў райаддзел вызваляць Несьцера. Намесьнік начальніка райаддзелу сказаў, што падставай для затрыманьня было «выкарыстаньне недазволенай сымболікі» і спаслаўся на артыкул Кодэксу аб адміністрацыйных парушэньнях, прыняты яшчэ камуністамі ў мэтах барацьбы з новаўтвораным Народным Фронтам.

Так, камуністычныя часы вярталіся. Але міліцыя дзейнічала непараўнальна больш жорстка, чым у часы БССР. Міністар унутраных спраў Юры Захаранка апраўдваў гэтую жорсткасьць неабходнасьцю навядзеньня парадку. Пазьней, пасьля адстаўкі, Захаранка будзе казаць, што ён адмовіўся выконваць неканстытуцыйныя загады (меліся на ўвазе палітычныя забойствы). Гэта – праўда. Але праўда і тое, што першыя жорсткія разгоны міліцыяй акцыяў пратэсту (са зьбіцьцём нават дэпутатаў) адбываліся менавіта пры міністру Захаранку.

У жніўні прайшоў страйк менскага мэтрапалітэну – ён быў жорстка падаўлены, страйкавы камітэт быў пакладзены АМАПаўцамі тварам на асфальт, а лідэр рабочага руху, дэпутат Вярхоўнага Савету Сяргей Антончык быў захоплены спэцназам і два дні правёў у ізаляцыі пад дуламі аўтаматаў (у літаральным сэнсе). Першы намесьнік генэральнага пракурора Ўладзімер Кандрацьеў заявіў нам з Валянцінам Голубевым у вочы, што будзе выконваць не Канстытуцыю, а распараджэньні Лукашэнкі. Пасьля гэтага мы зьвярнуліся зь лістом да прэзыдэнтаў ЗША і Расеі – пра тое, што ў Беларусі парушаюцца правы чалавека. Біл Клінтан даслаў адказ, што ЗША выступае за дэмакратычны шлях Беларусі. З Масквы ад Ельцына ніякага адказу не было – Расею Лукашэнка задавальняў.

Тады ж, у жніўні, Лукашэнка распарадзіўся вярнуцца да сыстэмы адукацыі, якая існавала ў часы БССР. Гэта выклікала абурэньне шэрагу

літаратараў. «Распараджэньне прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі аб выключэньні падручнікаў 1992–1995 гадоў з сыстэмы вышэйшай і сярэдняй адукацыі зьяўляецца, паводле нашага перакананьня, працягам небясьпечнай палітыкі, пачатай рэфэрэндумам 14 траўня 1995 году. Новы крок найвышэйшай улады – ня што іншае, як замах на духоўную і інтэлектуальную свабоду нацыі, а значыць, і на яе будучыню.

Тое, што пад забарону трапляюць усе без выключэньня новыя падручнікі гуманітарнай сфэры, перакрэсьлівае велізарную працу ў пераарыентацыі на сусьветны ўзровень адукацыі, у вяртаньні гістарычнай праўды і вызваленьні грамадзтва ад дурману таталітарызму. Сыстэма нацыянальнай адукацыі будзе адкінутая ў мінулае і ня здолее даць краіне духоўна свабодных і высокаадукаваных грамадзянаў, гатовых да жыцьця ў сучасным дэмакратычным сьвеце.

На практыцы рэалізацыя распараджэньня азначае, што ў новым навучальным годзе школьнікі і студэнты застануцца без падручнікаў гісторыі, мовы, літаратуры, і іншых гуманітарным дысцыплінаў, якія фармуюць сьветапогляд асобы. Можна ўявіць, колькі будзе каштаваць дзяржаве падрыхтоўка і выданьне новых падручнікаў...

Робіцца спроба павярнуць гісторыю назад, хоць досьвед эўрапейскіх краінаў, у тым ліку і бліжэйшых суседзяў Беларусі, сьведчыць, што падобныя сацыяльна-палітычныя экспэрымэнты рана ці позна канчаюцца крахам».



Подпісы Васіля Быкава, Янкі Брыля, Уладзімера Арлова, Лявона Баршчэўскага, Юрася Хадыкі, Сяргея Навумчыка, Радзіма Гарэцкага, Валянціна Тараса, Юрыя Хашчавацкага ды іншых пад заявай аб стварэньні Беларускага Хэльсынскага Камітэту. 1995 год.

Заяву падпісалі Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Уладзімер Арлоў, Сьвятлана Алексіевіч, Васіль Зуёнак, Карлас Шэрман, Генадзь Бураўкін, Сяргей Законьнікаў і Анатоль Кудравец.

Для таго, каб лепей зразумець мэту Лукашэнкі і ягонага прарасейскага атачэньня, трэба чытаць гэтую заяву наадварот. Бясспрэчна, яны не былі зацікаўленыя ў свабодзе нацыі, ім якраз і хацелася вярнуць грамадзтва ў таталітарызм і схаваць гістарычную праўду, ім былі непатрэбныя ні высокаадукаваныя грамадзяне (увогуле – грамадзяне-патрыёты сваёй краіны), і будучыню для народу яны рыхтавалі зусім не дэмакратычную.

«Распараджэньне Лукашэнкі зьдзіўляе сваім цынізмам, – пракамэнтаваў сытуацыю журналістам Лявон Баршчэўскі. – У часы фашыстоўскай акупацыі Беларусі ў 1941–1944 гг. немцы дазвалялі ў беларускіх школах карыстацца савецкімі падручнікамі, праўда, зь неабходнымі камэнтарамі настаўніка».

Кантроль над выкананьнем распараджэньня Лукашэнка ўсклаў на палкоўніка Уладзімера Замяталіна, адну з найбольш чорных фігураў у найноўшай гісторыі Беларусі, які адкрыта казаў, што стварэньне незалежнай Беларусі – злачынства, і выступаў за далучэньне краіны да Расеі.

У верасьні сабраўся Вярхоўны Савет – у апошняй спробе супрацьстаяць Лукашэнку. Атрымалася так, што я быў апошнім дэпутатам, які выступіў на ягонай апошняй сэсіі ў апошні дзень працы, 8 верасьня (перад тым, як сьпікер

абвясьціў перапынак). Больш Вярхоўны Савет XII скліканьня ўжо не зьбіраўся.

Дарэчы, на паседжаньні я прыносіў бел-чырвона-белы сьцяжок, ставіў яго перад сваім крэслам.

З кожным днём рэжым аўтарытарнай улады Лукашэнкі замацоўваўся, і гэта спалучалася зь ліквідацыяй беларускіх школаў, незалежных беларускамоўных выданьняў, зь пераводам дзяржаўных электронных СМІ на расейскую мову.

У лістападзе Лукашэнка ў інтэрвію нямецкай газэце Handelsblatt выказаў станоўчыя ацэнкі ў бок Гітлера, заявіўшы, што «Ня ўсё толькі дрэннае зьвязана ў Нямеччыне зь вядомым Адольфам Гітлерам... Бо нямецкі парадак фармаваўся стагодзьдзямі. Пры Гітлеры гэтае фармаваньне дасягнула найвышэйшай кропкі. Гэта тое, што адпавядае нашаму разуменьню прэзыдэнцкай рэспублікі і ролі ў ёй прэзыдэнта».

Адказам на гэта была заява Зянона Пазьняка (перададзеная ў тым ліку і ў дзяржаўныя СМІ, але не апублікаваная), у якой лідэр БНФ пісаў, што «Вы, спадар Лукашэнка, што ўхваляеце Гітлера, ня варты аднаго воласа з галавы майго бацькі, які загінуў пад Катавіцамі ў барацьбе з гітлераўцамі, вы ня варты аднаго ўздыху майго дзядзькі, які прайшоў з 1941-га ўсю вайну ў танку «КВ» і згарэў у ім 9 лютага 1945 году пад Мэркіш-Фрыдляндам ва Ўсходняй Прусіі. Калі б яны ўсталі – яны б вам паказалі Гітлера. У тысячах беларускіх сем’яў яшчэ жыве дух загінуўшага

мужа, бацькі і сьвятая прамяць пра іх. Знайшоўся чалавек, які напляваў на гэтую памяць. Я зьвяртаюся да адукаваных людзей Беларусі, да тых, хто здольны нешта разумець, рабіць высновы з нацыянальнай і сусьветнай гісторыі. Я пра гэта пісаў і казаў неаднаразова: Беларусь пад пагрозай усталяваньня дыктатуры, прытым надзвычай дурной дыктатуры, якая маральна зганьбіць нас на цэлыя пакаленьні, прынізіць нашу нацыянальную супольнасьць, адкіне далёка назад у эканамічным, грамадзкім і палітычным разьвіцьці».

У тыя самыя дні ад імя БНФ я як прэсавы сакратар Фронту зрабіў заяву, у якой гаварылася, што «выказваньні такога кшталту з вуснаў кіраўніка дзяржавы ня могуць быць выпадковымі. Зьбіцьцё дэпутатаў апазыцыі ў залі парлямэнту, забарона Свабоднага прафсаюзу, антызаконны ціск на Канстытуцыйны Суд – усё гэта крокі на шляху зьнішчэньня дэмакратыі. БНФ неаднаразова канстатаваў усталяваньне на Беларусі аўтарытарнага рэжыму і пераход да дыктатуры. Цяпер пад дыктатуру падводзіцца ідэалягічны падмурак у выглядзе «захаваньня парадку». Розьніца хіба ў тым, што барацьба за «чысьціню арыйскае расы» зьмянілася на «ўмацаваньне славянскага адзінства». Народны Фронт яшчэ раз зьвяртае ўвагу кіраўнікоў дзяржаў, парлямэнтаў і ўрадаў, палітычных і праваабарончых арганізацыяў на рэстаўрацыю ў Беларусі чырвона-карычневага рэжыму. Што тычыцца Аляксандра Лукашэнкі, дык пасьля падобных выказваньняў ён канчаткова страціў маральнае права быць лідэрам на-

цыі, якая страціла кожнага чацьвёртага грамадзяніна падчас барацьбы з фашызмам. Фашызму няма і ня можа быць месца на Беларусі!»

«Лукашэнка – тыповае стварэньне позьняга бальшавізму і цяпер, дарваўшыся да дыктатуры над «нехлямяжым» народам, шукае сабе падпоркі – аналёгіі ў гісторыі, – пракамэнтаваў Васіль Быкаў словы Лукашэнкі. – Гітлер у гэтым сэнсе – найлепшы ўзор для пераймання, мабыць, больш прывабны, чым нядаўнія ідалы нашага прэзыдэнта – Дзяржынскі, Андропаў, Машэраў. Цяпер ён інстынктыўна раўняецца на Гітлера, аб чым і паведаміў у хвіліну недаравальнай шчырасьці... Беларускі народ, вядома, праглыне гэта, як ён прывык глытаць шмат што іншае. Але як да таго паставіцца Масква? Усё ж на Расею ўлада беларускага прэзыдэнта пакуль не пашыраецца, і тыя лукашэнкаўскія эскапады, здаецца, ужо пачынаюць задаваць галаўны боль расейцам».

Масква і «дэмакратычны» расейскі прэзыдэнт Ельцын ніяк не адрэагавалі на ўсхваленьне Лукашэнкам нямецкага дыктатара. Крамлю было выгодна, каб у вачах усяго сьвету Беларусь выглядала камічна, каб у выпадку яе зьнікненьня з мапы сьвету як сувэрэннай дзяржавы ніхто асабліва не перажываў. Яшчэ ў кастрычніку Савет Фэдэрацыі Расеі прыняў зварот, у якім заклікаў да правядзеньня рэфэрэндуму аб «паглыбленьні палітычнай інтэграцыі», што можна было ўспрымаць як пачатак аб’яданьня Беларусі і Расеі ў адну дзяржаву. Рэфэрэндум, як вядома, не адбыўся, аднак «інтэграцыйныя» працэсы, ужо ў 1996

годзе, былі прысьпешаныя і з боку Масквы, і з боку Менску.

У адказ на ўзмацненьне аўтарытарных тэндэнцыяў беларуская грамадзянская супольнасьць выявіла ўменьне самаарганізацыі: былі створаныя Беларускі Хэльсынкскі камітэт і Беларуская Асацыяцыя журналістаў (мне давялося прысутнічаць на ўстаноўчых сходах, а сход журналістаў нават весьці).

Пра тое, што ў Беларусі аўтарытарызм з элемэнтамі дыктатуры, у апошнія месяцы 1995 году мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, заяўлялі няспынна. Нам хацелася зьвярнуць на гэта ўвагу ня толькі беларускага грамадзтва, але і міжнароднай супольнасьці. Аднак заходнія палітыкі, у большасьці, ігнаравалі факты перасьледу дэмакратычных правоў і спадзяваліся, што «дэмакратычны Ельцын» выцягне Лукашэнку на рэйкі цывілізаванага шляху. Такія наіўныя спадзяваньні найбольш поўна выявіліся ў наступным, 96-ым годзе.

У кастрычніку 95-га дэпутаты Апазыцыі БНФ канстатавалі:

«На Беларусі ўстаноўлены аўтарытарызм карпаратыўнага зьместу. Беларусь ня можа называцца дэмакратычнай і прававой дзяржавай, таму што тут фактычна ліквідаваны падзел уладаў, манапалізаваныя сродкі масавай інфармацыі і абмежаваная свабода друку, парушаюцца правы чалавека. Улада ў краіне ўзурпаваная прэзыдэнтам і яго саўдзельнікамі. Імі зьнішчаецца парлямэнтарызм і мясцовае самакіраваньне, не

выконваецца Канстытуцыя і законы, захоплены і раскрадаецца дзяржаўны бюджэт.

...Каб пазьбегнуць адказнасьці за параліч эканомікі, фінансаў, раскраданьне бюджэту, захоп дзяржаўнай маёмасьці А. Лукашэнка і яго саўдзельнікі гатовы прадаць Беларусь Расеі і ліквідаваць беларускую дзяржаву. Яны праводзяць капітулянцкую палітыку перад расейскімі нафтавымі, газавымі, гандлёвымі вараціламі і мафіяй, якія зацікаўленыя захапіць маёмасьць на Беларусі і ператварыць нашу краіну ў бясплатны прахадны двор...

А. Лукашэнка фактычна здаў нашу дзяржаўную мытню, мяжу і транзыт Расеі. У выніку рэзка павялічыўся кошт многіх тавараў, што завозяцца на Беларусь (алей, цукар, аўтамабілі і інш.), а на транзыце наша краіна цярпіць мільярдныя страты.

2 кастрычніка А. Лукашэнка заявіў па тэлебачаньні, што ён не за чэкавую, а за грашовую прыватызацыю. Гэта значыць, што народ будзе адлучаны ад прыватызацыі дзяржаўнай маёмасьці. Яе скупяць тыя, у каго вялікія нарабаваныя грошы – мафія і расейскія разбагацелыя дзялкі, якія атрымаюць магчымасьць скупляць. Для беларусаў застанецца – залежнасьць і жабрацтва».

Перапыню цытаваньне. Гэтае нашае папярэджаньне не было ўспрынята ні партыямі лібэральнага накірунку, ні значнай часткай незалежнай прэсы, ні буйнымі прадпрымальнікамі (зрэшты, такія прадпрымальнікі ў Беларусі заўсёды былі пазбаўленыя разуменьня нацыянальных каш-

тоўнасьцяў). Але цяпер, праз дваццаць гадоў, можна канстатаваць, што ўсё адбылося менавіта так, як мы й папярэджвалі. Найбольш буйны бізнэс альбо расейскі, альбо завязаны на Расею, і ва ўсіх выпадках – падтрымлівае рэжым Лукашэнкі. Бізнэсоўцы, якія з Расеяй не зьвязаныя, вымушаныя  глядзець у рот уладзе – сталічнай альбо рэгіянальнай.

«Здача нацыянальных інтарэсаў Беларусі, імкненьне ліквідаваць дзяржаву і дзяржаўную незалежнасьць – зьяўляецца злачынствам, – казалася далей у заяве дэпутатаў Апазыцыі БНФ. – Яно вельмі небясьпечнае яшчэ і тым, што ўцягне наш народ у ваенна-палітычныя дзеяньні Расеі, у расейскія войны, у распад хворай мафіёзна-бюракратычнай эканомікі, у бэдлам крымінальных адносінаў...

Не павінна стварацца манаполія ўлады аднаго чалавека. Народ не павінен самаўхіляцца ад вырашэньня свайго лёсу. Інакш ім будуць кіраваць і памыкаць авантурысты, узурпатары, злодзеі, тыраны, псыхічна неўраўнаважаныя індывідуўмы, якія давядуць краіну да пагібелі.

Становішча, якое склалася на Беларусі, сьведчыць аб тым, што падрыхтоўваецца крах беларускай дзяржавы. Прычына краху – палітыка прэзыдэнта А. Лукашэнкі і яго акружэньня.

Банкруцтва і няздольнасьць А. Лукашэнкі і яго саўдзельнікаў разумна кіраваць, шкоднасьць іхняй дзейнасьці відавочныя. Грамадзяне Беларусі, спадзяемся, разумеюць становішча і зробяць адпаведныя вывады».

Высновы былі зробленыя ня хутка, і не да канца.

Пра выбары новага Вярхоўнага Савету я пісаў у папярэднім разьдзеле – нягледзячы на супраціў Лукашэнкі і ягонай адміністрацыі, коштам вялізных высілкаў ён быў абраны. Годную пазыцыю выявіў Мечаслаў Грыб, некаторыя з тых дэпутатаў, што яшчэ ўвесну галасавалі за рэфэрэндум, – але, як паказалі падзеі наступнага, 1996 году, новы парлямэнт так і ня здолеў супрацьстаяць Лукашэнку і ціску Масквы, якая падтрымала антыканстытуцыйны пераварот. Перакананы, што ў значнай ступені – з-за адсутнасьці ў ім прадстаўнікоў Беларускага Народнага Фронту, якія мелі вопыт рэальнай парлямэнцкай барацьбы і, галоўнае, усьведамлялі імпэрскую небясьпеку з боку Расеі.

Ужо тады, у 95-ым, было зразумела, што адна з мэтаў прамаскоўскай лукашэнкаўскай адміністрацыі – не прапусьціць у новы парлямэнт дэпутатаў Апазыцыі БНФ, увогуле зьнішчыць іх палітычна, выбіць іх з актыўнага грамадзкага жыцьця. Павінен сказаць, што ў немалой ступені паспрыялі гэтай мэце ўладаў і дзеяньні некаторых дзеячоў, якія адносілі сябе да дэмакратаў (і некаторых журналістаў, якія лічылі сябе незалежнымі). Пасьля 1995 году Апазыцыя БНФ як парлямэнцкая структура сапраўды перастала існаваць.

Па-рознаму склаўся лёс маіх колішніх калегаў. Некалькі чалавек пайшлі з жыцьця, нехта апынуўся ў эміграцыі, хтосьці працягвае займацца

актыўнай палітычнай і грамадзкай дзейнасьцю, нехта вярнуўся да ранейшых прафэсійных заняткаў. Ёсьць і такія, каму не ўдалося ўладкавацца на раўназначную ранейшай працу (хаця гэта гарантаваў былым дэпутатам закон), і яны вымушангыя зарабляць на хлеб грузчыкамі і цяжкай працай на будоўлях.

Але я не лічу справядлівым меркаваньне, што яны пацярпелі паразу. Яны застануцца ў гісторыі Беларусі як асобы, якім удалося дасягнуць для сваёй Бацькаўшчыны незалежнасьці – тады як прозьвішчы абсалютнай большасьці іх апанэнтаў забытыя ўжо цяпер. Але ад таго, што іх унікальны досьвед дзяржаўнай дзейнасьці аказаўся ў лукашэнкаўскай Беларусі непатрэбным – пацярпела сама краіна. Зрэшты, у сыстэме, якую адбудаваў Лукашэнка, цэняцца зусім іншыя якасьці, чым тыя, якімі валодаюць мае колішнія калегі па парлямэнцкай апазыцыі Беларускага Народнага Фронту.

...Той бел-чырвона-белы сьцяжок, які пасьля рэфэрэндуму я ставіў перад сабой у Авальнай залі, і цяпер са мной, у Празе, стаіць на кніжнай паліцы побач з партрэтам Васіля Быкава. Дачка, якая нарадзілася ў Нью-Ёрку і ніколі не была ў Беларусі, лічыць гэты сьцяжок сваім.

А на радзіме маёй маці, у Магілёве, засталася толькі адна беларускамоўная кляса. І ходзіць туды толькі адна вучаніца.

*Сакавік – чэрвень 2015, Прага*

# Паказьнік асобаў

**І**



**К**

**М**



**Н**

**П**



**Р**



**С**

**Ф**



**Х**



**Ц**



**Ч**



**Ш**

# Пра аўтара



Сяргей Навумчык нарадзіўся ў 1961 годзе ў Паставах. У 1964-м з бацькамі пераехаў у Віцебск. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ, служыў у войску, працаваў у віцебскай абласной газэце. Публікаваў артыкулы ў абарону архітэктурнай спадчыны Віцебску. У 1988-м быў ініцыятарам грамадзкай кампаніі супраць будаўніцтва Віцебскай АЭС, удзельнічаў ва ўстаноўчым сходзе таварыства «Мартыралёг» і Беларускага Народнага Фронту 19 кастрычніка 1988 г.

З сакавіка 1990 па студзень 1996 – дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі 12-га скліканьня, каардынатар парлямэнцкай апазыцыі БНФ. Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі ВС 24–25 жніўня 1991 г., на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі. Аўтар шэрагу законапраектаў. Удзельнічаў у галадоўцы дэпутатаў Апазыцыі БНФ 11–12 красавіка 1995 г. супраць ініцыяванага Лукашэнкам так званага рэфэрэндуму аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, ліквідацыі статусу дзяржаўных сымбаляў гэрба «Пагоня» і бел-

чырвона-белага сьцяга, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць парлямэнт. Быў адным з заснавальнікаў Беларускай асацыяцыі журналістаў і Беларускага Хэльсынскага камітэту.

У 1996-м атрымаў палітычны прытулак у ЗША. З 1999 – супрацоўнік Радыё Свабода. Сябра Беларускага ПЭН-цэнтру, ляўрэат літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча. У сэрыі «Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе» выдаў кнігі «Дзевяноста першы» пра здабыцьцё незалежнасьці Беларусі і «Дзевяноста чацьвёрты» пра першыя прэзыдэнцкія выбары.

# Summary

A 1995 referendum in Belarus ordered by authoritarian president Alyaksandr Lukashenka halted the process of national rebirth in the country, plunging it back into the soviet past. In wake of the plebiscite, ersatz communist-era national symbols were reinstated, and the Belarusian language lost its singular status. The government in Minsk embarked on a path toward integration with Moscow, and the president was granted the power to dissolve parliament, a right he exercised hastily thereafter. Radio Svaboda correspondent Siarhiej Navumchyk, then a deputy in the Belarus parliament, was not only an eyewitness to this dictatorial onslaught but, alongside colleagues in the democratic opposition, actively fought against it.

Navumchyk was among 19 opposition deputies who declared a hunger strike in the country's main parliamentary chamber in protest over the unconstitutional vote. The demonstration ended in violence when masked KGB forces burst into the Supreme Council building, beat the protesting deputies, and forcibly expelled them from the hall.

In this book, Navumchyk provides a gripping account of that pivotal and tumultuous event. He also writes about independent Belarus' first parliamentary election, and details the "dirty tactics" the government used against its opponents

to ensure victory. An incisive analysis of the Kremlin's first steps in renewing its influence in countries of the former USSR is also provided by the author.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.**
*Пераклады Веры Рыч.*
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.* **Імёны Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.



*Івонка Сурвіла.* **Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.* **Мой шыбалет.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.



**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.



**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.



*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў передачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.*
**Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.



*Альгерд Бахарэвіч.*
**Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.**
Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012



Альгерд Бахарэвіч. **Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.



*Валер Каліноўскі.* **Справа Бяляцкага.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.



*Юры Бандажэўскі.* **Турма і здароўе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.



*Алег Грузьдзіловіч.* **Хто ўзарваў менскае мэтро?** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.* **Жывая мова.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.



**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015.
668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.

# «Дзевяноста першы», «Дзевяноста чацьверты», «Дзевяноста пяты» – водгукі і ацэнкі

## «Дзевяноста першы»

«Дзевяноста першы» – гэта ўзор жарснай публіцыстыкі, прадоннага аналізу падзеяў, прарочых высноваў. Сяргей Навумчык – правая рука Зянона – пісаў профілі дзевяноста першага году, у якім вырашаўся лёс незалежнай дзяржавы Беларусь.  Знайшоўся неспакойны Беларус і распавёў пра падзеі, як ён бачыў іх, як непасрэдна ўспрымаў.

І захмар'е, і дол,
і халодны позірк,
і душэўная трывога.
Ацэнку дасьць час.
За ім — слова!

*Рыгор Барадулін, народны паэт Беларусі*

Навумчык – выдатны аўтар. У яго добры стыль, ён умее трымаць увагу і напружаньне. Гэта звышчытэльны тэкст. 500-старонкавы фаліянт прачытваецца на адным дыханьні.

*«Наша Ніва»*

Час ідзе, нешта забываецца, а потым зьяўляюцца тыя мэмуарысты, якія помняць добрае, зьвязанае зь імі самімі, і забываюць тое, што, можа, ня надта добрае было зь імі, або гэтае ня надта добрае хочуць перакласьці на чужую адказнасьць, на чужыя плечы. Ва ўсякім разе, у тых кнігах, якія я прачытаў пра той час, у мяне такое адчуваньне было. Таму тое, што Сяргей дае дакумэнты, дае атмасфэру таго часу, — мне здаецца, гэта вельмі важна.

*Генадзь Бураўкін, паэт, першы прадстаўнік незалежнай Беларусі ў ААН*

Захапляюся – часам са сьлязой у вачах – дэталямі, якія проста ўцягваюць чытача ў апісаныя падзеі. Кніга «Дзевяноста першы» – каштоўны архіў, які чытаецца як раман.

*Івонка Сурвіла, старшыня Рады БНР*

Гэты важкі том – найлепшы адказ як тым, хто лічыць, нібыта незалежнасьць звалілася на беларусаў зь неба, так і тым, хто мяркуе, быццам нацыянальна-дэмакратычныя сілы на чале з БНФ у нашай найноўшай гісторыі пацярпелі паразу. Насамрэч яны ў неверагодна складаных умовах дасягнулі галоўнай мэты – краіна атрымала Незалежнасьць.

*Уладзімер Арлоў, пісьменьнік*

Гісторыю, як вядома, пішуць пераможцы. Са спазьненьнем на 20 гадоў мы дачакаліся і сваёй гісторыі пра пераможны 1991 год.

*Дзьмітрый Гурневіч, журналіст*

## «Дзевяноста чацьверты»

Сяргей Навумчык напісаў вельмі цікавую кнігу, якая, дзякуючы стылю і пачуцьцю гумару аўтара, чытаецца на адным дыханьні. Але галоўнае, што там ня схлушаны аніводны факт. Часта бывае прыкра, калі чытаеш хлусьню пра тое, чаму сам быў сьведкам. У кнігах Навумчыка такога няма.

*Сяргей Дубавец, пісьменьнік*

Гэта хроніка палітычнага жыцьця, якое было ў Беларусі.

*Сяргей Антончык, лідэр рабочага руху пачатку 1990-ых*

Сяргей Навумчык досыць аб’ектыўна ацэньвае расклад палітычных сіл у нашай краіне напярэдадні і падчас прэзыдэнцкіх выбараў 1994 году. Ён прыходзіць да высновы, зь якой цяжка не пагадзіцца: на тых выбарах і Кебіч, і Аляксандар Лукашэнка рэпрэзэнтавалі блізкія між сабою палітычныя пазыцыі, у аснове якіх ляжала імкненьне да пераўтварэньня Беларусі ў калёнію ўсходняга суседа ўзамен на моцна жаданую імі найвышэйшую ўладу на гэтай тэрыторыі.

*Лявон Баршчэўскі, дэпутат Вярхоўнага Савету XII скліканьня*

Такая кніжка – выдатная зьява.

*Радзім Гарэцкі, акадэмік*

## «Дзевяноста пяты»

Значная частка тэксту прысьвечана красавіцкай галадоўцы ў памяшканьні парлямэнту, рэфэрэндуму і выбарам 1995 году. Паводле сваёй трагічнай значнасьці ў найноўшай гісторыі Беларусі гэтыя падзеі, бадай, пераважаць гісторыю злачыннага зьнікненьня вядомых беларускіх грамадзян. Такія злачынствы ня маюць маральнага тэрміну даўнасьці.

*Пётра Садоўскі, першы амбасадар Беларусі ў Нямеччыне*

Кніга выдатна адпавядае жанру «нон-фікшн». У кнігах гэтага жанру выкарыстоўваюцца мастацкія прыёмы раскрыцьця вобразаў і такая спэцыфічная кампазыцыйная арганізацыя твораў – сцэна за сцэнай. У выпадку зь Сяргеем Навумчыкам гэта ня толькі сцэна за сцэнай, але і год за годам. І можна сказаць, што гэта ў пэўным сэнсе ўзорны нацыянальны «нон-фікшн».

*Ганна Кісьліцына, літаратурны крытык*

Лёгкі стыль аўтарскага выкладаньня робіць, здавалася б, сур'ёзную гістарычную літаратуру «надрыўнай», кшталту майстроў дэтэктыўнага альбо фантастычнага жанру.

*Сяргей Пульша, аглядальнік газэты «Новы час»*

Аўтар не нэўтральны, ён нефармал, бэнээфавец, апазыцыянэр, дэмакрат, пацярпелы, герой, удзельнік, зацікаўленая асоба... Усё так. Толькі гэта ня мінус, а фарматная дадзенасьць. Яе галоўная рыса – не абмежавальнасьць, а сумленнасьць сьведкі, эмоцыя часу, а не ягоны асадак, не наратыў прафэсара, а праўдзівасьць летапісца.

*Аляксандар Лукашук, дырэктар Радыё Свабода*

Гэта каштоўнае, дакладнае дасьледаваньне па найноўшай гісторыі змаганьня за незалежную Беларусь пагрунтована на дакумантах, на летапісе друку, на ўспамінах і архіўных матар'ялах і на вопыце ўласнага ўдзелу ў палітычным працэсе той пары. Асаблівай каштоўнасьцю кнігі зьяўляецца тое, што яна адлюстроўвае дух таго часу, сваістае адчуваньне падзей, часам апісаных скрупулёзна да найменшых дэталяў.

*Зянон Пазьняк, старшыня Апазыцыі БНФ*
*у Вярхоўным Савеце XII скліканьня*

Узяла ў рукі на хвіліну пагартаць і не змагла адарвацца, хоць вельмі балюча чытаць усе падрабязнасьці таго, што мы, учарашнія дзеці, бачылі збоку, а аўтар – знутры. Як быццам ізноў разанула па сэрцы. Як тады, калі мы даведаліся пра вынікі рэфэрэндуму (у мяне дагэтуль зьвініць у вушах крык маёй тагачаснай сяброўкі, вельмі-вельмі ціхай дзяўчынкі Наташы – «Ня можа быць!» на ўсю кавярню). Як тады, калі глядзелі, як здымаюць «Пагоню» з будынка на плошчы Незалежнасьці, і плакалі. Спадзяюся, што некалі ўрыўкі з кнігі ўвойдуць у падручнікі, па якіх будуць вучыцца калі ня нашы дзеці, то ўнукі – дакладна.

*Мілана Міхалевіч, настаўніца*